**Пётра Садоўскі. МОЙ ШЫБАЛЕТ. Аўтабіяграфічныя арабэскі.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) — Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.

Заснавальнік і каардынатар сэрыі
*Аляксандар Лукашук*
Мастацкі рэдактар *Генадзь Мацур*

Рэдактар *Аляксандра Макавік*
Мастак *Генадзь Мацур*
Карэктар *Мікола Раманоўскі*

У кнізе выкарыстаныя фатаздымкі Ўладзімера Кармілкіна, Анатоля Садоўскага, а таксама фота з архіву Пётры Садоўскага.


FOL

ISBN 978-0-929849-26-3

# Зьмест

**ІІ. Бацькаўшчына**

## На плошчы бяз слоў

Словы зьніклі тады і там, калі і дзе яны былі неабходныя як ніколі і як нідзе.

Тады, у жніўні 1991-га, яго выступу на плошчы чакалі тысячы людзей, зь якіх у гэтыя імгненьні назаўсёды спаўзала грамадзянства калёніі і яны станавіліся грамадзянамі Беларусі. Плошча таксама скідала аброць імя злоснага карліка, які тырчэў пад вокнамі Дому ўраду, і набывала горды назоў Незалежнасьці. Час, пра які ён марыў, у які верыў і які набліжаў, пераставаў быць чарадой дзён і гадзін і на вачах рабіўся найноўшай гісторыяй Эўропы.

Ззаду быў здохлы путч, вакол былі шчасьлівыя сябры, перад ім быў мікрафон — але не было словаў, яго найвялікшага скарбу, які ён зьбіраў і вывучаў усё жыцьцё, ведаў іх найменшыя таямніцы і старажытныя радаводы, іх мясцовыя норавы і заморскае сваяцтва, іх званарную цьвёрдасьць і салодкую мяккасьць.

І тады ён засьпяваў — як герой «Трох дарожанек» Янкі Купалы, які абраў дарогу не на Ўсход і не на Захад, а тую, што вяла «ў родну межаньку»:

> І запеў жаўнер
> Той прыгожанькі:
> Гэй, гэй, гэй-гэй!
> А ў бары, у бары
> Тры дарожанькі…

А свае словы потым вярнуліся. Яны і склалі гэтую кнігу.

*Аляксандар Лукашук,*
*Радыё Свабода*

# I. Буцькаўшчына

*І сабраў Эўтах усіх жыхароў Гілеядзкіх*
*і біўся з Эфраімцамі, і перамаглі*
*жыхары Гілеядзкія Эфраімцаў,*
*са зьдзекам кажучы: вы ўцекачы*
*з Эфраіму, а Гілеяд сярод Эфраіму і сярод*
*Манасіі. Перахапілі Гілеядзяне ўсе*
*брады на Ярдане, што вялі ў зямлю*
*Эфраім.*
*Калі які ўцякач-Эфраімец казаў:*
*«Я хачу перайсьці на той бок»,*
*Гілеядзяне пыталіся: «Ты Эфраімец?»*
*Калі той казаў «Не», яны гаварылі яму:*
*«Ну дык вымаві тады слова*
«шыбалет»*.
*Калі ён казаў «сібалет», бо па-іншаму*
*ня мог яго вымавіць, яго хапалі і забівалі*
*каля броду Ярданавага. Тады загінула*
*сорак дзьве тысячы Эфраімцаў...*

*Кніга Судзьдзяў, 12, 5—6*

[*] Паводле розных крыніцаў, слова «шыбалет» на той біблійнай тэрыторыі значыла «галінка садовага дрэва», «колас» і «бруістая крыніца, прыток ракі».

# Перажытае і памяць пра легенды

*Старазапаветная гісторыя і містыка. — Гісторыя — гэта ня тое, што было. — Прага архетыпаў. — Праўда «штодзённай гісторыі». — Пазбавіцца ад «разумных» стэрэатыпаў. — Уласныя ўспаміны і памяць пра легенды. — Што пісаў Зыгмунд Фройд Рамэну Раляну? — Прыйсьці туды, дзе яшчэ ніхто ня быў. — Радзіма малая і вялікая: дзьве часткі жыцьця.*

## Прыйсьці да сябе

Кожны народ народжаны ў сваім лёгасе, каб песьціць маладыя дрэўцы, расьціць калосьсе ды піць з бруістай крыніцы жыцьця. Сярод шматлікіх і розных суседзяў ён мусіць аднойчы перайсьці свой Ярдан...

Хто мы такія? Чым мы адметныя сярод іншых? Хто я такі? Хто не пытаў сябе пра гэта, дайшоўшы да сваёй жыцьцёвай восені... Так было ў майго пакаленьня, што занадта позна зьведала эўрапейскі скептыцызм і постнацыянальны нігілізм. Мы дагэтуль шукаем свой «шыбалет». Старазапаветная показка напоўненая для мяне глыбокім гермэнэўтычным сэнсам без шпіёнска-авантурных асацыяцыяў. Як прафэсійны філёляг я, здаецца, нават пішучы пра іншыя мовы і народы, усё жыцьцё пісаў адну кніжку-эсэ: якія мы, беларусы? Як мы адлюстраваліся ў нашым лёгасе?

Мінулае для чалавека сацыяльнага, як гэта парадаксальна ні гучыць, — гэта ня тое, што некалі было. Мінулае — гэта тое, што запомнена, пра што сказана, напісана. Асэнсаваныя мэмуары — гэта спроба, як бы сказалі антычныя грэкі, згарманізаваць у сабе *chaos*, вызваліць уласны дух і ня зьнікнуць у часе, стаць, магчыма, працягам праз таго, хто цябе пачуе і зразумее. І так званыя вялікія падзеі яшчэ і таму становяцца вялікімі, што нехта аднойчы пра іх расказаў, захаваўшы праз слова, малюнак, скульптуру, музыку. Шмат чаго вялікага з гэтага сьвету засталося для нас невядомым толькі таму, што пра яго не засталося згадак сучасьнікаў.

Безумоўна, успамінамі можна маніпуляваць, асабліва ў макрагістарычным дыскурсе. Маніпуляваць мінулым можа ня толькі адна асоба, мэмуарыст. Маніпуляваць мінулым могуць цэлыя народы. Ёсьць значная розьніца паміж успамінамі сучасьніка і ўспамінамі з генэрацыі наступнікаў. Таму я маю, напрыклад, большы давер, так бы мовіць, да «ўспамінаў» Шэксьпіра празь ягоных герояў — каралёў і беднякоў, вайскаводаў і рамесьнікаў, чым да адпаведнага разьдзелу ў сучасным трактаце кшталту «Гісторыя ангельскай цывілізацыі». Для мяне лісты да жонкі рэкрутаванага з-пад Полацку жаўнера «рускай» арміі з вайны 1812 году часам могуць сказаць больш, чым адпаведны разьдзел сучаснага расейскага падручніка. Жанр так званай вуснай, штодзённай гісторыі* звужае магчымасьці тэндэнцыйных маніпуляцыяў.

* Немцы гэта называюць *Alltagsgeschichte*, ангельцы — *oral history*, французы — *l'histoire du quotidien* ці *l'histoire oral*.

## Праўда выпадковасьці

Мэмуарысты (і нават тыя, хто лічаць сябе дакумэнталістамі) заўсёды адчуваюць падсьвядомы ціск архетыпаў: паказаць тое, што падмацоўвае, так бы мовіць, прагрэсіўную канцэпцыю, адкінуць на першы погляд неістотнае, выпадковае. Тады героі і падзеі атрымліваюцца настолькі выпуклыя, што хоць бяры кожную фразу і вынось у загаловак, як гэта робяць журналісты. Але штука ў тым, што тады адукаваны чытач адразу адчувае мастацкую няпраўду: у жыцьці людзі не гавораць амаль афарызмамі і падзеі не бываюць дыстыляваныя і адназначныя. У зьмястава-апавядальным сэнсе ў маіх нататках выпадковыя дэталі пераважаюць над «рэлевантнымі». З пункту гледжаньня мастацкай праўды яны складаюць аснову «сэмантычнага тэксту». Уся праўда хаваецца ў дэталях, калі за імі стаіць думка.

Мастацкая дэталь, заўважаная сучасьнікам ды замацаваная ў выразным слове, ня можа — ці амаль ня можа — ілгаць. Тыя, хто добра ведаюць антычнасьць, сьцьвярджаюць, што тады жыцьцё і думка ішлі поплеч, — ня тое, што ў наш час, калі большасьць рэагуе толькі на падзеі, а думкі і высокія рэфлексіі «адкладаюцца» на потым, на паліцу чаканьня. Ва «ўспамінах праз слова» жыцьцё і думка ідуць побач. У гэтым — «вэртыкальнасьць» маіх успамінаў.

Спадзяюся, што роднае слова пры мастацкім успрыманьні сьвету дапаможа мне сказаць праўду, маляваць дэталі, так бы мовіць, на тле выпадковай вечнасьці.

Наколькі праўдзівыя мае ўспаміны? Як ні дзіўна, пра падзеі ў сталым жыцьці ў гэтым сэнсе пісаць цяжэй: ёсьць магчымасьць адбору фактаў і, як бы сказаў фотааматар старой даты, ракурсу і фокусу. Пра дзяцінства пісаць прасьцей. Тут усё адстаялася: падзеі, гукі, словы. Усё шмат разоў успаміналася, пераказвалася без прыхарошваньня: што ты возьмеш зь някемнага дзіцяці! Успаміны дарослай памяці, як *camera obscura*, — цягнуць усё ў свой фокус, толькі кожны раз па-рознаму выпукляючы дух узьнёслага ці нізкага — у залежнасьці ад стану душы ці ад сьвядомага жаданьня намаляваць сябе лепей на тле мінулых падзеяў. На жаль, сучасныя мэмуары становяцца ўсё больш мадэрнымі (чытай: цынічнымі), аўтары — дзеля дасягненьня вераемнасьці і «шоў-эфэкту» — пішуць адкрыта пра некаторыя рэчы, што некалькі дзесяцігодзьдзяў таму было абсалютна немагчыма. Як апавядальнік я стараўся быць у гэтым сэнсе як мага больш карэктным, за выключэньнем хіба разьдзелаў пра раньняе дзяцінства, юнацкія гады і пэрыяд гадоў да сарака, пасьля якога я пачаў задумвацца над сэнсам быцьця. Гадоў да сарака я — шчасьлівы прадукт натуральнага разьвіцьця і адначасна ахвяра самарослай народнай духоўнасьці зь нярэдкімі праявамі амбівалентнага прагматызму. Для дасягненьня праўды ў дэталях тут не пазьбегнуць пэўнага цынізму.



## Дзіцячая і дарослая праўда

Кажуць, што добрая памяць на падзеі дзяцінства — прымета старасьці. Гэта — абсалютная праўда. У нас у вёсцы казалі: «А, ужо зьдзяцініўся. Захварэў на даўнасьць...» Гэта значыла, што чалавек пры ўспамінах пачынае прыгадваць невераемныя падрабязнасьці.

У эўрапейцаў ёсьць цэлая цывілізацыйная традыцыя і навука — культура ўспамінаў. Псыхолягі і дасьледчыкі ўспамінаў як фэномэну нацыянальнай «вуснай гісторыі» прыйшлі да нечаканай высновы, што абсалютную большасьць адстаялых дзіцячых успамінаў складаюць ня ўласна жывыя ўражаньні, а так званыя сямейныя легенды, стэрэатыпы, — падзеі, пераказаныя дарослымі ў прысутнасьці дзяцей, якія кожны раз у залежнасьці ад аўдыторыі слухачоў маглі мець новыя нюансы.

З другога боку, псыхолягі сабралі доказы фэнамэнальнай здольнасьці дзяцей згадваць асобныя дэталі раньняга дзяцінства, якія потым пэрыядычна агучваюцца і зьліваюцца ў адно цэлае з пазьнейшымі «нармальнымі» ўспамінамі і сямейнымі легендамі. Тады ўжо асоба выразна бачыць карціны мінулага, чуе галасы, успрымае пахі і сама стварае падноўленую сямейную легенду, пераказваючы інтэграваныя — і падсьвядома ці ўмысна скарэктаваныя! — успаміны новаму слухачу. Так і творыцца гісторыя стэрэатыпаў.

Навошта я пра гэта пішу? Каб чытач паверыў у фармальна-лягічна немагчымае — праўдзівасьць маіх некаторых як бы немагчымых успамінаў. Напрыклад, я не магу сам дакладна помніць, як мая сястра Лісавета згубіла мяне на клевярышчы, калі яываліўся з куля полак (так у нас называлі пялюшкі), які яна трымала пад пахай, несучы ў другой руцэ серп і посьцілку з украдзеным у калгасе клеверам. Але гэта чыстая праўда. Гэта пераказвалася безьліч разоў. Дэталь важная, бо шмат гаворыць пра тое, як мы гадаваліся. Або іншы прыклад. Я ня мог чуць, як раённы ўпаўнаважаны НКВД па высылках і вярбоўках у канцы дваццатых гадоў зайшоў да нас у новую хату з цыгарэтай у роце і, паляпваючы пракуранымі пальцамі па вушаку, запытаў: «Ну што, шляхты, будзем на Салаўкі сухары сушыць ці да чалдонаў на трылёўку паедзем?» Я ня мог гэтага чуць, бо мяне тады яшчэ на сьвеце не было. Але і гэта чыстая праўда. Гэта таксама пераказвалася безьліч разоў, як «гістарычная вяха» нашай сям'і. Я магу пераблытаць дробязі, але ключавыя словы — не: *шляхты, Салаўкі, сухары, чалдоны, трылёўка*. Не пераблытаю і множную форму дзеяслова, якую часам выкарыстоўваюць, зьвяртаючыся да адной асобы пры размове зь дзецьмі («Ну што мы тут намалявалі?»), хворымі («Ну як мы сябе адчуваем?») і на допыце: «Ну што, будзем прызнавацца?» Гэта ўсё — *мае* ўспаміны.



## Міты, актуаліі і сантымэнты

Ці на жаль, ці на радасьць, ня ведаю, але падобна, што я — апошні сьведка нашага сямейнага міту пакутаў. Унукам маім гэта ўжо нецікава. На вяку кожнага пакаленьня пэўныя міты адміраюць, пэўныя дадаюцца. І ў кожнага народу ёсьць свае пакутніцкія міты. І гераічныя — абавязкова. У век лічбавых носьбітаў інфармацыі ўспаміны ў выглядзе здымкаў, фільмаў, аўдыёзапісаў пры ўсёй сваёй дакладнасьці будуць бяднейшыя за нашыя папяроваэрбальныя. Яныператворацца ў экшан-кліпілюстрацыі. Мне шкада нашых наступнікаў.

Як кожны аўтар, я зьведаў мукі, шукаючы загаловак для сваіх нарысаў. Некалі прачытаныя на «Свабодзе» нататкі на блізкую тэму я

назваў «Пошукі свайго выраю». Сёньня, праз тры гады, гэтая назва здаецца мне занадта рамантычнай. Дарэчнай здалася мне назва, якую чытач бачыць на вокладцы. Малазнаёмае для сярэднестатыстычнага беларуса слова «шыбалет» — усяго толькі наша сымбалічная характарыстыка і, магчыма, нашае наканаваньне. Зрэшты, Байран і Пушкін дазвалялі сабе ўжываць гэтае слова ў іранічным сэнсе, апісваючы істотныя нацыянальныя архетыпы ў як бы лёгкім жанры. У 10-м разьдзеле «Яўгена Анегіна» Пушкін называе расейскім «шыбалетам» слоўца «авось!»:

Авось, о Шиболет народный,
Тебе б я оду посвятил,
Но стихоплёт великородный
Меня уже предупредил…

Байран таксама згадваў пра шыбалет, апісваючы свайго тыповага героя:

Juan, who did not understand a word
Of English, save their shibboleth, 'God
damn!'…

(Жуан не разумеў ніводнага слова па-ангельску, за выключэньнем іхнага шыбалету «God damn!».)

Можна паспрабаваць бяз высілак і прычынна-выніковых сувязяў пагаварыць лёгка пра сур'ёзныя рэчы. Назва можа трактавацца і як разьвітаньне аўтара зь Беларусьсю. Мікіта Ільліч Талстой, які гадоў сорак таму быў маім афіцыйным апанэнтам на абароне дысэртацыі, прысьвечанай блізкароднаснаму білінгвізму, расказаў містычны выпадак, як адна вёска перастала сьпяваць народныя песьні пасьля таго, як сталічны фальклярыст запісаў на працягу



году ўсе сьпеўныя абрады, а раённы радыёвузел потым у наступны год у прывязцы да адпаведнай даты перадаваў гэтыя запісы. Вось так: сказаць і потым зьнікнуць у нябыт.

Ад прыроды я чалавек сэнтымэнтальны і чуйны, нават да хваравітасьці чульлівы да слова. Гэта ўсё ад маці і паэтычных краявідаў, сярод якіх я пражыў першыя гады жыцьця. *Край зубчаты бору* і *сіняя смуга палёў* цешылі маё вока штодня. Калі я згадваю алегарычнае брылёўскае «глядзіце на траву», яно знаходзіць сузіральны і мілы майму дзіцячаму сэрцу працяг зь іншага аўтара: *«Там мурашы пасуць атары зялёнай тлі, як пастухі…»* Пасцва на сваіх і чужых радоўках была маім послухам і паэтычнай часткай жыцьця… Калі б мая маці вучылася, яна б, пэўна, стала Рамэнам Раляням. А сябе я заўсёды пачуваў трошкі Жанам Крыстофам.

У сталым узросьце, калі я ўжо быў «сапсаваны» заходняй цывілізацыяй, у маёй памяці пачалі ажываць, як пры LSD-тэрапіі, нейкія іншыя, з халодна-фіялетавага спэктру эпізоды. Помніцца, калі я гутарыў са Сьвятланай Алексіевіч як інфармант для «Чарнобыльскай малітвы» і ўсё яшчэ не дапісанай аўтаркай кнігі пра каханьне, я мусіў сабе прызнацца, што ёсьць нешта такое ўва мне ад *парфумэра**. Калі я чытаю інтэрвію, дзе Сьвятлана анатамізуе загадку каханьня, жыцьця, сьмерці, рэлятывізм нехрысьціянскага (у маім разуменьні), мне прыгадваюцца некаторыя рухі маёй дзіцячай душы, якія я цяпер успрымаю зусім інакш, чым

* Галоўны герой раману Патрыка Зюскінда «Парфума» (1985), эўрапейскага бэстсэлеру.

гэта было ў дзяцінстве. Атрымліваецца нейкі здвоены фокус, што дае відзежы, пра якія жанр аўтабіяграфічнага эсэ нават не дазваляе пісаць. Я тады пытаю сябе, ці варта лезьці ў падсьвядомасьць дзеля разуменьня ня толькі «як?», але і «чаму?». Амбівалентнае, дваістае, разуменьне і выклад згадваных падзеяў мінулага — непазьбежны недахоп і шарм мэмуарнага жанру. Самае фальшывае ва ўспамінах — чорна-белае маніхейства, калі аўтар *ужо тады разумеў, што*... Непрыемна чытаць і незавуалявана цынічныя прызнаньні «слабога» чалавека...

Гэтыя нататкі — для тых, хто збольшага ведае Беларусь. Чалавеку далёкаму яны не цікавыя. Тут, на жаль, ня можа быць далёкіх прасторавых экстрапаляцыяў. Гэта — спроба праз успаміны лепш спазнаць сябе, час і тых, з кім цябе сутыкнуў Яго Вялікасьць Выпадак у гэтай частцы зямлі. Хаця маё жыцьцё разгортвалася ў «турбулентным» часе і я нібыта быў калі-нікалі ня самай шараговай фігурай у цэнтры падзеяў і нават нешта вырашаў, — аналізуючы мінулае, я бачу, што мы ўсё ж схільныя перабольшваць ролю зьнешніх абставінаў. Мне даволі часта прыходзілася ўцякаць ад абсурдных абставінаў часу або пераадольваць іх, але ўсё ж свой выбар я кожны раз рабіў сам на ўсіх «жыцьцёвых станцыях». Такіх станцыяў, паводле маіх рэтраспэктыўных падлікаў, набралася аж сямнаццаць. Зь іх толькі ў двух выпадках я быў пазбаўлены выбару. (Зрэшты, з гледзішча экзыстэнцыі адзін выбар у чалавека заўсёды ёсьць — добраахвотны адыход з гэтага жыцьця, самазабойства.) У гэтым сэнсе ў маіх успамінах няма нічога эпахальнага. Проста прыватныя выпадкі з прыватнага жыцьця, калі



нават гаворка ідзе пра падзеі вядомыя ў грамадзтве.

## Тайная прага экстрапаляцыяў

Ня ведаю, ці магу я сябе лічыць тыповым беларусам, аднак тое, што я разрываюся паміж Усходам і Захадам, як шмат хто з маіх землякоў, — гэта факт. Прычым я б удакладніў: наш Усход сягае далей за праваслаўную Маскву ды Канстантынопаль, некуды туды далей — у бок Індыі і нават Японіі. Я не кажу пра паходжаньне, я кажу пра характар. Таму тут няма нічога ад фантастычных тэорыяў паходжаньня літоўцаў ад рымлянаў, а назвы «Масква» ад санскрыцкага «*москво*», што паводле расейскага пісьменьніка і патрыёта Югава абазначае «аб'ядноўваю». Калі японец можа не баставаць, працаваць на фірму як прыгонны, мець адпачынак адзін тыдзень на год і гаварыць з начальствам выключна з ангельскай інтанацыяй *understatement*, пра што іранічна-тонка заўважае Барыс Акунін, — то чым мы не японцы? Калі Зыгмунд Фройд у сваіх лістах да Рамэна Раляна тлумачыць, што разумець Індыю і Ўсход яму перашкаджае элінскае пачуцьцё меры (па-старажытнагрэцку *«софросюнэ»*), габрэйская цьвярозасьць ды філістэрская баязьлівасьць, — то чым мы не наступнікі антычнасьці, габрэйскасьці ды эўрапейскасьці? Тут я даў іранічны пасаж пра нашыя амбівалентныя рысы, якія ў залежнасьці ад балянсу могуць плаўна перацякаць у вартасьці. А ёсьць жа наша нешта, што абсалютна блішчыць. Сузіральнасьць Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага, Янкі Брыля — у траве, дубах, вершалінах шумлівых бярозаў: хіба яна менш глыбокая,

чым японскае любаваньне сакурай? У сваіх успамінах я не змагу зашнураваць свае грудзі і сэрца. Будзе Фройд, будзе і Купала, зь ягоным касьмічна-ўсходнім:

Крылатыя стварэньні з выраю
Па Млечнаму пуці плывуць, як шнур,
І, творачы малітву шчырую,
Сваіх шукаюць кінутых пячур...

Мне здаецца, што ў шчырых успамінах, ідучы шляхам сэрца і розуму (дарэчы, паводле старазапаветнай традыцыі орган спазнаньня знаходзіцца ў сэрцы), як і ў сапраўднай, неканструяванай паэзіі, можна *прыйсьці туды, дзе яшчэ ніхто ня быў*, і зрабіць сваё невялікае адкрыцьцё. Ва ўсякіх мэмуарах можна знайсьці паэзію адкрыцьця.

Жыцьцё чалавека — гэта бесьперапынны выбар і самаапытаньне. Выбар можа быць прагматычны і мэтафізычны. Нацыянальнае самавызначэньне, ці, як цяпер часьцей кажуць, самаідэнтыфікацыя, на мой розум і эмацыйны досьвед — і як працэс, і як вынік, — рэч больш мэтафізычная, унутрана-трансцэндэнтная, чым прымітыўна дэтэрмінаваная, асабліва ў этнічных канглямэратах, да якіх можна аднесьці і нашу Беларусь. Пра гэта я спрабаваў даводзіць некалькі гадоў таму ў часопісе «ARCHE». Свае амаль семдзесят пражытых гадоў паводле самаідэнтыфікацыі я мог бы ўмоўна разьдзяліць на дзьве часткі: Буцькаўшчына і Бацькаўшчына. Першыя трыццаць пяць гадоў я пазнаваў сябе праз сябе, астатнія — праз Беларусь. І тады яна адкрылася мне як мой невыказны Шыбалет: жыцьцядайная крыніца, зялёны парастак і сьпелы колас...



Той, каму хопіць цярпеньня прачытаць усе гэтыя нататкі, заўважыць, што мае ўспаміны — гэта імгненныя здымкі прасторы і часу, убачаныя і пачутыя праз жыцьцёвы досьвед аўтара. Кіркегор некалі заўважыў, што з гледзішча структуры душы чалавека заслугоўвае ўвагі тое, сьмяецца ён больш ці плача, бо кажуць жа, што плач прыдумаў Бог, а сьмех — чорт. Падзяляючы гэтую мімалётную імпрэсію вялікага філёзафа, я ўсё ж ня схільны прыхарошваць сваю натуру. Некаторыя эпізоды ўласных успамінаў здаюцца мне самому сцэнкамі з шэльмаўскай прыгодніцкай аповесьці. Няўжо гэта ўсё было? Калі вам пачне здавацца, што маёй рукой водзіць злы нячысьцік, прыгледзьцеся ўважліва: ён толькі ўсьміхаецца. Для майго пакаленьня клясычны беларускі Багушэвічаў чорт, які «рагатаў у балоце», згінуў.

Кніжку можна пачынаць чытаць зь любой часткі: кожны разьдзел — самадастатковы. Цешу сябе тым, што, можа, нешта зь перажытага мною кране чуйную струну ў розуме і сэрцы добразычлівага чытача.

# Беларусь і Эўропа майго дзяцінства

*Швэды, шляхты, ліцьвіны і зарачане. — Драўгі і шалтаносыя клёцкі. — Гультай з гульты — скок, і няглыткае зглотаў. — Полацкія пратубэранцы. — Вільня — дзіўна, ды мухам цяжка. — Хто ж нашыя аўтахтоны? Шмэрка Шандзялоўскі і талерантнасьць. — Шпількэс і майткэс. — Першыя ўрокі германістыкі. — Як Хайм і мужык біліся. — Свае і чужыя.*

## Нашыя, зарачане і прыхадні

Напачатку краявід майго дзяцінства, паселішча двароў на дваццаць, з даволі пашыранай у Беларусі назвай Буцькаўшчына, абмяжоўваўся «зубчатым краем бору» Полаччыны паміж Ветрынам, Вушачай і Празарокамі. Потым я паступова знаходзіў новую, большую Беларусь, вобмацкам ідучы сьледам за мовай, якая пашырала мой дом. Захад зь Вільняй і Панарскім узвышшам, дзе мы мелі радню, па гаворцы нагадаў нешта шчымліва блізкае: як бы я тут некалі даўно-даўно жыў. Міцкевічаў Ліздэйка з «Пана Тадэвуша», што «на гары Панарскай на мядзьведжай скуры ляжаў», здаецца мне цяпер зусім рэальным дзедам, які, канечне ж, гаварыў па-нашаму. Каля Блакітных азёраў, дзе я аднойчы назіраў абрад жаніцьбы Цярэжкі (дакладна так, як у нас!), я адчуваў сябе зусім як дома. Пазьней я адкрыў для сябе беларускамоўныя вёскі пад Вялікімі Лукамі і Невелем, чуў родную мову ў Рудні і Сутоках пад Смаленскам. Дарослым у акадэмічных экспэдыцыях я прывандраваў на поўдзень да заліўных прыпяцкіх сенажацяў з дубамі-адзінцамі і «плоскага» ды чужога для майго паўночна-ўсходняга ўспрыманьня Берасьця. Так малая Радзіма, Буцькаўшчына, зьлілася з большай этнічнай Бацькаўшчынай. Гомель, у пэўнай ступені Магілёў і нават Менск, дзе я пражыў агулам пяцьдзясят пяць гадоў, доўгі час здаваліся мне чужымі. Этнічнае пачало пераходзіць у нешта большае толькі ў другой палове жыцьця.

Тое месца, дзе я пражыў першыя трынаццаць гадоў, я невыпадкова назваў *паселішчам*, бо мае этымалягічныя веды перашкаджаюць мне назваць яго *вёскай*. Авэстыйскае *vis*, лацінскае *vicus*, стараславянскае *весь* усё ж абазначаюць нешта накшталт больш-менш упарадкаванага шэрагу пабудоваў. Наша ж Буцькаўшчына тулілася ўраскідак сярод парэзанага ляндшафту па ўзгорках і бліжэй да *бальшаку* ды некалі даволі паўнаводнай ракі бяз назвы. Малая Радзіма ўяўляецца мне нейкім інфлянцкім Бабілёнам, прышляхавай пляцоўкай і выспачкамі, дзе суіснавалі стагодзьдзямі балты, крывічы, нарманы, германцы ды габрэі, расьцярушаныя вакол полацкага гістарычнага прыцягненьня. Усіх яднала адна мова — беларуская. Такое нейкае ВКЛ у мініятуры. З гэтай нагоды я, напрыклад, вельмі добра адчуваю «памежнага» нямецкага пісьменніка Яганэса Баброўскага, у творах якога побач жывуць палякі, літоўцы, немцы ды габрэі. Ягоная аповесьць «Левінаў млын» — як пра нашу Буцькаўшчыну.

Полацкія ды балцкія прыметы так і вытыр-

калі ў нас у штодзённым ужытку: *«Высах, як Баболевы рэліквы»* (у Полацку адзін час захоўваліся Баболевы рэліквы, «мошчы»). Або: *«Што ты разгнезьдзілася, як Рагнеда»* (пра няўклюдную жанчыну — магчыма, алюзія на тое, што гістарычная Рагнеда папусьцілася да згвалтаваньня). *«О, гатоўка з Полацку!»* (Во, уставіў свае тры грошы! Глянь — і ён прыйшоў!) *«О сьвяты Баболя!»* значыла прыблізна тое ж, што і «Езус-Марыя!». *«Ня 'дзін Гаўрыла ў Полацку»* мела шмат сэнсава-сытуацыйных адценьняў: бывае шмат людзей з аднолькавымі імёнамі; і ты зможаш, ня зломак; усё будзе, як у людзей; на ім сьвет клінам не канчаецца.

Праразалася нешта і пра Вільню. Памятаю прыбабуньку-прыказку: *«Вільня дзіўна, ды мухам цяжка»* (у горадзе цяжка жыць). Пры гэтым расказвалася пра спрэчку дзьвюх мух — вясковай і віленскай, — каму лепш жыць. Віленская муха кажа вясковай: «У вас так усё некультурна. Гаспадар цябе лыжкай у булёне зловіць і — праз вакно, а мой мяне відэльцам, як паненку, падчэпіць, абцалуе ды ў вазон пад альяс на сонейка пакладзе. Ляжу, як паня». Вясковая ж адпавядае: «Як я ў булён пападу, дык мой гаспадар мяне апалонікам як падчэрпне — ды праз вакно на выган. Дык мая ўся радня месяц корміцца...» Быўварыянт*: «Ага, у Вільні мух аблізваюць»* (тут адценьне: што ты несянесіцу гародзіш!).

Літуанізмаў вакол было столькі, што мне цяпер гэта згадваецца як нейкі сон. «Вось *драўгу* (сябру) сабе знайшоў!» — як паблажліва-адмоўны эпітэт. «*Шалтаносыя* клёцкі» — астуджаныя («з *халодным* носам») прадаўгаватыя «крыпаныя мясам» клёцкі. Або гульня ў *куту́* — дзіця з завязанымі вачыма шукае гульцоў, якія туляцца па кутках хаты, і паўтарае *ку-ту-ку-ту*... Так і чую латыскае ды летувіскае «Kur tu?» — «Дзе ты?». «Сівы, як яблыня» — гаварылі пра старога чалавека. Дакладна такое параўнаньне ёсьць і сёньня ў літоўцаў. Ня ведаю, хто тут у каго пазычаў, але шмат што мы гаварылі зь літоўскай афарбоўкай*: цаца, бурбуліць, абжыргаць, бусіняць, буч, ціплюк, чырва, цукрыня, бульбоўня, памёты* (абложная неапрацаваная зямля, часта зарослая хмызьняком)... А ад Александрыны, нашай суседкі, што была замужам за латышом (аб прозьвішчах трошкі пазьней) па сёньня памятаю языкаломку*: «Гу́льтай з гульты — скок! І няглыткае зглотаў»*. «Гулта» па-латыску значыць «ложак». «Гультай» вымаўляўся з націскам на першым складзе. Гэта пра таго, хто жарэ ды сьпіць. «Глыткі» значыць смачны. Тут яшчэ ёсьць і фрывольны падтэкст. У нас жанчыну-гультая маглі назваць «гульта». Як гультай з гультаіхай (гу́льтай) добра пасьпіць, дык тады ўсё смачнае.

«Шляхты ды шведы» — так часам з адмоўнай пазнакай як «нянаськіх» называлі некалькі нашых двароў суседзі-*зарачане,* бо жылі за рэчкай. Як я цяпер магу меркаваць, шляхтамі называлі галоўным чынам сем'і з прозьвішчамі на «-скі» (кшталту Барманскі). Як шляхты часьцей фігуравалі пасьпяховыя гаспадары: Шпілецкі (добры пчаляр), Жахоўскі (грамацей), Барманскі (зь мянушкай Кузюля, бо быў працавіты, як кузурка, і ўсё ўмеў рабіць) і Садоўскі — мой бацька (працавіты, справядлівы, моцны — стайно! — і заўсёды слухаў жонку). Быў яшчэ адзін Шпілецкі (гарманіст),

які часта напіваўся і засынаў, паклаўшы гармонік пад галаву. Яго шляхтам не дражнілі. Шляхтаў зарачане лічылі ганарыстымі. Недзе ў глыбіні дзіцячай памяці ў мяне захавалася першае пачуцьцё крыўды на бацькоў, што нас дражняць. Хацелася быць, як усе. Усе — гэта большасьць, зарачане. Памятаю, аднойчы, калі маці зашчапіла нас у хаце з вуліцы і не пусьціла за рэчку глядзець, які матацыкл прывёз з Поркала-Уд (арандаваная СССР у Фінляндыі вайсковая база) дэмабілізаваны Коля Сіськевіч (туды зьбеглася ўся вёска), зарачанскія падшыванцы выводзілі ў нас пад вакном мэлёдыю кшталту сучаснага рэпу:

У гэтым маёнтку,
на краю памётаў,
водзяцца апосталы
й дзікуны...

Пазьней, калі я пайшоў у школу і зразумеў сваю абсалютную перавагу перад зарачанскімі абібокамі зь іхнымі бацькамі-п'яніцамі, пачуцьцё крыўды на маці зьмянілася на павагу.

Акрамя «шляхты» на нашым баку былі аселыя сем'і з даволі экзатычнымі прозьвішчамі: Карл Бруквін, Якаў Фрыдрых (зводны брат маёй маці, якая мела такое ж прозьвішча), Адольф Падзява, Франц Шнітке, Вальдэмар Кімстач, Ціт Гімра (з выбухным «г»), Альфрэд Лавэйка. Зь «незвычайных» дзіцячых імёнаў (тады я ўспрымаў іх як звычайныя) гэтых сем'яў памятаю: Вольдат, Марта, Крыстоф, Зузана, Пятра ці Пятруля (дзявоцкае імя) і Крыстына. Гэта афіцыйнае напісаньне. Гэта добра памятаю, бо маці наша была лістаноскай, і мы, памагаючы разносіць пошту, чыталі адрасы на капэртах, якія пісаліся па-расейску. На мясцовы лад прозьвішчы ды імёны гучалі інačай: Карла, Якуб, Адоля, Антось, Пятрусь, Фрэдзька. Ціт не зьмяняўся. Жонкі зваліся адпаведна: Карліха, Якубіха, Адоліха, Антосіха, Петрусіха (за рэчкай жыла Петрачыха) і Ціціха. Маю маці звалі Вінчыха (бацька быў Вінцэнты, або Вінка). Як экзатычнае, што ўжо засынае ў памяці, успрымаю цяпер тое, як мы называлі нашу цётку Анэту, муж якой быў Міцька, — Міччыха. Калі-небудзь жанчын называлі паводле прозьвішчаў іхных мужыкоў, калі з імёнаў было цяжка нешта выкруціць па-мясцоваму: Лавэйчыха (бо цяжка сказаць «Фрэдзьчыха» ці «Альфрэдзіха»), Шнітчыха (ад Франца цяжка ўтварыць жаночую форму). Было шмат парных жаночых імёнаў: Прануся, Пятруля ці Міхаліна. Утваралі жаночыя апэлятывы і паводле прафэсіі мужа: Каваліха, Аграноміха. Тады ўжо і дзеці маглі называцца адпаведна: Стася-Кавалішка (асабліва пасьля сьмерці бацькі, ці калі маці была галоўная ў доме) або Тэкля-Аграномішка. Калі нашага бацькі ня стала, нас пачалі называць «Наташчыкі»: Пецька-Наташчык, або дакладней: Наташчык самы меншы. Цікавая гісторыя была з адной дзявоцкай мянушкай, якую новыя людзі ўспрымалі амаль як традыцыйную сямейную — Лісавета Сапялішка. З прозьвішчам Сапега, якое сустракалася ў суседняй вёсцы Двор-Сала-невічы, або з тым, хто іграе на сапёлцы, яна не была зьвязаная. Паводле фармальнай лёгікі тут павінен быў фігураваць нейкі таямнічы Сапель ці Сопель. А ўсё было так: бацька гэтай дзяўчыны меў праблемы з носам, быў, як бы яшчэ сказалі, *вазграты*, — цяпер, можа б, сказалі, што

ён меў хранічны насмарк або паліпы, а можа, трэснутае паднябеньне. Ён чамусьці праз слова ўстаўляў дарэчы й недарэчы слоўца «цяпер», а ў яго, бедненькага, праз той фізычны недахоп атрымлівалася «сапель». Так і пайшло: Сапель ды Сапель. Вось і дачку сталі называць Сапялішка.

З узгаданых дзіцячых імёнаў Вальдат пераробляўся на Вальдука, Пятра — на Пятрулю, Вальдэмар на Валодзьку, Крыстына — на Хрыстыну. Марта й Зузана не паддаваліся перарабку. Былі яшчэ і мянушкі: Карла Бруквін — Латыш (дзеці адпаведна Латышонкі), Якуб — Таптун, Адоля — Сракадул, Крыстоф — Шапка Сорак Клёцак, Ціт — Малацьбіт. Латыш, Таптун і Сракадул, бадай, не патрабуюць тлумачэньня. Адкуль Шапка Сорак Клёцак? Расказвалі, што ў блякаду Крыстоф заклаўся зь нейкім партызанам на сваю янотавую шапку, што зьесьць за адзін раз сорак клёцак з душамі (з дранай бульбы, усярэдзіне мяса і абсмажаныя ў сьмятане). Не атрымалася. І шапку прайграў, і ледзь сам не памёр. Чаму Ціт — Малацьбіт? Ягонае даволі рэдкае імя фігуравала ў вядомай показцы «Ціт-Ціт, ідзі малаціць...», да таго ж ён сапраўды быў ня вельмі злы да працы.

Як мне здаецца, упершыню ў жыцьці я задумаўся над тым, як нашыя імёны раствараюцца ў суседніх і чужых, ужо дзевятнаццацігадовым дзецюком у 1959 годзе. А было гэта так. Шукаючы чарговую «станцыю жыцьця», па дарозе зь Яраслаўлю (уцёк з ваенна-фінансавай вучэльні) аказаўся я ў Маскве. Купляю раніцой на Яраслаўскім вакзале газэту «Известия». Чамусьці зьвяртаю ўвагу на групавы партрэт маладых дзяўчат у камбінэзонах і шыракаполых касках-брылях ліцейшчыкаў на першай старонцы. Чытаю подпіс: камуністычная брыгада «сьцержэншчыц» заводу імя Ліхачова. Прозьвішча брыгадзіра ў цэнтры — Садоўская Ніна. Пазнаю: гэта нашая Яніна з Забораўна, мая траюродная сястра, што паехала па вярбоўцы ў Смаленск у фабзаввучэльню. От, думаю, карэспандэнт імя пераблытаў ці ў тыпаграфіі памыліліся і першую літару прапусьцілі. Ёсьць адрас і здымак інтэрнату, дзе культурна жывуць передавікі вытворчасьці. У Маскве маю пэўныя пляны, таму трэба недзе зачапіцца на пару дзён. Кірую ў інтэрнат, дзе жыве мая сваячка. Назвы вуліцы не магу цяпер згадаць. Знайшоў хутка на мэтро.

Дзяжурны прапускае: паказваю часовае пасьведчаньне, што замяняе пашпарт. Відаць, што сваяк, таксама Садоўскі. Стукаю ў дзьверы пакою, якія назваў дзяжурны. Ніхто не адзываецца. Стукаю ў дзьверы побач. У дзьвярах зьяўляецца постаць п’янаватага дзецюка, потым твар таксама ня вельмі цьверозай дзяўчыны. Я ў курсанцкай форме. Пытаюся пра Яніну Садоўскую. «Какую Йинину? Ах, эту трудягу из Белоруссии? А ты что, ейный хахель? Больно молодой! Ты смотри, так она — Йинина...» Маладзён пачынае рагатаць. Хахоча і п’янаватая сяброўка. У глыбіні пакою чуваць яшчэ адзін жаночы голас, які ўліваецца ў сьмехавы хор. Мне кажуць, што мая знаёмая на зьмене і зьявіцца пасьля абеду. Заходжу яшчэ раз пад вечар у інтэрнат. Яніна ўжо дома. Прывітаўшыся, яна адразу кажа: «Што ж ты нарабіў! Ужо ўвесь інтэрнат сьмяецца, што я Яніна. Я ж тут пішуся як Ніна. Тут жа ўся ліміта з Падмаскоўя...» Зрабілася мне прыкра на душы ад сябе

слабога, што пайшоў шукаць часовага падсуседзтва ў сваячкі Яніны, што перафарбавалася ў Ніну ад пачцівасьці перад дурной і п'янай падмаскоўнай лімітой. Не застаўся я на «Нінін» пачастунак і пайшоў начаваць на Беларускі вакзал...

У Буцькаўшчыне на *тым баку*, *за рэчкай*, або, як казалі, *на сяле* сярод тутэйшых з прозьвішчамі Любчык, Прыстаўка, Мароз было нямала прышлых зь ліку атабараных вайскоўцаў і прысланых упаўнаважаных. Навалач і пустадомкі — такімі словамі называў іх тутэйшы люд. Адзін з прышлых мянушкай «Панімаяш» меў старазапаветнае імя Анах, а ягонага меншага сына звалі па-савецку Кім — ад пачатных літараў у словах: калектывізацыя, індустрыялізацыя, мэханізацыя. Мянушка Панімаяш відочна ўтварылася па аналёгіі са словамі тыпу «звадыяш», «масіяш» зь ягонага слоўца «понимаешь», якое ён устаўляў бязьмерна часта ў сваіх начальніцкіх маналёгах.

Паводле ўспамінаў старэйшых, менавіта прыхадні былі галоўнымі актывістамі падчас «добраахвотных» вярбовак у Сібір напрыканцы дваццатых, калі пасьля Рыскай дамовы адсяляўся ад «белапольскай» мяжы «нерусский элемент». Пра аднаго зь іх я ўжо згадваў на пачатку кніжкі. Бацька з братамі і маці сталі «добраахвотнікамі» і паехалі ў той маразяны Сібір. Сібір у нас быў мужчынскага роду: «Гэта ж Сібірам пахне». Хто пабываў у Сібіры, пра таго казалі: рыштант-сібірака. Пад Томскам бацькі пахавалі першую дачку Леанілу. Неяк абставіны склаліся так, што яны змаглі хутка вярнуцца дадому, яшчэ задоўга перад вайной. Два бацькавы браты Антось ды Браніслаў



зьніклі падчас «хапуна» 1937-га. Абодва былі выразныя «ворагі народу», бо за Польшчай, маючы пэўную адукацыю, працавалі пры лясьнічым. Матчыну сястру Анэту выслалі ў Казахстан у Талды-Курганскую вобласьць разам зь дзецьмі і мужам. Выратавала іх тое, што дзядзька Зьмітрок, Анэцін муж, быў добры садоўнік і гароднік і, неяк схітрыўшыся, прыхапіў з сабою ў высылку ладную торбачку насеньня. Там праз гады два, як Рабінзон Круза, разьвёў агарод, стаў добрым гаспадаром сярод ссыльных. Іхная высылка мне яшчэ помніцца тым, што пасьля вайны яны прысылалі нам пасылкаю разам з рысам і кішмішам школьныя сшыткі. Дагэтуль памятаю, што па-казаску сшытак называецца «дэптэр».

## Шмэрка Шандзялоўскі

Згадваецца часты пасьляваенны госьць Буцькаўшчыны — Шмэрка Шандзялоўскі. Ня ведаю дакладна, ці гэта ягонае сапраўднае прозьвішча, ці яго так звалі таму, што ён жыў у далекаватай вёсцы Шандзялы, адкуль прывозіў да нас газу, іголкі, мыла, сярпы, косы ды іншыя гаспадарчыя дробязі. У нас без усялякага зьдзеку габрэяў называлі жыдамі. Жыд увогуле быў сынонімам гандляра. «Вось у жыда купіла», — магла сказаць маладзіца, паказваючы нейкую рэч. Як памяць ад Шмэркі ў Буцькаўшчыне засталіся ня толькі тачылкі для нажніц і керагазы, але вясёлыя і сумныя прыбабунькі, показкі ды слоўцы: *«Твой сачас як Хаймаў зараз»*, *«прасталытая самадайка»*, *«Больш паплачаш, менш пасюкаеш»*, *«Як у Вільні была, чай і кофій піла»*, *«Каб на цябе харгол!»* (саранча).

Шмэрка заўсёды атабарваўся на нашым баку, бо дзеці прышлых буцькаўцоў «зь сяла» дражнілі яго ўсялякімі брыдкімі словамі, бегучы ўсьлед за фурманкай з гандлёвым скарбам. Мы любілі слухаць Шмэркавы аповеды. Ён калі-небудзь прасіў застацца ў нас на начлег, бо баяўся, што позна вечарам па дарозе дадому могуць адабраць ягонае майно. За начлег на возе ў нашай паветцы ён звычайна нешта даваў. Напрыклад, маці — «тытунь турэцкай гадоўлі» ў сушаных калівах. Пасьля Сібіру маці пачала паліць, бо так ратавалася ад нейкага заразнага «чалдонскага кохліку». Паліла да самай сьмерці. Мы, дзеці, гатовыя былі біцца за тое, каму крышыць «маміну табаку». Мы ўжо станавіліся, так бы мовіць, табаказалежнымі. Было страшэнна прыемна ўдыхаць незвычайна смачны тытунёвы пах, асабліва тады, калі хацелася есьці. А пасьля вайны, асабліва вясною, есьці хацелася заўсёды.

Ад Шмэркі я ўпершыню пачуў ідыш. Ён гаварыў на ідышы з сваім пляменьнікам, які прыяжджаў разам зь ім на возе або паперадзе на ровары. Цікава, што ў Шмэркавым ідышы я чуў шмат нашых словаў: *хмарнэ, завэрухэ, станік, скарпэтэн, а шалікал, шлейкэс, а кофтал, чэрніцэс, шчавэй, майткэс, а шпількэ*... Нават памятаю цэлую фразу, якую ён паўтараў, хвалячы чаравікі з новымі *«саюзкэ»* і *«падэшвэ»*: *«Дзі падэшвэ із фун ледэр, ні фун гумэ»* (падэшва скураная, не гумовая). Вечарам, выпіўшы паўкілішка «бімбэру», ён па-змоўніцку шэптам рэцытаваў: «Дзякуй Сталіну-грузіну, што абуў нас у разіну»... Калі-небудзь ён прывозіў самаробную ядлаўцоўку «з заходняй», якую называў на італьянскі манер «крамба́мбулі», з націскам на другім складзе.



Шмэркавы ўрокі ідышу, ня лічачы пачутых ад суседзяў літоўска-латыскіх слоўцаў, былі першай брамай маёй вучонасьці ў замежных мовах. Тут варта згадаць адзін камічны эпізод. Калі ў пятай клясе ў вёсцы Гімрава (кілямэтры тры ад нас), дзе палова жыхароў мелі прозьвішча Гімра, мы пачалі вывучаць нямецкую мову, нашым першым выкладчыкам быў дырэктар школы — Есьман Міхаіл Яфімавіч, габрэй. З вайны мы ведалі шмат нямецкіх словаў: *хэндэ хох, цурук, зупэ, мутэр, фатэр, кіндэр, брот, айер, ахтунг, тыфус*. Урокі праходзілі весела. Падручнікаў для першага году навучаньня не было зусім. Наш выкладчык вучыў нас у асноўным вусна, прамым мэтадам. Нешта мы спрабавалі пісаць: *вір баўэн фабрыкэн унд трактарэн* (мы будуем фабрыкі і трактары). І вучылі на памяць вершы. Я быў найлепшы вучань. Нямецкая мова нашага настаўніка была лёгкая і вясёлая. Праз паўгоду нам прыслалі настаўніцу з раёну. Памятаю, прозьвішча яна мела шляхетнае — Пальчэўская. На першы ўрок яна прынесла нам нейкія раздрукаваныя аднолькавыя каляровыя плякацікі і папрасіла чытаць нямецкія подпісы ўголас. Мы чыталі па чарзе, не перакладаючы. Настаўніца хвіліны дзьве моўчкі слухала, потым неяк скрывілася, як бы ёй забалелі зубы ці нешта папала ў горла, і, нічога не сказаўшы, выбегла ў настаўніцкі пакой. Там усчалася нейкая сварка. То чуўся пісклявы голас «немкі», то прыцішаны барытон дырэктара. Пазьней мы даведаліся, што быў скандал, прыяжджала праверка. Высьветлілася, што наш дырэктар амаль паўгоду выкладаў

нам трасянку з ідышу і нямецкай. Новая настаўніца злосна выпраўляла нашыя ідышызмы і перадражнівала вымаўленьне, асабліва інтанацыю. Мы «немку» за гэта не любілі, назло выводзілі, як маглі, пытальныя сказы з габрэйскай інтанацыяй і шкадавалі дырэктара. Ён хутка ад нас паехаў, але не праз гэтую гісторыю. У яго захварэла жонка на нейкую дрэнную хваробу. Гаварылі, што яна неўзабаве памерла. Яе звалі Глафіра. Яна была вельмі прыгожая.

Калі цяпер заходзіць гаворка, дзе нам быць — у Эўропе ці з Масквою, для мяне гэта бессэнсоўнае пытаньне. «На нашым баку», як мы казалі на нашых выспах у Буцькаўшчыне, да трынаццаці гадоў я ўжо жыў у супольнасьці эўрапейскіх народаў сярод продкаў латышоў, габрэяў, летувісаў, нейкіх даўно аселых заходніх ці паўночных эўрапейцаў. Тут усе былі свае, тутэйшыя, роўныя. Усе гаварылі па-мясцоваму, па-беларуску. Я сам дагэтуль дакладна ня ведаю, хто была мая маці зь ейным «нянаськім», як казалі зарачане, прозьвішчам Фрыдрых. Я таксама ня ведаю, чаму яна пасьля сьмерці бацькі перайшла на сваё дзявоцкае прозьвішча. Можа, гэта для яе было важна? Цяпер гэта ўжо тайна. Наколькі мне помніцца, у нас нікога асабліва не цікавіла, якога ты паходжаньня. На нашым баку ніхто нікога не дражніў злосна паводле нацыянальнай прыметы. Дражніліся зарачане, прышлыя. «Нашы» маглі толькі лёгка пакпіць. Карлу Бруквіна мы пачалі называць Латыш, а ягоных сыноў Латышонкамі ўсьлед за прышлай большасьцю, але нават без макулінкі непрыязнасьці. Той самы Шмэрка Шандзялоўскі сам расказваў жарт-показку пра тое, як Хайм з мужыком дзялілі,



каму які мех несьці. Хайм схапіў лягчэйшы. Па дарозе пасварыліся і пачалі мяхамі біцца. У мужыка ў мяху быў цяжкі прас, а ў Хаймавым мяху — трошкі хмелю. Вось Хайм і будзе гаварыць: «А ў маім мяшку было трохі хмелю ў ражку. Дык я па мужыку як упяру! Дык ён і пабег, як сабака. А ён па мне бац! Дык я і ляжу, як той пан». Фігура іроніі, як у показцы пра мух.

Прышлыя, што жылі «на сяле», сярод якіх было шмат прыхадняў з вайсковага гарадка, колькасна пераважвалі «ліцьвіноў» — так маці называла тамтэйшых з «нармальнымі» прозьвішчамі кшталту Мароз, Глебка, Любчык — і хутка запанавалі «за рэчкай»: пачаліся бойкі, п'янкі, гулі, сямейныя закалоты. Цяпер бы я, пэўна, гаварыў нешта пра дрэнных расейцаў, мігрантаў і гэтак далей. Тады нашы бацькі і старэйшыя нічога такога не гаварылі і не шапталі. Тады гаварылі проста пра дрэнных прышлых людзей, якія хочуць усё навярнуць на свой капыл, што гэта нейкая навалач і пошасьць на наш край. Расейцы не заўсёды асацыяваліся з гарадзкімі. З вайны помнілі партызана Ціханава з Тамбоўшчыны, які надта добра спраўляўся па гаспадарцы і ўспрымаўся як свой вясковы. За гэта нехта з прышлых даў яму мянушку Кулак. Ціханаў спрабаваў гаварыць па-нашаму, за што яго ўсе вельмі любілі. Нашы неяк прыглядаліся да людзей, не сьпяшаліся даваць характарыстыкі ці мянушкі. Сьмяяліся толькі з тутэйшых, хто на людзях спрабаваў ламацца на гарадзкі манер. Чамусьці ўсіх вельмі сьмяшылі словы *«йішьшё»* і *«шьшяс»*, якія гучалі з вуснаў раённага фін-

агента, што прыехаў аднекуль здалёку будаваць у нас новае жыцьцё.

Сам сабе — у нейкім дарослым віртуальным уяўленьні — я запомніўся з раньняга дзяцінства як шчасьлівы шчанюк, які сядзіць сярод расьцьвілага поля дзьмухаўцоў, што сягае да самага неба. Гэтае поле — мая Буцькаўшчына, запоўненая хорам гарманічных галасоў. Яе лёс нагадвае мне старажытнагрэцкую трагедыю. Знаўцы сьцьвярджаюць, што грэкі пік трагічнага катарсісу зьведвалі ня ў момант сьмерці галоўнага героя, а калі гінуў хор, неадменны атрыбут старажытнагрэцкай трагедыі. У нашай Буцькаўшчыне не было герояў — ні галоўных, ні другаплянавых. Быў толькі хор. Яго ня стала. Мне здаецца, што я пакінуў гэта райскае месца (гэта быў 1953 год), калі там зьявіўся першы прывід разбурэньня: меліяратары пачалі высякаць парасьнікі, што пакрывалі берагі нашай даволі воднай і рыбнай безыменнай рэчкі. Гэта было разбурэньне нашага Ярдану. Абсеклі галінкі — высахлі крыніцы. Зьнік наш вэрбальны Шыбалет. Я — хіба апошні сьведка з таго куточка эйкумэны. На старых хацішчах засталіся толькі тры хаты, купленыя цяпер прышлымі дачнікамі. Гара з назвай Крутуха, дзе мы будавалі «падгоп» (трамплін) і каталіся на самаробных лыжах, упаўзла ў зямлю і зморшчылася, як пральная дошка. Старыя памерлі, маладыя разьляцеліся.

Калі б сучасны немец ці француз прачытаў гэтыя мае моўна-этнаграфічныя ўспаміны, ён бы, пэўна, пашкадаваў запозьненага «ўсходнеэўрапейскага» нацыяналіста. Розумам магу пагадзіцца з гэтым шкадаваньнем. Але дадам: такое яны ўжо перажылі ў эпоху Фіхтэ і Напалеона, калі першы зьвяртаўся да жыхароў Бэрліна з сваімі патрыятычнымі антыфранцускімі лістамі.



Калі Зьміцер Бартосік, як мне здаецца, нашчадак колішняга фіна-вугорскага Барташа, прыедзе ў сваё чарговае падарожжа ў нашу цяперашнюю Буцькаўшчыну, ад якой засталася толькі назва, ніякіх «латышоў», «швэдаў» ды «ліцьвіноў» ён там ужо ня знойдзе. Вось такая беларуская драма новага часу. Ні словаў, ні рэчкі.

## Бацька, маці, мова

*Бацькавы кветкі і радавод. — «Сьпявайце па мне!» — Матчыны ўнівэрсытэты. — Сьвет у кніжках. — Начлежныя і «тэатральныя» сустрэчы. — У салодкім палоне словаў.*

### Пра што помніцца

«Падумаеш, трагедыя, — скажа скептык, — зьнікла вёска! Ці мала паселішчаў зьнікае?» Але я не пра паселішчы і хацішчы. Зьнікае лёгас, пастава духу, сувязь навакольля і слова, чалавек перастае «бачыць» слова. Зьнікае «радаснае валоданьне словам», пра што некалі пісаў Купала. Можа, гэта банальна гучыць, але пакуль жыла маці, я адчуваў нейкую повязь з тым моўным космасам, кожны раз можна было чакаць «нечаканай моўнай пасьлядоўнасьці» і глыбіннай выразнасьці.

Для мяне слова «Бацькаўшчына» эмацыйна мала афарбаванае. Яно — хутчэй кніжны літаратурны сымбаль Радзімы. У маім дзіцячым сьвеце панавала маці: у мове, у паставе, у сьпевах, у манеры трымацца. Сямейных легендаў пра бацьку захавалася мала. Ён больш быў па-за домам: на адходніцтве, на працы ў калгасе, на фінскай вайне, у партызанах. Эмацыйных падрабязнасьцяў пра бацькава юнацтва я чамусьці ня чуў ад маці. Запомнілася толькі, як маці расказвала, што бацька быў вельмі дужы і, будучы маладым, ужо як быў жанаты, на вясёлках і бяседах, калі трохі выпіваў, станавіўся вельмі ганарысты і датклівы, таму часта кідаўся ў бойку з крыўдзіцелем, часта ўяўным. Тады маці ўжо рушала ў клубок спрэчнікаў, абшчэплівала свайго Вінку за шыю і ласкава гаварыла: «Ты, мой дзядок, самы лепшы, самы гожы...» Як цяпер, чую голас маці: «Калі я ўжо на ім павісну, ён ужо тады і не пашавеліцца, бо сам ніколі мяне пальцам не крануў...»

Бацька наш памёр дома, паранены ў партызанах пры першым адступленьні немцаў, калі мне быў шосты год. Ягонага моўнага партрэту я не магу прыгадаць. Памятаю толькі, як ён сьпяваў таямнічы для мяне куплет, як бы зьвястуючы, што падзе паранены і падзе на траву: *«Далёкая прошча — гэта мая цёшча, зялёныя кветкі — гэта мае дзеткі...»* Я чуў менавіта «прошча» і думаў, што гэта нейкі цёмны лес. Мой брат Толік сьцьвярджае, што там было слова «рошча». Але чаму тады «кветкі»? Пазьней я сустрэў у Купалы *«Як у прошчу па лек будзе йсьці чалавек...»*, і мой успамін набыў пэўны містычны флёр. Памятаю яшчэ, як бацька, прыгінаючыся, каб ня стукнуцца галавой аб верхні касяк дзьвярэй, заходзіў у хату, чэрпаў конаўкай вады зь вядра, піў прагна, што аж па вусах цякло, і з папрокам зьвяртаўся да большых дзяцей, што не зьвярталі на мяне ўвагі: «Ну што вы паселі? Бярыце мальца! Ужо, відаць, даўно адзін *кавэнчыцца...*» Я любіў, каб са мной гулялі, асабліва каб чыталі кніжку, і, як расказвала маці, роў бацькавым голасам: «Бярыце мальца!» Калі мяне ня бралі, я разводзіў рукамі і пакрыўджана выводзіў: «А яны мальца не бяруць!» Гэта, бадай, і ўсё пра бацьку, Садоўскага Вінцэнта Казіміравіча. Астатнія дэталі — зь пераказаў дарослых.

У некаторых эпізодах я не магу адрозьніць сваё запомненае ад узгадкі старэйшых. Вось такое. Немцы адступаюць. Параненага бацьку

партызаны прынесьлі ў хату. Ляжыць на засланым ложку, вялікі, пачарнелы, яшчэ пры памяці. Кажа: «Во, бачыш, матка, праўду табе Германовічыха варажыла, што ты а палове веку застанесься ўдавой...» Маці стрымлівае сьлёзы ды кажа: «Не, Вінка, ты паправісься, цябе ж ніякія хваробы ніколі ня бралі...» — «Не, Наташка, памру я. Глядзі дзяцей. Як будзеце мяне ўспамінаць, сьпявайце па мне! Ты так добра сьпяваеш...» Ён замаўкае. Праз густа прастрэленую бацькаву «вязынку», як зь мясарубкі, лезуць кавалачкі крывавага мяса. Як гэта бацька прайшоў празь дзьверы ў хату, такі вялікі і прамы? Бацька ляжыць як брус. Раптам на дварэ чуецца нейкі грукат, тупат коней. Шырока расчыняюцца дзьверы, і ў хату забягае немец, нейкі чужы, «ня наш», «сваіх» мы добра ведалі. Маці хуценька захінае нечым бацькавы раны, усхопліваецца ды бяжыць да немца: «Паночак, тут тыфус, тыфус!» Немец ніяк не рэагуе, не зьвяртае ўвагі на нас, як бы нас і няма, падыходзіць да чалесьніка, дастае з кішэні запальнічку, пстрыкае і ставіць на прыпечак. Нам здаецца, ён будзе падпальваць хату. Але ён расшпіляе штаны і пачынае смаліць валосьсе паміж ног, цярэбячы другой рукой пасмаленыя месцы. Відаць яму нешта моцна сьвярбіць. Мы сядзім здранцьвелыя. Немец гэтак жа хутка зьнікае, як зьявіўся, толькі забірае з крука ў сенцах вельмі добрыя скураныя лейцы, што дасталіся нам з партызанскай тачанкі. Мне здаецца, што колы партызанскай тачанкі гэтак жа стукалі, як двухконная фура, на якой ад’ехаў той немец ад нашай хаты... Маці нахіляецца над бацькам і галосіць. Ён ужо нежывы.

Пазьней мне вельмі хацелася даведацца падрабязнасьці з жыцьця бацькі, але, на дзіва, мае два браты і сястра, хоць і былі старэйшыя, ненашмат больш ведалі зь мінулага, чым я, а калі-небудзь нават і менш. Відавочна таму, што я ў маці часьцей распытваў, «як яно тады было».



## Што напісана ў радаводзе

У нашым дзяржаўным архіве я паспрабаваў раскапаць бацькаў радавод. Мне далі «дрэва» аж да сёмага калена. З двух магчымых адгалінаваньняў я безумоўна знайшоў сваё. Адно адгалінаваньне пацягнулася зь Вялікапольшчы на Берасьце і паціху абправаславілася. А імёны бацькавых каталіцкіх продкаў з Лагойскага павету гучалі ў нашай хаце далёкімі адгалоскамі ў абліччы такіх цяпер ня вельмі звыклых імёнаў, як Казімір, Адэля, Гелена, Мардота, Браніслаў, Антося (і Антаніна), Франц, Аўгуст, Разалія, Марцыяна, Тэафіля (і Туфіля), Караліна, Каміля, Паўліна... Ва ўсіх было шмат дзяцей, а зямлі — ня вельмі. Род Садоўскіх з гербам Любіч у Лепельскім павеце Віцебскай губэрні атрымаў пацьверджаньне свайго шляхецтва ў 1803 годзе ў Расейскай імпэрыі пасьля апошняга падзелу Рэчы Паспалітай. Да кастрычніка 1917 году большасьць Садоўскіх дажыліся, маючы ўсяго па паўвалокі ворнай зямлі на сям’ю, а некаторыя ўжо зусім зямлі ня мелі, а былі на дзяржаўнай службе. Мой бацька быў багацейшы за маці, атрымаўшы ў спадчыну невялікі хутар. Перад калектывізацыяй меў 13 гектараў ворнай зямлі, 5 гектараў лесу, 7 гектараў пакосу з балотам.

Матчыны бацькі былі безьзямельныя арандатары. Адкуль зьявіліся Фрыдрыхі ў Ла-

гойскім павеце і ў Буцькаўшчыне, я пакуль і не дазнаўся. У архіве знайшлі толькі двух Фрыдрыхаў старой даты. Першы — Фрыдрых Ёзэф Мішэль, народжаны ў лютэранскай сям'і, — сын палоннага француза з Эльзасу часу напалеонаўскай кампаніі, які ўжо ў 1816 годзе быў занесены ў сьпіс ваеннапалонных, што атрымалі права віцебскага мяшчанства. (Сам па сабе цікавы факт!) Ёзэф Мішэль быў настаўнікам дзяцей багатага габрэя з прозьвішчам Брандэнбург у Полацку. Другі — Міхаіл Фрыдрых, праваслаўны, панамар Бабыніцкай царквы, засьвяціўся ў судовай справе 1845 году праз бойку з габрэем, які меў прозьвішча Цыба. Паводле судовай справы габрэй Цыба «совершенно обворовал» панамара Фрыдрыха, бабыніцкага месьціча. (Ад нашай Буцькаўшчыны да Бабынічаў напрасткі кілямэтры два-тры.) У Бабынічы мой брат Толік хадзіў у школу-дзесяцігодку. За Бабынічамі ўжо ляжала «Западная», куды нашы хадзілі пасьля вайны на кірмаш у Празарокі. Так што, магчыма, адзін з продкаў маёй маці ўмацоўваў сваім панамарскім талентам праваслаўную веру і біўся з габрэем, а другі — вучыў габрэйскіх дзяцей. Нездарма ж Шмэрку Шандзялоўскага, пра якога я пісаў, цягнула да нашай хаты, як у Запароскую сечу, дзе ён хаваўся ад навязьлівых прыхадняў-зарачанаў. Ці не таму і мяне так цягне да мудрасьцяў Старога Запавету і канцэпцыі абсалютнай габрэйскай генэтыкі Хрыста, за што Юры Хадыка лічыць мяне тыповым «жидовствующим»? Расказвала маці яшчэ пра двух немцаў, братоў-блізьнятаў з прозьвішчам Фрыдрых, што ў час Першай усясьветнай вайны былі на пастоі ў Навінках, дзе жыў ейны



дзед, і наведвалі дзедаву хату, калі даведаліся, што тут жыве іхны аднафамілец. Некаторыя з маміных сваякоў пісаліся як Фрыдрыкі, а тутэйшыя гаварылі проста «Фыдрык».

Да шлюбу маці служыла ў далёкай радні і па чужых людзях, нават недзе пад Пецярбургам: нянькай, дарэктарам, сядзелкай, батрачкай. Бацька меў толькі пачатковую адукацыю: перашкодзіла Першая ўсясьветная вайна. Два старэйшыя бацькавы браты пасьпелі трошкі вывучыцца: адзін на ляснога землеўпарадчыка, другі — аж на лесьніка, за што ў савецкі час паплаціліся — зьніклі ў хапун 1937-га.

## Пачутае ад маці і ў хаце

Пры маці я жыў да трынаццаці гадоў і ўвабраў у сябе ейны моўны сьвет. Каб мая маці вучылася, то была б, мусіць, Рамэнам Ралянам. Для мяне Рамэн Ралян — самы вытанчаны мастак з тых, што я спазнаў з кніжак. Маці, Фрыдрых Натальля Ёсіфаўна, «вучылася» толькі гады два ў панскім маёнтку (гэта ў нас называлі Двор-Буцькаўшчына, дзе пазьней атабарыўся вайсковы гарадок Чырвонай Арміі) разам зь некалькімі вясковымі дзяўчаткамі. Гэта было тады, калі ўжо выходзіла «Наша Ніва». Зь сямейнай легенды: вучыла іх маладая паненка, пляменьніца пана Сушынскага. Яна была «суханогая», хадзіла зь мініятурнай лясачкай, мела варшаўскую адукацыю і была прыжывалкай у багатага дзядзькі, пана Сушынскага. Ейная маці памерла недзе ў пансіянаце ў Вялікапольшчы, а ня вельмі дамавіты бацька прыжыўся ў багатых прымаках. Здаецца, паненку звалі Ванда. Яна была вельмі добрая. Вучыла дзяўчат польскай мове, сьпевам, літаратуры,

маляваньню і розным умельствам, нават складаць букеты. Вучыла бясплатна. Калі-небудзь дзяўчаты дапамагалі пакаёўкам прыбіраць залі і на пэўныя сьвяты дарылі пану свае падарункі: букеты, вязаныя сурвэткі, ягады ў прыбраных кошыках з бантамі. Маці расказвала, што ў іх нават была гульня «Пану ягады нясём». Калі пан уцякаў ад бальшавікоў у Варшаву, уся вёска плакала. Пані Ванда перад ад'ездам паклікала маміных бацькоў, дала грошы на чаравікі і пакінула свае пісьмовыя прылады, сшыткі і некалькі кніжак, сказаўшы, што «Натусі трэба абавязкова вучыцца, бо ў яе добрая галава». Сярод тых кніжак быў і нейкі самаробны «Лемантар» для беларускіх дзяцей, пісаны польскімі літарамі. Маці яго вельмі берагла, нават брала з сабой у ссылку ў Сібір. У вайну яго скурылі партызаны.

Самае цікавае, што на ўроках чытаньня, акрамя польскіх вершаў і кароткіх апавяданьняў, пані Ванда чытала дзяўчатам «Нашу Ніву» і Багушэвіча. Да яе прыяжджаў нейкі дзіўнаваты шляхцюк з Вухвішчаў (вёска паміж Сушынам і Вушачай) і прывозіў усялякую літаратуру. Часам прывозіў нават нейкіх артыстаў, што паказвалі беларускія інтэрмэдыі і кароткія п'есы. Сцэна ладзілася ў панскім садзе каля маёнтку. Запрашалі ў Двор-Буцькаўшчыну зь вёскі дзяцей і найбольш культурных дарослых. Наша маці ведала з таго часу на памяць шмат беларускіх і польскіх вершаў. Ад яе я памятаю з маленства «Ігрышча», «Ехаў я ад Кяна ды на Смаргонь», «Мужык» і шмат урыўкаў зь беларускіх пастановак: «Мая жонка Тацяна — харошая зьдзелуха», «Як сын з бацькам па-польску сваталіся», «Як танцоры сукно кралі», «Як бык ажаніўся», «Як мухі сварыліся».



Маці чытала кожную вольную хвіліну. Пасьля вайны акуляры былі вялікай раскошай: іх проста не было дзе замовіць ды купіць. Маці чытала праз вайсковую нямецкую люпу, якую немцы пры адступленьні пакінулі ў нашай хаце разам з картай і курвімэтрам (такое кілямэтражнае колца для вымярэньня адлегласьці на карце). Так і памятаю маці за кніжкай: з доўгім носам і люпай, у белай хустцы. За такі вучоны выгляд мы называлі маці «кузэн Бэнэдыкт», як героя раману Жуля Вэрна «Пятнаццацігадовы капітан», які мы чыталі ў хаце калектыўна ўслых. Выява кузэна Бэнэдыкта на выдатнай чорна-белай ілюстрацыі, дзе ён у трапічнай панаме разглядае празь люпу муху цэцэ, вельмі нагадвала нам нашу маці.

У параўнаньні зь іншымі вясковымі жанчынамі мая маці лічылася жанчынай бывалай і «граматнай». Акрамя тых двух гадоў панскай школы яна мела досьвед працы «ў людзях» яшчэ да шлюбу, а потым амаль тры гады працы ў Сібіры разам з бацькам. Пасьля вайны была ў калгасе лістаносцам і «ізбачом» (загадчыкам ізбы-чытальні). Ізбой-чытальняй была наша хата. Сюды маці прыносіла газэты, часопісы і даволі шмат кніг. На пачатку пяцідзясятых у нас радыё яшчэ не было. Вечарамі пры капцюльцы або смаркачцы (так называлі газавую лямпу бяз шкла) ці пры «сьветачы» (лучыне) чыталі ўголас «Узьнятую цаліну» Шолахава (мне чамусьці помніцца, што гэта было на беларускай мове — можа, быў пераклад?), «Глыбокую плынь» Шамякіна, апавяданьні Горкага, Якуба Коласа і Зьмітрака Бядулі і на-

ват Матэ Залку (вугорскага пісьменьніка, камандзіра інтэрбрыгады ў Гішпаніі, вядомага як генэрал Лукач). У нас у хаце таксама засталіся дзьве вялізныя скрынкі кніжак ад ранейшага пастаяльца-кватаранта, прысланага перад вайной настаўніка, якога звалі Глод Станіслаў Зіноўевіч. Яго нам калгас «паставіў на кватэру», калі бацька быў на фінскай вайне. Пазьней яго арыштавалі як эсэра. Настаўнік быў невялікага росту і меў горб. Часам зарачанскія перарosткі дражнілі мяне: *банкарт ад гарбаценькага.* Мне было крыўдна за настаўніка, бо гэта быў фактычна зьдзек зь яго, а не зь мяне. Наш бацька быў «мужчыністы» і высокага росту. Наш кватарант не даставаў нават да бацькавага пляча. З салідарнасьці я нават напаказ хаўрусаваўся з Глодавым сынам, зь якім мы пазьней хадзілі разам у пятую клясу ў Гімрава… У настаўніцкіх скрынях кнігі былі іншыя: некалькі тамоў Бракгаўза і Эфрона, «Жыцьцё Ісуса» (можа, Рэнан?), Заля (я чытаў прозьвішча як Зóля, з націскам на першым складзе), Бальзак, Мяражкоўскі і шмат чаго іншага.

Наша хата была невялікая, але стаяла на прыгожым узгорку каля прасёлкавай дарогі, што вяла праз Абрампальскі лес, Глыбачку, Гуры, паўз Наўліцы на Ветрына і Полацак. У нас часта спыняліся начлежнікі, што прабіраліся простым карацейшым шляхам у бок Полацку: везьлі зерне на мельніцу ў Заскаркі, некуды «ў Заходнюю» (так звалі мясцовасьці, што былі раней пад Польшчай) валіць валёнкі, або засалоджаную ячменную драчку на самагонку ў бок Загацьця, дзе рабілі добры напой кшталту сёньняшняй «Старадароскай» ці «Бакштанкі». Падарожнікі гулялі ў карты, трошкі выпівалі, не абыходзячы ўвагай гаспадароў і нашых суседзяў, расказвалі ўсялякія прыгоды і амаль заўсёды сьпявалі. Маці прасілі сьпяваць «нянаськія» песьні: невельскія ды сібірскія. У яе быў нізкаваты моцны голас, накшталт жаночага ансамблевага альту. Ад маці я ўпершыню пачуў опэрную арыю млынара (здаецца, гэта Даргамыскі) на словы Пушкіна: *«Воротился ночью мельник: женка, что за сапоги?»* (маці імітавала бас), вядомы раманс «Не слышно шума городского». Дагэтуль не магу здагадацца, адкуль браліся ейныя некаторыя дзіўнаватыя песьні, як, напрыклад: *«Все шли мы тихим строем, подходим ко горам, кавказски* (ці карпацкі?*) горы грозны оказывались нам…»* Сьпявала яна ахвотна і народныя беларускія, якіх ведала безьліч. Асабліва любіла «Ці ўсе лугі пакошаны, ці ўсе сенажаці…». Сястра расказвала, што бацька сьпяваў горш за маці, але гэтую песьню сьпяваў добра і зь вялікім натхненьнем і заўсёды пры гэтым *прылабуньваўся* да маці. Мне здаецца, што я гэта бачу.

Пры дарослых бяседах і сьпевах, асабліва калі за сталом выпівалі, малых да стала не пускалі. Я ляжаў на печы і рабіў выгляд, што сплю. Чаго толькі ні наслухаўся! Цікава было чуць мову людзей з далячэйшых вёсак. Нас маглі разьдзяляць толькі рэчка ды з два лясы, а шмат што называлася зусім інакш. Так, ужо шасьцігадовы я ведаў, напрыклад дыялектныя сынонімы: *каробка сьпічак — карабок запалак — пушка сярнічак; грубка — шчыток — печка.* Вялікую печ усе называлі проста печ. Ніколі ня чуў, каб нехта гаварыў, што яна руская.

## Жыцьцёвы тэатар

Пачутае ад маці і людзей хацелася ўзнавіць самім. Мы з братам Толікам, самі таго не разумеючы, утварылі свой хатні тэатар. Мы «гулялі ў людзей». Да нас як гледачы (а потым і як артысты) далучаліся некаторыя суседзкія дзеці. У нашым тэатры двух актораў мы «загадвалі» або па заяўках «паказвалі людзёнка». Я меў мянушку «масіяш» (жвавы, гаваркі, хітры і падарасламу разважны, зь нечым ад ведзьмака) і быў больш актыўным пэрсанажам. Толік быў больш статычным «артыстам», сядзеў, слухаў, нешта для зьвязкі гаварыў. Дзе-небудзь у пуні ці проста на паляне каля кустоў мы паказвалі сюжэты з жыцьця: хвалько, злодзей, абжора, п'яніца, грамацей, працаўнік-кузюля, блядун. Хвалько была, напрыклад, Мікіціха, наша суседка, якая ўсім расказвала, як добра жыць, калі ёсьць цёплыя валёнкі і ходзікі на сьцяне. Вось я сяджу «на сцэне» ў матчыных самаробных бурках (гэта як бы валёнкі) і раз-пораз паглядаю на ўяўны гадзіньнік на сьцяне: «А-я-я, ужо ж пара курэй шчупаць, ужо ж палова на сёмую... А-я-я, ужо ж чубатка разгнезьдзілася. Пара бегчы глядзець, каб шашок яйкі ня зьеў...»

Больш за тое, аднойчы мы прыдумалі адзін «сынтэтычны» жанр, якому я нават назвы не магу даць. Круглаватую па пэрымэтры бляшаную вараўню, якую немцы пабудавалі побач са стацыянарнай кухняй, мы пературылі ў своеасаблівую панарамную выставу, дзе малявалі крэйдай сюжэты і суправаджалі іх вершаванымі тэкстамі і дзікаватым завываньнем без усялякай гармоніі, ходзячы вакол вараўні. Такі нейкі хросны афрыканскі ход вакол вараўні пад



какафанічны рэп. Сюжэты мелі часьцей за ўсё баёвы зьмест: напрыклад, партызаны залеглі ў кустах і страляюць, немцы падаюць. Вось мы маршыруем і сьпеўна сьлібізуем: *«Пар-ты-заны стра-ля-юць...»* і *«Не-мцы у шта-ны па-на-сі-ра-лі...»* Пад малюнкамі рабіліся як бы назвы — літарамі большымі і меншымі. Аднойчы дзея закруцілася яшчэ глыбей: мы пачалі сьпяваць не сюжэтна, а паводле прынцыпу «варону бачу — варону сьпяваю». Мой брат, калі дайшла ягоная чарга (апявалі сюжэты па чарзе), вырашыў «апець» подпіс, зроблены велізарнымі літарамі. Ён зацягнуў басам: *«Дзе-ся-це-ры-кі на-пі-са-лі!»* Што значыла: гэты подпіс вялікімі літарамі зрабілі вучні дзясятай клясы. У адказ я пачаў імгненна піскілявым голасам падводзіць, як малое дзіця, агучваючы маленькія літары: *«Гэ-та пер-вач-кі на-пі-са-лі!»* Разумеючы парадокс нашай імправізацыі (першаклясьнікі ж пішуць вялізнымі літарамі!), мы паваліліся на зямлю і пачалі рагатаць. Потым яшчэ некалькі разоў вярталіся да гэтай «мізансцэны». У мове фактычна сыходзіўся і малюнак, і мэлёдыя, і драматургія.

Я разумею «прагрэсіўнасьць» усялякага мадэрну ў мастацтве і ў прыватнасьці пры стварэньні «сучасных тэкстаў», аднак мяне не пакідае адчуваньне, што некаторыя сучасныя маладыя літаратары — карыстаючыся тэрмінам жывапісу — малююць а-ля Пікасо, але ня могуць намаляваць пазнавальнага партрэту. І вінаваціць іх нельга. Яны ня чуюць жывога слова. Для майго вуха палянізавана-ўкраінізаваная мова сучасных беларускіх маладых аўтараў — своеасаблівы патрыятычны мадэрн, дзе, на жаль, не адшукаеш уплываў Чорнага, Кола-

са, Гарэцкага ці Калюгі. Самае цікавае, што, напрыклад, украінізмы Караткевіча ці палянізмы дарэвалюцыйнай «Нашай Нівы» шмат хто зь іх успрымае як беларускія моўныя адкрыцьці.

Мая генэрацыя — апошнія з магіканаў, хто яшчэ помніць тыя «ляндшафтныя паркі» нашай мовы. Мы яшчэ гулялі ў мову і тварылі яе, чэрпаючы з крыніц, што бруіліся побач.

## Словы паміж небам і зямлёю

Гадоў трыццаць пяць таму, працуючы ў Акадэміі навук (тады яшчэ БССР), я прачытаў Сартравы «Словы» («Les mots») і ўпершыню асэнсаваў тое, што мяне пачынала падсьвядома гнясьці: мой кніжны досьвед і рэальнае жыцьцё ў вобразах пачыналі не супадаць, сьвядомасьць запаўнялася заношанымі вэрбальнымі штампамі. Жыцьцё трацілa смак, бо я пераставаў бачыць і чуць мову. Як своеасаблівая тэрапія пачалося пісаньне абразкоў, пракручваньне кадраў дзяцінства, у выніку чаго зьявілася маё першае філялягічнае эсэ «Гаворыць мая Буцькаўшчына», надрукаванае ў акадэмічным выдавецтве. Я адчуў да болю фізычную патрэбу агучыць і ажывіць гукі маёй унутранай мовы, якая пачала засынаць у памяці.

Дазволю сабе працытаваць адзін невялічкі фрагмэнт з разьдзелу, дзе гаворыцца пра тое, як я чуў сьвет у дзяцінстве: «...Вось сядзім мы з маці пад калгасным сьвірнам. Мама — старажыха. Праўда, толькі ноччу. Удзень яна разносіць пошту і пасе гусей. Дакладней, гусей пасем мы, дзеці. Нас усяго чацьвёра. Бацька загінуў, калі яму было сорак два... *Прыцюцькаесься* да маткі, *прылабунісься* і слухаеш, як



жыве ноч. *Шаў-шаў-шаў* — з падстрэшша ў глухое вакно паплыла лятучая мыш, кажан. *Скрэм-скрэм-скрэм!* — точыць мышка свае зубы ў засеку. Патачыла і змоўкла. Зноў ціха. Толькі *цвыркуны шашчаць сваёй пясочнай мэлёдыяй*. Але вось дзесьці за аборай чуецца мернае *талых-талых-талых*. Гэта воз зь нечым цяжкім куляецца па ральлі. Так і ёсьць. Гэта Барманскі вязе камень на жорны. А вось і ягоны сабака. *Хамыль-хамыль!* — і ён ужо тут, вялізны нямецкі аўчар. *Нюх-нік, нік-нюх* — *абшыпарыў* усё заўгольле, абнюхаў нас, *віль-віль* сваім куртатым хвастом і пабег на другі бок сьвірна. Пашча ў сабакі як мае быць, але завуць яго *Крываляпы*, як колішняга сапраўднага гаспадара — нямецкага «фітфебіля». У яго быў рот набок — крывая ляпа. «Ляпа» — таму што ён заўсёды на ўсіх роў і моцна лаяўся: «Сакра фікс нох мальс!» Цяпер вось фэльдфэбэля няма, а сабака ёсьць... А вось і сам Барманскі. Так, гэта ён: *таргік-таргік* — узьбіраецца ён на *пугірак*, падцягваючы правую нагу. І боты яго: *шлок-шлок, лох-лох!* — б'юць шырокія халявы па лытках. «Здароў, начнік! — вітаецца маці першая. — Усё жаронцы майстрэчыш?» — «А майстрэчу, хай іх халера, нада ж. Усё ж сотня якая будзіць»... Раптам Крываляпы забрахаў. *Ціхуці!* Хто гэта там? Я трошкі падбягаю наперад, прысядаю, бачу постаць супраць неба, прыслухоўваюся. *Штых-штых-штых*, сыпле нехта ціхім драбняком з-пад фэрмы. Відаць, баба. *Кавыль-кавыль,* — і яна ўжо заварочвае за пуню. Ды гэта ж Мікіціха, што з-за рэчкі: леташнюю асянчыну карове патроху на падсьціл носіць. Хай сабе носіць... Я ў маткі за падстарожку. Усё чую і бачу. Нашто нам сабака.

Ён болей за мяне зьесьць... *Квяк-квяк!* — пераступіла Мікіціха праз гразкую канаву, вароты — *шчалык!*, і яна прапала... А Барманскі раскурвае ўжо цыгарку — *па-па!* і нешта *дудукае* з маткай. Мне шкада каня. Ён час ад часу трасе галавой і працяжна адсопваецца: *п-п-ф-ф-рр-р!* Прытаміўся і галодны. Я нават чую, як у яго *юрчыць* у жываце. У каня, як і ў чалавека, калі ён *выхартаецца*, юрчыць у жываце... Але вось Барманскі ўжо дакурыў, *гіп!* — хуценька ўстаў, пагладзіў пяшчотна свой камень, праверыў падпругу і — *валюх!* — закінуў сябе адным махам у калёсы. *Склыг-вых!* — застагнаў даўно мазаны перадок. Конь, не чакаючы голасу вазьніцы, рушыў насустрач доўгачаканаму начлегу...»

Перачытваючы цяпер гэтыя запісы-ўспаміны трыццацігадовай даўніны, я раптам прыемна спатыкнуўся не на курсівах, якімі я мэтанакіравана нагрузіў тэкст (выданьне было навуковае, а не мастацкае), а на адным слоўцы «ўсяго», што падсьвядома лягло ў радок: «Нас *усяго* чацьвёра. Бацька загінуў, калі яму было сорак два...» З гледзішча часу напісаньня — 1977 год — гэтае «ўсяго» ня вельмі зразумелае, бо чатыры дзіцёнкі — гэта нямала. Аднак тут у «пустой прасторы» паміж двума кароткімі сказамі інтуітыўна схаваўся другі нявымаўлены слой. Тут ёсьць туга па бацькавай мары: ён хацеў мець шмат дзяцей, сам у сям'і быў шосты, і за ім яшчэ ішлі два меншыя браты. У тым далёкім 1977-м я не канструяваў тэкст, ён запісаўся на адным дыханьні, таму ў ім усё праўда. Для мяне цяпер гэта ўспрымаецца як маленькая пэрлінка ад мастацтва. Мастацкі тэкст жыве недавыказаным.

# Сьлізкая рыба ў ружовым акварыюме

*Шчасьлівыя недарэчнасьці на пачатку дарогі. — У школе як дома. — Доўгая дарога да Гімрава. — Вясна — гэта калі хочацца есьці. — Я — Шапэнгаўэр. — Непаразуменьні з клясычнай літаратурай. — Некалькі сюррэалістычных кадраў.*

## З самага раньняга

Узгадкі пра мінулае як бы прэтэндуюць на адказ пра сэнс жыцьця. За сваё жыцьцё я прачытаў шмат успамінаў. Асабліва мне падабалася чытаць тыя мэмуары, дзе гаварылася пра дзяцінства. Я ня ведаю, як павінна выглядаць нармальнае дзяцінства, бо маё дзяцінства, як і ўсё жыцьцё, падпала пад «пераходны пэрыяд». Мае ўспаміны пра дзяцінства — як лоўля рыбы ў акварыюме, які рухаецца насустрач сьвятлу. Ненармальнасьці жыцьця згадваюцца як кадры фільму, дзе рознакаляровыя, а найбольш цёмныя, сьлізкаватыя сылюэты рухаюцца ўсярэдзіне гэтага ружовага імклівага акварыюму. Памяць ловіць іх, некаторыя высьлізгваюцца, некаторыя застаюцца «ў руцэ». Але ці то проста часьцей трапляюцца ружовыя, ці то цёмныя ружавеюць, як выцягваюцца з вады? Гэта той эфэкт успамінаў з двайным фокусам і спэктрам: фіялетавым і ружовым, пра які я пісаў ва ўступе. А акварыюм усё некуды імкне...

Усё недарэчнае пачалося з нараджэньня, амаль як у зюскіндаўскага парфумэра. Бацька на фінскай вайне, а я нарадзіўся 2 лютага, на каталіцкія грамніцы, сямімесячным, у сенцах,

калі маці звалілася зь лесьвіцы, лезучы на гарышча. Гадоў да двух быў нехрышчоны, бо ўжо не было дзе. Хрысьціў мяне тайна недавучаны п’янаваты поп перад прыходам немцаў. Казалі, немцы будуць выразаць нехрысьцяў. Адгэтуль, відаць, ідзе мой дзідраізм. Потым былі невераемныя прыгоды: сястра Лісавета згубіла мяне соннага на калгасным клевярышчы. Толькі шчасьлівы выпадак выратаваў мяне ад наладаванага возу, што праехаў за паўмэтра. Пазьней мне раскроілі цемя, ударыўшы незнарок аб дзьвярны вушак (цемя маё было слаба зрослае ад нараджэньня), потым я тапіўся ў памыях у цабэрку, палезшы па агурковыя лупіны, потым заходзіўся ад густа намазанай мазі ад каросты. Здаецца, гэта быў крэалін, якім мазалі каросьлівых кароў. Ужо думалі, што памёр. Надта ўзяло за сэрца. Потым ледзьве не памёр ад трасцы (так звалася малярыя). Выратаваў хінін. Потым ледзь ня зьелі ваўкі. І ў дарослым жыцьці: туды паслалі, адтуль выгналі, туды не пусьцілі, там нешта ўкралі, адтуль удала ўцёк. І ўсё так весела і нетрагічна, таму што вакол шмат добрых людзей. Як у той показцы пра павешанага беларуса: «Балела, хлопцы, але перацярпеў. Толькі вяроўка трохі шыю казытала, таго і пасьміхаўся». І гэта таксама частка нашага беларускага шыбалету.

Афіцыйны пропуск у гэты сьвет адбываўся таксама весела. У копіі пасьведчаньня аб нараджэньні мяне памаладзілі на два гады, калі ставілі пасьля вайны, як тады казалі, «на наружный вид». У вайну ўсе дакумэнты згубіліся, і дзяцей гуртамі вазілі ў раён, калі з вобласьці прыяжджалі ўпаўнаважаныя для выдачы новых дакумэнтаў. Так было і ў нас. Пагрузілі на



фурманку і павезьлі. На пыльным пляцы, але з лужынай пасярод, дзе па калена ў вадзе стаялі тры брудныя гусакі, нас выкулілі з возу ў цэнтры «мясьцечка Ветрына» (так у нас вымаўлялі) і павялі ў дзьверы будыніны зь незразумелай назвай «райсабес». Зь цёмнага калідору запусьцілі ў вялікі пакой зь фікусам і графінам. Вазьніца, дзядзька Якуб, глухаваты і праставаты мужчына, усунуўся ў пакой бачком і стаў, ногі ў кучку, каля бочкі зь фікусам. Галоўная дама, што сядзела каля графіна, паглядзела на парэпаныя пяты ягоных босых ног і пугу ў руцэ, забрала ў яго квіток з нашымі прозьвішчамі, абкручаны вакол пугаўя, і сказала камандзірскім голасам: «Пачакайце ў калідоры. Калі будзе трэба, вас паклічуць». Мы стаялі, як кучка гусянят, пасярод пакою, пакуль адна дама сьлібізавала з квітка неразборліва напісаныя прозьвішчы, а другая нетаропка пісала. Дама ля графіна вырашала, каму колькі гадоў, не зьвяртаючы ўвагі на запісы ў квітку, толькі пыталася пра большых і меншых сясьцёр і братоў. Выглядала ўсё неяк так, як у таго Багушэвічавага Ліндаркі. Пазьней казалі, што было зьверху ўказаньне маладзіць дзяцей пэўных гадоў нараджэньня для атрыманьня нейкай патрэбнай дзяржаўнай статыстыкі. Увогуле ж зь незразумелых мне дагэтуль прычынаў пасьля вайны бацькі былі схільныя маладзіць сваіх дзяцей. Ці, можа, каб лягчэй атрымліваць сякую-такую сацыяльную дапамогу, ці каб даўжэй не ісьці ў калгас на працу або на службу ў войска. Калі й па праўдзе, дык мы, зануджалыя і вузкагрудыя, выглядалі нашмат маладзей за свае гады.

## Дарога ў браму вучонасьці

Яно й добра, што нас маладзілі. Яшчэ гады два я не хадзіў у школу. У нашай вясковай школе першай клясы не было. Бо не было дзяцей і настаўнікаў. У другую клясу я пахадзіў да сьнегу, пакуль можна было хадзіць босым. У канцы вясны зноў пайшоў: прыйшла пасылка ад цёткі Міччыхі з казахстанскай высылкі, дзе разам з рысам, сшыткамі і кішмішам ляжалі дзіцячыя боты з хромавымі халявамі. Левая была трошкі сьвятлейшая за правую, а галоўкі былі керзавыя, але мне ўсе зайздросьцілі. Добрыя былі боты. Я іх панасіў месяцы два, а летам мы іх абмянялі на муку.

У школе мне падабалася. Грубка (у нас казалі *шчыток*) была заўсёды добра натопленая, а галоўнае — я займаўся адразу ў трох клясах: другой, трэцяй і чацьвёртай. Другаклясьнікаў нас было двое — Валодзька Глод, сын арыштаванага «эсэра», і я. За доўгай, мэтры на тры з паловай партай разам з намі сядзела трэцяя кляса — два вучні. На астатніх трох партах, гэткіх жа доўгіх, — чацьвертаклясьнікі. Усе — ваенныя пераросткі. Клясны журнал быў на ўсіх адзін. Мае старонкі ў журнале былі як засеяныя бульбай: у кожнай клетачцы — пяцёрка. Бо выклікалі штодня. Найбольш мне падабалася, калі настаўніца прасіла мяне сказаць тое, чаго ня ведалі пераросткі-зарачане, што былі на дзьве клясы вышэй за мяне. Па чытаньні, пісьму і гісторыі я ведаў усё і за чацьвёртую клясу з прачытаных за лета братавых кніжак. У школе ўсё было па-беларуску. Настаўніца, на афіцыйна-расейскі манер Ніна Філіпаўна, па-вясковаму Нінка-Піліпішка, лёгка адпускала мяне дадому, калі ў гэтым была



патрэба дома, напрыклад, адбыць радоўку на пастве. Настаўніца сама пакідала пры неабходнасьці школу ў час заняткаў: паглядзець хворую маці, што не ўставала з ложка, або падаіць у абед карову. У гэты час мы бегалі каля хаты, дзе месьцілася школа. Калі мы бачылі здалёк, што Ніна Піліпаўна ўжо пераходзіць рэчку, то дружна займалі свае месцы ў клясе. На занятках было амаль усё як дома. Нешта падобнае я адчуваю цяпер, выкладаючы нямецкую мову ў «падпольным» коласаўскім ліцэі, хіба што карову не хаджу даіць. Ніна Піліпаўна была вельмі добрая. Толькі мне было яе шкада: у яе была ляжачая хворая маці і моцна пахла з роту. Калі яна нахілялася, каб паглядзець сшытак, яна заўсёды прыкрывала рот даланёй, і ад гэтага свайго сораму, здавалася мне, была ня вельмі строгая. Па-мойму, яна была яшчэ занадта паблажлівая, бо баялася нахабных зарачанскіх пераросткаў з прышлых сямей. Аднойчы яна паставіла аднаму зь іх «кол» і выгнала з клясы, дык той ужо ў дзьвярах, не паварочваючы галавы, прасіпеў: «Блядзь нямецкая!» Тут, як кажуць, кожнаму не растлумачыш. Родны брат нашай настаўніцы быў пры акупацыі бургамістрам, але і быў сувязным у партызанаў. Шмат каго выратаваў. Сястра ж мусіла часам немцаў гарэлкай зь мёдам частаваць ва ўласным доме. Ну а цяпер трывала: *воўк сабакі не баіцца, але зьвягі ня любіць.* І гэта — наша беларускае.

У пятую клясу з Буцькаўшчыны ў Гімраўскую школу нас хадзіла толькі двое — Валодзька Глод ды я. Да школы было кілямэтры тры з паловай, якія мы пераадольвалі толькі гадзіны за тры. На пачатку верасьня па дарозе забягалі

яшчэ ў лес *у варэхі*, ужо апошнія, зімою на лыжах асвойвалі *простую* дарогу, якая часьцей аказвалася даўжэйшай за *бальшак*, вясною ў паводку доўга шукалі праход праз канавы і *балацявіны*.

Цікавы і вясёлы шлях здараўся зімой у адлігу, калі ідзеш па цаліку. Хадзіў я ў школу ў «дзервяках». Так зваліся самаробныя чаравікі ці боты з драўлянай падэшваю. Вычасаны прафіляваны пад форму падэшвы драўляны брусок звычайна прыбіваўся да скуры кавалкам тэлефоннага праваду, пасьля вайны якога безьліч валялася вакол. У такім абутку рухаесься, куляючыся, як самаходная танкетка, што пераадольвае акопы. У адлігу сьнег страшэнна прыліпае да дрэва, што ведае кожны лыжнік-аматар. Дык вось пасьля кожных дзесяці-пятнаццаці мэтраў самаробны абутак ужо нагадваў старажытнагрэцкія тэатральныя катурны, вышыня якіх перавышала даўжыню, і хадыка проста траціў раўнавагу і падаў у сьнег. Каб не валяцца ўсю дарогу, прыходзілася браць з сабой кій з загнаным у мацнейшы канец цьвіком. Гэта называлася *кій з гакам*, нешта кшталту цяперашніх лыжных кіёў. (Калі цяпер чую чэскае «гачак», робіцца цёпла на душы.) Праз кожныя крокаў трыццаць прыпыняесься і па чарзе адколваеш гакам сьнежныя прыліпкі. Яны так і заставаліся стаяць на дарозе, як загадка прыроды. Калі б дастаялі да нашага часу, людзі б думалі, што гэта меткі нейкай іншай цывілізацыі... Гэта было раніцай. Калі вярталіся ў другой палове дня са школы дадому, праходзілі паўз рэшткі сваіх ранішніх сьлядоў, якія, як засьнежаныя вожыкі, старажылі наш шлях да ведаў. Было ў гэтым нешта ўрачыстае,



як у грэцкім тэатры, што ўздымаў артыстаў на катурнах да духоўнай узьнёсласьці.

## Простыя жаданьні

На заняткі не спазьняліся, проста раней выходзілі з дому. Я заўсёды стараўся прыбегчы нават раней у школу, каб *панікаць* па партах: можа, хто што ежнае забыўся — кавалак хлеба ці якую бульбіну. Дагэтуль памятаю смак халоднага драніка, які аднойчы знайшоў у парце каля вакна. У ім была ямка ад кавалачка сала, якое запякалася, утоптанае ў *драньнё*. Нічога смачнейшага ў сваім жыцьці ня еў.

Валодзька па партах ня нікаў, бо маці давала яму заўсёды нешта з сабою, што ён называў *адпачуйка да школы*. Ён быў у маці адзін, і яна працавала ў калгасе бухгальтарам, таму ёй давалі грошы, а не налічалі працадні. За грошы можна было нешта купіць. Нас было чацьвёра, і маці, і сястра Ліза, і старэйшы брат Зьмітрок працавалі за працадні, на якія нічога не давалі. Працадні людзі жартам называлі *палачкі*, іх брыгадзір выводзіў у сваім сшытку супраць прозьвішчаў калгасьнікаў. Кожнаму даросламу даводзіўся так званы «мінімум» — каля трохсот працадзён на год. Ня выпрацаваў мінімуму, не атрымаеш каня дроў прывезьці... Калі Валодзька пачынаў есьці па дарозе сваю «адпачуйку», я стараўся адысьці куды-небудзь убок, спаслаўшыся на пільную патрэбу ці салгаўшы, што тут побач я, здаецца, бачыў куст з малінамі ці маленькі баравік, які ўжо, пэўна, падрос. Не хацелася яго *мусаваць*. Ён сам хацеў есьці, а тут яшчэ трэба мне абавязкова даць *угламзіць*. Такая была сяброўская этыка. На «нашым баку» ў Буцькаўшчыне не было пры-

нята прасіць «дай угламзіць». Хто што меў, дзяліўся сам. Зарачане і гімраўцы гэта рабілі, як нахабныя вароны.

Мы з братам Толікам калі-небудзь парушалі этыку галоднага рыцара, выдумляючы, напрыклад, такі хітрык. Уявіце сабе: пасьляваенная вясна, усё зьедзена, толькі сёе-тое на семя схаванае. Маці, Лісавета і Зьмітрок на працы, мы з Толікам адны дома. Хочацца есьці. Тое, што зварана ў печы, і акрайчык хлеба ў рушніку ў судніку чапаць нельга. Усё будзем есьці разам толькі ўвечары. Мы ўжо ўкралі па адной бабіне з торбачкі, што на семя, і паклалі за шчаку. *Ссусьлілі* вельмі хутка. Тады брат і будзе гаварыць: «А ведаеш, Пятрок, схадзі ты да цёткі Марты ды папрасі ў яе малатка, скажы, што мы свой згубілі, а пільна трэба. Можа гароху жменю дасьць». Мы ведаем, што цётка Марта накрала ў калгасе гароху, і ведае, што мы ведаем, што яна накрала. Бягу хуценька да цёткі Марты: «Дзень добры, цётка Марта, можа ваш *малаток гуляе*? Мы свой згубілі, а пільна трэба. Я хутка прынясу». Мае вочы бегаюць па сталe і прыпечку. Цётка Марта глядзіць мне ў вочы і ўсьміхаецца. Ідзе за *перабойку* (перагародку) каля печы, корпаецца там з хвіліну і прыносіць мне ў прыполе жмені тры гароху. «На, *масіяш*, табе малаток!..»

Узгадваючы гэты вясёлы галодны час, я падсьвядома адчуваю, чаму мяне ў свой час ня ўразіў раман Гамсуна «Голад», якім шмат хто з маіх знаёмых зачытваўся ў адліжныя шасьцідзясятыя гады. Рэч ня ў тым, што Гамсун быў калябарантам, а ў тым, што ягоны выснаджаны герой грэбаваў на сьметніку тым, што я б вясною сорак сёмага ахвотна зьеў.



Уяўляю сабе, як сюррэалістычна і магічна я выглядаў, калі аднойчы паспрабаваў на смак «Историю ВКПБ. Краткий курс» таварыша Сталіна. Як лістаноска, маці прынесла зь сельсавету гэты «Краткий курс» для канспэктаваньня старшыні нашага калгасу — «Чэкісту», Грышку Прыстаўку, брату нашай настаўніцы, і палажыла ў нас дома да вечару на стол пад абраз. А вокладка ў кніжцы — дыхтоўная, каляная. Брунатная і патыхае як бы шакалядай з пасьляваеннай амэрыканскай дапамогі. Пасярод — шаўковы паясок-закладка. Ліжу панадную вокладку, мацую на зуб, кусаю... Маці моцна не сварылася, толькі, здаецца, неяк вусны кусала, каб не расплакацца. Яна так яшчэ рабіла, калі я малы прасіў піць пасьля таго, як паліцаі забралі карову: «Мама, я хачу піць, але не малака, вады...»

Сюррэалізм падзеяў, што прыпалі на дзяцінства, палягаў у тым, што яны нават у параўнаньні з нашым сёньняшнім сьціплым быцьцём былі экстрэмальна незвычайныя. Мы расьлі самапасам, бяз боскіх стандартаў пра дабро і зло, справядлівасьць, межы людзкасьці. Каб выжыць, людзі кралі. Але не ў суседзяў. Красьці ў калгасе не лічылася грахом, бо калгас успрымаўся як пошасьць — як град, вайна, «вялікая руіна». Я ня вельмі згодны, што народная мэнтальнасьць нясе ў сабе спрэс пазытыўны пачатак. Дзеля выжываньня чаго ні зробіш! «Хто ў лесе ня злодзей, той дома не гаспадар» — прыдумаў селянін клясава-маёмаснае апраўданьне вымушанага зладзейства ў выглядзе прымаўкі. Калі ў прымаўцы — значыць, так робяць усе, значыць, гэта можна, дапушчальна. Тут сьцьвердзілася першароднае права

селяніна на лес як на частку навакольля, як самачыннае ўсталяваньне «праўды».

Праўда, праз такое жыцьцё потым нішто не магло прымусіць жахацца перад цяжкасьцямі ды мярзотамі быцьця, а жыць паводле прынцыпу: рабі так, каб ня стала горш ні табе, ні тваім блізкім, не рабі людзям зло, а там будзе, як будзе. Дзяржава, начальства, прышлыя ўпаўнаважаныя — гэта былі «яны», адчужаныя, не прыналежныя да блізкага жыцьця, варожыя стварэньні. Наш беларускі «шыбалет» таго часу нагадваў своеасаблівы будызм.

## Натуральнае існаваньне

І жартам і ўсур'ёз: у дзяцінстве я практычна быў будыстам. Узгадайце чатыры высакародныя ісьціны будыста: існаваньне пакуты як адзінства з хадою і зьменай рэчаіснасьці; жаданьне як прычына пакуты; падаўленьне жаданьня як сродак падаўленьня пакуты; дасягненьне нірваны праз непасрэднасьць, мэдытацыю і разумнасьць учынкаў. Усё жыцьцё будавалася менавіта так. Слова «нірвана» мы ня ведалі, але шчасьлівыя былі заўсёды, бо ўзровень жаданьняў заўсёды быў умераны і адпавядаў магчымасьцям. Калі я стаў дарослы і пры пэўным зьбегу абставінаў мусіў змагацца з унутранай рэфлексіяй, што патрабавала задавальненьня жаданьняў, я прабягаў у дыялёгу сам з сабою па ланцужку прычынна-выніковых сувязяў, і шалі чуйнага сэрца прыходзілі ў раўнавагу.

Для мяне асабіста так званае пераадольваньне цяжкасьцяў, змаганьне за фізычнае выжываньне, замілаваньне жывымі істотамі, таямніца нараджэньня жывога, жыцьцё і сьмерць — усё тое, пра што потым цягам доўгіх гадоў навучаньня прыходзілася паводле дыдактычных распрацовак слухаць, здавалася калі ня сьмешным, дык ня вартым таго, каб гаварыць пра яго ўзьнёсла.



Прыпамінаю, як у савораўскай вучэльні кіраўнікі літаратурнага гуртка — імі былі выкладчык літаратуры падпалкоўнік Чумакоў і Язэп Семяжон, наш выкладчык замежных моваў, вядомы перакладчык, — абураліся маёй глухатой да «вялікага». Я без энтузіязму гаварыў пра подзьвіг Аляксея Марэсьева, вяла рэагаваў на роспач вершніка і пакуты ягонага каня, «Браслета-второго», з купрыноўскай аповесьці. Мяне, здавалася маім выкладчыкам, мала кранае гора тургенеўскага Герасіма і адзінокай, непрыгожай горкаўскай гераіні, што сама сабе пісала лісты каханьня і потым, душачыся салодкімі сьлязамі, чытала іх, схаваўшыся на гарышчы.

З майго боку ўсё было вельмі шчыра. Мне было шкада Муму, але ж я не ўспрымаў гэта як трагедыю, нават з улікам пакутаў Герасіма, бо я сам разы два на год тапіў кацянят у сажалцы. Яны былі яшчэ сьляпыя, зь цёплымі гладзенькімі жывоцікамі... Сумныя вочы купрыноўскага пакалечанага Браслета мяне моцна ня ўражвалі, бо ў мяне ўваччу стаяла жаласнае аблічча нашай каровы-германкі, якую абдуло ад маразянай руні. Яна вісіць на вяроўках, у азадзьдзе ўстаўленая пляшка з адбітым дном, а ейныя бакі мнуць і *жмакаюць* мужчыны, каб выціснуць зь сярэдзіны нагнанае языком паветра. На ейныя вочы я і цяпер не магу забыцца... Яна, на жаль, не ачуняла. Яе, як казалі ў нас, *прырэзалі* — ужо паўмёртвую зарэзалі, каб потым

*закляймiць* (у такiм выпадку ўжо за магарыч) у базарнага вэтэрынара i прадаць на мяса.

Наконт Марэсьева... Аднойчы летам — мне было тады гадоў сем — я цягнуў зь лесу вялiзнае бярэма сырой надранай лазы, каб потым высушыць, здаць у нарыхтоўчую кантору ды купiць за гэтыя грошы патрыманыя падручнiкi. Вострая маленькая «лазовая» сякерка, якую я засунуў за вязьмо, сарвалася i ладна раскроiла мне левае калена. Ня ведаю, што б рабiў сёньняшнi сямiгадовы хлапчук. Я ж апрацаваў рану сiкунамi, сяк-так абвязаў саколкай ды лазой калена i пацягнуўся зь нялёгкай ношкай дахаты. Ладна сышоў кроўю, колькi дзён ляжаў плазам, потым кульгаў яшчэ больш за месяц да самай восенi, але хадзiў у Ветрына на заробкi, ганяючы на паству чужых кароў. Розумам я гатовы ўспрыняць учынак Марэсьева як подзьвiг, але эмацыйна для мяне — гэта нешта звычайнае. Мне здаецца, што я б таксама змог лётаць з пратэзам.

Абсурдныя карцiны дзяцiнства ўзгадваюцца бясконца. Позьняя вясна. Яблынi скiнулi квецень, завязваюцца яблычкi, вакол гудуць пчолы. Суседка, у сьлязах, сякерай карчуе антонаўку, большы сын хавае ў лес вульлi, пакiдаючы на месцы абломкi дошак, старыя рамкi як бы зруйнаваных пчалiных хатак. Усё дзiка i проста. Кожны двор абклалi падаткамi: на кожную яблыню, на кожны вулей, на кожнае парася. Вось такi наш пасьляваенны «Вiшнёвы сад»...

Яшчэ адзiн кадар у фiялетава-чорным дарослым спэктры, якi тады ў дзяцiнстве ўсё роўна здаваўся ружовым. Нас трох хлапчукоў. Як тое прынята, мыемся «з бабамi», са сваiмi матулямi i сёстрамi. Большыя хлопцы мыюцца «з мужчынамi». Усе дарослыя жанчыны — спрацаваныя, худыя, зь вiслымi грудзямi. На ўсiх — замытыя кужэльныя «падвязьнiкi», мяшочкi памiж ног для вываленых матак. Трымаюцца на клубовых паясах, як на партупэях. Вось жанчыны асьцярожна абмываюць распавiтыя маткi, як дзяцей. Нам цiкава i сьмешна. Мы называем маткi «кукурузiны». Глядзiм на свае «стручкi». Маткi павыпадалi ў жанчын ад цяжкае працы. Яшчэ ў вайну пачалi араць «на бабах». А ўжо пасьля перамогi дык тое было зазвычай. Не было мужчынаў, не было коней... Што тая мiзэрыя ды пакуты чэснай прастытуткi ў «Адвержаных» Вiктора Гюго!

Дагэтуль памятаю незразумелыя сцэны гвалту. Пасьля вайны вясковыя хлопцы на вечарынках, нападпiтку i цьвярозыя, часта бiлiся. Вёска iшла на вёску, сьцяна на сьцяну. Цi то выходзiла нейкая агрэсiя зь людзей, што хавалi свой страх, затаiўшыся ў лясных схованках i бачачы здалёк гвалт i забойствы, цi то гэта таксама была своеасаблiвая гульня ў вайну? Але бойкi былi сур'ёзныя. Бiлiся да калецтва, чым папала, найперш рвалi калы з агароджаў. Меншыя падносiлi «боепрыпасы»: камянi, шварны з калёсаў, качалкi для бялiзны. На вечарынкi мацi нас не пускала. Але разы два ўсё ж такi я дабег. Як цяпер бачу карцiну: Коля Пархфенаў (зарачанскi!) зьбiў з ног хлопца з суседнiх Саланевiчаў, паставiў калена яму на грудзi i разьдзiрае рот вялiкiмi пальцамi рук. Такое ўбачыш цяпер толькi ў бандыцкiх сэрыялах. Нажоў не ўжывалi. На другi дзень усё забывалася, калi падчас бойкi захоўваўся пэўны няпiсаны кодэкс гонару, напрыклад, ня бiць ззаду па галаве.

У міліцыю не заяўлялі. Прайшоў пэўны час, і — як адрэзала! — бойкі раптам перапыніліся. Гэта таксама загадка нашай мэнтальнасьці. Мне цяпер бачыцца гэта як своеасаблівае самаедзтва: немцаў біць было страшна, а сваіх можна. Глядзець на ўсё гэта было тады цікава і весела. Цяпер згадваць — цяжка і загадкава.

Амаль як нармальную я ўспрымаў у маленстве пастаянную прысутнасьць магчымасьці памерці і не адчуваў межаў небясьпекі для жыцьця. Цяпер чытаю ў разумных кніжках, што гадоў да дзесяці, а можа і пазьней, у дзіцяці яшчэ не сфармавалася так званае астральнае цела, таму дзіця баіцца цемры, кустоў, пустых пакояў. Я такога ня ведаў. З тым жа Валодзькам Глодам мы ўставалі зімою штодня гадзін у пяць, кралі з калгаснай аборы снапы два, а то і тры, сартаванага лёну і сунуліся хутчэй, правальваючыся да пупа ў сьнег, у бок бальшака. Там тужэй перавязвалі снапы, каб даўжэй гарэлі, і запальвалі, падыходзячы да лесу. Так бараніліся ад ваўкоў. Людзей тады ніхто не баяўся. Калі паліць з розумам і не падстаўляць агонь роўна пад вецер, аднаго снапа магло хапіць на кілямэтар.

Згадаю, можа, адну з самых вясёлых прыгодаў свайго школьнага дзяцінства. Было гэта акурат пад піліпаўку. Валодзька захварэў, і мне прыйшлося ноччу аднаму пераадольваць тыя засьнежаныя кілямэтры да Гімраўскай школы. Пры гэтым ішоў я без ільнянога факела, бо адзін ня змог дацягнуцца да закратаванага вакна ў аборы і выцягнуць тую пару снапоў. Звычайна мы рабілі гэта, стоячы адзін у аднаго на плячах, як цяперашнія амапаўцы ці пажарныя. Дык вось прасоўваюся я па глыбокім сьнезе да *баравіны*, што перад Саланевічамі, і заўважаю, што справа за мосьцікам як бы нейкія кусты зьявіліся, якіх раней не было, і шаволяцца. Дзіва: ветру ж няма. Падыходжу бліжэй: гайня сабак мітусіцца. Раблю, як трэба: стаю і ня кратаюся. Гэта ў нас ведала кожнае дзіця: калі за табой гоніцца сабака, стань, не махай рукамі і маўчы. Пасьля вайны бегала шмат зьдзічэлых сабак, сярод іх і нямецкія аўчары. Дык вось стаю і ня дыхаю. Падбягаюць, абнюхваюць і адбягаюць. Але вось адзін неяк стаў каля мяне блізка і пусьціў цёплы струмень на калені. У мяне ногі зрабіліся, як з ваты, і я, здаецца, *ушкодзіўся*. Потым падбегла яшчэ тры ці чатыры і *абцубэсілі* мяне з усіх бакоў. І дружна-жвава зьніклі. Стаю мокры, але чамусьці лёгкі, як бы ўверх цягне. Трэба было б дадому вярнуцца: да школы далей, чым да хаты. Але неяк сорамна. Будуць жа сьмяяцца і мянушку дадуць, тыпу «Пецька — сцуль сабачы». Іду ў школу. Пакуль прыйшоў, штаны зрабіліся як бляшаныя і вельмі сьмярдзяць. Мароз быў, праўда, ня так каб вялікі. У клясе нікога няма. Толькі цяхнічка Тэкля, што грубку топіць. «Пецька, куды гэта ты ўваліўся, што так сьмярдзіш?» Расказваю. «А маё ты дзіцятка, гэта ж не сабакі, гэта ж ваўкі. Сабачча ж зусім ня так сьмярдзіць!» А я як зараву. Аж зайшоўся, доўга ня мог спыніцца. Зьдзёрла Тэкля зь мяне ўсё, што зьнізу было, утаптала ў вядро з вадой, каб прапаласкаць, а мне дала кавалак чырвонага лёзунгу з парашутавай тканіны і сваю *кажарку*. Пажалела, прыцісну́ўшы да грудзей, што пахлі кіслай капустай, ды сказала лезьці на сухія дровы, складзеныя за печчу. Там я і пра-

спаў аж да апошняга ўроку. Гэта былі сьпевы. Мае сябры, у адзін голас, як авечкі, сьпявалі:

Средзі Кітая і Манчжуры
там была Родзіна мая.
Отец мой был прірoдный пахар,
і вместе с нім работал я.
На нас напалі злыя немцы,
село родное всё сажглі.
Сестру убілі первой пулей,
а мать жівьём в агне сажглі.

Вёў сьпевы аднарукі Міхалка з мэдалём за ўзяцьце Будапэшту, акурат як у вядомай песьні на словы Ісакоўскага «Враги сожгли родную хату».

Вось так у дзяцінстве было шмат чаго гнюснага, неверагоднага і алягічнага, як тых немцаў сярод «Кітая і Манчжуры». Ці не таму ўсё навокал было неверагодна прыгожае: і трава, і сонца, і вада, і пчолы, і коні, і апавяданьні ў кніжках, і рыба ў рацэ. Калі я цяпер бачу карціну Чурлёніса, дзе сярод прыроды сядзіць дзіцё з круглай патыліцай, а над ім — страшны хіжы птах, я не адчуваю небясьпекі, я бачу толькі малога сярод ярка-жоўтых дзьмухаўцоў і зялёнага акіяну травы. Калі быў малы, я дакладна ведаў, што ўсё будзе добра, што ўсё яшчэ будзе... Ці не таму і сёньня жыцьцё застаецца такім радасным, нават пры ўсёй гнюснасьці агульнага жыцьця? Сонца ж і трава засталіся тыя самыя. Розум і Душа спрачаюцца. Розум кліча на плошчу, а Душа ня хоча выходзіць зь лянівай гармоніі сузіраньня і ўсёразуменьня, з разумных кніжак і ціхага дыялёгу з самой сабою. Мне здаецца, гэта — таксама беларускае. Можа, гэта і пра нас напісаў Рыльке: ціхае сэрца толькі пазнае некранутую сутнасьць рэчаў і маўчыць... І вось аднойчы сутнасьць рэчаў стане нашай сутнасьцю, вялікае сэрца Прыроды пераселіцца тайна ў нашае сэрца, і тады мы — закрычым, як маці і немаўля, мы — сама сутнасьць, зьмена і ява, — *Wesen, Wandlung und Gesicht*? Ці будзе гэта калі?

## Моўны космас: пакуты і новыя адкрыцьці

*Суворяўская вучэльня. — Як гэта можна «ўлязаць на дзерава»? — Сьвята і «празьнік». — Адкрыцьцё іншых малых Беларусяў. — Драб, Жалняровіч і Салдатаў — гістарычная палітра 3-й роты. — Партызанскія відзежы на Сьвіслачы. — Пашырэньне сяброўскіх і моўных даляглядаў: скандэрбэгаўцы з Альбаніі ды кадэты зь Нямеччыны і Кітаю. — Опэрны эсэсавец сьпявае па-беларуску. — Пра Хрушчова па-нямецку. — Müllers Briefecke. — Нерамантычная немка Карына.*

### Як рыба на беразе

Адрозьніваць сваё і чужое ў мове я вельмі добра навучыўся, калі трынаццатым годам пасьля пятай клясы беларускай школы, як сын загінулага партызана, стаў выхаванцам Менскай сувораўскай вучэльні. Тут мяне ўволю накармілі, абулі ў новыя чаравікі з падкоўкамі, апранулі ў штаны зь лямпасамі і расказалі пра шэсьцьдзесят два пераможныя паходы Суворава. Аднак сытасьць і ўніфармаваны камфорт парушаліся трывогай уласнай непаўнавартаснасьці: вакол была чужая гаворка. У нашай хаце, у пятай клясе ў Гімраве я ўжо чуў расейскую мову, але гэта было нешта немусовае, пасвойму цікавае, як усё новае. Там я заставаўся ў сваім моўным сьвеце і мроях. А тут з 6.00 да 22.00 выскрэбвалася ўсё, на чым трымаліся мае ўяўленьні пра блізкае і далёкае навакольле. Здавалася, што не хапае паветра.

У вясковай школе я таксама разумеў ня ўсе словы ў расейскіх падручніках, але гэта не выклікала нэгатыўных эмоцыяў. А тут раптам усё маё нутро пачало супраціў. Чытаю ў падручніку: «Тёма *влез* на дерево» (чаму ня *ўзьлез*? як ён туды — галавой, як у мех, тачыўся?). «Повозка поднимается *в гору*» (чаму не *пад гару*?). «Салазки катятся *под гору*» (чаму не *з гары?*). «Оденьте *палки*!» — камандуе вусаты фізрук (чаму не «вазьміце кійкі?» *Палкі* ў нас вунь за паветкай ляжалі). «Брат *нарвал щавеля на щи*» — гэта сказ з параграфу пра «шипящие согласные». (Не разумею, што такое «щи», да таго ж — як гэта можна *рваць* шчаўе. Яго ж *зьбіраюць*. Калі рваць, яно будзе з травой. Ага, зразумеў. Брат званітаваў, яго вырвала шчаўем на нейкае «шчы». Можа, на тое, чым ён пасюкаў?..)

Гэта, так бы мовіць, простыя «лінейныя» моўныя цяжкасьці. А былі і больш складаныя — «духоўна-вэртыкальныя». Так, я ніяк ня мог эмацыйна прыняць, што «сьвята» і «праздник» — адно і тое ж. Наша Буцькаўшчына не была вельмі набожная. Але ж на сьвята (Каляды, Вялікдзень, Тройца, Дзяды) дома была ня толькі асаблівая ежа, але была ціхая радасьць, усё чыста вымыта, ніхто не сварыўся, больш шчодра давалі міласьціну таму, хто хадзіў «па беднасьці». Каб хто моцна маліўся, — не скажу.

Зусім іншае — «праздник», ды яшчэ ў пасьляваенным Менску пачатку пяцідзясятых. Як цяпер памятаю: атрымаў першую «увольнительную» на «праздник Октября». Як пустацікавец шпацырую па прылеглых да вучэльні вуліцах. На Горкага і Купалы равуць чорныя

гучнамоўцы-талеркі: «*Утро красит нежным светом стены древнего Кремля*»... Вакол вецер і пыл. Каля лазьні, на пачатку вуліцы Астроўскага — тут цяпер «дом Мусінскага» — б'юцца п'яныя. Вось міліцыянты валакуць аднаногага дзядзьку ў афіцэрскім фрэнчы. Кажуць, нешта ўкраў. Каля Сьвіслачы пасецца худая аблезлая карова. Шкада яе. Як яна есьць такую перапэцканую траву? Тут жа валяецца разламаная бочка з салёнымі агуркамі... Усюды шмат вайскоўцаў. Нагадвае нядаўнюю вайну.

У рэдкія хвіліны, калі не гучалі каманды і ня трэба было па хвілінах рабіць усё як усе, спакваля сьвядомасьць шукала ў новым наваколльлі хоць якое падабенства роднага, знаёмага, накшталт таго, як знаходзіш жаданыя абрысы ў воблаках, лежачы на сьпіне. Галоўны корпус вучэльні па вуліцы Багдановіча, як і цяпер, прылягаў да Сьвіслачы, дзе зімою ў драўляных бочках захоўваліся салёныя агуркі. Пэўна, дзяржаўныя: іх было шмат, можа з паўкілямэтра. Да рэчкі туліліся драўляныя хаткі. Гэта прыблізна тут, дзе цяпер помнік аўганцам. Бочкі былі прымацаваныя да калкоў. Калі сьнег шапкамі накрываў донцы бочак і калкі, то здавалася, што з вады вылязаюць партызаны са стрэльбамі. Калкі выдавалі стрэльбамі. Зіма, партызаны, прырода, стрэльбы, сьнег — гэта вобразы дзяцінства, бачаныя, чутыя, чытаныя ў кніжках. Мне іх тут нетавала. Пасьля вайны ў нас у хаце разам з нашай Лісаветай зьбіраліся дзяўчаты з калгаснай фэрмы і чыталі ўслых партызанскі раман Івана Шамякіна «Глыбокая плынь» пра сям'ю Маеўскіх і Жэньку Лубяна. Нават цяпер чую, як



сьвішча сьнег пад хуткімі лыжамі Жэнькі Лубяна. Чыталі да позьняй ночы, пакуль была газа ці лучына. Партызаншчына была дарагая для мяне тэма як памяць пра бацьку.

Дык вось гэтае месца з бочкамі было мне нейкае роднае: знаёмы пах кропу, прыемная гурковая кісьля і партызаны-віцязі са стрэльбамі. Я заўсёды чакаў зь імі сустрэчы, калі быў стомлены ад лыжнага кросу, які звычайна праводзіўся ў цяперашнім парку каля Камсамольскага возера. Салёны гурковы пах рэзаў правэнтыляваныя марозам лёгкія, але было радасна на душы. Гэта быў родны астравок Буцькаўшчыны тут у Менску.

Першыя калівы дыялектнай беларушчыны я адкрыў для сябе яшчэ ў сваёй Буцькаўшчыне, слухаючы прышлых людзей і калі хадзіў у суседняе Гімрава (вымаўлялася з выбухным [ґ]) у школу. Яно было адгароджанае ад нас лесам і дзьвюма рэчкамі. Мы ўсе добра езьдзілі на лыжах і каталіся з крутых гор. У нас у Буцькаўшчыне трамплін зваўся «падгоп», а гімраўцы гаварылі «прыганка». Невялікую печ у клясе яны называлі «грубка», а мы — «шчыток». Калі мы пачыналі адказваць каля дошкі, яны сьмяяліся, бо ім здавалася, што мы сьпяваем. У нас, сапраўды, была свая адметная інтанацыя.

## Беларусікі ў мундзірах

Моўная мазаіка праступала і ў сувораўскай вучэльні. Мы ўсе стараліся гаварыць па-расейску, але ж вясковыя слоўцы і формы так і сыпаліся з вуснаў уніфармаваных хлопчыкаў. «*Пайдом* поиграем в шахматы», — гаварыў мой сябра Віктар з-пад Сьвяцілавічаў. «Я потерял

*своего рэмня»,* — гэта Міша з Мазыршчыны. «Мы так за полчаса машину *наладуем»,* — гэта Анатоль са станцыі Жалудок Гарадзенскай вобласьці. Пазьней я згадваў гэтых маіх сяброў з суворавскай вучэльні, калі даведаўся, што аўтар вядомага слоўніка вялікарускай мовы Ўладзімер Даль велізарную колькасьць словаў запісаў ад рэкрутаў царскай арміі, калі служыў вайсковым лекарам. Калі я сустракаю ў Даля знаёмае родненькае слоўца з паметай «западнорусское», я думаю, што за ім стаіць наш зямляк.

Я добра ведаў амаль усіх зь вясковых, хто дзе жыве. Было цікава чуць новыя беларускія прозьвішчы і геаграфічныя назвы. Імёны нашых дваццаці чатырох суворавцаў з 2-га ўзводу 3-й роты я магу цяпер хоць у сьне пералічыць паводле расейскага альфабэту: Будны, Бурдо, Варзоў, Ганчар, Енін, Яромаў... (Апошні, дарэчы, ужо тады пісаў вершы. Некалькі гадоў таму ў Санкт-Пецярбургу ў яго выйшаў выдатны зборнік маладой лірыкі.) Шэсьць з паловай гадоў запар я чуў іх на вечаровай праверцы. Да таго ж мне давялося быць як бы няштатным пісарам: на сваё няшчасьце, я вельмі прыгожа пісаў (вынікі ўрокаў чыстапісаньня пяром «жабка з націскам» у Буцькаўскай пачатковай школе!), і мяне прымушалі пісаць усялякія паперы, у тым ліку, напрыклад, праязныя дакумэнты на ўсю роту на час вакацыяў. Дагэтуль памятаю, што суворавец нашага ўзводу Лейкін Леў езьдзіў да сваёй маці Красільшчыкавай Розы ў Віцебск, а сірата Драб Анатоль езьдзіў да сваёй бабулі Марцэлі да станцыі Жалудок праз Масты і Ваўкавыск. У нашай 3-й роце былі суворавцы з прозьвішчамі Райцаў, Драб, Жалняровіч і Салдатаў... Тут табе адгалоскі і цені магдэбурскага права, і збройная шляхта ВКЛ, і польска-расейскае суперніцтва ў лёсе беларусаў.

Мае новыя сябры з Гарадзеншчыны, Мазыршчыны былі як бы і не мае буцькаўскія, але ўсё ж свае. Мы ня кпілі адзін з аднаго з-за нашай вясковай мовы і выдатна разумелі адзін аднаго. Але мы адчувалі сябе ніякавата, калі выкладчык расейскай мовы выклікаў да дошкі «чыста рускага» для ўзорнага чытаньня, які «фарсіста» сьлібізаваў: *«йизык», «сиводня», «йишьшё»*. Было неяк сорамна перакручваць сябе, і часта шмат што не атрымлівалася. Асабліва не выганяліся беларускія мяккія *сь, зь, ць, дзь*. «Не шепелявить!» — аж пунсавеў настаўнік, калі мы чыталі *«Сьветлый празьник Акцябра, нам фставаць ужэ пара»*. На ўроках нямецкай мовы чамусьці было ня сорамна, як малпе, падрабляцца пад тэўтонца...

Мой іранічны тон, які праглядае раз-пораз праз радкі ўспамінаў — згадкі пра суворавскую вучэльню не выключэньне, — ёсьць вынікам пэўнай падсьвядомай аналітычнай «мадэрнізацыі тэксту» з пазыцыі майго сёньняшняга разуменьня. У гэтым ёсьць свая няпраўда. Тады нюансы эмоцыяў маглі быць вельмі розныя. Мая біялягічная экзыстэнцыя ў сьценах вучэльні была нашмат больш камфортная, чым у галоднай пасьляваеннай вёсцы: рэгулярнае калярыйнае харчаваньне, чысты ложак, цёплая прыбіральня. Трэба прызнацца, што сыстэма выхаваньня, інфармацыйны асяродак, адукаваныя выкладчыкі — і, што надзвычай важна, — пасьляваенная атмасфэра савецка-расейскага патрыятызму, як кажуць, рабілі сваё: у

нашы душы пачаў запаўзаць ваяўнічы патрыятычны аптымізм, які сягаў нават да часу царскай Расеі. У час вечаровай прагулянкі ў калёне па чацьвёра і зь песьняй, якая была закладзеная ў штодзённы расклад дзейнасьці выхаванцаў, мы сьпявалі... «Юнкерскі марш», маршыруючы ўздоўж Тэатру опэры і балету ў кірунку Сьвіслачы:

> Взвейтесь, соколы, орлами,
> Полно горе горевать!
> То ли дело под шатрами
> В поле лагерем стоять...

Тут выраз «то ли дело» ўжыты ў значэньні «як добра» — як добра быць салдатам айчыны, шчасьлівым і рашучым. Гэта прыблізна тое самае, што цытаваў кожны гітлераўскі жаўнер: *«Ich bin Soldat, ich bin es gern. O welches Gluck Soldat zu sein!»** Сорамна прызнавацца, але і сёньня ў мяне перахоплівае горла, калі я чую «Юнкерскі марш» у дакумэнтальных ці мастацкіх фільмах. Падобнае «імпэрыялістычнае» пачуцьцё я зьведаў, праяжджаючы ў 1991 годзе на цягніку праз польска-беларускую мяжу, калі польскі памежнік паводзіў сябе па-хамску, размаўляючы з нашымі ціхмянымі і безабароннымі «чаўнакамі». Маючы дыпляматычны пашпарт, я дазволіў сабе зрабіць заўвагу пану, што статус ужо сувэрэннай Польшчы не дазваляе яму быць хамам. Мне прыпомнілася, што падчас існаваньня СССР у цягніках польская мытня і жаўнеры-памежнікі паводзілі сябе як пакорлівыя цеплюкі, нават сутыкаючыся з тыпова савецкімі норавамі...

* Я — салдат, мне падабаецца быць салдатам. О, якое гэта шчасьце — быць салдатам!



## Эўразійскае таварышаваньне

Вярнуся да вучэльні. Сьвет маіх культурных уражаньняў да эўразійскіх маштабаў пашырыўся, калі да нас у МнСВУ на пачатку пяцідзясятых гадоў прыяжджалі ў госьці пасланцы сацыялістычнага лягеру — кадэты з ГДР, Кітаю і Альбаніі. Немчыкі так і зваліся *Kadetten* (з Наўмбургу), альбанчыкі — скандэрбэгаўцы з Тыраны. Ёсьць такі іхны легендарны герой-змагар за незалежнасьць Скандэрбэг. Нам шмат разоў паказвалі ў вучэльні фільм «Великий воин Албании». Кітайскія «сувораўцы» называліся паводле прозьвішча іхнага славутага маршала часу «вялікага паходу» Мао Дзэ-дуна. Ягонага імя я дакладна ня памятаю. Здаецца, Чжу Дэ. Кітайскі візыт асабліва застаўся ў памяці, бо ён адбываўся ў межах тыдня кітайскай культуры. Нас тады ўсёй вучэльняй вадзілі на кітайскую опэру ў памяшканьне тэатру насупраць. Кітайская опэра — зусім іншы сьвет мэлясу, сцэнаграфіі, касьцюмаў і рухаў. Асабліва ўражвалі шматтанальныя ці то рэчытатывы, ці то сьпевы.

Дарэчы сказаць, сувораўцам я пераслухаў увесь рэпэртуар опэрнага тэатру. Некаторыя пастаноўкі нават некалькі разоў. Тады тэатар быў нашым культурным шэфам, і калі не было збору — такое здаралася даволі часта, — нас увечары зьнімалі з так званай самападрыхтоўкі і прымусам вялі ў опэру. Найбольш мне запомніліся і спадабаліся «Страшны двор» Манюшкі і «Дзяўчына з Палесься» Цікоцкага. У першай пастаноўцы я часам чуў адгалоскі знаёмых мэлёдый дзяцінства, а ў другой сьпявалі па-беларуску. Асабліва мяне ўразіла арыя эсэсаўца. *«Вы ня людз*і *— вы быдла...»* — сьпя-

ваў ён хораша, такі стромкі і прыгожы. Нечым ён быў падобны да добрага перакладчыка-аўстрыяка з прозвішчам Пут з часу акупацыі, які, як у нас казалі ў вёсцы, «стаяў пры штабе» і часта даваў нам, дзецям, жуйкі і цукеркі. У аўстрыяка-перакладчыка толькі было невялічкае брушка-капшучок. Памятаў я і немцаў-адступоўцаў ліпеня 1944 году. Яны былі ўсе пыльныя, узлахмачаныя, на матацыклах і ў чорных камбінэзонах.

Тыя сустрэчы з альбанцамі ды кітайцамі, бадай, яшчэ глыбей страсянулі маю філялягічную душу. Жывых немцаў мы помнілі з вайны, а тут нешта зусім іншае. Хаця шмат хто з гасьцей мог гаварыць па-расейску, але былі і такія, што гаварылі зь перакладчыкамі. Як мы ўслухоўваліся ў чужую моўную плынь! Усе зьвярнулі ўвагу на розны акцэнт у расейскай мове альбанцаў, немцаў і кітайцаў. Мы слухалі па-дзіцячаму непасрэдна і нават калі-небудзь рагаталі з расейскай мовы гасьцей, за што атрымалі пасьля суворыя заўвагі ад афіцэраў-выхавальнікаў.

## Шыхтаваньне па-замежнаму

Апошнія тры гады ў вучэльні мы мелі штодня па дзьве гадзіны нямецкай мовы ў маленькіх групах. Гэта будзіла цікавасьць да мовы яшчэ больш. Нашымі настаўнікамі былі афіцэры з досьведам вайсковых перакладчыкаў часу Вялікай Айчыннай вайны і выкладчыкі ін’язу (так тады называлі лінгвістычны ўнівэрсытэт). Нам паказвалі нямецкія трафэйныя дакумэнты, размоўнікі для допыту ваеннапалонных, ладзілі дні замежных моваў, калі ўсе каманды дзяжурнага афіцэра дубляваліся паўзводна на ангельскую, нямецкую ды францускую мовы. Дагэтуль увушшу стаяць і ангельскія выразы: *«Фол ін! Шан! Этыз! Дысміс!»* («Шыхтуйся! Зважай! Вольна! Разыходзься!»). *«Шан!»* — гэта скарочанае ад *«Attention»*. Базавых падручнікаў мы ня мелі. Выкладчыкі самі складалі тэксты паводле замежных крыніц. Пазьней чамусьці больш пачалі налягаць на савецкую тэматыку. Тады тэксты сталі менш цікавыя, бо было відаць, што гэта пераклад. У 1958 годзе Менская вучэльня заняла першае месца сярод усіх сувораўскіх вучэльняў СССР, і да нас прыехалі генсек КПСС Хрушчоў, вайскавод Варшаўскага дагавору маршал Грэчка і камандзір БВА маршал Цімашэнка. Пасьля гэтага візыту нам яшчэ павялічылі колькасьць гадзінаў па замежнай мове, зрабілі выпускны экзамэн з атэстацыяй на вайсковага перакладчыка і ўпершыню ў Беларусі ўвялі адзінаццацігадовае навучаньне. Нават памятаю тэкст, які ўсе роты з адпаведнай ступеняй складанасьці вучылі на памяць на замежных мовах: «Падчас візыту ў Беларусь Генэральны сакратар ЦК КПСС М. С. Хрушчоў наведаў МнСВУ. М. С. Хрушчоў цікавіўся побытам будучых афіцэраў. Так, зайшоўшы ў спальню малодшай роты, ён сказаў: яны хоць і з пагонамі, але ж яшчэ дзеці. Пакладзіце ім каля ложкаў маленькія дыванкі, няхай яны ў вольны час там пагуляюць, як дома». Падобныя тэксты пра добрых і разумных правадыроў Леніна і Сталіна мы ўжо вывучалі раней. У час так званай самападрыхтоўкі, калі ўвесь узвод (кляса) сядзіць на сваіх месцах у пастаянна адведзеным для яго пакоі, дазвалялася выходзіць на калідор, у спальню, у які-небудзь куток «павучыць» (пазубрыць уголас),

можна было назіраць такую карціну. Маладзён на мэтар восемдзесят, раз-пораз зазіраючы ў канспэкт і закідаючы назад галаву, з заплюшчанымі вачыма шпацыруе, як чаўнок, па калідоры паміж спальняй і туалетам і напаўголасу выводзіць: *«Модэсты ўоз э вэры тыпікал фіча оф дэ Сталінс кэракта...»* («Сьціпласьць была характэрнай рысай характару Сталіна»). Гэты тэкст бралі са школьнага падручніка і нечым дапаўнялі. Ён так і называўся — «Сьціпласьць». Мы, «немцы», вучылі камбінаваны тэкст пра сталінскую сьціпласьць, ягоны вайсковы талент (параўноўваўся з Суворавым) і ленінскае захапленьне замежнымі мовамі. Дагэтуль памятаю, што Ленін *«ляс гэрн вёртэрбюхер цур эрхолюнг»* («для адпачынку Ленін любіў чытаць слоўнікі»). Гэта з успамінаў Крупскай, ягонай жонкі.

«Ротную» францускую мову я не любіў, таму што яе выкладаў несымпатычны мне афіцэр. Аднак я чамусьці запомніў назвы амаль усіх дэталяў пісталета па-француску са схемы, што вісела ў кабінэце замежных моваў: *«ля глісьер»* — затвор, *«лё рэсор дэ рэбондісьма»* — зваротная спружына, *«лё ш'ян»* — курок, *«лё гідон»* — мушка... Мусіць, падсьвядома я хацеў яго забіць. «Англічанак» у роце было аж чатыры. У адну зь іх, якая выкладала ў нас і нямецкую мову, я закахаўся, чым і тлумачыцца мая юнацкая англаманія, якая пазьней пэўным чынам паўплывала і на мой выбар спадарожніцы жыцьця.



## Першае вакно ў Нямеччыну — «сацыялістычнае» ліставаньне

Яшчэ адным адкрыцьцём сувораўскай вучэльні была для мяне перапіска, як тады казалі, зь нямецкімі сябрамі. На ўроках нямецкай мовы мы чыталі моладзевую газэту ГДР «Junge Welt» («Сьвет моладзі»), дзе была рубрыка «Müllers Briefecke» («Паштовы куточак Мюлера»). У ГДР у той час на дзяржаўным узроўні ўсяляк падтрымлівалася перапіска зь сябрамі з СССР. Перадавыя грамадзяне нават запісвалі сабе ў сацыялістычныя абавязацельствы такі пункт: пачаць перапіску з грамадзянінам СССР. І вось мой сябра Лапачонак (імя пэўна ня памятаю — здаецца, Леў) зь вёскі Лапачонкі Варапаеўскага сельсавету і я далі ў «Мюлераўскі куточак» свае прозьвішчы і адрас. Тыдні праз тры ў вучэльню пачалі паступаць лісты, бандэролі і нават пасылкі з ГДР. Паслухмяныя бюргеры выконвалі рэкамэндацыі новай сацыялістычнай улады. Лістоў былі сотні. Гэта быў 1957 год. Лісты чытаў увесь узвод, рота і вучэльня. Цікавасьць да нямецкай мовы ўзрасла неверагодна. Бібліятэка мусіла нават заказаць вельмі тоўстыя слоўнікі: работнікі палітаддзелу цэнзуравалі зьмест. На некаторыя лісты разам з выкладчыкамі мы пісалі адказы. Перапісвацца пачалі амаль усе. Тады я ўпершыню сутыкнуўся з рукапісным старанямецкім шрыфтам, які памылкова амаль усе ў нас называюць гатычным. Гэтым шрыфтам пісалі немцы сталага ўзросту: каяліся ў злачынствах, расказвалі, як яны дапамагалі нашым ваеннапалонным, кляліся ў вечнай дружбе, цыталі радкі новага гімну на словы Яганэса *Эр* Бэхера

«Паўсталая з руінаў новая Германія». (Тады было прынята так вымаўляць імя і прозьвішча аўтара гэдээраўскага гімну, які меў скарочаны «мідлнэйм» ад Робэрта, так, як мы сёньня, напрыклад, агучваем імя амэрыканскага прэзыдэнта: Джордж *Дабл'ю* Буш.)

Некаторыя лісты затрымліваліся ў палітаддзеле, калі праглядалася пошта. Нам перадавалі палітычна вытрыманыя пасланьні, бандэролі і нават пасылкі з новымі самаробнымі палітычнымі кляйнодамі ГДР — молатам і цыркулем. Адзін затрыманы ліст з фатаграфіяй мне перадала таемна сакратарка палітаддзелу, сама маладая прыгожая кабеціна. У адрасе для «Мюлераўскага куточка» мы забыліся назваць свой узрост, таму ўзроставы кантынгент немцаў быў самы розны. Дык вось на фатаграфіі была выява страшэнна прыгожай бляндынкі гадоў дваццаці пяці ў ложку з распушчанымі валасамі і ў даволі фрывольнай начной кашулі. І звалася яна Карына. Карына пісала мне: «Мілы Пэтэр, у мяне быў сябра, таксама Пэтэр. Але ён здрадзіў мне. Мне так цяжка на душы. Кажуць, што ў вас у СССР вельмі танныя натуральныя тканіны. Можа б ты мог мне прыслаць 1 м 20 см натуральнага манчэстэру без сынтэтыкі і сваю фатаграфію. Я вельмі хачу мець штаны з манчэстэру. Я б тады паказала здрадніку сябе ў штанах з манчэстэру і тваё фота, майго новага сябра...» Вось такая яшчэ адна невялічкая фортка ў Эўропу.

## Пошукі Навышняга: свой і чужы досьвед

*Мой таемны «экумэнічны хрост». — Хатнія бажніцы. — Як маці малілася. — Як мы з братам Багоў памылі. — Дэміюрг слухае мае аўтарскія малітвы. — Першае чытаньне Сьвятога Пісьма. — Хуан Баптыста і Ян Хрысьціцель. — Тургенеўская бібліятэка ў касьцёле Сьвятога Роха. — Лютэр 1817 году з друкарні Фрыдрыха Дрэксьлера. — Шляермахер і прага трансцэндэнтнасьці. — Згадкі пра Аўгсбурскі рэлігійны мір у Менску і Мюнхэне. — Гісторыя Дэніса Краўзэ. — Эйнштэйнаўскі і афрыканскі Бог.*

### Побач з уладыкам

Дзяцінства праз прызму тэалёгіі пачало ў мяне раскручвацца нанова ўжо ў паважным узросьце, калі маім суседам зьлева ў Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня (1990—1996) аказаўся ўладыка Філарэт. Уявіце сабе: амаль тры гады, зь некаторымі пропускамі, ты сядзіш побач цэлы дзень з Патрыяршым Экзархам усяе Беларусі! Перадапошнія два гады дэпутацтва я толькі эпізадычна зьяўляўся на сэсіі, прыяжджаючы зь Нямеччыны. Наша суседзтва было для мяне драматургічна захапляльнае. Уладыка — асоба з глыбокімі тэалягічнымі дагматычнымі ведамі, велізарным досьведам кантактаваньня зь бязбожнай савецкай уладаю і практыкай душпастырства ў асяродку скалечаных душ. Я, па натуры лютэранец, з хаатычнымі тэалягічнымі ведамі, але начытаны з эўрапейскіх крыніцаў пра найбольш болевыя кроп-

кі ў дыскусіях паміж царкоўнымі тэолягамі і прадстаўнікамі сэкулярызаванага грамадзтва. Я не назаляў уладыку прафанскімі пытаньнямі, а толькі прасіў нарэдчас пракамэнтаваць кампактныя цытаты спрэчнікаў з заходніх крыніцаў або выказваньні публічных праваслаўных тэолягаў, тыпу сёньня папулярнага айца Кураева. Як мовазнаўца я быў прыемна ўражаны моўнай інтуіцыяй уладыкі Філарэта, калі часам прасіў яго патлумачыць некаторыя мясцы зь біблійных перакладаў на розных мовах (паралельныя тэксты і сынхраністычныя табліцы — мой любімы занятак). Аднак вярнуся да пачаткаў.

## І на чужы Сьвяты́ не кіда́й у ніты́...

Гадоў да дванаццаці я рос, як бы цяпер сказалі, у шматэтнічнай вёсцы. Усе пісаліся беларусамі і гаварылі аднолькава па-нашаму, на полацка-ветранска-вушацка-празароцкай гаворцы, але ж звычаі і побытавая арыентаванасьць былі шмат у чым адрозныя. Адсюль, пэўна, пайшлі мясцовыя жартаўлівыя азначэньні ды прозьвішчы: *латышы, швэды, зарачане, зарэцкая шляхта, гарадоцкія пасялкоўцы, ліцьвіны...* Латышамі, швэдамі ды зарэцкай шляхтай нас называлі прышлыя зарачане, што атабарыліся каля «ліцьвінаў», паціху перасяліўшыся з расфармаванага вайсковага гарадка на лепшую вясковую зямлю. Называць нас так, праўда, было за што, бо імёны і прозьвішчы на нашым баку ракі былі «нянаськія»: Карл Бруквін, Альфрэд Шнітке, Вальдэмар Шнітке, Адольф Падзява, Якаў Фрыдрых, Марта Фрыдрых, Вольдат Кімстач... І цэлая сявенька «шляхтаў»: Барманскі, Жахоўскі, Шпілецкі, Садоўскі... Сярод «ліцьвінаў» былі Мароз, Глебка, Прыстаўка, Сіськевіч, Барэйка... Мая маці мела дзявоцкае прозьвішча Фрыдрых і была замужам за Садоўскім Вінцэнтам Казіміравічам, таму звалася Вінчыха, бо бацька быў Вінцэнты, або Вінка. Нярэдкімі гасьцямі былі ў нас габрэйскія дробныя гандляры зь недалёкіх вёсак і мястэчкаў Бабынічы, Празарокі, Шандзялы.



У загаловак я вынес нашу мясцовую прымаўку, якая вымаўлялася як рыфмаванка з націскамі на апошніх складах у словах «Сьвяты» і «ніты». «Сьвяты» значыла тут «сьвятая асоба». «На Сьвяты́» значыла: *на Мікола, на Юр'я, на Язэп...* Зь ніта́мі складаней. Гэта — тэрміналягічнае словазлучэньне. Калі «навівалі кросны», то частка працэсу называлася «кідаць у ніты» — злучаць ніткі петляў у кроснах для падыманьня асновы — па чатыры, па дванаццаць, а то і па шаснаццаць. Тады казалі: ткаць у чатыры, дванаццаць, шаснаццаць нітоў. У шаснаццаць нітоў магла ткаць ня кожная ткальля. Гэта было нешта накшталт стварэньня «шэдэўру», які рабіў вучань у сярэднявечным цэху рамесьнікаў, каб атрымаць тытул майстра.

«Кіданьне ў ніты» было самай складанай і карпатлівай справай, і рабіць гэта не было прынята на «крывыя вечары» ды сьвяты. Ня толькі на свае, але і на чужыя, асабліва суседзкія. Тут да звычак, перанятых яшчэ з паганства, прымешвалася вельмі прыгожая этыка суседзтва, што склалася ў нашай, падобна, здаўна шматэтнічнай і шматканфэсійнай мясцовасьці, якая знаходзілася ў полі «полацкага прыцягненьня». Суседзі дакладна ведалі, хто, што і калі сьвяткуе. Каталік Жахоўскі мог прынесьці на

свой Вялікдзень праваслаўнаму Марозу на пачастунак кавалак свайго «сьвянцонага» пірага, а невядома якога вызнаньня Фрыдрых ня грэбаваў пачаставацца мацой ад Шмэркі Шандзялоўскага. На вялікае суседава сьвята стараліся не рабіць надта шумную працу, стукаць, грукаць, распачынаць вялікае мыцьцё, разьвешваць сушыць бялізну, паліць дымныя кастры... Наша маці была ня надта набожная, але нам заўсёды казала, каб менш бегалі «на сяло» да суседа, калі той трымаў пост. Вось ад маці і пачуў я прымаўку: «*І на чужы Сьвяты не кідай у ніты*». Калі хто-небудзь з праваслаўных у «свой» пост весела бавіў час, тутэйшыя без асаблівага зьдзеку маглі заўважыць, што ён «спраўляе нямецкую масьленіцу».

Мне здаецца, каб цяпер была жывая мая маці, яна б па-свойму на народнай мове рассудзіла б некаторых сучасных публічных ды духоўных асобаў. Журналісту, асуджанаму за публікацыю карыкатураў на мусульманскага прарока «з інфармацыйнымі мэтамі», яна б сказала: «Сынок, а ты нічога не малюй, а проста ўсё словамі раскажы, чаго яны там у Эўропе сварацца. Можа, тут каму непрыемна будзе глядзець на тыя глумныя малюнкі...»

Пачуўшы пра тое, што ў Беларусі зьявіцца праваслаўнае радыё, мітрапаліту Філарэту і прэзыдэнту яна, магчыма, сказала б: «Уладыка ды прэзыдэнт, давайце зробім царкоўнае радыё для ўсіх. У нас жа здаўна ўсякая вера жыла. Вунь і апостал Паўла з рымлянамі лагодна гаварыў. А то пасварыце людзей. Веру чалавек павінен сам выбраць... Калі Мікіта Міхалкаў, той, што з Масквы, кажа, што праваслаўе — гэта больш, чым рэлігія, то чаго вам баяцца?»



Шмат чаго зь сёньняшняга штодня яна б магла ацаніць у кароткіх прымаўках. «Новым рускім бабкам», бясполым трансвэстытам, якія праз расейскія каналы прыйшлі ў кожную беларускую хату, яна б параіла: «Пабойся Бога, не глуміся са старога!» Тым, што пацяшаючыся змагаюцца з п’янствам са сцэны, магчыма, згадала б яшчэ адно наша выслоўе: «На людзях з грэшніка глуміцца — чыстых у грэх зводзіць».

Пачуўшы, як наш расейскамоўны прэзыдэнт публічна глуміцца з мовы сваёй маці, ужываючы беларускае слова толькі ў злосьці да іншадумцаў, яна, пэўна, толькі б разьвяла рукі і, схапіўшыся за скроні, прашаптала б: «А маё ты дзіцятка, ці ж быў у цябе бацька на радзінах?!» Так шкадавалі ў нас самага няшчаснага і грэшнага.

## «Экумэнічны» начны хрост

Храму ў нас у вёсцы не было — ні каталіцкага, ні праваслаўнага. Напрасткі да польскай мяжы было кілямэтраў шэсьць-сем — прымежная зона. Тое, што было ў блізкіх вёсках, ужо ў канцы дваццатых гадоў было ці разбурана, ці перароблена на склады ды цялятнікі. Самая большая сястра Леаніла, што памерла ў Сібіры, калі бацькі былі на абавязковай вярбоўцы, была хрышчоная яшчэ адкрыта ў касьцёле, а ўсе астатнія трое дзяцей, акрамя мяне, — таемна ў царкве. У той завірушны час шукалі хоць якога Бога.

Мяне да вайны ахрысьціць не пасьпелі. Усё трэба было рабіць таемна, ехаць да сьвятара кілямэтраў за трыццаць і там неяк дамаўляцца. Баяліся ўладаў і хапуна. Бацькавых двух

братоў забралі. Перад прыходам немцаў пайшла пагудка, што ўсіх нехрышчоных немцы будуць расстрэльваць. Уладаў ужо ніхто не баяўся, усё начальства паразьбягалася. Але да сьвятароў таксама было не дабрацца. Тады нашы вясковыя дзяды недзе пад Вушачай — з таго краю, дзе Рыгор Барадулін, — знайшлі недавучанага папа, які некалі служыў дзякам у праваслаўнай царкве, за паўмяха жыта і кавалак сала прывезьлі ноччу да нас у вёску. Сабралі ўсіх нехрысьцяў — зь сем'яў каталікоў і праваслаўных — у нашай «чыстай хаце» (у пакоі, дзе толькі сьпяць ды калі-небудзь балююць, а днём не спатыкаюцца) ды ахрысьцілі. Вось такое народнае, тайнае, калектыўнае (зрэшты, экумэнічнае!) далучэньне да почату хрысьціянскіх душ зьведаў я ў простай сялянскай хаце. Былы дзяк выдаў бацькам уласнай рукой напісанае пасьведчаньне пра той начны калектыўны чын. Нашай маці, як самай «граматнай» ды яшчэ зь дзявоцкім прозьвішчам Фрыдрых, даручылі быць захавальніцай гэтай паперыны на выпадак, калі немцы будуць зьнішчаць паганцаў. Немцы, праўда, не пыталіся пра хрост. Іх больш цікавілі партызаны, яйка ды млека. Ужо дарослым я шмат думаў пра новы хрост, аднак застаўся такім, як ёсьць. Вырашаў Бог-лёс, ня я.

Пасьля вайны, калі пайшоў у школу, я ўважліва разгледзеў нашыя абразы, што віселі на куце над сталом, абпятыя ручніком. Адзін абраз — старая драўляная ікона з выявай Ісуса, другі — нешта накшталт выразкі з часопісу, пісанага лацініцай, з выявай Маці Боскай. Брат Толік, які ўжо разьбіраў лацінскія літары, прачытаў мне подпіс. Там было: *«Ratuj nas, Matka, daj nam rady»*. Пазьней я пачуў ад сястры, што гэта была старонка з каталіцкага малітоўніка на беларускай лацінцы, які маці яшчэ зусім маладой атрымала ад пляменьніцы пана Сушынскага, калі хадзіла ў панскі маёнтак «на клясы» ў Двор-Буцькаўшчыну.



Дарэчы, да чытаньня гэтага подпісу дайшло, калі мы з братам — было гэта перад Тройцай (у нас не казалі Сёмуха) — атрымалі ад маці даручэньне, астаючыся дома, акрамя звычайнай «дзяжурнай» працы — нарваць трусам травы, наглядаць за курамі і гэтак далей — пашараваць гальнём (дзеркачом) падлогу, памыць вокны, непаклееныя сьцены, — каб усё было чысьценька. Пры гэтым маці, як нам здалося, неяк выразна паглядзела на покуцьце. Мы вельмі стараліся. Зрабілі ўсё, пасыпалі падлогу аерам, нават наламалі «маю» — маладых бярозак — і паўтаркалі паабапал уваходу ў хату. А яшчэ мы... памылі Багоў і павесілі сушыць над чалесьнікам на вяровачцы. Ікону прывязалі за вушка, а цубкую папяровую Маці Боскую перагнулі і падвесілі, каб не звалілася. Убачыўшы гэтую прыгажосьць, маці толькі закрыла твар рукамі ды сказала: «А мае ж вы працаўнікі!» і не сварылася. Усё паправілі. Гэта стала сямейнай легендай: як Толік зь Пётрам Багоў памылі.

### Як маці малілася

Маці пра Бога і царкву з намі ніколі не гаварыла. Відаць, баялася непрыемнасьцяў для дзяцей. Сама яна была, як я сам цяпер разумею, не зусім «правільная» верніца, але малілася. Ня так, каб штодня, а больш у цяжкую гадзіну: як паміраў паранены бацька, як хварэла карова,

калі чакаўся прыход фінагента, які мог апісаць маёмасьць, перад навальніцай, калі баяліся граду ці калі мы паміралі ад трасцы. Маці прасіла нас выйсьці, калі малілася. Але мы часам падглядалі праз дзьверы. (Мы, дурныя, гаварылі: *маці робіць сіў-сіў-сіў*.) Яна не стаяла на каленях, не хрысьцілася, не заўсёды нешта шаптала. Яна часьцей проста сядала на ўслон насупраць абразоў, азіралася, ці не глядзіць хто на яе, злучала рукі ў прыполе і ўзіралася ў твары сьвятых. Сядзела доўга, як бы чакала зьяўленьня нечага. Калі Яно прыходзіла, твар маці ружавеў, рабіўся маладым, яна схіляла голаў, нешта ціхенька гаварыла, сядзела яшчэ з хвіліну і шчасьлівая нетаропка выходзіла з хаты. Услон заставаўся перад іконамі. Яна тады была радасная, вельмі ласкавая і пяшчотная.

Калі-небудзь гэтага не атрымлівалася. Маці сядзела доўга, як бы просячы ў сьвятых дапамогі, перабірала пальцы рук, твар быў заклапочаны, як нежывы. Як бы не дачакаўшы нечага, маці шпарка ўскоквала, выбягала з пакою, у адной руцэ ўслон, у другой — чыстая батыставая хустачка, якую яна сьцягвала на хаду з галавы, і пачынала нешта хутка рабіць, завязваючы звычайную паркалёвую касынку, якую жартам называла «абыдзённая намётка». Мы адчувалі, што да яе лепш не зьвяртацца, і стараліся не пападацца пад руку. Пасьля маці, як бы вінаватая, сама падыходзіла да нас, шурпатай рукой церабіла нашы валасы і нешта добрае гаварыла. Як я цяпер разумею, яна малілася шчыра, таму чакала, каб быць пачутай. А душа ж не заўсёды адкрываецца... І Яно ня кожны раз зьяўляецца...



## Дэміюрг і трансцэндэнтнасьць

У мяне таксама фармаваўся свой Бог, хаця, зразумела, без аніякага душпастырства, іконаў ды посту. *Пачэ паста і малітвы* быў *послух*, шмат послуху: пасьвіць казу, рваць траву трусам, паліваць грады, драць і сушыць лазу (каб здаць нарыхтоўшчыку і купіць увосень падручнікі) і гэтак далей. Мой Бог быў нейкі Дэміюрг, стваральнік усяго вакол мяне, але пантэістычны, напалову паганскі, рассыпаны паўсюдна: у хаце, у рацэ, у хлеве, у садзе... Я нават сам на хаду складаў сабе малітвы. Іду, напрыклад, у сад шукаць паданкі. Рваць з дрэва нельга: маці будзе *крычаць* (сварыцца). Шапчу сам сабе: «Госпадзі, Ісусе Хрысце, дай жа мне яблык у лісьце. Калі ападыш не найду, тады сучочак заламлю». Ці то я быў пачуты, ці то быў чысты выпадак, але звычайна пасьля такой аўтарскай малітвы сярод лісьця пад яблынямі пальцамі босых ног намацваў паданкі. Тут я, канечне, быў крывадушны: прыніжана-аддана просячы ў Хрыста зямных дарункаў, я пагражаў зрабіць зло, — *заламаць* галінку. Зьвярніце ўвагу: не *зламаць*, а *заламаць*. У вёсцы ўсе ведаюць, якое гэта зло — зрабіць залом, напрыклад, у жыце. Згадайце выкарыстаньне паганскага вобразу «заломаў» у Купалавай паэзіі.

Калі пазьней мне давялося чытаць выклад «хрысьціянскай мэтафізыкі» апосталам Паўлам простымі словамі ў выступе на афінскім Арэапагу, я злавіў сябе на тым, што ў дзяцінстве, не сапсаваны крытычнымі ведамі, я быў блізкі да разуменьня першахрысьціянскага Бога, за выключэньнем хіба што разуменьня, што галоўная хата Хрыста недзе на небе, а гасьцёвая — недзе там у рукатворным храме —

у Бабынічах ці ў Празароках. Ужо студэнтам інстытуту замежных моваў я сустрэў у Шляермахера псыхалягічнае вытлумачэньне імкненьня чалавека да веры: «Рэлігія — гэта спатаненьне ўласьцівага душы пачуцьця залежнасьці ад бясконцага».

Калі мне было гадоў пяць, я нейкае падобнае пачуцьцё зьведаў у апошнюю ваенную зіму. Адна дэталь: наш бацька, сьмяротна паранены ў партызанах вясной 1944 году пры першым адступленьні немцаў, быў пахаваны спачатку на ўзгорку недалёка ад хаты і толькі пасьля перамогі перахаваны на брацкія могілкі разам зь іншымі палеглымі. Дык вось пра тое першае пачуцьцё трансцэндэнтнасьці. Прахапіўшыся аднойчы невядома чаго сярод ночы (не па патрэбе) у сваім драўляным нізкім ложку з падрэзанымі ножкамі (каб ня так балела, калі малое вываліцца), бачу маці. Яна сядзіць каля вакна. Вакно ў нашай «чыстай хаце» прарэзана высока, дый ложак нізкі. Мне нават відаць кавалак неба ў зорках. Маці старажыць ноччу калгасны сьвіран, ток і вараўню (склад). Яна ў ватоўцы і самаробных бурках, глядзіць у вакно. Праз вакно на ўзгорку відаць крыж на бацькавай магіле. Маці глядзіць туды, як мне здаецца, на крыж. Я ўстаўляю ногі ў апоркі, што стаяць каля ложка, ціхенька выбягаю ў сенцы і выходжу на ганак. Дзіўная месячная ноч. Усё ў зорным малацэ. Мне ня холадна і ня страшна. Сьнег, як вата. Можа, я сплю? Гляджу ў неба, мне робіцца нейк млосна. Там бездань і зоркі. І так хочацца памерці! Мне здаецца, што мяне няма, а на ганку толькі апоркі стаяць... Раніцай прачынаюся, мне чамусьці трошкі страшна: у хаце нікога. Гляджу на покуцьце, дзе Багі, і супакойваюся.



## Першая Біблія — лютэранская

Чытаньне Сьвятога Пісьма пачалося ў мяне на пачатку шасьцідзясятых гадоў, калі я быў студэнтам другога і трэцяга курсаў ін'язу. На расейскай мове пападаліся толькі савецкія зьдзеклівыя кніжкі кшталту «Забавного евангелия». Арыгінальныя тэксты былі тады пад забаронай, хаця на лекцыях па эстэтыцы ды антычнай літаратуры мы павінны былі невядома адкуль ведаць, хто такі Саўл, Давыд ці Галіяф. Біблію тады было купіць немагчыма, а ў бібліятэках давалі толькі паводле спэцыяльнага дазволу бяз права вынасу. Так атрымалася, што мая першая ўласная Біблія была на нямецкай мове. Гэта было санкт-пецярбурскае выданьне 1817 году зь вядомай друкарні Фрыдрыха Дрэксьлера, у вокладцы зь цялячай скуры і з старанямецкім шрыфтам.

Адкуль узяўся арыгінальны Лютэр? На Залатой горцы, у касьцёле Сьвятога Роха, дзе цяпер камэрная заля філярмоніі, у той час быў кніжны склад, дзе знаходзіліся кнігазборы з трафэйных нямецкіх бібліятэк. Тых, хто ведаў нямецкую мову, асабліва хто хоць збольшага разьбіраў так званы гатычны шрыфт, за невялікую плату наймалі перапісчыкамі. Сярод некалькіх студэнтаў ін'язу быў і я. Працаваў я ў той частцы складу, дзе былі зваленыя кнігі з «Расейскай тургенеўскай бібліятэкі» («Bibliothèque russe de Tourguénev»), якія нібыта немцы вывезьлі з Парыжу ў Нямеччыну, а «нашы» адпаведна ў Саюз. Кніжкі са штампамі «Für die Soldaten der Wehrmacht» («Для жаўнераў вэрмахту»), сярод якіх былі і зусім прыстойныя, разам зь літаратурай эўрапейскіх тэасафічных таварыстваў адкідалі ў асобную кучу,

каб потым спаліць. Кнігі з гэтымі штампамі не дазвалялі вывозіць нават на макулятуру. Палілі тут жа, у двары касьцёлу, дзе яшчэ былі жывыя каталіцкія пахаваньні, якія пазьней зраўнялі зь зямлёй бульдозэрам. Гарэлі зьляжалыя кнігі дрэнна, толькі абгаралі.

Наглядала за гэтым працэсам жанчына, ні то сторож, ні то бібліятэкар. Памятаю ейнае прозьвішча — Каткоўская. Яна вымаўляла «Катковска», на польскі манер. Гаварылі, што ейныя бацькі працавалі на нейкай пасадзе яшчэ пры «жывым» касьцёле. Я да яе паддобрыўся, дэманструючы сваю прыхільнасьць да польшчызны, ды яшчэ даў ёй набор тады рэдкіх у нас шарыкавых асадак, паўлегальны падарунак ад немцаў з ГДР, якім я тады ўжо праводзіў экскурсіі па Менску. Пані *Катковска* дазволіла мне цягаць з крымінальнай кучы ўсё, што я хацеў. Вось адтуль і Лютэр. Адтуль быў і Амар Хаям па-ангельску, і двухтамовая энцыкляпэдыя Ляруса на францускай мове, і «Гісторыя клясычнай антычнасьці» па-нямецку, і шмат чаго іншага. Па маладой дурноце шмат чаго было потым прададзена, падаравана па добрым настроі, прагуляна. Цяпер шкадую.

Трошкі пазьней, ужо на трэцім курсе, калі мы пачалі вывучаць гішпанскую мову, я стаў уладальнікам аргентынскага школьнага падручніка рэлігіі, які мне падараваў студэнт першага курсу гішпанскага факультэту Толя Пстыга — беларус, рэпатрыяваны з Аргентыны. Я спэцыяльна пасяліўся зь ім у адным пакоі, каб хутчэй загаварыць па-гішпанску. Чытаньне Сьвятога Пісьма на замежных мовах стварыла ў маёй сьвядомасьці цікавы фэномэн. Калі-небудзь пры недасканаласьці ведаў і праз розныя



традыцыі трансьлітарацыі і перакладаў адна і тая ж дзейная асоба зь Бібліі на розных мовах часта ўяўлялася мне рознымі фігурамі. Так, напачатку для мяне Ян Хрысьціцель з расейскіх крыніц і Хуан Баптыста з аргентынскага падручніка рэлігіі былі не адно і тое ж. Хуан Баптыста ў аргентынскім падручніку быў вельмі прыгожы і малады, а ў савецкіх прапагандысцкіх кніжках — стары і злы. Яны жылі ў маёй галаве асобна. Пазьней я даведаўся, што Ян Хрысьціцель быў ненашмат старэйшы за сваіх вучняў-пасьлядоўнікаў, амаль аднагодак Хрыста. Былі яшчэ сур'ёзныя адкрыцьці, якія я зрабіў пазьней, чытаючы ўжо сучасную сынадальную праваслаўную Біблію і параўноўваючы тэкст зь лютэраўскім 1817 году. У новых сучасных рэдакцыях — ня толькі ў расейскім праваслаўным, але і ў заходнееўрапейскіх — тэксты былі «прыгладжаныя» ў бок зьмякчэньня старазапаветных жахаў, каб не шакаваць слабадушных: хто каму што з ворагаў адрэзаў, хто колькі сваіх патрушчыў. Ужо ў апошнія гады я прачытаў пра гэта больш сыстэмна ў першым томе «Крымінальнай гісторыі хрысьціянства» Карлгайнца Дэшнэра.

## Храм і душа

Як мне здаецца, у тым узросьце мая душа ўжо адчула лёгкую прагу вызваленьня з хаосу да таемных ведаў, якія вядуць да гарманічнага стану душы. Гэтае пачуцьцё то абвастралася, то зьнікала. Хаця я люблю паэзію і ўсё рытмічна арганізаванае, аднак, як ні дзіўна, гэтае імкненьне да трансцэндэнтнага зьнікала тады, калі я чуў або чытаў стылізаваныя тэксты прафэсійных сьвятароў. Я чуў у гэтым фальш.

І, калі ўжо пачаў чытаць Эвангельле, дзе як бы цытаваўся сам Хрыстос, пачуцьцё адчужанасьці ўзрастала, бо за літарамі я чуў фальшывы голас сьвятара з павучальнымі інтанацыямі катэхізатара. Мне, пэўна, не шанцавала на сьвятарскія галасы. Я ня мог сабе ўявіць, каб той жывы Хрыстос гаварыў так узьнёсла з тымі, якія сталі першахрысьціянамі. Ужо на старэйшых курсах прыкрае пачуцьцё душэўнай пустаты прыводзіла мяне эпізадычна ў царкву. Я ўжо быў ладна начытаны тэарэтычна і нават ведаў, як што называецца ў службе, разумеў усе алегорыі дзеяньняў сьвятароў, аднак эмацыйна я адчуў, што я ня з тых будучых вернікаў, якія могуць праз шчырае стаяньне ці сядзеньне ў храме прыйсьці да Бога. Я ўжо быў на паўшляху, паверыўшы розумам у дзіўную гармонію створанага Сьвету, якой не магла даць ніякая дарвінская эвалюцыя, аднак сваёй тэафаніі, каб паверыць, што гэтаму навышняму Лёгасу падуладны і наш штодзень, я не прычакаў. Гадоў да трыццаці я быў, такім чынам, чыстым дэістам. Пазьней я пачаў назіраць і пастфактум прыпамінаць даволі цікавыя невытлумачальныя зьявы, якія спрыялі мне выходзіць з абсурдных негарманічных жыцьцёвых абставінаў. Я сам як бы не прыкладаў асаблівых намаганьняў, аднак усё складалася як спэцыяльна для мяне. Пра гэта больш падрабязна напішу ў заключнай частцы нарысаў.

Як кожны мой сучасьнік, што жыў у спрэс «пераходны пэрыяд» ад нечага да нечага, я прыглядаўся да розных рэлігіяў, але, будучы некатэхізаваным, быў вельмі залежны ад уласных уражаньняў храмавай службы, амаль як тое апісана ў Нестаравай хроніцы. Гэта застаецца і па сёньняшні дзень.



Вось, напрыклад, адно моцнае ўражаньне зь вельмі дарослага жыцьця. Нядзеля, Вялікдзень. Еду з цэнтру гораду трамваем у Серабранку адведаць унукаў. На прыпынку каля Вайсковых могілак, дзе царква Сьвятога Аляксандра Неўскага, у трамвай пад рукі ўводзяць амаль непрытомную жанчыну, сяк-так уладкоўваюць сесьці. Перапыхнула кабета, адсоплася, загаварыла з суседкай: «А мая ж ты дачушка, я ж гадзіны дзьве на службе прастаяла, там жа дыхаць няма чым. Ні прысесьці, ні павярнуцца...» Людзі рэагуюць па-рознаму. Мне мільгае мінорным ерогліфам незваротнасьць часу: 1994 год, апошнія тыдні майго амбасадарства ў Нямеччыне. Разам з жонкай блукаем па вулках перадкаляднага Мюнхэну. З намі супрацоўніца Беларускай рэдакцыі Радыё Свабода Ларыса Верас. У Мюнхэне нетыпова маразяна: градусаў дзесяць-дванаццаць, дый вільготнасьць немалая. Заходзім у касьцёл — *Frauenkirche am Marienplatz*. Ёсьць вольныя месцы. Сядаем. Лавы пакрытыя мяккім аксамітам і неяк паштукарску зь сярэдзіны ацяпляюцца. Зямны рай... Арганы, Бах, бясконцая глыбіня сьпічастага неба вабяць увысь, у вечнае. Шчасьлівая гармонія зямнога і нябеснага... Акурат выходзіць, калі іранічна пераасэнсаваць Аўгсбурскі рэлігійны мір: *cuius regio, eius religio*.

Раскоша інтэр'ераў праваслаўных храмаў і замучаныя ад шматгадзіннага стаяньня бабулі ў хусьцінках — нешта ненатуральнае для мяне. Я не магу адэкватна ўспрымаць адбудаваны храм Хрыста-Збаўцы ў Маскве. Асьляпляльная

пазалота пры ўключаным асьвятленьні, бязьмерная раскоша. Да таго ж, будучы аднойчы камандзіраваным у Маскву для працы ў патэнтных фондах сталіцы, я больш як месяц штодня купаўся ў басэйне «Масква» ў душнае лета 1970 году, калі гарэлі тарфяныя Кашыра і Шатура. Басэйн быў на месцы старога ўзарванага храму. Уся Масква была прапахлая тарфяным гарам, вада ў басэйне сьмярдзела потам і яшчэ шмат чым. У Астанкінскім стаўку было яшчэ горш. Мне здаецца ўвесь час, што храм штучна зроблены, стаіць на апаганеным месцы і зьдзекліва багаты. Асаблівае фарысэйства мне бачыцца ў храме, калі туды прыходзяць патрыярх Аляксій, алігарх Лужкоў ды «найрахманейшы хрысьціянін» Уладзімер Пуцін — усе трое абсалютна не першахрысьціяне, такая тройца цэзарапапізму. Ва ўсім, пэўна, вінаватае маё беднае галоднае дзяцінства. Нават у бяднейшых менскіх цэрквах мне згадваецца Леў Талстой: «*Царственное великолепие православной церкви затмило благодать её откровений*».

## Паміж сыстэмай і мэтафарамі

Прайсьці другую частку шляху свайго духовага вызваленьня і пазбавіцца ад дэізму мне не дае мой псыхічны склад: хочацца ўсё зьвесьці ў сыстэму. А сыстэмы ніяк не атрымліваецца. Дагматы і лёгіка ведаў ніяк не сумяшчаюцца. Вось чытаю папскі камэнтар да катэхізнага кампэндыюму 2006 году. Шлюб прызнаецца адным зь сямі сакрамэнтаў, таму скасаваньне яго забароненае. Аднак у выключных выпадках шлюб можа быць скасаваны пры ўмове, што каталіцкі суд у справах шлюбу канстатуе, што



гэты шлюб ніколі не існаваў. Гумавая лёгіка. Вось наш беларускі хрысьціянскі мітрапаліт у найлепшых традыцыях расейскага цэзарапапізму бласлаўляе прэзыдэнта пры інаўгурацыі на новы тэрмін кампіляванай цытатай са Старога Запавету, дзе імплікаваны дахрысьціянскі прынцып «вока за вока, зуб за зуб». Чым ня прынцып «прамой тэалёгіі» рэлігійных экстрэмістаў? Гляджу дакумэнтальны фільм, зьняты на Сьвятой Зямлі ў дзень Уваскрошаньня Хрыстовага. Вось сьвятыя айцы каля гроту здрады, каля Гефсыманскага саду, на крыжовым шляху з чатырнаццацьцю прыпынкамі... Вось адзін пілігрым ліжа камень апошняга памазаньня, другі насоўкай зьбірае з каменя «рэшткі вечнага алею», трэці, ужо вельмі немалады, нясе на плячах арандаваны крыж натуральнага памеру па Вія Даляроса, чакаючы на скрыжаваньні, пакуль загарыцца зялёнае сьвятло. Крыж мае на сваім даўжэйшым канцы гумавыя колцы, але пілігрым нясе яго, выбіваючыся з апошніх сілаў... Потым камэра апэратара спыняецца на «апошніх адбітках ступакоў» Хрыста... Чытаю ў інтэрнэце лекцыю рэктара Гумбальтавага ўнівэрсытэту Крыстофа Маркшыса, усясьветна вядомага спэцыяліста ў патрыстыцы і біблійных старажытнасьцях: «Той Ерусалім, які бачыў Хрыста, ляжыць у нас пад нагамі на глыбіні 4—5 мэтраў. Пад намі друз двух тысячагодзьдзяў рухомай гісторыі — парэшткі рымлянаў, пэрсаў, мамэлюкаў, крыжакаў і брытанцаў... Рэальна з таго часу захаваліся толькі руіны некалькіх муроў, каменных склепаў для нябожчыкаў, лесьвіц, падземных сасудаў для збору вады і дзьве руіны ад збудаваньняў тагачаснага «кварталу вілаў»...

Вось, сабе думаю, як бы гэта выратаваць Бога ад некаторых ня вельмі разумных «пасярэднікаў» зь ліку царкоўных дзеячаў? Пры нашай беларускай прыслужніцкай царкве ды ніякай тэалёгіі ідэя адказнасьці кожнага чалавека і чалавецтва за будучыню нашай цывілізацыі, якую нясуць Дэкалёг і Апакаліпсіс, падобна, можа вырадзіцца ў пачварную прафанацыю ня толькі ў прысабечанай уладай царкве, але і сярод інтэлігенцыі дэмакратычнай арыентацыі. Вось Павал Севярынец абяцае вызваліць праз хрысьціянства ня толькі Беларусь, але Расею і Эўропу...

Можа, мне не шанцуе, але, колькі помню сябе, амаль заўсёды мне было ня вельмі камфортна, калі я чуў публічна з вуснаў дэмакратычных палітыкаў імя Бога або спасылку на хрысьціянскія каштоўнасьці. Адно выключэньне было — Зянон Пазьняк. Было адзінства вобразу: слова, чын, пастава. Было нават нешта ідэалягічнае ад апостала Паўлы. Паўла не вітаў апостальскае кармленьне ад багатых «спонсараў», а карміўся з сваёй прафэсіі — быў усё сваё апостальскае жыцьцё шпалершчыкам і, як бы цяпер сказалі, «дызайнэрам намётавых інтэр'ераў». Ён вельмі ашчадна ставіўся да царкоўных ахвяраваньняў, не даваў хабару, а каб выйсьці з-пад арышту падчас апошняга наведаньня Ерусаліму, нават запісаўся ў «гурток жабракоў».

Можа, я занадта датклівы? Але вось уявіце сабе: канец дзевяностых гадоў, Менск, палац «Сукно» на вуліцы Матусевіча, зьезд інтэлігенцыі, з усёй Беларусі сабралася мо' чалавек чатырыста. «Харызматычна» дзеля дабра сабраліся, прыехаўшы за свой кошт і здаўшы



5 тысяч рублёў на абед кожны (казалі, што ніякіх спонсараў больш не было). У фае прадаюцца цікавыя патрыятычныя кнігі. Пачатак. У прэзыдыюме паважаныя людзі: Уладзімер Колас, Аляксей Марачкін... З дынамікаў хрыпла гучыць нацыянальная мэлёдыя. Хвілін дзесяць затрымка. У першых радах залі пачынаецца нейкі рух. Чалавек дзесяць немаладых кабет з КХП БНФ пачынаюць сьпяваць «Магутны Божа». Заля, зразумеўшы, што гэта за сьпевы, устае. Нեяк няёмка. Кабеты пяюць слаба і нячыста. Той-сёй з залі спрабуе падпяваць. Сьпеў закончаны. Зноў зацягнутая паўза. З прэзыдыюму ніхто нічога не гаворыць. Зьлева перад прэзыдыюмам зьяўляецца фігура сьвятара ва ўборах Беларускай аўтакефальнай царквы — айца Леаніда, майго колішняга калегі на пэдынстытуцкай катэдры. Нехта з прэзыдыюму прапануе ўсім памаліцца за Беларусь, паўтараючы ў паўзе словы малітвы за сьвятаром. Айцец Леанід сваім ад прыроды ня вельмі зычным голасам нешта гаворыць, першыя рады нешта паўтараюць. Адчуваю, што большасьць сабраных, як і я, пачуваюць сябе ніякавата. Некаторыя выходзяць з залі... Заля прыходзіць у гарманічны стан толькі пасьля другога ці трэцяга выступоўцы.

Прыёмы харызматычных дэнамінацыяў кшталту «жывой царквы Хрыстовай» у штаце Алабама сярод непасіянарных беларусаў і слаба падрыхтаваных прапаведнікаў — не для нас. Мэгамалітвы на стадыёнах — гэта цэлая сыстэма тэхналягічнага шоў. Нам, беларусам, добра б падышло штодзённае лагоднае чытаньне па тэлебачаньні маральных павучэньняў Гарацыюса, вялікага лірыка і царадворца, які прапа-

ведаваў умеранасьць, мэтазгоднасьць і залатую сярэдзіну — *aurea mediocritas*. Мы б тады хутчэй наблізіліся да Эўропы, бо там прыдумкі геніяў пасьпяхова рэалізуюцца ў жыцьці праз абложную працу сыстэмных, вельмі часта пасрэдных, але шчасьлівых выканаўцаў. Наш шыбалет трэба шукаць і тут.

## Канфірмацыя ў Ротэнбургу

На заканчэньне сваіх нататак пра пошукі навышняга розуму распавяду гісторыю пра беларускага хлопчыка Дзяніса, які цяпер жыве ў Нямеччыне ў невялікім гарадку Ротэнбург-ам-Нэкар, што кілямэтраў за трыццаць ад Штутгарту. Для мяне гэтая гісторыя мае пэўны алегарычны сэнс. Гэта — чужы досьвед, прапушчаны праз сэрца.

Пятнаццаць гадоў таму Дзяніс, ад якога адразу пасьля нараджэньня адмовілася маці, быў узяты з дому дзіцяці ў Менску нямецкай бязьдзетнай сям'ёю, маючы шматлікія дэфэкты здароўя: вывіхі суставаў, глухата ад перадазаваньня антыбіётыкаў, скрыўленьне шыі, дэфармацыя чэрапу і г. д. Я на той час быў старшынём камісіі Вярхоўнага Савету БССР па замежных справах, а пазьней — першым амбасадарам РБ у Нямеччыне. Склалася так, што я непасрэдна дачыніўся да лёсу хлопчыка: пры адсутнасьці тады закону пра ўсынаўленьне я фактычна на практыцы апекаваўся адным зь першых выпадкаў з замежнымі бацькамі. Сытуацыя ўскладнялася яшчэ тым, што дзіця было вельмі хворае. Пазьней ужо як амбасадар я быў куратарам прэцэдэнту паводле сваіх абавязкаў. Вось, уласна, перадгісторыя.

Бог ды царква пачаліся для мяне тут з таго,



што маці Дзяніса і яе грамадзянскі муж былі, паводле словаў загадчыцы дому дзіцяці, людзі ўцаркоўленыя. Да таго ж бацька хлопчыка быў мастак і нават маляваў на продаж іконы. Калі мы немцам падбіралі дзіця (можна было толькі хворае), мне чамусьці так стала шкада гэтага хлопчыка, што, як мне здаецца, толькі дзякуючы майму пасярэдніцтву (баюся сказаць — харызьме) быў зроблены менавіта такі выбар. Быў яшчэ аб'ектыўны плюс: хлопчыку не было і году. Такіх дзяцей бяруць ахвотна.

Гады за два ў Нямеччыне Дзяніс цудам і не без дапамогі нямецкіх лекараў, як бы сказалі ў нас у вёсцы, «выкачаўся» з сваіх хваробаў і стаў Дэнісам Краўзэ, а пасьля канфірмацыі ў эвангелічнай царкве 19 сакавіка 2006 году (у дзень апошніх нашых прэзыдэнцкіх выбараў) набыў яшчэ дадатковае імя Пэтэр. Цяпер ён — Дэніс Пэтэр Краўзэ. Ідэю даць яму такі «мідлнэйм» падаў эвангелічны пастар, які быў на працягу амаль двух гадоў катэхізатарам Дэніса і зь якім я некалькі разоў сустракаўся, прыяжджаючы амбасадарам адведаць тады яшчэ грамадзяніна Беларусі Дзяніса. У немцаў ёсьць апостал Пэтрус, Пэтэрам зваўся дзед па лініі цяперашняга бацькі, дый я, так бы мовіць, дабрадзей зь Менску, завуся Пётра. Набралася шмат добрых супадзеньняў. Сьвятар вырашыў, што менавіта я павінен быць «далёкім» хросным бацькам. Месяцы за два да канфірмацыі я атрымаў запрашэньне ад бацькоў Дэніса і ад эвангелічнай царквы Ротэнбургу быць ганаровым госьцем на канфірмацыі — як былы першы амбасадар і «добры дух» у лёсе хлопчыка.

Пра тую канфірмацыю і падзеі вакол яе я б і хацеў расказаць. Сабраўшы каля сотні подпісаў

за Мілінкевіча і не галасаваўшы датэрмінова, я загадзя за тры дні прыляцеў у Штутгарт, як прасілі пра гэта мае нямецкія сябры.

Я папрасіў сьвятара дазволіць мне папрысутнічаць на «генэральнай рэпэтыцыі» канфірмацыі (заключны занятак-гутарка сьвятара зь дзецьмі і бацькамі). На канфірмацыі, дзе можа быць любы прыхаджанін, а ня толькі блізкія, дзецям можна з залі задаваць пытаньні. Сьвятар на «рэпэтыцыі» папрасіў прысутных дарослых пагутарыць зь дзецьмі, запытацца што-небудзь з катэхезы. Дзеці былі абсалютна свабодныя і не хваляваліся. Нас, дарослых, было чалавек дзесяць. Канфірмавалася восем хлопчыкаў, сярод іх адзін этыёп і адзін грэк. Этыёп быў абсалютна цемнаскуры і ў белым гарнітуры. Грэк — з грэцкім прозьвішчам і тыповай зьнешнасьцю. Глядзелася, як у біблійным сюжэце. Ахвотнікаў задаваць пытаньні не было, і сьвятар зьвярнуўся да мяне, сказаўшы, хто я такі.

Я сказаў, што хачу задаць пытаньне, на якое я сам як некатэхізаваны чалавек ня ведаю адказу (я трохі какетнічаў). Заля і дзеці ажывіліся. Я сапраўды задаў пытаньне, на якое некаторыя дарослыя вернікі не заўсёды могуць складна адказаць. Я запытаўся пра другое прышэсьце: як жа быць? Першахрысьціяне ўжо рыхтаваліся да Апакаліпсісу, прадавалі маёмасьць, а Хрыстос і па сёньня не прыйшоў... Сьвятар хацеў пачуць добраахвотнікаў. На маё зьдзіўленьне, адказваць выклікаўся грэк («элін»!). Тут пачалася для мяне галоўная алегорыя. Хлопчык гаварыў на бліскучай нямецкай мове (бацька — грэк-эмігрант, маці — з Шры-Лянкі) і сказаў прыкладна такое: першахрысьціяне былі наіўныя людзі, яны разумелі кожнае слова Хрыста амаль літаральна. Дый ён сам гаварыў для іх простымі паказкамі, каб яны зразумелі. Той час у разуменьні Лёгасу — адрозьніваецца ад нашага. Сёньня ніхто, акрамя Бога, ня ведае, калі наступіць Вялікі дзень. Калі б людзі гэта ведалі, жыцьцё б страціла сэнс і не было б неабходнасьці імкнуцца быць дасканалым у Богу. Я быў бясконца зьдзіўлены.



Асабліва мяне ўразіў акцэнт у адказе пра тое, што без чаканьня Апакаліпсісу жыцьцё чалавека страціла б сэнс. Гэта ж — амаль цэнтральнае зьвяно ў разуменьні пераходу чалавецтва ад антычнасьці да хрысьціянства! («Круг» пераходзіць у «стралу-сьпіраль».) Пазьней, седзячы за сьвяточным сталом у бацькоў Дэніса (яны — людзі ня бедныя: уласны дом каштуе каля 1 мільёна эўра і дзялка пад дом — 300 тысяч) побач са сьвятаром, я запытаўся, як ён працуе зь дзецьмі. Той сказаў, што ў пытаньнях катэхізацыі лепш пачувае сябе на грунце рацыянальнага параўнальнага гістарызму і з улікам гэтага набірае групу (высокая адукацыя бацькоў). Ёсьць іншы сьвятар, які працуе зь дзецьмі зь менш адукаваных сямей. Той часьцей можа апэляваць да «містычнага» пачатку. Хаця тут няма выразнай мяжы. Сам ён шмат выкарыстоўвае царкоўнай музыкі, але ў самай рознай палітры: ад Баха да амэрыканскага хрысьціянскага джазу, у залежнасьці ад сытуацыі. На ўроках мэдытацыі — Бах, а на ўроку «практычнай харызматыкі» (напрыклад, прыборка тэрыторыі) — джаз. Дарэчы, канфірмацыя пачыналася пад граньне царкоўнага ансамблю электроннай музыкі, які выконваў на ангельскай мове «When Israel was in Egypt’s Land». На

лаўках для вернікаў былі раскладзеныя тэксты з нотамі. Ахвочыя падпявалі.

Мяне ўразіла агульная атмасфэра адкрытасьці і свабоды паводзінаў усіх прысутных і ў царкве, і ў доме ў Дэнісавага бацькі. Людзі ведалі, што рабіць, як трымацца. Ніхто ня быў занадта набожны, але ніхто не апусьціўся да царкоўных анэкдотаў-жартаў. А тэма царквы, веры, імігрантаў была на працягу двух дзён сьвяткаваньня (зьехаліся сваякі з усёй Нямеччыны) бадай самай галоўнай. І што самае цікавае: тэма нацыі, царквы, іншаземцаў была вытрыманая ў самых талерантных танах.

Прызнаюся шчыра: на пачатку застольнай бяседы, калі закранулі тэму мусульманізацыі Эўропы, я ледзь не папаўся на сваім «правым радыкалізьме», засвоеным з рэспэктабэльных рэгулярна чытаных «Süddeutsche Zeitung» (самая тыражная газэта ФРГ з каталіцкай Баварыі), «Welt», «Zeit», «Spiegel». Аказалася, што сабраныя тут разнамасныя бюргеры не падзяляюць алярмісцкіх настрояў салідных газэтаў, бо лічаць іх занадта палітызаванымі. Магчыма, прычына была ў тым, што Штутгарт і наваколле — адна з самых непраблемных мясьцінаў Нямеччыны, а гаспадар — амэрыканізаваны пасьпяховы бізнэсмэн. Беспрацоўных тут няшмат, свабодныя месцы традыцыйна запаўняюцца немцамі з Усходу, якія доўгія гады цягнуцца за першымі абозамі выгнаньнікаў з Польшчы ды Чэхіі. Мусульманскіх гета і «паралельных грамадзтваў» тут няма. Замежнікі пасьпяхова адаптуюцца, засвойваюць нямецкую мову і — што вельмі нечакана! — прымаюць эвангелічную веру. Гэта ўсё расказваў сьвятар, які сядзеў за сталом. Магчыма, гэта ўплыў царквы, якая шчыльна займаецца імігрантамі. Царква дапамагае інтэгравацца. У гэтым я меў магчымасьць пераканацца, паражыўшы сустрэчы з старшаклясьнікамі ў мясцовых гімназіях. Вось і выходзіць: Бог агульны, і «эліны» становяцца немцамі. Няма зьмяшанага «мультыкультуралізму».



Гаспадар дому, цяпер бацька нашага беларускага Дзяніса, буйны мэнэджар амэрыканскай кампутарнай фірмы «Hewlett Packard», на якую ён адпрацаваў больш за дваццаць гадоў, — ва ўсім надзвычай адкрыты чалавек. Ён не адзін год пражыў у ЗША, «настоены» на пратэстанцкай этыцы працы. Ягоны прынцып: ня посьпех любой цаной і хутка, а абложная, разьлічаная на доўгі час, працоўная аскеза. Ён лічыць, што праблемы палітыкі, нацыі, царквы ўзьнікаюць тады, калі дрэнна працуе эканоміка, калі няма грошай на інтэграцыю імігрантаў, калі сама нацыя ня мае чаго прапанаваць з матэрыяльнай і духоўнай культуры наежджым людзям. Як чалавек лютэранскай традыцыі (хаця ён у царкву ходзіць рэдка, і рашэньне аб канфірмацыі Дэніс прымаў сам) ён за рацыянальны выклад асноваў розных рэлігіяў у школе. Паводле парады бацькі Дэніс зь сёмай клясы запісаўся на рэлігійны спэцкурс, зь якога плаўна перайшоў у групу эвангелічнай катэхезы.

Думаючы пра далейшы лёс беларускага хлопчыка Дзяніса, які стаў эўрапейцам Дэнісам, і ягоных бацькоў і сваякоў, прыходжу да высновы, што свой посьпех і шчасьце ён знойдзе праз штодзённую актыўнасьць і духоўны рацыяналізм.

Дапісваючы гэтыя радкі, я выйшаў у інтэр-

нэт паглядзець электронную пошту. Сярод агляду публікацыяў зьвярнуў увагу на анатацыю з назвай *«Более 250 тысяч человек поклонилось деснице Спиридона Тримифунтского»*. Даведаўся, што на паклон да правіцы грэцкага цудадзея, прывезенай з вострава Корфу ў Маскву, за тры дні ў Храме Хрыста-Збаўцы прыйшлі 300 тысяч, а ў Данілаў манастыр за два дні — ужо больш за 250 тысяч пілігрымаў. Людзі стаяць у сярэднім дванаццаць гадзін. Сьвятыя рэліквы Сьпірыдона дапамагаюць бедным, асабліва бяздомным і тым, хто жыве ў цеснаце. Вынікі ўжо ёсьць. Намесьнік манастыра (так па-расейску) архімандрыт Аляксій паведаміў журналістам, што адна жанчына, пакланіўшыся сьвятому Сьпірыдону, дома адразу ж атрымала званок з муніцыпальнай службы, што надышла ейная льготная чарга на атрыманьне кватэры!

Вось думаю сабе, як па-рознаму вырашаюць хрысьціяне кватэрнае пытаньне ў Маскве і ў невялічкім гарадку пад Штутгартам. Людзі зробленыя з аднолькавага мяса і касьцей. Толькі сыстэма жыцьця ў Нямеччыне схіляе вернікаў да працоўнай аскезы, а ў новакапіталістычнай Маскве сотні тысячаў людзей усё яшчэ спадзяюцца на цуд. Дэнісаў бацька, каб зарабіць свой мільён, правёў у самалётах паміж Чыкага і Ганконгам агулам больш за два месяцы. Цяпер перад адыходам на пэнсію атрымаў ад фірмы год (!) перадпэнсійнага адпачынку з поўным захаваньнем сярэдняй зарплаты.

Пэўна, усё ж палітыкам трэба шукаць шляхі, як зьмяніць сыстэму жыцьця і гаспадараньня, але не праз харызматычную катэхізацыю насельніцтва на плошчах. Ня факт, што маскоўскія бабкі, якія стаялі дванаццаць гадзін у чарзе, каб пакланіцца сьвятым рэліквам, прагаласавалі на прэзыдэнцкіх выбарах 2008 году за кандыдата, які забясьпечыць ім годнае жыцьцё.



Эўрапейскі чалавек ня ведае нічога лепшага за габрэйскі дэкалёг і новазапаветны Апакаліпсіс. Кожны час мудрыя тэксты прачытвае па-свойму. Мы ня ведаем адказу, але мы шукаем. Здаецца, што Хрыстос таксама сказаў: я не апірышча на шляху, я — шлях.

## Бог афрыканскі і эйнштэйнаўскі

З таго, што я чытаў пра іншыя рэлігіі і веравао ваньні, мяне асабліва ўразіў звычай афрыканскага племені, якое практыкуе культ духу Мбоны. Яго добра апісаў амэрыканскі біёляг Дэвід Слоўн Уілсан, які ў сваім творы «Храм Дарвіна» аналізуе трыццаць пяць рэлігійных супольнасьцяў з гледзішча суадносінаў эвалюцыі рэлігіі і грамадзтва. Ягоны погляд на рэлігію як на функцыю для арганізацыі культурнай эвалюцыі асобных групаў справядлівы для эўрапейца толькі як частка парадыгмы, аднак як алегорыя для нашага беларускага выпадку вельмі пасуе.

Дык вось, жыхары аднаго афрыканскага племені ўсё жыцьцё будуюць капішча для духу Мбоны, але з падручных матэрыялаў, якія хутка разбураюцца, хаця вакол дастаткова больш трывалага будаўнічага матэрыялу. Цывілізаваныя місіянэры прапанавалі ім дапамагчы збудаваць храм з каменю, а яны адмовіліся, растлумачыўшы, што кожны новы будынак сьвяцілішча яны пачынаюць будаваць толькі тады, калі вернікі заканчваюць свае спрэчкі па што-

дзённых праблемах уладкаваньня жыцьця ў племені.

Уласна кажучы, жыхары нецывілізаванага ў нашым разуменьні грамадзтва прыйшлі да разуменьня сутнасьці рэлігіі: вялікія рэлігійныя ісьціны не зьяўляюцца тэарэтычнымі пастулятамі ў сэнсе лёгікі. Міт адпавядае прагматычнаму разуменьню ісьціны. Ён арыентуе нас на магчымасьць дзеяньня. З вуснаў Хрыста паводле Мацея і Яна цывілізаваныя вернікі чуюць зь дзяцінства: па пладах пазнаеце ісьціну. Калі застанецеся ў слове Маім, то спазнаеце праўду, і праўда зробіць вас свабоднымі. Людзям належыць судзіць і пазнаваць рэлігіі паводле тых пладоў, якія яны прыносяць. У гэтым сэнсе жыхары афрыканскага племені бліжэйшыя да разуменьня Боскага, чым нобэлеўскія ляўрэаты-прыродазнаўцы, якія адчулі піетэт перад дзіўна ўладкаваным парадкам прыроды і паверылі ў Творцу. Эйнштэйн прызнаваў «Бога Сьпінозы» — панлягізм і матэматычна-філязофскую гарманічную карціну сьвету. Гэтая новая тэалёгія захапляе сваёй гармоніяй, аднак усё роўна пакідае адкрытым пытаньне пра тыя «плады», якія будуць выгадаваныя ва ўлоньні гарманічна разумелых Прыроды і Сьвету.

# Першыя жарсьці, рамантычныя прыстанкі і сямейная гавань

*Ва ўлоньні прыроднага гендэрнага выхаваньня. — Закаханы кадэцкай любоўю. — Капітан Ш-ва — мая «каралева Марго». — Салодкае расчараваньне. — Канфузы эпісталярнага жанру. — Самадзейная багема: я — прынц, разбойнік і падрэ. — Хто сьпявае пра цяжкі лёс нэграў у Паўднёвай Караліне? — мая будучая жонка. — Урокі сямейнага жыцьця. — Наказ жанчынам: будзьце самадастатковыя.*

## Ва ўлоньні прыроднага

Гэты разьдзел — пра грэх, спакусы і выратаваньне. Першае каханьне ў тым XX стагодзьдзі прыходзіла да нас, бадай, так, як і цяпер. Толькі мы былі не такія раньнія. Дзяўчаты сьпелі гадам к васямнаццаці, і большасьць хлопцаў ішлі ў войска зь некранутай цнатлівасьцю. Пасьля вясельля абое маладыя ўпершыню зьведвалі сапраўдныя любошчы. Былі, канечне, і выключэньні.

Разам з тым — я гавару пра вёску — тайна нараджэньня, жыцьця і сьмерці не была для нас тайнай. Мы бачылі зблізу штодня тое, што дзеці сёньня здалёку глядзяць на канале «Плянэта жывёлаў». Мы дапамагалі дарослым вадзіць карову да калгаснага быка, насілі цёплую ваду ў хлеў, калі цялілася карова, бачылі, як «зайграецца» курыца, каб яйкі былі жывыя. У выніку гэтага — дагэтуль ня ведаю, добра гэта ці дрэнна — я працэс нараджэньня новага жыцьця, прыродныя інстынкты людзей успрымаў

увесь час абсалютна асобна ад духовага існаваньня.

Пішу гэта без какецтва і мужчынскага цынізму, бо не лічу, што жанчыны павінны адчуваць неяк інакш. Мне і цяпер здаецца дзіўным, як можна сумнявацца ў тым, што пры сапраўдным чалавечым каханьні аддаецца ня цела, а дух. Дух можа быць аддадзены толькі блізкаму чалавеку. Зь ніжэйшым па духу сапраўдная здрада блізкаму чалавеку немагчымая. Арыстакратычнае выхаваньне ў антычнасьці і ў Новы час разьдзяляла выразна гэтыя паняцьці. Звычайная «пансэксуальнасьць» чалавека, як вайна, рэлігія і навука (жаданьне спасьцігаць новае) — непазьбежныя спадарожнікі і передумовы ўсялякай эвалюцыі.

У свае малыя гады я нават немаўлят успрымаў не як чалавекаў, а як кацянят ці сабачанят. У вайну дзяцей нараджалася мала, таму мы, даваенныя дзеці, як нейкі цуд успрынялі зьяўленьне ў мірны час у нашай вёсцы першых немаўлят — Тамарачкі і Віцечкі. Усе суседзі ведалі, як Віцечка трымае галоўку, на якім месяцы Томачка пачала хадзіць, што «сі-та-та!» значыць «пагушкай», а «асі-ту!» — «пайшлі на прагулянку». Калі Томачка і Віцечка падрасьлі, мы нават выкарыстоўвалі іх як лялек, калі клалі адно на аднаго пад калгасным сьвірнам, гуляючы ў тату і маму. Рабілася гэта ўсё неяк жыцьцёва натуральна, як гульня ў вайну ў кустах каля ракі, калі мы «палонных» прывязвалі лазой да чорнай алешыны і травой затыкалі рот. Пры натуральным бегу рэчаў біялягічныя веды не будзілі інстынктаў і пэрвэрзіяў, што ў век тэлебачаньня ды інтэрнэту часам назіраецца сярод дзяцей у вельмі раньнім узросьце.



## Бурсацкія жарсьці амаль па Фройду

Калі мне было амаль трынаццаць гадоў, паводле пашпарту адзінаццаць, як сына загінулага партызана мяне прынялі ў сувораўскую вучэльню ў Менск. Ніхто ня меў ніякіх думак пра вайсковую кар'еру. Ведалі, што там накормяць і апрануць, а тады, глядзі, можа, дзіця і ў людзі выйдзе. Абы ў горад, абы з калгасу. Я быў дома чацьвёрты, самы меншы бязбацькавіч. У МнСВУ, такую абрэвіятуру мы насілі на пагонах, мяне апранулі ў чорныя ваўняныя нагавіцы зь лямпасамі і добра адкармілі. Аднак тут перапынілася вольная вэгетацыя на ўлоньні прыроды. Пачаўся сыстэматычны адукацыйны дрыл, які паводле законаў эвалюцыі патрабаваў і паралельнага сэксуальнага разьвіцьця. Фізкультура, добрая ежа паводле 8-й афіцэрскай раскладкі, суворы парадак дня рабілі сваю справу: колішнія зануджалыя рахітыкі пераўтварыліся ў маладых жарэбчыкаў, якіх загналі ў стадолу.

Часта здаралася тое, пра што нямала напісана ва ўспамінах заходніх аўтараў, якія выхоўваліся ў закрытых школьных установах-бурсах, — калектыўныя эмацыйныя эпідэміі. У савецкай літаратуры гэтую зьяву выдатна апісала Марыета Шагінян, згадваючы гісторыю з сваёй раньняй глухатой. У нашым выпадку выхаванцы старэйшых ротаў з розных памкненьняў (часта з мэтай адпомсьціць нядобрым афіцэрам-выхавальнікам) навучалі малодшых сувораўцаў розным дарослым хітрыкам, пра якія мы, вясковыя гарманічныя дзеці, ніколі і ня думалі. Даходзіла да таго, што мы заставаліся эмацыйна ўзрушаныя нават на ўроках, асабліва калі іх праводзілі выкладчыкі-жанчы-

ны. Абсалютная большасьць настаўнікаў былі ўжо немаладыя афіцэры — маёры ды падпалкоўнікі. Настаўніц з пагонамі было ўсяго дзьве. Астатнія хадзілі ў цывільным.

Калі я быў у 3-й роце (гэта адпавядала дзявятай клясе), мне споўнілася шаснаццаць гадоў. І вось здарылася бяда: я закахаўся ў настаўніцу замежных моваў капітана Ш-ву. У яе было рамантычнае для майго вуха імя. Буду называць яе Эмілія. Як выдатніку вучобы яшчэ ў восьмай клясе на ўрачыстым сходзе мне падаравалі з афіцыйным надпісам і пячаткай вучэльні «Детство. В людях. Мои университеты» Максіма Горкага, адкуль я вынес мрою дзіцячай рамантычнай закаханасьці ў дарослую жанчыну, і капітан Ш-ва стала маёй «каралевай Марго». Я ня ведаю, колькі ёй тады было гадоў. Магчыма, трыццаць, як маёй сястры Лісавеце. Не сказаць, што яна была вельмі прыгожая. Вастраватыя рысы твару, як у лісіцы, неяк кантраставалі з пульхнымі вуснамі і жывымі круглымі грудзямі, што вырываліся з форменнага кіцелю. Калі яна была ў гімнасьцёрцы, другі зьнізу гузік часта расшпіляўся. Ловячы на сабе нашыя погляды, яна раз-пораз зашпільвала непаслухмяны гузік, але, калі яна нешта пісала на дошцы, гузік зноў вырываўся зь пятлі. Гаварылі пра яе рознае. Казалі, што ў яе закаханы нават наш генэрал, начальнік вучэльні, герой Савецкага Саюзу. Я нічога не хацеў чуць. Яна была мая Марго.

У адрозьненьне ад вытанчанай і строгай горкаўскай гераіні, якая штораніцы, у вузкіх жакейскіх рэйтузах, выводзіла ў двор каня і пяшчотна кранала ягоную шыю рукой у белай пальчатцы (так мне помнілася), мая пасія ўтульна напаўняла сваім целам паўмяккае крэсла, што стаяла каля настаўніцкага стала, час ад часу адхілялася сьпінай да дошкі, так што крэсла станавілася толькі на дзьве ножкі. Пры гэтым вузкаватая форменная спадніца спакваля падымалася вышэй за калені, і тыя, хто сядзеў наперадзе, добра бачылі прыгожы працяг трошкі расстаўленых ног у серабрыста-сталёвых панчохах. На ўроках нямецкай мовы ў нас не было пастаянных месцаў, бо ўзвод дзялілі на дзьве часткі. Усе імкнуліся сесьці на першыя месцы, бліжэй да настаўніцы. Я ненавідзеў прымітыўных пустацікаўцаў, што аглядалі ейныя ногі. Я больш п’янеў ад тонкага паху парфумы, які нагадваў водар з амэрыканскіх пасылак, якія мы атрымлівалі пасьля вайны ад Чырвонага Крыжа, і ня мог адарваць позірку ад рук маёй каралевы. У яе былі вельмі прыгожыя доўгія пальцы. Яна мела звычку пазногцямі адной рукі адлушчваць ляк на пазногцях другой. Так мая маці чысьціла рыбу. Ад гэтага відовішча я амаль паміраў. Мне хацелася прытуліцца да яе, як да маёй каралевы і як да маці. У творчай працы «Чалавек, які мне падабаецца», я прызнаўся ёй па-нямецку ў каханьні, сплягіяціўшы нешта ў Гайнэ. У гэтай працы я атрымаў больш падкрэсьліваньняў, чым звычайна, і першую тройку па нямецкай мове ў жыцьці. Мне здаецца, што тады сшытак незвычайна моцна пах парфумай.

Аднак пасьля гэтага, як мне здавалася, настаўніца пачала дражніць мяне, калі падыходзіла да парты і нахілялася так, што ейныя валасы казыталі маю шчаку, або калі пасылала мяне ў кабінэт замежнай мовы, каб я прынёс зь ейнага стала дамскі рыдыкюльчык, дзе

акрамя набору прыгожых мініятурных алоўкаў ляжалі парфума і памады. Мне здавалася, што яна забывала гэтую рэч знарок, каб я, як сабака, прынёс яе. Але мне падабалася быць сабакам. Ростам і зьнешнасьцю я быў так сабе. Пазьней жанчыны казалі, што ў мяне ёсьць нешта такое ў вачах. Але тады я нічога такога пра свае вочы ня ведаў.

Я быў безумоўна найлепшы па нямецкай мове. Каб зьвярнуць на сябе ўвагу, вывучваў на памяць цэлыя старонкі арыгінальных тэкстаў. На жаль, капітан Ш-ва не была нашай адзінай настаўніцай, а вяла толькі так званае хатняе чытаньне і замяняла пры нагодзе асноўнага выкладчыка — маёра Язэпа Семяжона, ужо тады вядомага беларускага перакладчыка Бэрнза і Шэксьпіра. Маё каханьне працягвалася і ў дзясятай клясе. Каб бачыць настаўніцу часьцей, я пачаў наведваць гурток ангельскай мовы, які яна вяла, і атрымаў дазвол дапамагаць днявальным штодня прыбіраць кабінэт замежных моваў у час пасьляабедзеннага сну (днём спаць я не любіў). Кабінэт знаходзіўся адным паверхам вышэй у ціхім левым флігелі і быў для мяне своеасаблівай аазай, дзе можна было схавацца ад гнятлівай людзкой населенасьці. Я націраў паркет, запісваў новыя паступленьні ў тоўстую амбарную кнігу, склейваў ацэтонам парваную магнітную стужку — зрабіўся тут у кабінэце як бы прадметам мэблі. На мяне ўжо ніхто не зьвяртаў увагі. Жанчыны-выкладчыцы пры мне, шаснаццацігадовым дзецюку, нават падцягвалі панчохі, залупліваючы ладна спадніцы.

У тым кабінэце я зьведаў першы боль юнацкага расчараваньня і, як кафкіянскі герой, не-



знаёмае салодкае пачуцьцё быць прыніжаным і растаптаным. Злым дэманам стаў капітан А-ка, таксама выкладчык французскай і ангельскай моваў, амаль двухмэтровы прыгажун, што вазіў выкладчыц па чарзе катацца на сваёй тады яшчэ рэдкай імпартнай мадэлі, якую ён прывёз, як казалі, з Ірану, дзе быў зь нейкай сакрэтнай місіяй. А мая каханая Эмілія стала злой Валькірыяй.

Так, аднойчы ціха, як злодзей, стаю я падчас «мёртвай гадзіны», калі ўся рота сьпіць пасьля абеду, на калідоры каля кабінэту замежных моваў, каб чарговы раз убачыць сваю Марго. У той дзень была ейная чарга дзяжурыць, калі ўсе выкладчыкі ўжо пакідалі, як было прынята гаварыць, *«расположение роты»*. У мяне на адной назе чаравік, на другой — шкарпэтка і шчотка для націраньня паркету. Дзьверы трошкі адчыненыя, на мой лёгкі стук ніхто не рэагуе. Расчараваны, што Яе там няма, усё ж заходжу. Вялікі кабінэт пусты, толькі чуваць прыглушаная гамонка і музыка ў кабіне гуказапісу, спэцыяльна адгароджаным пакойчыку з зашклёным акенцам і шчыльнымі дзьвярыма. Я пачынаю рассоўваць крэслы, што стаяць вакол вялікага стала. На грукат крэслаў адчыняюцца дзьверы кабіны, і адтуль выходзіць мая Марго: расшпілены кіцель, распушчаныя валасы, вусны без памады... Я чую ня толькі звыклы пах парфумы, але і віна. Ад нечаканасьці я хуценька спрабую павярнуцца, аднак раблю гэта вельмі няўклюдна, як кульгавая качка: мне хочацца схаваць свой правы ступак са шкарпэткай, што ўкладзены ў хамут шчоткі (здаецца, што нага голая), і адначасна хуценька выйсьці. Такое можа толькі пры-

сьніцца. Але мая пасія бярэ мяне за плечы, паварочвае тварам да сябе і, дыхаючы мне вінам у твар, кажа: «Ну што ты, мой паж, спужаўся? Ня бачыў сваю капітаншу бяз гальштука?» З кабіны вывальваецца бамбіза капітан А-ка, расчырванелы і разьмяклы, ды кажа вальяжна сваім нізкім прыгожым басам: *«My pussy, kiss and love him! Слабо, што табе — шкада? Я дазваляю. Ты ж казала, што гэты выдатнік у цябе закаханы. Можа зь ім дабяжыш»*. Гэтыя словы, як біблійны мэнэтэкель, я помніў шмат гадоў. Я ведаў, што такое «пусі» (па роце хадзілі непрыстойныя карты), аднак апошняга з «дабяганьнем» я тады не зразумеў... Як у сьне, я падпарадкоўваюся ейным гарачым рукам. Помню толькі мяккія грудзі і вельмі гарачыя расслабленыя вусны, зь якіх яна ліе мне ў рот віно, і ненавісны прыгожы голас бамбізы-капітана, што ўжо ў кабіне аддае нам гіпнатычныя каманды. Пах парфумы, віно і салодкая крыўда душаць мяне, і я невыразна памятаю, як тое ўсё было далей. Помню сябе ўжо спустошаным, на калідоры ў адным чаравіку, правая нага ніжэй за левую, бо без чаравіка. Шчотка, сьведка маёй горкай асалоды, засталася ў кабінэце. Адгэтуль з калідору недзе там, за дзьвярыма, ужо далёка, я чую сьмех у два галасы... Так закончылася маё першае каханьне.

Прайшлі гады, загаіліся раны першага рамантычнага захапленьня, пакінуўшы ў глыбіні псыхікі свой амбівалентны цень. У маёй маладой галаве часам нараджаліся мроі, што я — дзіця злога кону, які штурхае мяне ў абдымкі спакусы і потым уцякае, душачыся сардонічным сьмехам. Пазьней, калі ўжо дарослым я чытаў папулярную літаратуру пра фізіялёгію



і псыхалёгію каханьня, я пасьміхаўся з сваіх юнацкіх вэртэраўскіх пакутаў. З кніжак я даведаўся, што закаханасьць актывізуе тыя самыя ўчасткі мозгу, што і какаін, што на першай ступені закаханасьці, якая можа пачацца з банальнага флірту, адбываецца магутны выкід стрэсавых гармонаў, павышаецца крывяны ціск — адбываецца тое, што цяпер называюць кайфам і драйвам. За ўсё жыцьцё я толькі адзін раз дзеля экспэрымэнту паспрабаваў цыгарэту з марыхуанай. Можа, зельле было няякаснае, ці, можа, зьедзеныя перад гэтым два ладныя шашлыкі зь вінам і каўкаскай зелянінай былі вінаватыя, але ніякай загадкавай асалоды я не адчуў. Кілішак добрага віна, смачная ежа і радасны сьпеў зь сябрамі — асабліва з усьведамленьнем таго, што ты апошнім часам шмат і плённа працаваў, што ў цябе ўсё добра, што ты адчуваеш мускульную радасьць, — былі для мяне найлепшым радасным допінгам. Гэта, пэўна, тое, што эўрапейцы называюць эпікурэйствам. У савецкім лексыконе гэты панятак звужалі часам да простага лянівага сузіраньня, нічога-ня-робленьня і выпіўкі. Выкідаўся самы істотны элемэнт — працоўная аскеза. Узорным эпікурэйцам быў Гётэ, які лічыў, што для доўгага, здаровага і творчага жыцьця трэба няшмат: пяць з паловай дзён абложнай працы на тыдзень, а напрыканцы тыдня — сябры і віно. Пажадана, каб сярод сяброў была тая, якую табе захочацца закахаць у сябе.

### На дзяўчат я глядзеў праз лярнэт...

На сваю будучую жонку я зьвярнуў увагу яшчэ на першым курсе ін'язу. Яна тады была на другім, паступіўшы раней за мяне на год.

Паводле пашпартоў мы раўналеткі, але я са сваёй сувораўскай адзінаццацігодкай адставаў у студэнцтве на год. Звалі яе Валянціна. Тады былі ў модзе дзяўчаты фармату залатога сячэньня, з таліяй, як у Людмілы Гурчанкі з «Карнавальнай ночы», ня вельмі даўгалытыя, з элегантнымі шчыкалаткамі, як у ангельскіх лэдзі, далікатнай косьці бяз вострых ключыцаў, клубы шырэйшыя за плечы (але ня вельмі), брунэткі, лацінаамэрыканскія вусны і тэмпэрамэнт, як у Ляліты Торэс. Пачынаючы ад 161 сантымэтра росту, усё гэта яна мела. Трэба сказаць, што не адзін я лярніраваў гэтае мілае стварэньне. Усю ейную постаць асабліва ўвыдатнівалі мініятурныя пэрлямутравыя ангельскія туфлі-«кляксы» на вельмі высокіх абцасах. Каля яна ішла па калідоры, нават жанчыны паварочвалі галовы на гэтае дзіва. Ін'яз тады быў у асноўным вясковы. Найбольш дагледжаныя і зьнешне кідкія дзяўчаты былі на ангельскім факультэце, дзе вучылася і мая будучая жонка. Яна была дзяўчына гарадзкая. Нарадзілася ў Маскве, вырасла ў Гомелі, дзе пасьля вайны застаўся працаваць ейны бацька. Вось такую, як мне тады здавалася, выдзеліў я яе з натоўпу.

Не раўнуючы Адысэй, голас маёй Сырэны я пачуў на канцэрце мастацкай самадзейнасьці ў старым корпусе цяперашняга Лінгвістычнага ўнівэрсытэту. Яна сьпявала ў дзявоцкім ансамблі ангельскія песьні: белая строгая блюзка, чорная спадніца і салаўіныя ангельскія міжзубныя зычныя «с» і «з». У нямецкай мове такіх няма. Слушна напісаў Бэрнз: *ты сьвісьні — сябе не прымушу чакаць!* Мне чамусьці запомнілася песьня ансамблю пра цяжкую працу нэграў на плянтацыях сьпякотнай Паўднёвай Караліны — такая сьпеўная «Хаціна дзядзькі Тома». Аднак, па праўдзе сказаць, запеўныя строфы яе былі, я б сказаў, даволі бравурныя, а пад радкі з прыпеву *«So early in the morning before the break of day»* увогуле хацелася кінуцца ў скокі. Відаць, усё тлумачыцца разыходжаньнем сэмантыкі нэгрыцянскага і беларускага мэлясу. А можа, гэта была проста маладосьць?

Потым постаць Валянціны часова зьнікла для мяне недзе ў віры студэнцкага жыцьця. Пасьля другога курсу я пераводзіўся ў маскоўскі ін'яз імя Марыса Тарэза, бо ў нас была толькі адна замежная мова, і за год мая неспакойная натура зноў адчула прагу зьменаў. Я ўжо быў залічаны на трэці курс нямецкага аддзяленьня ў Маскве і наведваў амаль месяц занятки ў Новасакольніках, аднак упартая рэктарка В. І. Тур (дарэчы, маці цяперашняга намміністра эканомікі РБ) не дала згоды на перавод, што было тады абавязковай умовай. Матываў было два: у нас таксама ўводзіцца выкладаньне другой замежнай мовы (да гэтага была толькі адна), і другое — мая заява пра перавод — амаральны ўчынак, які сьведчыць пра поўную адсутнасьць пачуцьця меры і ўдзячнасьці з майго боку, бо прынялі мяне ў менскі ін'яз як выключэньне паводле хадайніцтва міністра адукацыі. У наш час такое гучыць дзіўна і па-свойму сымпатычна...

Так што Валянціна Іванаўна Тур, выпускніца ЛДзУ, вучаніца ўсясьветна вядомага скандынавіста Сьцеблін-Каменскага, якая мне чытала курс уводзінаў у мовазнаўства, — фактычна мая фатальная сваццця, калі ня больш. Зье-

хаў бы я ў Маскву, была б у мяне іншая жонка, ня быў бы я тым, чым я ёсьць, не пісаў бы я гэтых нататак. Канечне, у Маскве можна было б стаць алігархам...

## Не кахайце дачку кадэбіста...

Было ў мяне адно рамантычнае захапленьне і на «нямецкім» факультэце, якое скончылася дасадным канфузам. У нашай групе была толькі адна гарадзкая дзяўчына — Т. К. У яе быў прыгожы твар, рукі, яна іграла на клявішных інструмэнтах і сьпявала на канцэртах арыю Леля з опэры Рымскага-Корсакава «Сьнягурка» («Туча со громом говаривала...»). На першым курсе месяцы два я хадзіў у курсанцкай форме: хромавыя боты, афіцэрская гімнасьцёрка і завужаныя галіфэ з «дыяганалі». Такі я быў адзін на факультэце, увесь наспружынены, як мае боты са склыгамі, і да таго ж выдатнік па ўсіх прадметах. Адразу закахаўся па вушы ў Т. К. Ейны бацька быў вельмі строгі, бо працаваў у КДБ. Часта сустракаў яе пасьля заняткаў на «волзе», на спатканьні не пускаў. Мы знайшлі выйсьце: завялі *Liebesheft* («сшытак каханьня») і кожны дзень па чарзе вялі запісы на расейска-нямецкай трасянцы. Былі там пасажы захапленьня, піліпікі рэўнасьці, зашыфраваныя тайны. Нямецкая мова выкарыстоўвалася як сродак іншасказаньня: на ёй фармуляваліся найбольш інтымна-датклівыя паняткі. Так мы стыхійна, як сапраўдныя сэксапатолягі, здымалі пачуцьцё сораму, пра што я пазьней прачытаў, перакладаючы мэдыцынскія тэксты. Першы канфуз закончыўся шчасьліва.

Ня памятаю, хто з нас здаў таемны сшытак празь недагляд разам зь пісьмовымі пераказамі



на праверку выкладчыку, куратару групы. На вокладцы рукою Т. К. было напісана па-нямецку: «Сшытак каханьня № 3». Два запоўненыя захоўваліся на таемным дэпазыце ў яе дома. Наш куратар быў чалавек цывілізаваны, прысланы паводле разьмеркаваньня з маскоўскага ін'язу, стажыраваўся год у Аўстрыі, ягоны бацька быў даволі вядомы кампазытар у Серпухаве. (Мой былы куратар дапамагаў мне пазьней аформіць перавод на вучобу ў Маскву. Кароткі час я жыў у яго дома ў маскоўскай кватэры.) Звалі нашага куратара Віктар Аляксеевіч Парцянікаў. Ён не прыжыўся ў менскім ін'язе, паехаў загадчыкам катэдры ў Горкаўскі ўнівэрсытэт. На жаль, сувязі нашы абарваліся. Ён аўтар выдатнага нямецка-расейскага і расейска-нямецкага слоўніка хрысьціянскай лексыкі... Дык вось, Віктар Аляксеевіч з усьмешкай перадаў мне публічна ў аўдыторыі наш таемны сшытак, калі раздаваў праверaныя працы, па-змоўніцку сказаўшы: «Гэносэ Садофскі, вы напісалі вельмі цікавы, але вялікі тэкст. Я не пасьпеў яго праверыць». Я больш чым пачырванеў і быў вельмі ўдзячны настаўніку. Мы ўсё ж працягвалі рызыкоўную гульню ў амурным эпісталярным жанры.

Другі канфуз закончыўся громам з маланкай. Бацька Т. К. з кадэбэшнай назіральнасьцю западозрыў у вясновыя травеньскія дні нешта няладнае і правёў прафэсійныператрус у трэзорах сваёй адзінай дачкі. Знайшліся сшыткі № 1 і № 2. Перш чым пачаць працэс, ён, як высьветлілася, спрабаваў са слоўнікам расшыфроўваць нашыя нямецкія абрэвіятуры, скарачэньні і прыдуманыя словы. Ён чамусьці вырашыў, што імя Вагнэр мы выкарыстоўваем як

эўфэмізм для слова *«швангер»* (цяжарная), і што ягоная дачка пытаецца ў мяне, ці не зацяжарала яна. У сшытку № 2 быў нямецкі сказ: *«Ich kann doch nicht ein Wagner werden? Oder Du meinst es anders?»*, дзе Т. пісала, што трэба сур'ёзна заняцца моваю і кідаць музыку як хобі, што гэта зьядае шмат часу («Я ж ня стану Вагнэрам, як ты думаеш?»).

У дзеньператрусу бацька, як цэрбэр, чакаў нас пад квеценьню каштанаў каля выхаду з корпусу на вуліцы Захарава. Ён ужо ведаў мяне наглядна, бо зімою падчас першай экзамэнацыйнай сэсіі, шукаючы дачку днём у інстытуце пасьля кансультацыі, застаў нас на другім паверсе адных у аўдыторыі. Зашчапіўшыся знутры на ножку крэсла, як гэта рабілі звычайна студэнты, уцякаючы з інтэрнацкай гамэрні, мы вучылі тэматычныя дыялёгі па лексыцы. Менавіта вучылі, і нічога больш. Мы засталіся там пасьля кансультацыі, пра што яму паведамілі нашыя аднакурсьнікі. Аднак ягоная прафэсійная падазронасьць малявала апакаліптычныя відзежы... Тым травеньскім днём ён вельмі стрымана і ветліва запрасіў мяне праехацца па горадзе разам з дачкою. Нешта ёкнула ў маіх грудзёх. Моўчкі ён дамчаў нас да вуліцы Брылеўскай, што каля аэрапорту, моўчкі запрасіў мяне падняцца ў кватэру. Гэта быў двух- ці трохпавярховы драўляны дом тыпу бараку, але знутры вельмі ўтульны і дагледжаны. На лесьвіцах ляжалі дывановыя дарожкі. Я быў запрошаны ў асобны пакой, дзе, падобна, спала і рыхтавалася да заняткаў мая каханая. Я пазнаў некаторыя прадметы ейнай вопраткі, якія без гаспадыні выглядалі зусім нецікава. Дзьверы зачыніліся, і камандзірскім



голасам мне было прапанавана сесьці на табурэтку. Менавіта так. Сам гаспадар сеў за стол, адкрыў ключом правую шуфляду стала і паклаў на стол знаёмыя мне сшыткі № 1 і № 2: «Ну што, малады чалавек? Будзем расказваць, хто такі Вагнэр?» Як ні дзіўна, страх у мяне раптам прайшоў, і я вальяжна зьмяніў мізансцэну, перасеўшы ў мяккае крэсла, што стаяла побач. Псыхалягічна я атрымаў перавагу, і маёрскія інтанацыі гаспадара раптам прапалі... Ён спрабаваў перайсьці на лагодны тон, але я яго ня слухаў. Я перакрычаў яго, патасна тэатральна сказаўшы, што ён не паважае сваю дачку, што яна крыштальна чыстае дзіця, і, не разьвітваючыся, пакінуў гэты шэры дом.

На гэтым рамантычная гісторыя закончылася. Пэўна, гэта было ня тое каханьне, за якое трэба было змагацца. Не хапала ідэалёгіі, якую я неўзабаве зьведаў з маёй будучай жонкай. Мой лёс у інстытуце складаўся далей ня лепшым чынам. Мая кандыдатура для паездкі на вучобу на год у Ляйпцыгскі ўнівэрсытэт у ГДР не прайшла. У аддзеле кадраў мне сказалі, што зь недагляду сакратаркі мая асабовая справа заваліласа за сэйф і яе доўга не маглі знайсьці. Тут трэба сьмяяцца. Атрымалася так, што вучыцца паехалі ня толькі лепшыя студэнты. Сярод шчасьлівых абранцаў аказалася і мая колішняя пасія Т. К.

## Школа пачуцьцяў на сцэне

Пакуль мая будучая жонка Валянціна існавала недзе ў паралельным сьвеце, маю няўрымсьлівую душу пацягнула ў драматургію, на падмосткі сцэны. У нас на факультэце ўтварыўся тэатар нямецкай драмы. На працягу трох

гадоў мы паставілі «Эмілію Галёці» Лесынга, «Разбойнікаў» Шылера і «Стрэльбы сэньёры Карар» Брэхта. Сталася неяк так, што запрошаны прафэсійны рэжысэр, ужо немалады дзядзька пэнсійнага ўзросту, даваў мне добрыя ролі. І тут я перажыў сапраўдныя зыгзагі пераўвасабленьня: у Лесынгу я быў прынц, у Шылеру — сам Карл фон Мор, верхавод разбойнікаў, а ў Брэхтавай драме нашага часу — падрэ. Адпаведна маё сэрца належала Эміліі, потым Амаліі, потым — Богу. Ці ж не іронія лёсу, што і маю «каралеву Марго» з сувораўскай вучэльні звалі Эмілія?! Нейкі злы кон перасьледаваў мяне. Я сказаў сабе: больш ніякай Эміліі. Хаця лесынгаўская Эмілія ў нашым тэатры была дзеўка нічога сабе (праўда, зноў жа дачка вайскоўца) і наша акторская прыязнасьць разьвівалася паралельна з жыцьцёвай, аднак ніякай мяжы мы не пераходзілі. Наш немалады рэжысэр, як сапраўдны сэлядон-вуаерыст, любіў будаваць пікантныя мізансцэны, але мастацкі савет іх рэзаў. Самае фрывольнае, што ў нас засталося: я трымаю мёртвую Эмілію на руках у фінальнай сцэне. Так што тут абышлося без канфузаў і жарсьцяў.

Другі год драматургічнага жыцьця зьвёў мяне з шылераўскай Амаліяй, якую я насуперак арыгіналу паводле задумы нашага пастарэлага яшчэ на адзін год рэжысэра павінен быў закалоць кінжалам, што я пасьпяхова рабіў на працягу больш чым году. З гэтага артыстычнага сэзону запомніліся некалькі момантаў. Напрыклад: рэжысэр зноў увёў у пастаноўку ўлюбёную карцінку, калі галоўны герой (гэта значыць я, Карл Мор) носіць гераіню-каханую на руках. Наша факультэцкая Амалія (о, злы кон:



яе таксама звалі Т., як маю былую каханую!) мяне абсалютна не хвалявала. Яна была гады на два старэйшая за мяне і была ўжо замужам. Але ж гэта не галоўнае. Як бы сказалі ў нас у Буцькаўшчыне, яна была *ачапістая* — буйной шырокай касьці і даволі цыбатая. Яна важыла амаль столькі, колькі я. Да таго ж мела вузкія губы і нейкія стомленыя валасы. Не разумею, чаму яе абралі Амаліяй. Хаця лгу, у ейнай зьнешнасьці была адна прывабная рэч: яна мела вельмі прыгожыя локці. Кожны раз перад выхадам на сцэну, каб натхніцца і ўжыцца ў вобраз закаханага, я глядзеў тайна і пажадна на ейныя локці. Цяпер, празь дзясяткі гадоў, я ня ўпэўнены, ці былі тыя локці сапраўды прывабныя, ці, прымушаючы сябе віртуальна закахацца, я прыдумаў сабе такое. Тут у падсьвядомасьці магла спрацаваць мая абазнанасьць у расейскай клясыцы і здатнасьць імгненна пераводзіць слоўны вобраз у візуальны. Ёсьць клясычны прыклад з ганчароўскага «Абломава», як Штольц закахаўся ў Вольгу. Менавіта за прыгожыя локці.

Я ўжо казаў, што Т. была дзеўка спраўная. Аднак, беручы яе на рукі ў адпаведнай мізансцэне, я кожны раз заўважаў, што яна робіцца ўсё цяжэйшая і цяжэйшая. У сабе я быў упэўнены, бо перад адказнай рэпэтыцыяй спэцыяльна добра наядаўся аўсянай кашы з салам. Кілбаса ды мяса ўжо тады былі дарагаватыя для студэнтаў. Пазьней высьветлілася, што мая партнэрка чакае дзіця, сама таго ня ведаючы, і хутка набірае вагу. Такое бывае ў прыродзе. Ня буду ўдавацца ў падрабязнасьці. Больш за ўсіх быў абураны рэжысэр, бо яму прыйшлося перарабляць любімую сцэну. Амалію ў пераробо-

ленай сцэне я проста пяшчотна гладзіў, але ня браў на рукі. Я яе ня мог проста падняць. Вось такая мэтамарфоза.

Мая роля падрэ ў брэхтаўскіх «Стрэльбах» была спакойная. Я быў не героем-любоўнікам, а сузіральнікам і рэзанэрам. Ролю маці як цэнтральнай сымбалічнай фігуры, тыпу гераіні горкаўскай «Маці», выконвала Рая Роўда, сымпатычная мядзелская дзяўчына — дарэчы, родная пляменьніца нашага вядомага беларускага дырыжора, які ня так даўно пакінуў гэты сьвет. Ставілі мы п’есу па Станіслаўскім бяз брэхтаўскіх штучак з «эфэктам ачужэньня», што немцы скарочана называюць «фаў-эфэкт». Праўда, у рэальным жыцьці чальцоў драмгуртка эфэкт ачужэньня меў месца: усё той жа немалады рэжысэр, якому было пад семдзесят, змог закахаць у сябе нашу студэнтку другога курсу Марту, уладкаваўшы яе ў прафэсійную студыю і паабяцаўшы зрабіць зь яе тэатральную зорку. Зоркай яна ня стала, а нарадзіла яму неданошанае дзіця на 1 кіляграм 800 грамаў, якое хутка памерла. Гэтая гісторыя — прыклад таго, як удзячна і самаахвярна жанчыны могуць любіць мужчыну, калі той, няхай сабе і авантурна, дапамагае ёй пазнаць уласныя глыбінныя вартасьці.

## Мой сват — Бэнэдыкт Сьпіноза

А што ж мая будучая жонка? Хто насіць яе на руках? Якую школу пачуцьцяў яна праходзіла ў гэты час? Яна сваіх успамінаў яшчэ не напісала, і, магчыма, я яшчэ ня ўсё ведаю пра яе.

Наша вырашальная гістарычная сустрэча адбылася на агульнаінстытуцкім сходзе, які



быў заплянаваны рэктаратам як ідэалягічнае шоў. На дварэ стаяў, здаецца, 1962 год. З цэнтральнага пляцу Менску быў ужо даўно зьнесены бронзавы Сталін (стаяў прыблізна там, дзе цяпер Палац Рэспублікі), сёй-той ужо ведаў, што значыць слова «дысыдэнт», людзі пачыналі начамі паціху слухаць «Голас Амэрыкі» і «Бі-Бі-Сі». «Свабода» тады прымалася горш. Пачыналася эпоха шасьцідзясятнікаў.

На сходзе разглядалася «справа» Дзьмітрыя Багушэвіча, студэнта трэцяга курсу факультэту ангельскай мовы. Дзіма быў ціхі дапытлівы студэнт, у акулярах, са зьнешнасьцю каўкаскага чалавека, з даўгаватымі валасамі, што на той час было прыметай вальнадумства. Наколькі я чуў, ягоны бацька быў да вайны вядомы журналіст, маці працавала тут жа ў інстытуце выкладчыцай ангельскай мовы. Ці то выпадкова, ці то КДБ за ім ужо сачыў, але здарылася так, што яго затрымалі на вуліцы за пераход на чырвонае сьвятло. (Цяпер для мяне гэта бачыцца як пэўная алегорыя.) Пры затрыманьні зь ягонай сумкі выпалі некаторыя незвычайныя на той час рэчы, якія прыцягнулі ўвагу міліцыі: кніжкі і часопісы на замежнай мове, магнітафонная стужка і Біблія. Гэта тое, што мне запомнілася. Тут я магу памыляцца ў дробязях. Як гаварылася на сходзе, ён паводзіў сябе груба, і міліцыя мусіла даставіць яго ў пастарунак. Там ён заявіў, што міліцыя ня мае права рабіць ператрус ягоных асабістых рэчаў бяз ордэру пракурора, чым выклікаў вялікае падазрэньне. Такое тады рэдка хто заяўляў.

Афіцыйна падключыўся КДБ. Самае страшнае знайшлі ў дзёньніках Дзімы. Там сярод «падазроных» адрасоў, выпісак з галяндзкага філё-

зафа XVII стагодзьдзя Бэнэдыкта Сьпінозы знайшлі ўласныя запісы дваццацігадовага Дзьмітрыя Багушэвіча (перадаю прыблізна па памяці): «Мала быць проста чалавекам, трэба адукоўвацца, каб зьвесьці ўсё жыцьцё да адной формулы. Тады лягчэй зразумець жыцьцё і адчуць, падыходзіць табе тая сыстэма, у якой ты паводле лёсу вымушаны жыць, ці не. Калі не, то трэба рабіць усё, каб зьмяніць гэтую сыстэму, або пакінуць яе. Я зразумеў, што ў гэтай сыстэме я задыхаюся. Хочацца верыць, што ёсьць недзе сапраўдная партыя, сапраўдныя людзі, якія думаюць так, як я. Як хочацца зьліцца з гэтымі людзьмі...»

Усё гэта было зачытана ў актавай залі з прэзыдыюму сходу сакратаром ЦК ЛКСМБ (Ленинский Коммунистический Союз молодёжи Белоруссии) для прысутных студэнтаў і выкладчыкаў. У прэзыдыюме сядзелі кіраўнік камсамольскай арганізацыі і парторг інстытуту, дэкан і таварыш з КДБ. Дзіма сядзеў на асобным крэсьле каля першага раду як абвінавачаны і чакаў прысуду. Забягаючы наперад, скажу, што Дзіму выключылі з інстытуту і паслалі на перавыхаваньне ў войска. Цяпер ён доктар навук, прафэсар.

Сход пачаўся, як было заплянавана. Пасьля палымянай прамовы сакратара ЦК камсамолу выступіў прадстаўнік КДБ і распавёў пра цёмныя старонкі жыцьця студэнта Багушэвіча: спэкуляцыя дэфіцытнымі кнігамі, замежнымі часопісамі сумнеўнага зьместу, неразборлівасьць у аўтарах (называўся нават нейкі сучасны сіяніст), сувязі з алькаголікамі і наркаманамі і гэтак далей. Потым былі патрыятычныя савецкія выступы старэйшых і малодшых



таварышаў кшталту «Вось ён есьць нашае беларускае сала, а чытае Боруха Сьпінозу! Няхай едзе да свайго Сьпінозы! Пярэваратням ня месца ў савецкім інстытуце!». Ужо ўся праграма была пракручаная, і кіраўнік сходу расслабіўся і з інтанацыяй пераможцы дазволіў сабе фармальна-пратакольнае: «Можа, таварышы, яшчэ хто хацеў выступіць? Калі ласка, вы б хацелі...»

Заля ўзарвалася, і пасыпаліся зьедлівыя пытаньні каструбаватаму камсамольскаму лідэру. Мне запомніўся чысты дзявочы голас зь вельмі добрым расейскім вымаўленьнем з апошніх радоў, які, як мне здавалася, канчаткова разбудзіў паярэмленую залю: «Таварыш сакратар, а вы самі што-небудзь са Сьпінозы чыталі? Што такое дрэннае ён напісаў?» Я разам з усімі павярнуўся назад і пачаў вачыма шукаць уладальніцу гэтага чыстага голасу. Ён належаў ёй — той, што сьпявала пра цяжкі лёс нэграў у сьпякотнай Караліне... Гэта была мая Валянціна. Хто б мог падумаць, што яна на такое здатная? Заля загула яшчэ мацней, сакратар нешта мямліў пра неабходнасьць засвойваць азы навук, але яго ніхто ня слухаў. Студэнты, асабліва дзяўчаты, узбунтаваліся і пачалі самі браць слова і гаварыць. Заля прыціхала, слухаючы самазваных аратараў. Як толькі прэзыдыюм спрабаваў уціхамірыць студэнтаў, пачынаўся шум. Я таксама далучыўся да пратэстных выступоўцаў і сказаў, адрасуючы сваё выказваньне не прэзыдыюму, а больш уладальніцы чыстага голасу, што абавязкова заўтра пайду ў бібліятэкі гораду шукаць Сьпінозу. Калі ўсё ж такі бунт утаймавалі і быў зачытаны вэрдыкт сходу пра выключэньне, на гала-

саваньне пытаньня ня ставілі. Гаварылі, кіраўніцтва баялася, што галасаваньня не адбудзецца, а тады, глядзі, паляцяць галовы з рэктарату: калектыўны бунт.

## Сапраўды рамантычнае каханьне

Пасьля таго сходу, дзе нас зьяднаў Бэнэдыкт Сьпіноза, мы ўжо паглядалі адзін на аднаго не зацікаўлена-іранічна, а як людзі, якія ведаюць нешта такое, што ведаюць ня ўсе: нас паяднала прага свабоды. Я прыглядаўся да ейных сябровак. Яны былі розныя, але іх аб'ядноўвала адно: яны былі інтэлігентныя, вельмі адкрытыя і бескарысьлівыя. Праўда, пачуцьцё гумару ў нас было рознае. Я быў трошкі салдафонам. Адной з Валіных сябровак, Людміле С., дзяўчыне аналітычнай і ў акулярах, будучы дзяжурным па інтэрнаце, я запісаў у кнігу наведнікаў, што да яе прыходзіў «Фрыдрых Ніцшэ з пугай», маючы на ўвазе вядомы афарызм з «Так сказаў Заратустра»: «Калі ідзеш да жанчыны, вазьмі бізун». Яна пакрыўдзілася. Валянціна была на ейным баку. Яна і па сёньняшні дзень зь цяжкасьцю пераносіць мае германска-салдафонскія жарты: «Як ты можаш? Ты ж тонкі чалавек».

Маё блізкае знаёмства з Валянцінай адбылося на Новы год на танцах у сталоўцы інтэрнату па завулку Румянцава, які тады называўся Омскі. Валянціна прыйшла сустракаць Новы год да сяброўак у інтэрнат. Яна жыла на кватэры на вуліцы Смалячкова, побач з домам, дзе цяпер наш Беларускі ПЭН-Цэнтар. Для мяне гэтае месца дарагое. Тут у нас было першае «афіцыйнае» спатканьне, на якое я прыйшоў з кошыкам кветак, бо букета не знайшоў. Было гэта ў першы дзень новага году. Нам не было



дзе прыткнуцца. Інтэрнат спаў пасьля навагодняй ночы, да Валіных гаспадароў не хацелася ісьці. Хацелася быць адным. Была лёгкая мяцеліца, якая пад вечар пачала пераходзіць у завею. Як дзьве аблудныя душы, мы патрапілі на нейкую бязьлюдную прагаліну каля Вайсковых могілак. Кошык з кветкамі паставілі ў гурбу пад уладу ветру і глядзелі, як яго замятае сьнежны пясок. Хай будзе, як будзе! На другі дзень пайшлі глядзець на свой кошык і не знайшлі. У прыметы мы тады ня верылі.

## Спасьціжэньне сямейнай гармоніі

Ажаніліся мы прыблізна праз год. Нам трэба была ўзаемная падтрымка. У мяне пачаліся на вучобе ідэалягічныя непрыемнасьці, а Валянціна ўжо была на завочным аддзяленьні і выкладала ангельскую мову ў Касьцюкоўцы пад Гомелем. Пра той час яна згадвае зь цеплынёй: школа была фактычна вясковая, і дзеці былі на дзіва ўдзячныя і жывыя. Валянціна пісала мне ў Менск цікавыя доўгія лісты. У Гомелі яна падпісалася на Купрына (тады гэта быў дэфіцыт) і цытавала мне ў лістах квяцістыя прызнаньні Салямона да Суляміты. Я дасылаў Валянціне літаратуру для дыплёмнай працы — «Праблемы перакладу некаторых традыцыйных паэтычных эпітэтаў з ангельскай мовы на расейскую». Так мы ўзаемна ўдасканальваліся.

Праз два гады пасьля шлюбу ў нас нарадзілася дачка. Я быў выкладчыкам нямецкай мовы ў альма-матэр, а Валянціна працавала ў бібліятэцы. Нам далі пакой у інтэрнаце. Мы абое — Вадзянікі і Зьмеі. Усе штормы адбываліся толькі ў маленькім акварыюме дробязяў.

У вялікім мы ніколі не разыходзіліся. Сталеньне прыходзіла з часам. Я зразумеў, што я ня ведаю, што такое крыўда, хіба што магу адчуваць імгненную прыкрасьць, якая праз хвіліну праходзіць, як я толькі зразумею прычыну. І тады, як сказаў антычны паэт, «шалі чуйнага сэрца ў раўнавагу ціха прыходзяць...» Мая жонка, як асоба з крыштальна чыстай дзіцячай лермантаўскай душой, якая не прымала іржавага заходняга рэлятывізму і не любіла шукаць прычынна-выніковых сувязяў у воблаку аказіянальных пачуцьцяў, стала маёй ізаморфнай часткай. Маё існаваньне бяз гэтага было б нецікавае. Гэта — мой лёгкі крыж, які і па сёньня дапамагае мне ў нялёгкім самаўдасканаленьні.

Асаблівасьці нашага характару нараджалі пратубэранцы. Аднойчы адзін мой учынак, на мой погляд, зусім нерэлевантны з гледзішча сапраўднага каханьня, паставіў пад сумнеў моц нашага саюзу. Аднак мы паразумеліся і перажылі свой другі мядовы месяц, сьведчаньнем чаго засталіся сем лістоў маёй жонкі, якая пісала мне іх з далёкага Кіславодзку ў Менск. Лермантаўская пранізьлівасьць і скупая, цнатлівая стрыманасьць пачуцьцяў узьнімае напісанае да космасу. Я захоўваю гэтыя лісты, каб, прачытаўшы чарговы раз, ачысьціцца. Я ўзяў з жонкі слова, што, калі я памру першы, яна пакладзе мне тыя лісты ў труну.

Калі мая жонка будзе паміраць першай, я буду салодка плакаць. Я буду ўспамінаць яе маладой і закаханай, як яна сьпявала мне калыханку, быццам я малое дзіця. Я буду ўспамінаць хвіліны адчаю і ейныя трывожныя вочы, калі яна ішла на цяжкую апэрацыю і мы ня ведалі, чым гэта скончыцца. За ўсё жыцьцё яна ні разу не папракнула мяне, што я мала зарабляю, што купляю шмат кніжак, што мне трэба займацца ня тым, а гэтым. Сабе яна не патрабавала нічога, акрамя самага неабходнага. Шкада, што я толькі пад канец жыцьця зразумеў адну ісьціну: блізкі чалавек мяняецца і ўдасканальваецца толькі ў сапраўднай любові і павазе.

І яшчэ адно, што, магчыма, будзе гучаць патасна: мы любілі Свабоду і Беларусь. Я помню бунтарны чысты голас маёй Валянціны ў актавай залі ін’язу, паходы па пад’ездах у час выбараў, сьпевы на мітынгах, сутычкі зь міліцыяй, запіску, перададзеную ў Вярхоўны Савет, калі мы, дэпутаты апазыцыі БНФ, аб’явілі галадоўку...



Нарадзіўшыся ў Маскве і маючы ўсіх сваякоў у Расеі, мая жонка дзіўным чынам яшчэ да знаёмства са мной у гомельскай школе ўрасла ў беларушчыну. Калі я ўжо працаваў у ін’язе, ад выкладчыка літаратуры Куляшова я пачуў расповед, як адна гарадзкая абітурыентка з 10-й школы Гомелю прачытала на памяць на ўступным экзамэне ў 1958 годзе некалькі частак купалаўскай «Бандароўны». Гэтая абітурыентка была мая будучая жонка. Цяпер яна піша ў сямейным фармаце «з нагоды» сьціплыя беларускія вершы — лірычныя і публіцыстычна-іранічныя. Вось такі, напрыклад, як бы ад імя ўнука на дзень народзінаў маці:

Кажуць, пойдзем мы ў Расею,
ты ня вер у гэты блеф.
Каб зрабіць цябе шчасьлівай,
запішуся ў БНФ...

А вось радкі з нагоды расстаньня зь сябрамі, што ад’яжджаюць жыць за мяжу:

Хай знойдуць там няўрымсьлівыя душы
спакой і ласку, ды не забыцьцё.
Пустыя гнёзды адляцелых птушак
заселіць хутка новае жыцьцё.

У вялікім мы з жонкай ніколі не разыходзіліся. Хіба ў выбары любімых аўтараў.

## Мужчынскае рэзюмэ

Не з уласнага досьведу, а з назіраньня за маімі знаёмымі, чый сямейны лёс прыйшлося назіраць зблізу, хацеў бы на заканчэньне сказаць наступнае. Нямала хто зь беларускіх жанчын вельмі часта праграмуе сваё жыцьцё з магчымым выхадам на трагедыю, жывучы «правільна» — калі, напрыклад, з рамантычна-кансэрватыўным разуменьнем этымалёгіі слова «за-мужам» перажываюць фэномэн так званай здрады, адчуваючы сябе бяз мужа, як у хаце, зь якой вырвалі адну сьцяну. У мяне ёсьць блізкі чалавек, жанчына, маці дваіх дзяцей, якая, здавалася б, паводле свайго інтэлектуальнага і эмацыйнага разьвіцьця магла б выдатна існаваць бяз мужа, аднак, знаходзячыся ў стадыі разводу, ужо з год зьядае сваё здароўе, траўмуе ўласных дзяцей і блізкіх, пералапачваючы гадзінамі крыўду з нагоды банальнага адультэру колісь, здавалася, блізкага чалавека. Ці не пара ўсім нашым жанчынам трошкі ўзяць ад фэміністак Захаду і культываваць сябе так, як бы ты будуеш сабе паралельна з жыцьцём у шлюбе запасны аэрадром, назапашваючы інтэлект, набываючы хлебную прафэсію, хобі і сяброў, каб быць самадастатковай і застрахаванай ад трагічнага стрэсу ў будучыні? Думаецца, што, пачынаючы са школы, наша грамадства павінна зьвярнуць увагу на стварэньне сыстэмы сапраўды практычнай сацыялягізацыі жанчыны як агента гендэрных адносінаў — замест рамантычных заклінаньняў пра роўнасьць з мужчынам.

## Сьпевы і Бахус: там, дзе пяюць, сядай сьмялей

*Люлі-люлі-люлі, ўсе курачкі паснулі... — Ой ды йдуць жанкі з поля... — Плач па ўміручаму. — «Шумныя бярозы» на ўсясьветным скрыжаваньні. — Наперад шчыльнымі радамі. — Песьня нам дапаможа: конкурс у Шлезьвіг-Гольштайне. — А ў бары-бары тры дарожанькі...*

### Малако, калыханка, жніво, Цярэжка...

«Там, дзе пяюць, сядай сьмялей» — гэта рэмінісцэнцыя зь нямецкага фальклёру. Нават такая пасіянарная і рытмічная нацыя, як немцы, што прыдумалі нямала ваяўнічых песень, навеяных злымі дэманамі, унесла ў краязнаўчыя і лінгвістычныя даведнікі вельмі сымпатычнае рыфмаванае двухрадкоўе:

> Wo man singt, laß dich ruhig nieder,
> böse Menschen haben keine Lieder.

Сэнс: «Спачні (вандроўнік) каля сьпеўных людзей. Ня бойся. У злых людзей не бывае песень».

Песьня ўлілася ў мяне зь першых дзён жыцьця. Звычайна ў такіх выпадках гавораць пра калыханкі. Словы калыханкі, якую мне сьпявала маці, я памятаю абсалютна без маны, бо маці сьпявала мне калыханку нават тады, калі мне было гадоў пяць. Як згадвае мая сястра Лісавета, я заўсёды прасіў, каб маці ці яна сьпявалі мне нешта перад сном. Раньняе дзяцінства ў мяне зацягнулася. Ад грудзей я карміўся гадоў да двух, і гадоў да пяці, пакуль паліцаі не забралі карову, карміўся амаль адным малаком. Як праз замыленае шкло я і цяпер чую: *«Люлі-люлі-люлі, ўсе курачкі паснулі, адзін Пётрачка ня сьпіць, ня сьпіць-спачываіць, усім дакучаіць. Спачы-засьні, мой гулёнак, мой жоўценькі цяплёнак»*. (Пры сьпеве было шмат пераносаў націскаў і доўгіх складоў.) Але чамусьці словы калыханкі не ўспрымаюцца мною як першыя песьні, якія я пачуў на гэтым сьвеце.

Як нейкае дзіва, што запаўняе сабою ўсю прастору паміж небам і зямлёю, я згадваю песьні, якія сьпявалі вясковыя жанчыны, вяртаючыся з поля. Мясцовасьць наша была ня плоская: пагоркі, лагчыны, канавы. Уявіце сабе: лета, час ужо другога пакосу і першага жніва. Ні вятрынкі, неба — як крыштальная шклянка. Сяджу я малы каля хаты на посьцілцы, гуляю з гільзамі ад кулямётных патронаў. За гарою, дзе ўжо пачынаецца парчызьнянскі лес, як ледзь чутнае гудзеньне рою, нараджаецца песьня. Словаў нельга разабраць, але выразна чуецца, як гук чыстай струны, моцны жаночы голас, што адзін выводзіць пругкую мэлёдыю, якая падхопліваецца і аздабляецца шматгалосьсем. Потым шматгалосы хор падводзіць усё слабей і слабей, і зноў гучыць адзінокі чысты голас, які, як зь белай лебядзінай шыі, выцягваецца да неба і, як бы падаючы на зямлю, абрываецца... Вось з-за гары паказаліся рагатыя верхавіны грабляў і белыя дзюбы хусьцінак, церазь якія праплывае першы радок прывітаньня вёсцы ад стомленых жнеяў: *«А йдуць і йдуць жанкі з поля, ды жанкі з поля...»* Ужо відаць скупы бляск сярпоў на вечаровым сонцы — сярпы ў руках, на саламяных вязьмах, на плячах... *«Ды*

*жанкі з поля, як вутачкі з мора»*, — туруюць рэхам вышэйшыя галасы. Самая галасістая, што нясе маленькі снапок, як дзіця, разьвязвае з-пад барады хусьцінку і пераможна-шчасьліва абвяшчае: *«Ой, нясуць-нясуць ядраное жыта, усё ў вянках павіта...»* Мне тут, каля хаты на посьцілцы, здаецца, што я зьліваюся з гэтым хорам ды імкну некуды ўвысь разам зь песьняй, што вырастае зь зямлі.

Песьні, якія сьпяваліся падчас *жаніцьбы Цярэжкі*, таксама прыпамінаюцца як нешта незямное і таямнічае, што зьвязвае неба і зямлю:

Цярэжка, чаху-чаху,
што ў цябе ў мяху, ў мяху?
— Нітачкі-іголачкі,
розныя пярсьцёначкі...
Цярэжка цярэжыла,
на печы ня ўлежыла,
Цярэжка чахукала,
на печы насюкала...
Дзед бабу тапіць вядзець,
а баба крычыць, ня йдзець.
Дзед бабу чабох на дно.
— Дзедзечка, мне й тут ладно!..
Пайду ж я за тын глядзець,
як мая мілая прадзець:
тоненька-танюсенька,
з пальчыкам раўнюсенька...
Пастаі, дзядулька, ў кутку,
а я табе штонікі вытку...

Ужо дарослым, калі я прачытаў апісаньні абраду Цярэжкі, зробленыя нашымі акадэмічнымі фальклярыстамі, і «Залатую галіну» Джэймза Фрэйзэра ды паглядзеў колькі дакумэнтальных фільмаў пра звычаі афрыканскіх



плямёнаў, наша Цярэжка паўстала перада мною як частка ўсясьветнага старажытнага кантынуўму, сьвята радаснага юру, пададзенага з нашай адвечнай крывіцкай цнатлівасьцю і пачуцьцём меры. Здаецца, уся племянная сям'я глядзіць, як Ён Яе і Яна Яго ловіць-даганяе, а Бацькі-пара сядзяць на ганаровым пні ды згадваюць маладосьць пад просьценькую, але панадную мэлёдыю першабытнай, часу матрыярхату, дуды, якую ў наш час замяніў гармонік: *та-ра-ра-ра-ра-ра-ра-ра-а-а... та-ра-ра-ра-ра-ра-ра-ра-ра-а-а!*

## Далёкія шчымлівыя мэлёды

*«Пайду ж я пабегаю, як рыбка па берагу, пайду ж я па-гу-у-у-ляю-у-у, як рыбка па Ду-у-у-наю-у-у...»* — сьпявала мая маці, ня ведаю нават зь якой нагоды. Малы, я ня ведаў, што Дунай — гэта проста рака, як Дзьвіна, Днепр, Днестар, Дон, Дън, Дн, Д-н... Маці сьпявала *пра ўвесь сьвет*. Калі бацька паміраў, ён сказаў маці: «Як я памру, ты сьпявай па мне... Ты так добра сьпяваеш...» Ці не таму маці, галосячы па бацьку (гэта я памятаю абсалютна выразна), нахіліўшыся над труною, што даставала ад покуцьця да парогу ў «чыстай хаце», зь нейкім ніколі не чуваным мэлясам выводзіла: *«А нашто ж ты, мая заранячка, закацілася? А нашто ж ты сваіх дзетачак пакідаеш? А ты ж па расіцы нам сенца касіў, а ты ж сваіх дзетак зь дзюбкі карміў... А хто ж нам цяпер муражок пакосіць? А хто ж нам дроўцы ў хатку паносіць?..»* Гэта быў першы і апошні раз у маім жыцьці, калі я чуў, як галосяць па *ўміручаму*. Менавіта так у нас і гаварылі — *па ўміручаму*. На ўсё жыцьцё мяне ўразіла гэтае галашэньне, бо тады я ўба-

чыў нейкую чужую жанчыну, не маю маці: яна настолькі адышла ад свайго штодзённага вобразу і пераўтварылася ні то ў варажбітку, ні то ў знахарку, чым ніколі не была. Яна загаварыла як паэтка, як апантаная нейкай незразумелай сілай. Сьпевы ды расповеды маці не былі для мяне навіной. А тут яна як бы перайшла ў іншы сьвет, бо гаварыла ўжо зь мёртвым. А мёртвых я заўсёды баяўся, хаця сам, здаецца, памерці не баюся. Паводле рытмічнага памеру мэлёдыя таго галашэньня нагадвае мне нейкую мінорную сынкапічную Цярэжку. Сказаць, што маці рабіла гэта напаказ, ніяк не магу, бо тады, калі яшчэ былі кругом немцы, на пахаваньне прыйшлі толькі блізкія суседзі.

Гэтае галашэньне маці засталося для мяне найвялікшай загадкай дзяцінства, як той Дунай-рака. Ужо сьвядома зацікавіўшыся этнакультуралёгіяй, я аднойчы выпадкова натрапіў на параўнальнае апісаньне галашэньняў з гераічнага эпасу пра Гільгамэша са старажытнаагабрэйскімі (здаецца, гэта з назіраньняў Аверынцава) і быў зьдзіўлены падабенствам сэмантычнага малюнку беларускага галашэньня з тым фантастычным усходнім. Міталягічнае адзінства сьвету заварожвае.

## Як я выйду ў поле...

Згадаю адзін вельмі просьценькі прыкладілюстрацыю зь песеннага жанру, які мяне вельмі ўразіў і застаўся ў памяці на ўсё жыцьцё. Можа, гады два таму, як гэта бывае ўжо ў немаладых людзей, зачытаўся я нанач і доўга ня мог заснуць. Вырашыў уключыць прымач ды злавіць якую-небудзь станцыю на замежнай мове, якую слаба ведаю. Гэта — добры сонны



сродак: эмоцыі не працуюць, пазнаецца толькі тэма, рытмічныя пульсацыі закалыхваюць. Вандрую па хвалях і выпадкова на Расейскай Свабодзе чую знаёмую гішпанскую песьню пра вандроўніка, што на адзіноце выйшаў на разложысты шлях шукаць шчасьця. Потым гішпанская мэлёдыя зьмяняецца ангельскай, расейскай (гэта быў, наколькі помніцца, лермантаўскі герой) і — о дзіва і радасьць! — беларускай, якую адразу пазнаю зь першых нотаў музычнага ўступу. Гэта — «Шумныя бярозы», песьня, якая мяне заварожвае. Яна вельмі беларуская. Хто з нас ня марыў выйсьці ў поле, «як бы на вайну», махнуць шабелькай і зрабіць свой народ шчасьлівым. Гэта ўсё, канечне, у падсьвядомасьці, калі сэрца «па радзімай старонцы баліць». Здаецца, гэтую песьню любіў і Васіль Быкаў.

У тую ноч «Шумныя бярозы» сьпяваў Данчык — чысты голас, шчыры сьпеў, зьліцьцё зь небам. У гэтым начным праекце, які рабіў вельмі разумны і добры чалавек, беларуская песьня арганічна і гожа зьмясьцілася ў вянок песень іншых народаў і заняла тут свой пачэсны пасад. Наколькі я магу меркаваць, гэта быў падбор лірычных песень розных народаў пра адзіноту, ноч, шчымлівую тугу і пошук шчасьця, што выходзіць за межы свайго ўнутранага «я» і сягае да трансцэндэнтнага і нацыянальнага.

Тады падумалася мне: вось бы так у розных жанрах ды ведах паспрабаваць сесьці на адну лаву з суседзямі і ня толькі. Калі гэтага не зрабіць, то ніколі ня будзе ў нашай Айчыне свайго прарока, і ўсё чужое, нават каструбаватае, будзе заўсёды здавацца нам Майсеевым, а ня тым, чым яно ёсьць насамрэч.

## Сьпевы мэлянхалічныя і самасьцьвярджальныя

Як дыплямаваны германіст і аматар нямецкіх сьпеваў я заўсёды адчуваў дыскамфорт ад той лякуны, якая зеўрае паміж нямецкім і беларускім мэлясам у частцы жанравай і рытмічнай напоўненасьці. У нашых народных і аўтарскіх песьнях амаль цалкам адсутнічаюць рытмічныя, мажорныя і рухавыя творы. Я магу зразумець гістарычна, чаму ў нас фактычна няма сапраўдных вайсковых песень, ня лічачы «Ты дуброва, ты зялёна», «Сьвішча куля, ё-хаха!» і яшчэ некаторых. Але чаму няма ці вельмі мала мужчынскіх аптымістычна-застольных? «Дробна-драбніца» — нудная цягамоціна беднага аўтсайдэра, здатнага хіба гуртам спадцішка ўбрыкнуць багацейшага за сябе. Някляеў пачынаў пісаць мужчынскія застольныя вершы, а тады кінуў. На жаль, беларускамоўныя аўтарскія творы — і Сокалава-Воюша, і Вайцюшкевіча, і Камоцкага, і Мельнікава, і рок-гуртоўскія, нават НРМаўскія і Шалкевічавы — не далі пакуль сапраўднага рытмічнага шлягеру, якія б засьпявала ўся нацыя. Ня маючы музычнай адукацыі і таленту, я паспрабаваў «укараніць» напрыканцы васьмідзясятых гадоў на ўсялякіх моладзевых — і ня толькі — зборках (Купальлях, пікніках, сьвятах) сваю ня вельмі ўласьцівую жанру «аранжыроўку» жартаўлівай песьні «Як служыў жа я у пана» з маршападобнымі акцэнтамі. Варыянт пасьпяхова прыжыўся, але праз пэўны час пачаў дрэйфаваць у розныя бакі, на жаль, часьцей зноў у традыцыйнае мінорна-наратыўнае рэчышча.

Акрамя калекцыянаваньня Біблій на розных мовах я маю яшчэ адно хобі — гімны народаў сьвету, з тэкстамі, мэлёдыямі (нотамі) і гісторыяй узьнікненьня. Я ўважліва назіраў за дыскусіяй пра беларускі гімн. На жаль, авангардная беларуская супольнасьць больш схілілася да гімну «Магутны Божа», чым да «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», тым самым прадэманстраваўшы свой «шыбалет» замілаваньня і трансцэндэнтнай сузіральнасьці замест аптымістычнага руху наперад і разам. «Магутны Божа» — шэдэўр, які трэба сьпяваць у філярмоніі ў накрухмаленай сарочцы, а не на мітынгах пад дручкамі амапаўцаў. Да гандзізму мы не дацягваем. А цягнуць у адзін голас, як авечкі, заморанай, сяк-так апранутай купцы жанчын «Магутны Божа» ў мізэрабэльным інтэр’еры ці на лясной паляне — абсалютная капітуляцыя і ўкараненьне шкоднага стэрэатыпу забітасьці і фаталізму. Мне здаецца, што і Радыё Свабода магло б парушыць традыцыю і хаця б заключаць перадачы маршам «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».



## Песьня нам дапаможа...

Для мяне сьпеў — абсалютная дабрыня. Сьпеў ніколі ня шкодзіў, а толькі дапамагаў жыць. Мог бы прывесьці мноства прыкладаў. Згадаю адзін выпадак, зьвязаны зь Нямеччынай і маім амбасадарствам. Паводле нямецкага пратаколу кожны амбасадар пасьля перадачы даверчых грамат наносіць паступова візыты ва ўсе шаснаццаць фэдэральных земляў, дзе пажадана сустрэцца з прэм’ер-міністрам. Гэта прыблізна так, як акрэдытаваныя ў Менску замежныя амбасадары наведваюць нашы абласныя цэнтры і сустракаюцца з кіраўнікамі адміністрацыяў. На пачатку 1993 году, калі мы

яшчэ ня мелі свайго будынку і месьціліся, як бедныя падсуседзі, у расейцаў на Віктарсхёэ ў Боне, на ініцыятыву пасольства наведаць Шлезьвіг-Гольштайн я атрымаў запрашэньне з Кёльну з канцылярыі прэм'ер-міністра на двухдзённую сяброўскую сустрэчу амбасадараў і дэпутатаў Бундэстагу, якая мелася адбыцца на гасьцявой палубе баявога карабля-музэю на Остзэе (так немцы называюць Балтыйскае мора) і ў дацка-нямецкім этнаграфічным музэі-скансэне пад адкрытым небам. Форма адзеньня: першы дзень — смокінг ці *cutaway*, другі дзень — *definitement informelle*. Узяўшы на пракат катэўэй, які нагадвае шаты опэрнага дырыгента, зьяўляюся на гасьцявой палубе колішняга баявога крэйсэра кайзэраўскага часу. Нешта падобнае беларусы бачылі ў савецкім фільме «Масква — Генуя», дзе першы савецкі міністар замежных справаў Савецкай Расеі Чычэрын, гуляючы па палубе з сваім нямецкім калегам Ратэнаў, кідае дасьціпныя сьвецкія заўвагі, што тут шмат фракаў і гарматнай сталі, а грэцкае «стымул» абазначае «завостраны пруток, каб паганяць валоў».

У мяне мэты меншыя, чым у Чычэрына на Генуэскай канфэрэнцыі: на ўсіх сустрэчах зь нямецкімі ўрадоўцамі і парлямэнтарамі акрамя стратэгіі мой галаў сьвідруе джалам адна тактычная праблема — як хутчэй здабыць будынак для амбасады. Начальства ў Менску ніяк ня можа прыйсьці да парытэту зь нямецкім бокам. Тут хоць і сяброўская сустрэча, аднак «ваўчок» працягвае круціцца недзе ў патыліцы... На пачатак цырымоніі спазьняюся. З радасьцю, бо нікога добра знаёмага пакуль ня бачу, побач з прэм'еркай Шлезьвіг-Гольштайну сацыял-дэмакраткай Гайдэ Зымоніс заўважаю прафэсара Горнгуса, хрысьціянскага дэмакрата, старшыню камісіі замежных справаў Бундэстагу, майго колішняга калегу, які наведваў на пачатку 1992 году Менск і якога я прымаў у нашай камісіі ў Вярхоўным Савеце. Прафэсар Горнгус — апантаны філятэліст, у Менску я падараваў яму блёк нашых першых нацыянальных марак з «Пагоняй», бел-чырвона-белым сьцягам і Эўфрасіньняй Полацкай. Па праве знаёмца ён прэзэнтуе мяне прэм'ерцы самай паўночнай зямлі Нямеччыны. Гайдэ Зымоніс, хаця паводле асноўнай адукацыі і зьяўляецца эканамістам, з зацікаўленьнем слухае ад спадара Горнгуса пра маё захапленьне германістыкай і фальклёрам. (Пазьней я даведаўся, што на пачатку сваёй кар'еры яна працавала ў Замбіі і Японіі, дзе апекавалася адукацыйнымі і культурнымі праектамі ў сыстэме нямецкіх культурных цэнтраў імя Гётэ.) «Ну дык, эксэленц, — кажа яна, — вы будзеце першы кандыдат ад амбасадарскага корпусу на ўдзел у конкурсе ў нашай заўтрашняй праграме, фальклёрных сьпевах у Піўным садзе, што прымыкае да тэрыторыі скансэну».

Першы дзень сустрэчы прайшоў пратакольна-накрухмалена ў адпаведнасьці з парадкам дня, што быў прысьвечаны супрацоўніцтву краінаў балтыйскага рэгіёну. На другі дзень пасьля экскурсіі па скансэне і кароткага перапынку на соладавае піва зь селядцом і цыбуляй нас запрасілі да адкрытай сцэны ў «Біргартэн» — Піўны сад. Тут усё было вельмі дэмакратычна: адзеньне, манеры, пачастунак. Напачатку выступалі самадзейныя калектывы з Даніі, Польшчы, а пасьля перапынку — зь Літвы і Ня-

меччыны. Калі ўсе ўжо ладна павесялелі і засябравалі, мадэратар сустрэчы прапанаваў у заключнай частцы вечарыны дэпутатам Бундэстагу і амбасадарам прыняць удзел у спаборніцтве з каштоўным прызамі — наборамі піва, віна і моцных элітных напояў. Бундэстагаўцы выклікаліся на двубой — хто ведае больш нямецкіх народных песень (сьпяваць трэба было па чарзе па адной страфе), а амбасадарам прапаноўвалася гэтак жа па чарзе, стоячы на сцэне, спаборнічаць у выкананьні народных песень сваёй краіны. Хто заставаўся непераможаны, таго пакідалі на сцэне і падстаўлялі яму новага суперніка. Паўторы забараняліся, таму з кожным разам станавілася ўсё цяжэй знаходзіць новыя мэлёдыі і тэксты. Ведаючы, што нашыя мэлянхалічныя народныя песьні ў сольным выкананьні хутка стамляюць эўрапейцаў, тым больш у падагрэтым стане, калі хочацца мажору і рытму, я вырашаюся на авантуру і прашу дазволу паспаборнічаць з дэпутатамі Бундэстагу ў нямецкіх сьпевах. Прысутныя сустракаюць мой кураж бурнымі воплескамі... Большасьць гасьцей — старэйшыя за мяне або мае равесьнікі, як і прэм'ерка Гайдэ Зымоніс.

Тут патрэбны невялікі экскурс у мінулае Нямеччыны. Пасьля 1945 году ў Нямеччыне, асабліва Заходняй, вырасла цэлае пакаленьне, якое амаль ня чула народных песень. Законапаслухмяныя бюргеры, пераадольваючы нацысцкую мінуўшчыну, выконвалі непісанае правіла новай этыкі — усё, што было культавым за нацысцкім рэжымам і Гітлерам, належала забыць. У гэты сьпіс папаў Вагнэр зь ягонымі дэманічнымі опэрамі, «Прэлюды» Ліста, пад фінальную частку якіх перадаваліся пера-



можныя зводкі вэрмахту, некаторыя аўтары, скульптары, мастакі і... народныя песьні.

Таму ня дзіва, што ахвочых сьпяваць сярод дэпутатаў Бундэстагу набралася ня так і шмат. Я выйшаў на сцэну пасьля трэцяй пары. Зноў бурныя воплескі, і цішыня пад адкрытым небам. Памятаю, мая першая суперніца была дама з партыі зялёных. Каб раскошна пачаць спаборніцтва, я ліхаманкава шукаю ў памяці песьню пра што-небудзь «зялёнае»: пра лес, траву, ваду, неба, але нічога не знаходжу, і кажу, што прасьпяваю песьню пра... зялёную пшаніцу. Я засьпяваў вельмі рытмічную і фрывольную песьню пра сьвінапаса, які мілуецца на ўзьмежку з пухнатай сялянскай дзяўчынай, а сьвінячыя вушы толькі зь *зялёнай пшаніцы* тырчаць. Пасьля першай страфы я спыніўся, але заля гула і патрабавала, каб я гэтую песьню дасьпяваў, што я і зрабіў. Уражаная «зялёная» дэпутатка здалася і адмовілася сьпяваць далей. Другім быў таксама «зялёны» дэпутат, што хацеў адпомсьціцца за каляжанку. Але я яго дабіў на трэцяй песьні, прасьпяваўшы паўнародны-паўкабарэтны шансон з Эльзасу, дзе расказваецца, як Марыета-Марыён ідзе ў горад Ліён і рве па дарозе чырвоныя макі, пакуль ёй не сустракаюцца тры мушкетэры... І гэтую песьню мяне прымусілі дасьпяваць да канца. Асьмялеўшы, я пачаў з заляй развучваць прыпеў, што аказалася вельмі лёгка, бо сьпеўная культура прысутных, піва і пэўная экзотыка (амбасадар з *Вайсрусьлянд*!) рабілі сваю справу. Заля патрабавала, а я сьпяваў... Галоўны прыз аддалі мне. Мадэратар запытаўся жартам, якое я яшчэ маю жаданьне тут у Нямеччыне. Я таксама пажартаваў у адказ, сказаўшы, што я... ніяк не

магу знайсьці будынку пад амбасаду. Зноў авацыя. І тут на сцэну выходзіць прафэсар Горнгус і кажа: «Заўтра ж, як член Рады старэйшын Бундэстагу, я зраблю прапанову гаспадарчаму ўпраўленьню Бундэстагу па сяброўскай цане здаць у арэнду беларускай амбасадзе вілу на Фрыц-Шэфэр-штрасэ, якую плянуецца перадаць праз два гады, пасьля рамонту, нашай камісіі...» Заля раве ад задавальненьня, рэагуючы як бы на працяг сцэнару. Мне, як загіпнатызаванаму, прыходзяць у голаў некаторыя лацінскія выслоўі зь першага курсу ін'язу, і рукі цягнуцца да прызавой скрынкі з напоямі. На выцягнутых руках, дэманструючы мужчынскую сілу Беларусі, я перадаю спадару Горнгусу Бахусавы дарункі і кажу на лаціне: *«Bis dat qui cito dat. Do ut des. Ergo bibamus!»** Хачу на ўсякі выпадак перакласьці гэтыя крылатыя выразы на нямецкую мову, але эўрапейская аўдыторыя ўсё і так зразумела, і мае словы патанаюць у воплесках. Вынікам маёй песьневай авантуры сталі новыя сябры ў Нямеччыне і двухпавярховая віла з цокальнай плошчай 362 квадратныя мэтры ва ўрадавым квартале мэтраў за семсот ад Бундэстагу. Думаю, што для немцаў мой мэсыдж пра Беларусь быў ня горшы, чым выйграны футбольны матч. А тую скрынку мы расьпілі потым разам з усімі канкурсантамі там жа ў «Біргартэне». Падчас гэтага працэсу быў сказаны не адзін тост на адрас Беларусі, а мне прыйшлося зь піўным кубкам у руцэ расказаць сёе-тое дарэчнае пра нашу краіну.

* Дадзенае хутка ў два разы даражэй. Даю табе, каб ты даў мне. Дык давайце ж вып'ем! *(лац.)*



Я сьпяваю, калі я шчасьлівы. Бяз патасу: самая шчасьлівая песьня ў маім жыцьці прасьпявалася 25 жніўня 1991 году, калі мы, дэпутаты Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня, прагаласавалі за наданьне статусу канстытуцыйнага закону Дэклярацыі аб дзяржаўным суверэнітэце. Людзі запоўнілі ўсю плошчу каля Дому ўраду. Пасьля галасаваньня, перад выхадам на плошчу, тадышні прэм'ер Кебіч запрасіў нас да сябе ў кабінэт, дзе мы выпілі мо па дваццаць грамаў гарэлкі: у ягоным халадзільніку больш нічога не знайшлося. Хто быў там з дэпутатаў, ня памятаю. Помню толькі Юзіка Сярэдзіча. На плошчы людзі віталі знаёмых дэпутатаў. Хтосьці падсадзіў мяне на рэтрансьляцыйны аўтобус Беларускага тэлебачаньня. Сказаўшы нешта са сьлязамі на вачах, я засьпяваў, здаецца, адзіна магчымае і дарэчнае — купалаўскую «А ў бары-бары тры дарожанькі». Уся плошча сьпявала разам. Пасьля гэтага ўжо можна было паміраць. Апошнім часам я ўжо пачаў сумнявацца, сьпяваў я гэтую купалаўскую песьню на плошчы сапраўды ў той дзень ці, можа, іншым разам. Зянон Пазьняк, згадваючы дзень, калі былі зацьверджаны «Пагоня» і бел-чырвона-белы сьцяг як дзяржаўныя сымбалі (21 верасьня), піша, што ў той вечар «Пётра Садоўскі сьпяваў на плошчы беларускія ваярскія песьні».

# Пра добрых людзей і настаўнікаў

*Я — неадбыты лекар і фінансіст. — Добрая бібліятэкарка зь Яраслаўлю. — Найдабрэйшы міністар Дарашэвіч. — Настаўнікі ў пагонах: маёр Язэп Семяжон, падпалкоўнік Паграбны. — «Джон Ячмень» па-беларуску. — Што ведае «дзявіца Панкратава» пра дзесяць сталінскіх udaраў? — Хросныя бацькі з ін'язу: Віктар Парцянікаў, Леў Шыманскі, сэньёра Шастакоўская, прафэсар Алег Шырокаў, дацэнт Гайдучык. — Дрэнны сьмершавец А. і добры сьмершавец П. з аддзелу кадраў.*

## Як я ня стаў доктарам і начфінам

Напачатку я ўжо згадваў, што частая зьмена жыцьцёвых і прафэсійных кірункаў вынікала ня толькі з аб'ектыўных абставінаў і маёй рухомай эмацыйнай натуры, але ў значнай ступені была своеасаблівымі ўцёкамі ад абсурднасьці навакольных абставінаў. З восьмай клясы сувораўскай вучэльні я займеў акуляры, таму шлях у баёвыя вайсковыя генэралы быў для мяне адрэзаны. Ва ўсіх вайсковых установах сувораўцы вызваляліся ад уступных экзамэнаў. Як адзін зь пяці залатых мэдалістаў выпускной роты (выпускалася каля ста чалавек) я меў магчымасьць выбіраць паміж гаруча-змазачнымі матэрыяламі (Калінінград), фінансамі (Яраслаўль) і мэдыцынай (Ленінград). Я выбраў апошняе, хаця без энтузіязму. Ня вабіла нават тое, што гэта была славутая Вайскова-мэдыцынская акадэмія з традыцыямі найлепшай эўрапейскай хірургіі, дзе некалі практыкаваў сам Пірагоў. І стаяла яна на Пірагоўскай набярэжнай. Я адчуваў, што лезьці ў чалавека са скальпэлем — не маё пакліканьне. Сам я страшэнна не любіў лекавацца: забалеў зуб — ірві! Мне больш імпанаваў здаровы чалавек, які чуе і бачыць сьвет. На шчасьце, у расейскім войску ўжо тады была карупцыя, і перад навучальным годам у акадэміі афіцыйна заявілі, што ў тым годзе прыём сувораўцаў адменены, гэта вызваляе сувораўцаў ад тэрміновай службы, і што мы можам ісьці ў цывільнае жыцьцё. (Пазьней я даведаўся, што гэта было ня так. На нашыя месцы ўзялі блатных вайсковых афіцэраў.) Было радасна і боязна. У ВНУ ўжо пачаўся навучальны год, прафэсіі ніякай я ня меў. У сувораўскай вучэльні я атрымаў пасьведчаньне вадзіцеля-аматара, меў кваліфікацыю перакладчыка сярэдняй рукі і мог сяк-так пераплятаць кнігі дзякуючы неблагім урокам у пераплётнай майстэрні, але гэта не магло пракарміць. Каб неяк зачапіцца за жыцьцё і ведаючы, што гэта толькі часова, я перааформіўся ў Яраслаўскую вайскова-фінансавую вучэльню. Аддаўшы свой залаты мэдаль на захаваньне ў капцёрку, месяца паўтара я вывучаў такія дысцыпліны, як «Грошы і крэдыт», «Вайсковае забесьпячэньне», «Абозна-рэчавая гаспадарка», «Таваразварот у СССР», і штодня па тры гадзіны страявым крокам мерыў казармавы пляц пад пільным вокам старшыны звыштэрміновай службы ўкраінскага паходжаньня зь ня вельмі паэтычным прозьвішчам Кубік.

Да прысягі ў горад нас не пускалі. Вольнага часу мы мелі ўсяго трошкі больш за гадзіну,

якую я праводзіў у бібліятэцы. Выбар кніг там быў надзвычай бедны, але была вельмі сымпатычная бібліятэкарка. Канкурэнцыя за ейную ўвагу была надзвычай высокая, асабліва з боку старэйшых курсантаў, якія паступілі сюды са звыштэрміновай службы і атрымлівалі амаль афіцэрскія аклады. Але я заваяваў свой уласны пляцдарм тым, што за гадзіну зрабіў ёй пераклад тэксту з кантрольнай працы па нямецкай мове (яна была завочніца) і зь нейкай прыдуманай нагоды прачытаў на памяць маналёг Гамлета, які мы вучылі ў МнСВУ як факультатыўны матэрыял па літаратуры, і паваражыў па руцэ, сказаўшы, што яе чакае пасьпяховая кар'ера арганізатара. У бібліятэкаркі, праўда, былі вузлаватыя кароткія пальцы арганізатара, як бы цяпер сказалі, мэнэджара, і надзіва мяккія рысы твару, што стварала пэўную інтрыгу загадкавасьці. Яна нават дала мне свой хатні адрас. Дамовіліся, што пасьля прысягі, калі мне дадуць «увальніцельную», яна запросіць мяне ў госьці. Дагэтуль памятаю ейнай рукой дробненька напісанае: *«Волжская набережная, 36-1»*. Імя і прозьвішча, на жаль, не запомніў. Кажу «на жаль», таму што гэтая дзяўчына адыграла станоўчую ролю ў маім жыцьці.

Рамантычнай сустрэчы на берагах Волгі не было наканавана адбыцца. Інтрыга тут была зусім ня шэльмаўская. А здарылася вось што. За два тыдні да прысягі некаторых курсантаў зь першага курсу, у тым ліку і мяне, выклікалі ў асобы аддзел да спэцыяліста, якому звычайна наш узводны «сакрэтчык» зь ліку курсантаў пасьля лекцый і самападрыхтоўкі здаваў валізу з канспэктамі па супрацьхімічнай абароне. Ні



твару, ні прозьвішча, ні нават вайсковага званьня афіцэра са спэцчасьці я чамусьці не магу прыпомніць. Ён прапаноўваў даць згоду на ўдзел у навукова-практычным (паводле ягоных словаў, абсалютна бясьпечным) экспэрымэнце на занятках па супрацьхімічнай абароне. Побач зь ім сядзеў нейкі не знаёмы нам маёр, які амаль нічога не гаварыў, толькі параўнаў гэты экспэрымэнт псыхалягічна з тым, як малады салдат прапускае над сабой танк, седзячы ў індывідуальным акопчыку. Згодныя мусілі без супрацьгазаў правесьці хвіліны тры ў задымленай кабіне, прыняўшы адразу пасьля гэтага пэўны ўкол і ўзмоцненае харчаваньне на працягу трох дзён. Акрамя таго абяцалі вызваленьне ад страявых заняткаў і нават групавы выхад у горад. Даваўся адзін дзень на роздум. Гэтай тэмы раілі шырока не абмяркоўваць. Подпісаў пакуль ніякіх ня бралі.

У той жа дзень перад самападрыхтоўкай я пабег у вольную гадзіну, як звычайна, у бібліятэку, і тут мой лёгкі язык саслужыў мне добрую службу. Злавіўшы момант, калі ў чытальнай залі каля стала выдачы нікога не было, я таямніча паведаміў бібліятэкарцы, што, магчыма, праз дні тры-чатыры я атрымаю дазвол на выхад у горад і што можна было б тады сустрэцца. Пры гэтым я, каб падкрэсьліць сваю мужнасьць, амаль усё расказаў ёй пра «экспэрымэнт». Тут да стала нехта падышоў, і бібліятэкарка, як змоўніца, афіцыйна гучным голасам сказала, зьвяртаючыся да мяне: «Празь пятнаццаць хвілін падыдзіце, я вам складу сьпіс літаратуры!» Я пачакаў некалькі хвілін і зноў падышоў да стала. Яна працягнула мне складзены аркуш з запіскай і прапанавала прайсьці

«самому ўсё выбраць у дапаможным фондзе». Стоячы каля стэляжоў, паўшэптам і зьбіваючыся, яна пераказала зьмест запіскі, дзе яна напісала пра тое, што чула ад свайго дзядзькі, намесьніка начальніка страявога аддзелу, пра гэты «экспэрымэнт»: што гэта вельмі рызыкоўна, што прэпарат умоўна называецца «антыгаз», што на гэта пагадзіўся начальнік вучэльні, каб хутчэй атрымаць чарговае званьне. І, галоўнае, што я запомніў, яна сказала: паглядзі, каго яны адабралі, — пэўна, вясковых ці сіротаў, бо невядома, чым гэта скончыцца. На маю заўвагу, што сорамна адмаўляцца, бо скажуць, што спужаўся, яна паабяцала падумаць і дапамагчы. Для мяне гэта быў лёгкі шок. Ноччу я дрэнна спаў, сяк-так праседзеў заняткі. Увечары зноў пабег у бібліятэку. Яна дала мне некалькі таблетак горкай солі і нейкі парашок і раіла ўвечары выпіць, каб назаўтра захварэць на жывот. Я так і зрабіў. Два дні я прабыў у санчасьці і, лежачы там, зразумеў канчаткова, якая я маленькая макрыца ў гэтай сыстэме і што адгэтуль трэба тэрмінова ўцякаць. На трэці дзень я ўжо быў у роце і не зрэагаваў на каманду «Пад'ём!». Праз два дні пасьля гутаркі з камандзірам роты і начальнікам вучэльні я быў адлічаны паводле ўласнага жаданьня і атрымаў праезныя паперы і накіраваньне ў Ветрынскі райваенкамат па месцы жыхарства маёй маці для прызыву ў Савецкую Армію на тэрміновую службу. Пакідаў роту я ў суботу, у шынялі з сарванымі курсанцкімі пагонамі і фуражкай без чырвонай зоркі. Бібліятэка працавала толькі да абеду, і сваю дабрадзейку ў той дзень у вучэльні я ня бачыў. Не праз КПП, а праз гаспадарчую браму вучэльні, што вяла прама на



Волскую набярэжную, я скіраваў на адрас, што быў дробненька напісаны рукой бібліятэкаркі. На жаль, нікога не было дома. Я так і не падзякаваў добраму чалавеку. Хацеў пазьней нешта напісаць, але сам сябе адгаварыў, бо сюжэт атрымаўся сьмешнаваты: ад гераічных армейскіх будняў і рамантычнага каханьня ўцёк, мякка кажучы, з хваробай спужанага мядзьведзя. Зноў нешта кафкіянскае, як у сувораўскай вучэльні, толькі трошкі зь іншым флёрам.

## Добры міністар Дарашэвіч

Другім добрым чалавекам, які паўплываў на чарговы зыгзаг майго пакручастага лёсу, быў наш беларус, Дарашэвіч Міхаіл Васілевіч, што зь вясны 1959 году быў міністрам вышэйшай і сярэдняй спэцыяльнай адукацыі БССР. Я заўсёды згадваю яго, калі праходжу ў Менску па вуліцы, што носіць ягонае імя. Ён паспрыяў майму шчасьцю, бо дапамог мне знайсьці тую прафэсію, якая мне, як я разумею, была наканаваная лёсам. Сэрцам выбраная прафэсія, добрае здароўе, сям'я і Радзіма, калі пакуль і не ўладкаваная, — вось для мяне складнікі шчасьця.

З пэўнымі прыгодамі ў Маскве і на чыгунцы, бо меўся ехаць зь Яраслаўля ў сваё Ветрына на прызыў у войска, дабраўся я да Менску глыбокай восеньню з залатым мэдалём за сувораўскую адзінаццацігодку і трыццацьцю хрушчоўскімі рублямі ў кішэні, што скінуліся мне новыя сябры на дарогу, — на трынаццаць кіляграмаў доктарскай кілбасы. Ніхто з маіх сваякоў ня ведаў, дзе я і што я. Грошай за прададзены на Старажоўцы (была такая барахолка) новы курсанцкі шынель хапіла на некалькі дзён, каб пракарміцца і пераначаваць у знаё-

мых. Трэба было тэрмінова вызначацца, каб не аказацца дэзэртэрам ад вайсковай службы, а ісьці ў салдаты не хацелася. Рашэньне і рашучасьць прыйшлі неяк самі сабою. Залатыя мэдалі тады не давалі ніякага права, дый навучальны год ужо пад першую сэсію падыходзіў, аднак я вырашыў цьвёрда: папасьці на прыём да міністра вышэйшай адукацыі і прасіцца ў ін'яз. Калі не — паспрабую па-сапраўднаму хрысьціцца і пайсьці ў духоўную сэмінарыю. На самоце, пад чужымі дахамі па начах мяне раз-пораз ахоплівала незразумелае душэўнае тамленьне. Я ўжо тады пачаў разрывацца паміж пошукамі трансцэндэнтнай ісьціны і жывым жыцьцём.

Ужо глыбокай восеньню, з трэцяй спробы, хвілін за сорак да канца працоўнага дня пападаю на гутарку да міністра. Міністар — мажны мужчына зь вялікаватай галавой, уладарыць усім целам над доўгім і шырокім сталом, як на троне, далоні-паўкулакі, надутыя, як вайсковыя зімовыя пальчаткі, вочы жывыя, не начальніцкія. Ня ведаю, чым я яго ўзяў, магчыма, нейкімі першымі сказанымі словамі, сваёй шчырасьцю і пэўным уменьнем распавядаць. (Увогуле ўсё далейшае жыцьцё я заўважаў, што ў мяне ў гутарцы зь людзьмі, ад якіх залежала вырашэньне нейкага пытаньня, былі важныя першыя, можа, трыццаць сэкунд: якія першыя словы я знайшоў.)

Нешта такое ў мяне сказалася, што міністар адразу пачаў слухаць і, як мне здалося, заўважыў ва мне асобу. Ён прыязна ўсьміхаўся, калі-небудзь нават рагатаў, слухаючы пра мае сюррэалістычныя прыгоды дзяцінства і юнацтва. Папрасіў сакратарку прынесьці гарбаты зь лімонам і печыва і адпусьціў яе дадому. Праседзеў са мной яшчэ, мусіць, з гадзіну, патэлефанаваўшы некуды, што затрымліваецца, і распавёў сам пра сваё дзяцінства, як адзінаццацігадовым пачаў працаваць з плытагонамі, як некалькі разоў тапіўся, як наймаўся працаваць пастухом і гэтак далей. Нават прадэманстраваў мэлёдыю песні, што сьпявалі плытагоны. Скончылася ўсё тым, што Міхаіл Васілевіч сказаў прыблізна такое: «Я сам быў добры жэўжык, і горачка хлябнуў, і малым напрацаваўся. А міністар я яшчэ нядаўна. Зраблю добрую справу — вучыся. А свой залаты мэдаль апраўдай. Я пацікаўлюся, як ты будзеш вучыцца. Будзеш мой хрэсьнік». Сам прадыктаваў мне тэкст маёй заявы і напісаў рэзалюцыю: *«Принять в виде особого исключения с освобождением вакантных мест»*. На разьвітаньне пацiснуў руку і сказаў: «Я патэлефаную рэктару, каб у цябе правялі так званую праверку ведаў, бо экзамэнаў цяпер нельга прымаць. Калі зможаш, здай зімою экзамэны разам з усімі. За два месяцы пасьпееш дагнаць». Я кляўся спраўдзіць давер.

Слова сваё я стрымаў. Праўда, спачатку на факультэце папаўзьлі плёткі, што я сваяк нейкага вялікага начальніка. Іспыт па нямецкай мове я вытрымаў бліскуча, сачыненьне пісаў на вольную тэму «Мая любімая кніга» (я пісаў пра «Бяскрылых птушак» Віліса Лацыса), а па гісторыі было пытаньне пра перамогі Чырвонай Арміі ў 1944—1945 гадах. Па ўсіх трох прадметах атрымаў пяцёркі.

Я разумеў, што фармальна я стаў студэнтам незаконна, карыстаючыся сваёй трохі нахабнай харызмай, аднак сумленьне мяне ня мучыла:

усё ж у мяне быў залаты мэдаль, бацька загінуў на вайне, маці была інвалід другой групы, злыя людзі з гораду Леніна выштурхнулі мяне на вуліцу, добры чалавек у Менску кампэнсаваў злы чын дабром. Сам я нікому не зрабіў зла, бо залічылі мяне на бюджэтнае месца пасьля адсеву двоечнікаў. Два месяцы пражыў без стыпэндыі, працуючы па начах на халадзільным камбінаце, а жыў зайцам у інстытуцкім інтэрнаце. Пра свае цяжкасьці дадому нічога не пісаў. Там ведалі, што я не прападу. Веды свае я набываў сыстэматычнай працай, хоць і без асаблівых высілкаў — весела. Цяпер думаю: што было б са мною ў 1959 годзе, калі б тады існавалі, як цяпер, тэсты і лёс не сутыкнуў мяне зь міністрам Дарашэвічам? У інстытуце я міністра не падвёў. За ўвесь час навучаньня ў мяне не было ніводнай чацьвёркі ў заліковай кніжцы, толькі адна на дзяржэкзамэнах па гісторыі КПСС, якую тады ўжо перарабілі ў прадмет з назвай «навуковы камунізм». Праз гэтую чацьвёрку я не атрымаў чырвонага дыплёму.

## Добрыя настаўнікі

На выкладчыкаў мне шанцавала. Ужо студэнтам я з асаблівай удзячнасьцю ўспамінаў сваіх настаўнікаў з сувораўскай вучэльні — маёра Семяжона і падпалкоўніка Паграбнога, выкладчыка гісторыі. У літаратурным гуртку Семяжон чытаў нам свае сьвежыя пераклады Бэрнза, Шэксьпіра і Гайнэ на беларускую мову і знаёміў з навінкамі савецкай літаратуры. Мне асабліва падабаўся ягоны пераклад «Вам слова, Джон Ячмень» з Робэрта Бэрнза. Я тады яшчэ ня быў патрыётам Беларусі, але Семяжонава беларуская мова эмацыйна захапляла мяне больш, чым расейская ў перакладзе Самуіла Маршака «Джон Ячменное Зерно». Я ўяўляў сабе (бо ўсё гэта я бачыў насамрэч), як ячмень кідаюць у зямлю, як ён узыходзіць, як займаецца поле руньню, як каласіцца ніва, як наліваецца колас, як мужчыны пры ліхтарах ноччу малоцяць снапы цапамі, як зерне мочаць, сушаць, мелюць, як ходзіць брага, як нараджаецца залаты хмельны напой... Да таго ж я сам адчуваў сябе гэтым Джонам Ячменем. Як ні было цяжка, якіх ні было прыгодаў, а я — жывы, і людзям ад мяне ня горка. Мне здаецца, тады ўпершыню ў мяне мільганула недзе ў падсьвядомасьці, што беларуская мова ў пэўных гістарычных жанрах пераапранаецца ў чужыя ўборы лягчэй за расейскую. На гэты конт я штосьці пісаў пазьней у нататках па стылістыцы перакладу.

Вясною 1959 году Язэп Семяжон нават чытаў нам урыўкі з «Доктара Жывага» Барыса Пастэрнака, калі той адмовіўся ад Нобэлеўскай прэміі. Ёсіф Ігнатавіч быў вельмі добры, па характары зусім не вайсковец, цацкаўся з намі, як квактуха з куранятамі, радаваўся жывому руху душы сваіх вучняў. Мяне, бязбацькавіча і дапытлівага вучня, ён некалькі разоў запрашаў у госьці ў дом пад шпілем, што насупраць Дому радыё, і дэманстраваў сваёй жонцы як вясковага вундэркінда. Я ад задавальненьня чырванеў і моўчкі *момніў* піражкі зь мясам, якія так смачна рабіла гаспадыня. У іх быў маленькі сын, мой цёзка, якога яны звалі Пятрусь. Мяне дома звалі Пятрок ці Пётра. Ажаніўся маёр Семяжон пазнавата, калі ўжо меў сорак восем гадоў, таму, мне здавалася, вельмі

*танянёхаў* свайго Петруся. Пры кожным наведваньні гэтага гасьціннага дому я атрымліваў у падарунак якую-небудзь кніжку, аднойчы нават нешта зь перакладаў на беларускую мову з аўтарскім прысьвячэньнем.

Дагэтуль мяне мучыць сумленьне за адзін учынак: гадоў праз дваццаць я, здаецца, пакрыўдзіў свайго настаўніка, напісаўшы вельмі калючую рэцэнзію на ягоны пераклад «Песьні пра зубра» Міколы Гусоўскага. Рэцэнзія была надрукаваная ў «Полымі», дзе я таксама рабіў крытычны разбор перакладу «Фаўста» Васіля Сёмухі. Я, канечне, меў рацыю, але па маладосьці выбраў занадта крытычны стыль, пра што цяпер вельмі шкадую. Семяжон як паэт-перакладчык быў працаўнікам эквілінэарнасьці і рабіў часам пераклад на чвэрць або нават на трэць даўжэйшы за арыгінал і праз гэта часта заходзіў у стылёва-культурныя «абэрацыі», што і было прадметам маёй крытыкі. Да таго ж апошні сказ сваіх крытычных нататак я закончыў калямбурам, закляйміўшы ягоны прынцып «суаўтарства» перакладчыка як «пяра стварэньне», які ён называў «перастварэньне». Тады я яшчэ зусім ня быў хрысьціянінам.

Падпалкоўнік Паграбны быў украінец (праўда, выкарыстоўваў родную мову больш іранічна), прыгажун, артыстычная натура і выдатны пэдагог. Любіў і ўмеў праводзіць эфэктныя прыёмы, каб завалодаць увагай, сьпяваў рамансы, чытаў вершы, праводзіў на ўроках віртуальныя экскурсіі па Эрмітажы і Дрэздэнскай галерэі. Першы ўрок пачаў з чытаньня вельмі праніклівага ліста ягонага былога вучня, тады ўжо афіцэра-падводніка, дзе той вельмі разумна разважаў пра гісторыю як навуку жыцьця. Мы былі ў захапленьні ад нашага гісторыка, але баяліся папасьці яму на востры язык. Афіцэры роты недалюблівалі яго і таксама асьцерагаліся ўступаць зь ім у спрэчкі, бо ён быў велізарны эрудыт. Як бы там ні было, веды ён даў нам добрыя. Ягоным канспэктам ленінскай працы пра імпэрыялізм як найвышэйшую і апошнюю стадыю капіталізму я карыстаўся яшчэ два гады ў ін'язе. Асабліва цікава ён распавядаў пра войны. Урок пра пераможныя ўдары Чырвонай Арміі ў 1944—1945 гадах (на гэтае пытаньне мне прыйшлося адказваць пры маім запозьненым паступленьні ў ін'яз) ён пачаў так: «*Ну что может знать девица Панкратова про десять сталинских победоносных ударов!* (Акадэмік АН СССР Панкратава была навуковым рэдактарам падручніка.) *Слушайте, что я говорить буду... Пишите и нумеруйте: Тормосино, Снегирёвка, Орёл, Курск...*»



У інстытуце замежных моваў мне таксама вельмі шанцавала на выкладчыкаў. Пра аднаго зь іх, Віктара Парцянікава, выхаванца Маскоўскага інстытуту замежных моваў, я ўжо згадваў у сувязі з рамантычным каханьнем на першым курсе. Ён мне, што называецца, паставіў мову: вымаўленьне, тэмп, інтанацыю, адчуваньне стылю. І чалавек ён быў цывілізаваны, тактоўны, які пазнаёміў мяне, пэўна, з найлепшай носьбіткай нямецкай мовы ў Менску — тады ўжо немаладой асобай, Верай Юлеўнай Эліясбэрг, выкладчыцай кансэрваторыі, што мела за плячыма эўрапейскую гуманітарную школу і гаварыла аднолькава вытанчана на шмат якіх мовах, у тым ліку і на латыскай, бо вырасла ў культурным рыскім асяродку. Па

бацькоўскай лініі яна была габрэйка, а па мацярынскай мела шмат розных каранёў — латыскіх, нямецкіх, ангельскіх. Слухаць Веру Юлеўну было для мяне захапляльна, асабліва тады, калі яна пачынала пераўвасабляцца і гаварыць пра нейкую рэч то як ангелька, то як немка ці габрэйка. Тут пераўвасабленьне я разумею не як пераход з адной мовы на другую, а як погляд зь іншага боку. Вера Юлеўна была для мяне першым чалавекам, які мне растлумачыў, што, напрыклад, Шэкспір ва ўспрыманьні немцаў — зусім ня тое, чым ён ёсьць ва ўспрыманьні носьбіта расейскай культуры. Паводле ейнай рэкамэндацыі я пазьней прачытаў захапляльную іранічную кніжку П’ера Даніноса «Запіскі маёра Томпсана», дзе побыт і норавы брытанцаў люструюцца вачыма француза. У маёй прысутнасьці Вера Юлеўна гаварыла часьцей па-расейску і па-нямецку, называючы мяне «Петэрхен» — Петрусёк, бо тады, як і цяпер, мае гутарковыя ангельская ды француская былі даволі прымітыўныя. Калі-небудзь для калярыту яна ўстаўляла некалькі словаў на ідышы. Здаецца, ад яе ўпершыню я пачуў «Тумбалалайку». Мой знаёмец з часу дзяцінства Шмэрка Шандзялоўскі расказваў толькі сьмешныя гісторыі, але не сьпяваў.

Унікальным чалавекам была наша выкладчыца гішпанскай мовы — Яўгенія Аляксандраўна Шастакоўская, шляхетная сэньёра вельмі сталага веку, жонка колішняга вайсковага аташэ Расейскай імпэрыі ў Італіі, што разам з мужам вярнулася на пачатку пяцідзясятых гадоў з аргентынскай эміграцыі ў СССР. Была такая хваля патрыятычных рэпатрыянтаў, якіх адносна цёпла прыняла савецкая дзяржава. Муж спадарыні Шастакоўскай, Пабел Шастакоўскі, нават напісаў даволі савецкую кнігу «Шлях да праўды», дзе распавядаў пра сямейныя блуканьні па эміграцкіх пакутах. Ейная дачка, Людміла Картэс, выкладала мову на ангельскім факультэце — у яе, дарэчы, вучылася мая жонка. Яўгенія Шастакоўская гаварыла на эміграцкай расейскай мове, што нас вельмі цешыла, рабіла шмат калек з эўрапейскіх моваў, тыпу: «Я зрабіла чатыры лесьвіцы і задохлася», што значыла «Паднялася на пяты паверх і задыхалася». Уступны фанэтычны курс мы прайшлі за першыя сорак пяць хвілінаў, а на другім уроку ўжо чыталі тэкст з падручніка Васільевай-Швэдэ *«Leningrado es la cuna de la Revolucion socialista»*, Ленінград — калыска сацыялістычнай рэвалюцыі. Наша сэньёра дрэнна арыентавалася, што пры саветах прынята гаварыць публічна, а што не, таму напрыклад, кажучы пра карысьць чытаньня гэтага тэксту, дыдактычна тлумачыла: «Гэтыя *тэкставыя догмы пра рэвалюцыю* вы ведаеце з гісторыі, таму зьвяртайце больш увагі на граматыку і нават параўноўвайце з вашай нямецкай. Эўрапейскія мовы граматычна падобныя...» На наступныя заняткі прапанавала ахвочым вывучыць на памяць асобныя кавалкі тэксту і параўнаць гішпанскія дзеяслоўныя канструкцыі зь нямецкімі. Месяцы праз два мы ўжо згубілі страх і загаварылі па-гішпанску. Калі праходзілі тэму «Мая сям’я», яна вельмі цікава расказвала пра сваіх сваякоў. Я тады ўпершыню пачуў імя Сяргея Картэса, ейнага ўнука, які пасьля вучобы ў кансэрваторыі стаў вядомым кампазытарам і дырэктарам Дзяржаўнага тэатру опэры і балету.

Заняткі па гішпанскай мове запомніліся яшчэ тым, што мы пачуваліся на ўроках абсалютна расслаблена, як дома. Выкладчыца дазваляла есьці бутэрброды, сядзець у любой позе, глядзець у вакно, дзяўчатам дазваляла вязаць сьпіцамі. Гаварыла: у жыцьці ж вы так засвойваеце мову — едучы, вяжучы, гледзячы ў вакно. Аднак менавіта таму, што яна гэта дазваляла, мала хто гэтым карыстаўся. Мы сядзелі на ўроках заўсёды разявіўшы раты. Потым на занятках па мэтодыцы выкладаньня замежных моваў нам расказвалі пра такія прыёмы «рэляксацыі» як пра вялікае адкрыцьцё ў тагачаснай баўгарскай ды індыйскай пэдагогіцы. Яўгенія Аляксандраўна была наша добрая бабуля. Абсалютна славянскай крыві, яна была чамусьці вельмі падобная зьнешне да Далёрэс Ібаруры, толькі трошкі яшчэ большая, манумэнтальная — але зусім не «пасіянарная». Заўважана, што людзі, пражыўшы доўга ў новым этнічным асяродку, паступова становяцца праз клімат і мэнтальны побыт падобныя да абарыгенаў. Італія, Гішпанія і Аргентына наклалі свой адбітак на зьнешнасьць нашай выкладчыцы. Кожны ўрок яна пачынала з пытаньня: «Што добрага адбылося за гэтыя дні?» Пыталася і пра дрэннае. Калі мы адказвалі, яна рабіла пасьля сваё рэзюмэ, прычым вельмі нязвыкла, часта цытуючы нешта з Эвангельля або з Талстоя, Дастаеўскага, Сэрвантэса, Лёпэ дэ Вэгі, Сымона Балівара, Хуана Марэйры. Была іранічнай эпікурэйкай. Для трошкі лянівых цытавала лацінаамэрыканскія мудрасьці таго ж Марэйры: «*No por mucho madrugar amanece mas temprano*» — ад таго, што рана ўстанеш, раней не разьвіднеецца. Ахвотна дзялілася з намі



сваімі навінамі пра добрае і дрэннае. Натуральна, усё гэта па-гішпанску і амаль заўсёды з добрай іроніяй. (Прыехаўшы з «дрэннай» Аргентыны ў «добры» СССР, рэпатрыянты з часам, мякка кажучы, трошкі расчараваліся.) Напрыклад, пра добрае: «Мой унук Павал працуе цяпер на камвольным камбінаце. Учора ён атрымаў прэмію за рацыяналізатарскую прапанову: каб рабочым ня капала вада на галаву, ён падвесіў у цэху на дроце чатыры пустыя вядры, дык яго яшчэ выбралі праформгам». А вось пра мінорнае: «Мой унук Сяргей напісаў кампазыцыю для дыплёмнай працы ў кансэрваторыі і назваў яе «Зялёная яшчарка», дык вучоны савет сказаў, што гэта не па-савецку. Чаму яны баяцца яшчарак?»

Мэтодыка «прамога мэтаду» выкладаньня нашай настаўніцы была вельмі плённая. Пад канец пятага курсу я ўжо добра гаварыў па-гішпанску і нават працаваў вусным перакладчыкам, больш з даволі частымі тады кубінскімі дэлегацыямі. Ідучы першым паводле сьпісу пры разьмеркаваньні на працу, бо ня меў у залікоўцы ніводнай чацьвёркі, я прыняў прапанову застацца ў альма-матэр выкладаць гішпанскую мову. Такі ў мяне стаіць першы запіс у працоўнай кніжцы. Куба і Фідэль былі тады вельмі папулярныя. Памятаю, на канцэрце ў кансэрваторыі на бальконе зьявіўся цёмнаскуры кубінец у вайсковай форме а-ля Фідэль, і ўся заля ўстала, вітаючы ў ягонай асобе ўсю Кубу: «Віва Куба!» Кубінцаў было перакладаць цяжэй, чым аргентынцаў ці гішпанцаў, якія карысталіся больш-менш стандартнаю моваю. Кубінская манера гаварыць вельмі спэцыфічная, да таго ж большасьць тых, хто тады

прыяжджаў у Менск, былі з далёкіх правінцый і малаадукаваныя. Нават тыя, хто меў за плячыма кубінскі *«бачыльерато»* (бакаляўрат), зь цяжкасьцю цягнулі падрыхтоўчы курс у менскіх ВНУ.

Рэдкім чалавекам быў наш выкладчык гістарычнай граматыкі нямецкай мовы Леў Шыманскі. Кніжны чарвяк, выдатны знаўца свайго прадмету, ён прыстойна валодаў галоўнымі заходнеэўрапейскімі мовамі, лацінай і старажытнагрэцкай. Хобі меў самыя неверагодныя: ня лічачы нумізматыкі, майстраваў мікраскапічныя, як клапкі, кішэнныя радыёпрымачы, калекцыянаваў жывапіс з выявамі чарцей, працаваў рэстаўратарам, прафэсійна гуляў у шахматы... У ягонай кватэры, у раёне гадзіньнікавага заводу каля парку Чалюскінцаў, штотыдзень зьбіраліся пасядзёнкі. З наведнікаў мне найбольш запомніліся мастак Арлен Кашкурэвіч, які там, дарэчы, упершыню паказваў свае эскізы ілюстрацыяў да беларускага «Фаўста», і Ўладзімер Бойка, вельмі разумны і гаваркі выкладчык тэатральнага інстытуту. Перад Лявом Шыманскім я маю таксама пачуцьцё гістарычнай няёмкасьці: я ня ведаў на пяцёрку гісторыі нямецкай мовы, але ён мне ставіў «выдатна», таму што астатнія ведалі гэты прадмет нашмат горш за мяне. Я і цяпер дрэнна чытаю на «альтхохдойч». Адзінай заслужанай выдатніцай па гэтай дысцыпліне на факультэце, якая нават захаплялася гоцкай мовай, была Галіна Скакун, на сёньня безумоўна найлепшы перакладчык мастацкіх тэкстаў зь беларускай і расейскай моваў на нямецкую ва ўсёй Беларусі.



## Прыкрыя догмы — і зноў добрыя людзі

Вучыцца ў ін'язе было цікава і радасна. Замінаў толькі ідэалягічны абсурд на занятках па грамадзкіх навуках. Большасьць выкладчыкаў гэтых прадметаў працавалі як глухія дзятлы — ці то ад бязьмежнага цынізму, ці то ад дурноты. Запомніўся толькі адзін сумленны выкладчык, які на працягу менш як сэмэстру падмяняў нашага асноўнага выкладчыка і вёў сэмінары па гісторыі КПСС. Яго звалі Верасаў. Ён быў майстар спорту міжнароднай клясы па шахматах, член зборнай Беларусі. Адзін час ён, па-мойму, займаў пасаду старшыні Таварыства дружбы з замежнымі краінамі. Ён вельмі ціха гаварыў. Хто хацеў слухаць, сядаў бліжэй. Ён не чытаў лекцыю як палатно, а браў толькі некаторыя праблемы і выказваў сваё бачаньне. Гэта быў, па-мойму, 1961 год. Тады грамадзтва ўжо пачынала думаць. Верасаў валодаў талентам сказаць праўду такімі словамі, што мы разумелі абсурднасьць актуальнага моманту, і ў той жа час гэта не гучала як антысаветчына. Гэта былі развагі бывалага спакойнага чалавека з жыцьцёвым досьведам.

На занятках па філязофіі, гістмаце, дыямаце раздражняла неабходнасьць канспэктаваць творы клясыкаў марксізму-ленінізму і абавязковае наведваньне лекцыяў, дзе проста пераказваўся зьмест падручнікаў. Напачатку я стараўся па-народнаму рэагаваць на гэта як на непазьбежнае зло і, як кажуць, адбываць нумар: *не чапай жука, бо будзеш там, дзе жук.* Аднак гэта не заўсёды ўдавалася. На трэцім курсе я ўпершыню папаўся на ідэалягічную заметку, і з гэтага пайшлі непрыемнасьці. Пра адну я згадваў: мяне выкрасьлілі са сьпісу кандыда-

таў для гадавой стажыроўкі ў Ляйпцыгскі ўнівэрсытэт, матываваўшы тым, што папка з маёй асабістай справай «завалілася празь недагляд сакратаркі за сэйф».

У дысыдэнты я быў залічаны за адно інтэрвію журналісту з Заходняга Бэрліна з радыё RIAS («Радыё ў Амэрыканскім сэктары»). Гэта было не зусім інтэрвію, а магнітафонны запіс маіх тлумачэньняў падчас экскурсіі па Менску. Мае выказваньні зьявіліся ў брашуры «Quo vadis Germania?» («Куды ідзеш, Нямеччына?»), у якой паралельна падаваліся думкі людзей з Усходу і Захаду па адных і тых жа праблемах. Самае сьмешнае, што і журналіст гэты быў левы і «прагрэсіўны», бо асуджаў «мілітарызацыю» Заходняй Нямеччыны, і інтэрвію маё было банальна «правільнае», бо, стоячы каля помніка Перамогі на Круглай плошчы (так тады называлася цяперашняя плошча Перамогі), я гаварыў пра злачынствы фашыстаў, пра пакуты беларусаў, пра неабходнасьць узаемаразуменьня паміж народамі. Праўда, мною было сказана нешта і пра нашу прапаганду, што наганяе страх перад Захадам. Маім галоўным «злачынствам» быў сам факт, што я насьмеліўся даць інтэрвію заходняму журналісту і нічога ня меў супраць, калі ён назаве маё імя. Як цяпер чытаю радкі з той брашуры «Quo vadis Germania?», дзе заключны пасаж заходнебэрлінскі журналіст аформіў па-газэтнаму размашыста, ужыўшы модны тады выраз «навядзеньне мастоў паміж Усходам і Захадам»: «Нашы людзі разумеюць розьніцу паміж гуманістычнай спадчынай Гётэ, Шылера, Брэхта і чалавеканенавісьніцкай дактрынай Гітлера. Такімі словамі бялявы студэнт-германіст Пётар Садоўскі, які быў у Менску нашым гідам, закончыў сваю місію навядзеньня мастоў». Гэтую брашуру журналіст паслаў мне поштай, якая потым пачала хадзіць па розных калідорах раней, чым я яе атрымаў. Пасьля былі гутаркі ў дэканаце, партбюро і першым аддзеле.



Падобны прачуханец за кніжнае дысыдэнцтва я атрымаў гадоў празь дзесяць у Акадэміі навук у сямідзясятыя гады — калі за дзьве бутэлькі армянскага каньяку (валюты мы тады ня мелі) вучоны-фізык зь Нямеччыны, якога я перакладаў на акадэмічнай канфэрэнцыі па цепла- і масаабмене, прыслаў мне на адрас Акадэміі манаграфію Арнольда Макміліна на ангельскай мове «Гісторыя беларускай літаратуры ад вытокаў да нашых дзён», што выйшла ў ФРГ у горадзе Гісэн. Там было сёе-тое нетрадыцыйнае і ладны разьдзел, прысьвечаны беларускай літаратуры эпохі сталінскіх рэпрэсіяў. Тады мяне выклікалі ў бібліятэку ў закрыты фонд, пацікавіліся, хто гэта мне прыслаў такую кнігу, і прапанавалі расьпісацца, што я яе атрымаў. Я не расьпісваўся, бо кнігі мне не далі, а патлумачылі, што я магу напісаць заяву ў бібліятэку зь візай дырэктара інстытуту, для якіх мэтаў кніга мне патрэбная. Тады, магчыма, змагу ў спэцфондзе чытаць пэўныя разьдзелы. Прыблізна ў гэты ж час на манаграфію Макміліна быў зроблены даволі крытычны аналіз у спэцыяльным аддзеле інфармацыі Акадэміі, які ўзначальваў Лявон Яўменаў, тады блізкі да ЦК чалавек. Самае сьмешнае, што і публікацыі яўменаўскага аддзелу захоўваліся ў спэцфондзе, праўда, зь меншай пазнакай сакрэтнасьці. Вось такі, так бы мовіць, двайны прэзэрватыў. Дырэктар Інстытуту мовазнаў-

ства, мой ветранскі зямляк зь вёскі Пецюлёва, Міхаіл Раманавіч Суднік, зямля яму пухам, быў чалавек уладапаслухмяны, але добры. Паўшчуваў мяне для праформы за сувязь з замежнікамі, паклікаўшы парторга за сьведку, ды параіў быць больш асьцярожным.

Міхаіл Раманавіч, як і я, быў чалавек гаваркі. Мы, ветранскія, — усе балбатуны і *вачапоры*. Памятаю, ён з захапленьнем расказваў, як яшчэ асьпірантам у 1952 годзе чытаў лекцыі паводле кнігі таварыша Сталіна «Марксізм і пытаньні мовазнаўства». Нават для сёньняшняй беларускай прапаганды — сюррэалізм. Асьпіранта Судніка выклікалі ў ЦК КПБ, дзе ў прысутнасьці таварыша з КДБ адпаведным чынам праінструктавалі і даручылі чытаць лекцыі ў Беларускай вайсковай акрузе. У самыя вялікія залі Менску звозілі сотнямі вайскоўцаў — шэсьць лекцый на дзень. Увечары — банкет для вайсковага і партыйнага начальства, дзе і лектару давалі выпіць і закусіць. Сталы накрывалі за кулісамі. Найбольш мяне ўразіла, як Міхаіл Раманавіч згадваў, што на адным банкеце замест гарэлкі ён выпіў цэлы літар сьмятаны. У іншым эпізодзе я ледзь не памёр ад сьмеху, слухаючы, як ён чытаў лекцыю перад танкавай дывізіяй у Пячах, што пад Барысавам. На вайсковым стадыёне, безь мікрафона, ня маючы камандзерскага голасу, будучы дырэктар Інстытуту мовазнаўства АН БССР крычаў сталінскія думкі на працягу шасьці гадзін, пасьля чаго страціў голас, і ноччу паводле ўказаньня загадчыка ідэалягічнага аддзелу ЦК КПБ найлепшыя дактары рэспублікі адпойвалі асьпіранта Судніка сырадоем і пігулкамі, каб



не сарваць заўтрашняй лекцыі па кнізе правадыра ў вайсковай частцы пад Плешчаніцамі.

На заканчэньне згадаю імя яшчэ аднаго чалавека, які дапамог мне на чарговым зыгзагу ўцёкаў ад абсурднай рэчаіснасьці. Гэта быў Алег Сяргеевіч Шырокаў, выпускнік Маскоўскага ўнівэрсытэту, спэцыяліст па антычнасьці, які два гады чытаў у менскім ін’язе як гасьцявы прафэсар некалькі спэцкурсаў, у тым ліку і па модным тады структуралізьме. На ягоныя лекцыі хадзілі лінгвісты, матэматыкі і прадстаўнікі прыкладных дысцыплінаў зь Менску ды іншых гарадоў Беларусі. Выйшла так, што ён стаў кіраўніком маёй дыплёмнай працы, якую я пасьпяхова абараніў на дзяржаўных экзамэнах. Выкладаць у інстытуце любімую мною тады гішпанскую мову мне не давялося, бо зноў спрацаваў, як у Багушэвічавым вершы, фатальны прынцып «Асадзі назад!». Мае выступы на сходах, спрэчкі на сэмінарах, няўзгодненыя інтэрвію, нават публікацыі ў насьценным друку даліся ў знакі інстытуцкім ідэолягам і ня толькі. Нават мой жартаўлівы адказ у навагодняй анкеце на пытаньне «Якія вашы пляны працы ў кінэматографе?» (студэнты бачылі мяне ў масоўках у партызанскіх фільмах у ролі немца) быў ідэалягічна патлумачаны. Там я сказаў: «Атрымаць хоць маленькую ролю, але са словамі, бо, як сказала гераіня вядомага фільму, добрае слова і кошцы прыемнае». На пасяджэньні партбюро, калі абмяркоўвалася мая асабістая справа паводле ўсёй сукупнасьці грахоў, пасаж пра кошку быў інтэрпрэтаваны як *«упадочничество и пессимизм»*, а другі адказ у той жа анкеце пра выбітную падзею году (я назваў палёт амэрыканскага касьмічнага ка-

рабля «Апалён-8», што абляцеў Месяц) кваліфікаваны як захапленьне заходняй ідэалёгіяй. Большасьць апытаных назвалі ў якасьці галоўнай пазнакі году нейкі чарговы юбілей, пра які пісалі ўсе газэты.

Тадышні рэктар ін'язу прафэсар Шмыгаў быў, канечне, як усе кіраўнікі ВНУ, ідэалягічна чалавекам артадаксальным, аднак быў даволі лібэральны і прагрэсіўны ў адносінах да навуковых лінгвістычных дасьледаваньняў. У 1964 годзе ён прапанаваў прафэсару Шырокаву быць старшынём дзяржаўнай экзамэнацыйнай камісіі. Мая дыплёмная прайшла на ўра, тым больш, што яе кіраўніком быў сам старшыня камісіі, а вось з гісторыяй КПСС і навуковым камунізмам адбылася асечка. Мяне проста пачалі, што называецца, валіць. Адзначыўшы, што я нібыта слаба асьвятліў асноўныя пытаньні, мне пачалі задаваць дадатковыя. Пачалі пытаць дакладныя даты жыцьця Кляры Цэткін, назву апошняга разьдзелу «Капіталу» Маркса, колькасьць гектараў зямлі на душу насельніцтва ў дарэвалюцыйнай Расеі і нават дваццаць два прынцыпы камунізму паводле Энгельса. Алег Сяргеевіч, як далікатны інтэлігент, сядзеў на старшынёўскім месцы і ня мог зразумець, што адбываецца. Выглядала на тое, што мне могуць проста паставіць нездавальняючую адзнаку. Пасьля няўдалага адказу камісія зрабіла вялікі перапынак і на закрытым абмеркаваньні вырашала мой лёс. Як пазьней расказаў мне Алег Сяргеевіч, грамадазнаўцы хацелі паставіць мне двойку і выдаць не дыплём, а толькі даведку пра тое, што я праслухаў пяцігадовы курс лекцыяў. Аднак як старшыня дзяржкамісіі прафэсар Шырокаў дабіўся, што мне паставілі за навуковы камунізм чацьвёрку і выдалі звычайны дыплём — але не «чырвоны».

Завісла пытаньне з працай. Пасьля скандалу на дзяржэкзамэне гішпанская катэдра дала задні ход. Маючы яшчэ студэнтам навуковыя публікацыі, я плянаваў пайсьці ў завочную асьпірантуру і шукаць працу за межамі альма-матэр. І тут лёс чарговы раз прыслаў мне добрага чалавека — Сяргея Міронавіча Гайдучыка, новага загадчыка катэдры нямецкай фанэтыкі, які ўзяў мяне да сябе. Ён сумеў неяк дамовіцца з рэктаратам і аддзелам кадраў.

Сам Гайдучык быў беспартыйны і стары халасьцяк. Зь цягам часу мы сталі добрымі сябрамі і часта езьдзілі на летнік у Зялёнае да нашага калегі Ўладзімера Шатона, рэдкага паліглёта, які паміж іншымі мовамі яшчэ размаўляў на лаціне як на жывой мове. Пазьней лёс зьвёў мяне з Шатонам у Беларускім гуманітарным ліцэі імя Якуба Коласа, дзе ён выкладаў лаціну, а я — нямецкую мову. Мы гулялі з Гайдучыкам у бадмінтон, а Шатон камэнтаваў. Сябе ён называў Цэзарам, Сяргея Міронавіча — Каралём Польскім, бо той гадоў да дваццаці пяці жыў пры Польшчы на вуліцы Гранічнай у Берасьці, а мяне — Пятром Вялікім. Як цяпер чую голас «Цэзара»: *«Сэргіюс Рэгулюс Полёніэ імпульсат... Пэтрус Магніфікус адвэніт... Статус лякрымазісьсімус, сэд Рэгулюс Полёніэ карпат інстанцыя эт фацыт парыя кум Пэтро Магніфіко... Рыдыкуля кульпа Пэтры Магніфіцы...»* Гэта прыблізна значыла: «Сэргіюс, Кароль Польскі, дае імклівую падачу... Пётар Вялікі гэтак жа энэргічна адказвае... Сытуацыя ў Караля Польска-

га — хоць плач! Але ён зьбірае ў кулак сваю настойлівасьць і даводзіць Пятра Вялікага да поўнага габэцкару... Пётар Вялікі прымітыўна спудлаваў...»

## Злы фатум і дурны характар

Ін'язаўскі пэрыяд майго жыцьця гэтак жа незвычайна скончыўся, як незвычайна і пачынаўся. Прынялі мяне «як выключэньне» ў студэнты, а з выкладчыцкага корпусу выключылі пасьля пяці гадоў пасьпяховай працы з прычыны «неадпаведнасьці займанай пасадзе» з запісам у працоўную кніжку артыкулу 47-В КЗОТ СССР (КЗОТ значыла «Кодекс законов о труде».) Артыкул 47-В меў тры падпункты: здароўе, кваліфікацыя і ідэалёгія. Здароўе ў мяне было добрае: як член зборнай факультэту па лыжах на дзясятцы я выбягаў зь першага разраду. Кваліфікацыя мая была таксама неблагая. Апагеем маёй славы — не пабаюся гэтага слова — была прысутнасьць на маіх адкрытых занятках з прымяненьнем мэтадаў праграмаванага навучаньня ў фармаце навукова-практычнай канфэрэнцыі (1968 год) самога інжынэра-адмірала, акадэміка АН СССР Аксэля Іванавіча Бэрга. У інстытуце ён быў толькі на двух уроках. Калі выбралі маю групу, значыць, выкладчык я быў не найгоршы. А ўпісалі мне ў працоўную кніжку ідэалягічны трэці падпункт, які ператвараў яе, як казалі ў савецкі час, у воўчы білет. Начальнікі аддзелаў кадраў і кіраўнікі ўстановаў глядзелі на ўладальнікаў такіх працоўных кніжак як на ўцекачоў зь лепразорыяў.

Мая чарговая прыгода пачалася з таго, што, працуючы на прыёмных экзамэнах (быў гэта,



здаецца, 1967 год), я быў пасланы галоўным экзамэнатарам падмяніць на абед выкладчыка нямецкай мовы, які прымаў іспыт у групе, дзе было шмат блатных. Пратэкцыянізм тады буяў ва ўсіх ВНУ, як і ў цэлым ва ўсёй савецкай сыстэме. На ўступных экзамэнах усіх пратэжэ можна было ўмоўна падзяліць на тры групы: дзеці і блізкія сваякі выкладчыкаў, сьпіс высокага начальства і выпадковыя. Кіраўніцтва ВНУ давала маўклівую згоду на падтрымку «сваіх»: маўляў, яны будуць добрыя студэнты, дый бедным выкладчыкам будзе пэўная маральная кампэнсацыя. У асноўным тут ставілі пяцёркі. Па праўдзе сказаць, гэты кантынгент быў добра падрыхтаваны. Сьпіс дзяцей высокага начальства і «патрэбных інстытуту людзей» (напрыклад, дырэктара будтрэсту, які ўзводзіў новы інтэрнат для інстытуту) даваўся экзамэнатару зь безумоўным наказам ставіць «выдатна». У групу з блатнымі ў якасьці галоўнага прызначалі пакладзістага, надзейнага, ужо, як правіла, немаладога выкладчыка. З выпадковымі блатнымі экзамэнатар выкручваўся сам: адным дадаваў сьціплы бал, другім ставіў нізкі, калі там, як кажуць, не было жывога месца.

Дык вось прыходжу я ў блатную групу на замену. Выкладчык, што адыходзіць на абед, зьвяртае маю ўвагу на чатыры прозьвішчы, якія ўжо атрымалі білеты і рыхтуюцца (адзін зь іх толькі пры мне браў білет), і паказвае тых двух, каго я павінен апытаць першымі, бо яны ўжо даўно сядзяць. Першаму я стаўлю «выдатна», ён выпускнік 24-й менскай спэцшколы, гаворыць бегла, амаль без памылак, да таго ж я ведаю яго як пасьпяховага слухача падрыхтоўчых курсаў, дзе я працаваў пагадзінна. Ад-

казваў гэты першы літаральна хвілін пяць, таму раю наступнаму пачакаць трошкі, калі ёсьць патрэба. Тут расчыняюцца дзьверы, і ў аўдыторыю ўсоўваецца галава, а потым і цела маладога чалавека, як бы цяпер сказалі, каўказкай зьнешнасьці, са значком майстра спорту, і безапэляцыйна патрабуе на выхад абітурыента Аксёнава. Малады чалавек, што пры мне цягнуў білет (гэта і быў Аксёнаў), ускоквае і памыкаецца на выхад, але я яго затрымліваю і прашу нахабніка са значком майстра спорту зачыніць дзьверы. Мая асыстэнтка, маладая прыгожая выкладчыца з францускага факультэту (група здае нямецкую мову, але будзе вучыцца на францускім факультэце), тузае мяне за рукаво і шэпча, што абітурыент Аксёнаў — сын міністра ўнутраных справаў Аксёнава, які нядаўна быў намесьнікам старшыні КДБ. Абітурыент Аксёнаў кажа, што ён хоча адказваць зараз жа, бо яго чакаюць. Я раю яму падрыхтавацца, але ён нахабна сядае да стала экзамэнатараў і патрабуе, каб мы яго слухалі. Я пагаджаюся, але пасылаю асыстэнтку пашукаць выкладчыка, які пайшоў абедаць. Выкладчык затрымліваецца зь невядомых прычынаў. Пазьней высьвятляецца, што ён забег у стол заказаў, дзе давалі курэй і кілбасу-сэрвэлят, і доўга стаяў у чарзе. Мы з асыстэнткай пачынаем слухаць. У аўдыторыю ўбягае сакратарка прарэктара па навучальнай частцы і суне мне пад нос шматок паперы, дзе напісана: «Аксёнаў — 5». Я кажу: «Вы нам перашкаджаеце працаваць». Абітурыенты, што сядзяць зь білетамі, выдатна разумеюць сытуацыю. Абітурыент Аксёнаў адказвае дрэнна. Я на ўсякі выпадак амаль стэнаграфую памылкі. Па-шчыраму



трэба ставіць двойку. Экзамэн зацягваецца. Зноў адчыняюцца дзьверы, і ў аўдыторыю заходзіць намесьнік старшыні прыёмнай камісіі, дацэнт з катэдры мэтодыкі, і гучна, але канськіруючыся, кажа на сваёй каструбаватай ангельскай мове: *«Гів хім э фо!»* — ужо патрабуе хаця б чацьвёрку. «Не, — кажу, — ня фо, а сры». І стаўлю тройку.

Як высьветлілася, ня трэба была абітурыенту Аксёнаву тая пяцёрка, ён і зь сямнаццацьцю баламі прайшоў бы як кандыдат у майстры спорту па гімнастыцы, але ж інстытуцкае начальства старалася дагадзіць вышэйшаму. Пасьля маёй тройкі выкладчыкаў расейскай мовы прымусілі паправіць сачыненьне з чацьвёркі на пяцёрку, каб зрабіць прыстойных васямнаццаць балаў.

Увечары ў інтэрнат, дзе я жыў на выкладчыцкім паверсе, прыйшло некалькі падпітых дзецюкоў разам з тым майстрам спорту, што заглядаў у аўдыторыю, і ў прысутнасьці дзяжурнай па інтэрнаце пачалі мне пагражаць, што я адкажу за тое, што зрэзаў сына шэфа МУС, што за імі стаяць «людзі ў пагонах», і ня раілі мне позна гуляць па вуліцах. Назаўтра я дабіўся прыёму ў рэктара, расказаў пра атмасфэру на экзамэне і інцыдэнт у інтэрнаце, сказаў, што буду зьвяртацца ў міліцыю, што маю сьведак. Рэктар папрасіў мяне на некаторы час выйсьці і пачакаць у прыёмнай, потым паклікаў і працягнуў слухаўку, сказаўшы, што на тым канцы провада бацька абітурыента Аксёнава. Бацька быў ветлівы, амаль выбачаўся, сказаў, што той хуліган-майстар спорту выдае сябе за прыёмнага сына Андрэя Макаёнка і плішчыцца да ягонага сына ў сябры, і, нату-

ральна, сын пра тое заступніцтва яго не прасіў. Раіў мне (але не прасіў) па-даросламу паставіцца да інцыдэнту. Пра пастаўленую мною тройку і ціск на мяне як экзамэнатара ня згадваў. Сам факт тэлефоннай размовы пэўным чынам зьмякчыў мой гнеў, і я абяцаў падумаць. Да таго ж рэктар амаль без усялякіх «цітлаў» даў мне зразумець, што ад маіх паводзінаў будзе залежаць вырашэньне майго кватэрнага пытаньня.

На душы было нядобра. Я адчуваў, што адступаю ад крыштальных прынцыпаў, але калі мая адзіная сьведка пагрозаў, дзяжурная па інтэрнаце, сказала мне, што ня пойдзе сьведчыць ні ў які суд, я зразумеў, што нічога ў мяне не атрымаецца, і ў міліцыю не зьвяртаўся. Гісторыя стала вядомая ўсяму інстытуту. Шмат хто падыходзіў і выказваў падтрымку маёй прынцыповасьці на экзамэнах. Выкладчыца расейскай мовы, якую прымусілі падвысіць на бал адзнаку за сачыненьне, расказвала мне пра сваё прыніжэньне і плакала. Але большасьць абыходзіла мяне як неразумнага скандаліста. Паціху ўсё ўляглося, і я працягваў працаваць.

## Як я «ўладкаваў» валютчыка ў ін'яз

Прыблізна праз год нячысьцік зноў падрыхтаваў мне пастку, выкарыстаўшы амаль маю зброю. Жыць на 105 рублёў, якія атрымліваў малады выкладчык, было цяжка. Кіляграм доктарскай кілбасы каштаваў 2.20, чаравікі — 30 рублёў. Таму ўсе шукалі які-небудзь дадатковы заробак. Афіцыйна выкладчыкам ня раілі займацца рэпэтытарствам з тымі, хто зьбіраўся паступаць у наш інстытут, аднак амаль усе гэтым займаліся. Я ня быў выключэньнем. Паводле сувораўска-кадэцкай традыцыі сваім трэба аказваць дапамогу, і я выбраў з розных прапановаў (у мяне было іх дастаткова) адну ня самую выгадную — былога выпускніка МнСВУ, З. Ю., якога, паводле ягоных словаў, камісавалі з вайсковага вучылішча праз захворваньне шыйных залозаў. Выглядаў ён, праўда, выдатна. Працаваў фотакарэспандэнтам у дзіцячай газэце «Зорька», дзе галоўным рэдактарам была стрыечная сястра Кірыла Мазурава, тадышняга беларускага прэм'ера, і дзякуючы гэтаму быў забясьпечаны дэфіцытнымі фотатаварамі, з чаго, як ён расказваў, меў неблагую капейку.



Плаціў ён мне дакладна, нават вышэй сярэдняга, але ня вельмі шчодра. Жыў ён разам з маці і бабуляй, бацька пакінуў сям'ю і завёў новую. Займаліся мы амаль год, звычайна ў яго дома, бо афішаваць рэпэтытарства было непажадана. Веды былога сувораўца Ю. былі нашмат горшыя, чым колісь мае, дый заданьняў ён амаль ніколі не выконваў, казаў, што яго і так прымуць, як першаразрадніка па бегу на сто мэтраў, дый хадайніцтва ад Мазуравай будзе добрай падтрымкай. Мой вучань часта некуды нечакана зьнікаў зь Менску — казаў, у Маскву па фотатавары. Па ганарар я езьдзіў тады да бабулі. За месяц выходзіла 25 рублёў, якраз бабуліна пэнсія. Пішу пра гэта так падрабязна, таму што потым гэтыя факты будуць фігураваць у судовай справе. Прыблізна за паўмесяца да ўступных экзамэнаў Ю. сказаў мне, што ён павінен тэрмінова ад'ехаць зь Менску і вернецца толькі к экзамэнам, а грошы за ўрокі я змагу атрымаць ад бабулі ці маці. Я сам праз колькі дзён паехаў у ГДР на два тыдні перакладчыкам

з групай настаўнікаў і ў час экзамэнаў у Менску ня быў. Вярнуўшыся, патэлефанаваў свайму вучню, каб даведацца пра вынікі экзамэнаў. Яго дома не аказалася. Да тэлефону падышла бабуля, сказала, што ўнук паступіў, што па нямецкай мове атрымаў пяцёрку, і прасіла, каб я сам прыехаў па грошы, бо Ю. пасьля экзамэнаў адпачывае на поўдні. Я паехаў, забраў свае 25 рублёў, а праз тры дні мяне выклікалі ў КДБ у якасьці сьведкі па справе «групы валютных спэкулянтаў», у складзе якой быў і мой вучань З. Ю.

Пазьней я даведаўся (у КДБ мне пра гэта не сказалі), што падчасператрусу перапужаная бабуля памерла ад сардэчнага прыступу, пасьпеўшы сказаць і пра мой візыт за тры дні да гэтага, і пра тое, што *пазычыла* мне 25 рублёў. Можа, думала, што так будзе лепш для ўнука? (Забягаючы наперад, скажу, што і ўнук пасьля датэрміновага вызваленьня з турмы загінуў пры незвычайных абставінах: утапіўся як бы ад разрыву сэрца, купаючыся ў Камсамольскім возеры. Ён зьбіраўся ажаніцца з грамадзянкай ФРГ і выехаць у Ізраіль.) Самога Ю. затрымалі ў гэты час недзе на поўдні пры скупцы валюты ў замежных турыстаў. Адбыўся судовы працэс, дзе я выступаў як сьведка. Потым у газэце «Знамя юности» зьявіўся велізарны артыкул пра валютчыкаў з назвай «Угол падения», дзе ў самым канцы паміж іншым цытавалася вытрымка з *«частного определения»* суду на адрас інстытуту замежных моваў з упамінаньнем маёй пэрсоны. Пісалі, што я займаўся за грошы рэпэтытарствам з грамадзянінам Ю. і акрамя гэтага «пазычыў у бабулі падсуднага 25 рублёў, якія не аддаў нават да дня выкліку ў суд у якасьці сьведкі». Праўда, там не згадалі, што бабуля ўжо была мёртвая. Падавалася ўсё так, як бы я за 25 рублёў хабару ўладкаваў валютчыка ў інстытут. Большага абсурду нельга было прыдумаць. У час прыёмных экзамэнаў мяне нават не было ў Беларусі. Аўтарам артыкулу быў адказны сакратар «Советской Белоруссии» Міхайлаў. Імя ня памятаю. (Пазьней ён быў памочнікам у прэм’ер-міністра Чыгіра, і мне прыходзілася сутыкацца зь ім як амбасадару.) Праз пэўны час я зразумеў, што ў той інстытуцкай справе я стаў хлопчыкам для біцьця. Было і хадайніцтва Мазуравай, і захады інстытуцкай катэдры фізкультуры. Залічылі Ю. З. паводле льготнага сьпісу як спартсмэна, але інстытуту трэба было захаваць чысьціню мундзіра і «прарэагаваць». Выйшла добрая нагода пазбавіцца ад неспакойнага выкладчыка. Я нават ня схільны думаць, што КДБ тут неяк асабліва стараўся ці помсьціў за інцыдэнт з Аксёнавым.

Тое ж, што адбылося потым у інстытуце, можна, безумоўна, разглядаць як пэўную ідэалягічную пазнаку часу, параўнальную з парадкамі ў прэзыдэнцкай Беларусі. Для звальненьня выкладчыка праз «датэрміновы конкурс па неадпаведнасьці» трэба быў дазвол прафсаюзнага сходу ці мясцкаму. Быў пры савецкай уладзе такі лібэралізм. Сходу не склікалі, а вырашылі абысьціся мясцкамаўскім рашэньнем дазволіць датэрміновае правядзеньне конкурсу. Да гонару членаў інстытуцкага мясцкаму трэба сказаць, што амаль палова зь іх дэманстравала нязгоду тым, што першы раз не прыйшла на пасяджэньне. Для таго часу гэта быў учынак. Потым, калі ўсіх сабралі пад асабісты подпіс, на пасяджэньні да галасаваньня не дай-

шло: людзі патрабавалі нейкіх доказаў маёй амаральнасьці і ідэалягічнай нясьпеласьці, бо мая прафэсійная прыдатнасьць была бездакорная, у працоўнай кніжцы меў тры падзякі. Сабралі мясцкам трэці раз, на які мяне ўжо не запрасілі, і прынялі рашэньне прапусьціць мяне праз датэрміновы конкурс. Пасяджэньне адбылося без належнага кворуму: прысутнічала зноў менш за палову сьпісавага складу членаў мясцкаму. Потым я хадзіў са скаргай у абкам прафсаюзаў ВНУ, дзе юрыст сказаў, што закон парушаны, але ніякі суд маёй справы да разгляду ня прыме, бо я фактычна хачу судзіцца зь дзяржаўнай установай, і да таго ж усякія конкурсы — гэта не прэрагатыва суду і прафсаюзаў.

## Люмпэн-пралетарскі рамантызм

Самае дзіўнае адбывалася потым. Ніякага конкурсу ніхто не склікаў, бо не было ні доказаў маёй віны, ні нават легітымнага дазволу прафсаюзаў. Я заставаўся дэ-юрэ выкладчыкам, атрымліваў зарплату, але месяцы два мяне ня ставілі ў расклад і пасылалі ад аднаго начальніка да другога. Чакалі, што я добраахвотна пакіну інстытут. Слухаючы бясконцыя спачуваньні сяброў і накручваючы сябе эмацыйна, я зацяўся і напісаў эпісталярны шэдэўр на імя галоўнага рэдактара маскоўскай газэты «Известия», красамоўна цытуючы ў лісьце вытрымкі з развагаў героя «антысавецкага» раману Дудзінцава «Не хлебом единым» і робячы пэўныя экстрапаляцыі ды абагульненьні на беларускай глебе.

Газэта «Известия» мела тады пэўны лібэральны імідж. Народ зачытваўся кранальнымі нарысамі Тацяны Тэс, дзе заўсёды перамагалі дабро і справядлівасьць. Яна вяла не калёнку, а цэлую старонку, прысьвечаную сустрэчам з аўтарамі праблемных допісаў у рэдакцыю. Фантазія малявала маю сустрэчу з Тэс і вялікі «падвал» на чацьвёртай старонцы газэты, дзе будуць апісаныя непрыгожыя ўчынкі адміністрацыі ін’язу і мае пакуты, пакуты старазапаветнага Ёва і Робін Гуда. Прачакаўшы зь месяц, я патэлефанаваў у Маскву на Пушкінскую плошчу, дзе месьцілася рэдакцыя аддзелу лістоў. Паведамілі, што мой ліст накіраваны прыблізна тыдзень таму ў карэспандэнцкі пункт у Менску. Уласным карэспандэнтам газэты па Беларусі быў тады таварыш Матукоўскі, вядомы драматург і журналіст. Пішу «таварыш», таму што ён вёў сябе вельмі па-партыйнаму і на нашай першай сустрэчы, якой я дабіўся не адразу, абураўся маім «крытыканствам» адносна фармалізму ў выкладаньні грамадзкіх навукаў, пра што я таксама пісаў у лісьце. На другую сустрэчу ён запрасіў мяне ў сваю кватэру на Бранявы завулак і быў больш прыязны, нават гарбату прапанаваў. Падобна, гэта было нешта накшталт службовага кабінэту ў кватэры, бо выглядаў пакой трохі па-спартанску.

Матукоўскі паведаміў мне, што наводзіў даведкі па маёй справе, але нічога пісаць ня будзе, бо тут толькі канфлікт характараў, а сацыяльна значнага нічога няма. Як чалавек, які мае досьвед у падобных справах, ён раіў мне ня так хваравіта рэагаваць на так званую сацыяльную няроўнасьць і менш крытыкаваць кіраўніцтва, а больш моўчкі працаваць і дабівацца вынікаў. Ён абяцаў сустрэцца з рэктарам, калі

той вернецца з сэсіі ААН у Нью-Ёрку, а пакуль раіў спакойна пагаварыць з прарэктарам: той нібыта абяцаў паставіць мяне ў расклад, але на ўмовах пагадзіннай аплаты. Вынікі такога пасярэдніцтва прэсы мяне не задавальнялі, і я ў тым жа зацятым стане скіраваў свае ступакі са спартанскага кабінэту ў раскошную вітальню з паркетнай падлогай...

Калі я залазіў у рукавы майго дэмісэзоннага плашча, позірк спыніўся на дзьвюх дыхтоўных паліцах у вітальні, што былі прымацаваныя на сьценах зьлева і справа. На правай стаялі дзьве аднолькавыя новыя «Сьпідолы»* і адна старога выпуску, а на левай — некалькі зімовых шапак з натуральнага футра. І тут ува мне загаварыў люмпэн-пралетар, які спаліў апошні мост магчымага плённага кантакту з таварышам Матукоўскім... У маім наструненым вобразным уяўленьні паўсталі відзежы мардатых партыйцаў у футравых шапках, і мяне прабіла клясавай маланкай. Непрыстойна, як апошні люмпэн, я сказаў усё, што накіпела на душы. Матукоўскага я, натуральна, абразіў, паказаўшы на ягоныя «Сьпідолы» і футравыя шапкі і сказаўшы, што ён ня можа адрозьніць сацыяльна значнага ад выпадковага, бо ў яго вочы заплылі тлушчам, таму што корміцца ён з таго ж тлустага партыйнага карыта... Я параіў яму схадзіць у магазін галаўных убораў і паглядзець, як людзі душацца ў чэргах па заячыя шапкі і пішуць на далонях хімічным алоўкам, як у канцлягеры, нумар чаргі...

* Папулярны прымач Рыскага радыёзаводу з расьцягнутым кароткім дыяпазонам, на якім можна было слухаць замежныя станцыі.



Пасьля гэтага таварыш Матукоўскі, пэўна, не хадзіў да нашага рэктара, каб паспрыяць майму лёсу. А можа, дзе і пасьпеў сказаць пра маё хуліганства?

З таго часу на дублёнкі і футравыя шапкі ў мяне ўстойлівая клясавая алергія. Апагей своеасаблівага алегарычнага камізму з партыйнымі дублёнкамі і пыжыкавымі шапкамі я перажыў пазьней, на пачатку сямідзясятых. Спачатку ў Менску ў Доме кіно, а потым у Драздах, на партыйных дачах, падчас фэстывалю нямецкага кіно я перакладаў, чаргуючыся з маскоўскім перакладчыкам, з мантажнага ліста фільм рэжысэра Эрвіна Штранкі «Zum Beispiel Josef» («Напрыклад, Ёзэф») вытворчасьці гэдээраўскай студыі DEFA. Фільм не ішоў у адкрытым паказе, бо меў шмат брутальных і эратычных сцэнаў.

На закрытым паказе ў Драздах, дзе сабралася залатая моладзь беларускай партыйнай эліты, уся заля была апранутая ў дублёнкі і футравыя шапкі, хаця на дварэ стаялі толькі першыя лёгкія маразы. На гэтым вечары як прадстаўнік Саюзу кінэматаграфістаў ГДР прысутнічаў вядомы рэжысэр Конрад Вольф, малодшы брат Маркуса Вольфа, вядомага шэфа зьнешняй выведкі штазі, ён жа — малодшы сын вядомага драматурга-антыфашыста Фрыдрыха Вольфа, і актрыса — выканаўца галоўнай жаночай ролі. Рэжысэр Вольф прыйшоў на сустрэчу трошкі пад градусам, а падчас паказу фільму, відаць, яшчэ прыняў каліва, таму, калі запалілі сьвятло і ён выйшаў да мікрафона разам з выканаўцай галоўнай ролі, то паводзіў сябе, мякка кажучы, абсалютна нязмушана. Абвёўшы залю ў дублёнках і футравых шапках шэльмаўскім

поглядам, ён як бы ў якасьці сяброўскага прывітаньня з шырокай усьмешкай зьдзіўленага чалавека запытаўся: *«Warum sind Sie alle uniformiert? Sind Sie Offiziere?»* Я звычайна рэагую імгненна пры такіх перакладах, і ўсё, што гавораць замежнікі, агучваю без эмоцыяў, як робат. А тут раптам спрацаваў нейкі ўнутраны цэнзар: не хацелася ўносіць дыскамфорт у залю (я раўняўся на сваю мэнтальнасьць), і я дыпляматычна закашляўся. Гэр Вольф паляпаў мяне па сьпіне і зь лёгкім акцэнтам сказаў тое самае па-расейску, згадаўшы яшчэ свайго брата і надвор'е: «Чаму вы ўсе ў аднолькавай форме? Вы афіцэры? Мой брат Маркус — таксама афіцэр, важны афіцэр... На дварэ зусім цёпла. Трэба грэцца чаем... Ха-ха-ха...» Заля дружна, я б сказаў, на нямецкі манер, загагатала — памойму, без усялякага пачуцьця няёмкасьці, а наадварот, з карпаратыўным гонарам — мы тут такія, ха-ха-ха, усе свае, ха-ха-ха!

## Пераступаючы чарговы рубікон

Назаўтра я пайшоў у аддзел кадраў забраць працоўную кніжку і з асалодай аблаяў начальніка. Як сказаў наш беларускі клясык, хоць раз, ды добра агрызнуўся! (І гэта — частка майго беларускага шыбалету, што набліжаецца да расейскага «авось»: не дабіўшыся перамогі, хляпнуць дзьвярыма і пайсьці, пакінуўшы далейшыя складанасьці на будучыню. Ат, неяк будзе. Сьвет не бяз добрых людзей.) Забіраючы кніжку, я нават не паглядзеў, што мне там напісаў начальнік аддзелу кадраў, адстаўнік-сьмершавец з братнім украінскім прозьвішчам Андрушчанка. Акуратненькімі



літарамі і пяром з націскам, фіялетавым чарнілам, упісаў ён мне той славуты артыкул 47-В КЗОТ СССР. На мотавелазаводзе, куды я пайшоў пазьней працаваць перакладчыкам, а потым інжынэрам-патэнтазнаўцам, калі вучыўся ў завочным Маскоўскім інстытуце патэнтазнаўства, на гэты запіс начальнік аддзелу кадраў, адстаўны палкоўнік з расейскім прозьвішчам Палканаў асаблівай увагі не зьвярнуў, толькі цёпла па-вайсковаму сказаў: *«Хер с тобой, работай!»* Тое ж было і ў Акадэміі навук, і ў пэдынстытуце. Там начальнікі, праўда, не мацярыліся. Потым прыйшла перабудова і першыя хвалі Адраджэньня, і мой чорны артыкул нават трошкі забранзавеў.

Калі я ўжо быў дэпутатам Вярхоўнага Савету і старшынём камісіі замежных справаў, а потым і амбасадарам, дапытлівыя журналісты, што дакопваліся да драбніцаў біяграфіі інтэрвіяваных, часам былі схільныя стэрэатыпна трактаваць некаторыя старонкі маёй біяграфіі як вынікі дысыдэнцтва. Гэта слушна толькі ў той меры, што перадумовы некаторых падзеяў былі закладзеныя ў тадышняй ідэалягічнай сыстэме. Нічога па-грамадзку значнага я не рабіў. Я проста быў рамантыкам з задзірыстым характарам, які меў ад прыроды пэўныя здольнасьці, але з гледзішча здаровага сэнсу рабіў часта дурны выбар — калі-небудзь, як я ўжо казаў, нават зь люмпэн-пралетарскім акцэнтам. Напрыклад, гэтага нядобрага запісу ў працоўную кніжку я мог бы пазьбегнуць, калі б напісаў заяву пра звальненьне паводле ўласнага жаданьня, чаго ад мяне адміністрацыя ін'язу, падобна, чакала месяцы два з паловай, калі плаціла мне заробак нізавошта, ня ставя-

чы ў расклад маіх урокаў. Я ніколі ня быў пасапраўднаму лідэрам. Я проста дзейнічаў паводле свайго разуменьня прыстойнасьці, часьцей адзін. Часам да некага далучаўся, калі нельга было не далучацца. Сорамна быць зь некім у хаўрусе, калі той нехта гаворыць глупства. Рабіць публічна абагульненьні, заклікаць, выказвацца безапэляцыйна па ўсіх праблемах — для гэтага трэба мець спэцыфічны характар і талент.

# Перакладчыцкія ўнівэрсытэты

*Першы перакладчык, убачаны зблізу. — Прагматычныя крокі ў прафэсію. — Веды, здабытыя праз параўнаньне. — Новае пра Леніна з вуснаў замежніка. — Палітэхнічныя і эканамічныя адкрыцьці. — Такі розны КДБ. — Экзыстэнцыйнае прывыканьне і маральныя спакусы. — Рэлятывізм дапушчальнага ў часавым фармаце. — Новыя твары і памятныя сустрэчы: Альсьмік, Машэраў, Заボраў, Кашкурэвіч, Быкаў, Бядуля, Старавойтаў. — Ляўдацыё перакладчыцкай прафэсіі і эўрапейскай сыстэмнасьці.*

## Першы жывы перакладчык

Першага жывога перакладчыка я ўбачыў у раньнім дзяцінстве. Гэта быў аўстрыяк з трохі сьмешным для нас прозьвішчам Пут. Мы, праўда, не гаварылі «перакладчык», а па-ветранска-вушацку — *«піравоччак»*. Гэтае слова ўваходзіла ў наш дзіцячы ваенны слоўнікавы запас, як «немцы», «акопы», «калючы дрот», «самалёт», «парцізаны», «фітфебіль», «аўчарка», «снарад», «гільзы» і гэтак далей. Як немцы адступілі, з братам Толікам мы нават малявалі крэйдай на пакінутай немцамі бляшанай вараўні бытавы сюжэт: *«Фітфебіль піпку курыць, а піравоччак яблак есь»*. Гэта на нашай гаворцы. Твару перакладчыка я ня памятаю. Памятаю толькі акуляры, шнар на левай шчацэ і акуратненькае брушка, як капшучок. Гэр Пут быў добры, даваў нам жуйкі, цукеркі, але калі-небудзь мог і *ўпсюрыць* па лытках то-

ненькім прутком, які звычайна меў пры сабе. Аднак мы яго не баяліся. Жанчынам, якія чысьцілі немцам на кухні бульбу, ён паказваў фота сваёй сям'і: *«Матка — прыма, дочка — прыма!»* Так запомнілі жанчыны і так пераказвалі. Перад адступленьнем ён атрымаў вестку, што сям'я загінула ад бомбаў пад Венай, плакаў п'яны і гаварыў жанчынам: *«Амэрыканэр нібэлюнгэнвэркэ бум-бум-бум, і мая фамілія капут»*. (Пад Венай месьцілася некалькі танкавых заводаў з рамантычнай назвай *Nibelungen-Werke*.)

Зь дзяцінства перакладчык уяўляўся мне нейкім незвычайным чалавекам, як бы зь іншага сьвету: як гэта можна разумець тое, што *гяргечуць* немцы, і потым казаць гэта па-нашаму, ды яшчэ зь нейкім «нянаськім» вымаўленьнем і словамі? Гэта здавалася мне дзівам. Пазьней я даведаўся, што слова «гермэнэўтыка» са старажытнагрэцкай мовы, значыць «тлумачэньне», і прафэсія сапраўднага перакладчыка набыла ў маім успрыманьні найвышэйшы рэйтынг сярод гуманітарных дысцыплінаў.

## Крокі ў прафэсію

Мне страшэнна падабалася ў сувораўскай вучэльні гуляць у перакладчыка на ўроках нямецкай мовы. Асабліва было цікава, калі выкладчык прыносіў на заняткі арыгінальныя нямецкія карты, салдацкія кніжкі, апісаньне зброі, схемы. «Яфрэйтар, што значаць гэтыя тры крыжыкі на правым беразе ракі?» — чыніў я суворы допыт «палоннаму немцу», паказваючы на пажоўклай трафэйнай нямецкай карце адпаведнае месца. Паступова пацешныя заняткі перарасьлі ў нешта сур'ёзнае.



Сапраўдная практыка пачалася ў мяне ўжо ў канцы другога курсу ін'язу. Пісьмова мы практыкаваліся, перакладаючы «тысячы» студэнтам менскіх тэхнічных ВНУ. Найбольш цяжкімі лічыліся пераклады тэкстаў зь нямецкіх арыгінальных тэхнічных часопісаў. Адпаведныя былі і ганарары. Пасьля грашовай рэформы 1961 году адзін папяровы рубель быў прыблізна такога памеру, як цяперашнія дзесяць рублёў РБ. Каштарыс тэхнічнага перакладу тады мы складалі так: кошт перакладу раўняецца колькасьці папяровых рублёў, якія зьмесьцяцца на агульнай плошчы перакладу. Такім чынам за адну старонку часопіснага тэхнічнага тэксту з улікам прабелаў і лякунаў можна было зарабіць рублёў пятнаццаць, што раўнялася кошту пяці кілаграмаў добрай каўбасы або пяці пляшак шампанскага. Перакладаючы ўрыўкамі, з адной старонкай спраўляліся за два-тры дні. Пры гэтым у нас склалася нешта накшталт сярэднявечнага цэху ці карпаратыўнага прафсаюзу. Цэны трымаліся цьвёрдыя, былі «майстры» і «чарвякі». Працавалі брыгадным мэтадам. «Чарвяк» загадзя выпісваў са слоўнікаў значэньне тэхнічных тэрмінаў, а майстар фармуляваў сказы. Тэхнары, нашы контрагенты, таксама калектыўна зьбіралі грошы на разьлік. Гэта быў наш першы досьвед рынкавых адносінаў і працоўнай салідарнасьці, якая спрыяла ўсьведамленьню ўласнай прафэсійнай годнасьці.

Праца вусным перакладчыкам з замежнікамі, акрамя пэўнага заробку і пашырэньня лінгвістычных ведаў, давала нешта большае — знаёмства зь іншай мэнтальнасьцю, мастацкай і палітычнай культурай, ладам жыцьця. Спэ-

цыфіка перакладчыцкай дзейнасьці давала магчымасьць параўноўваць, аналізаваць, самому чытаць замежныя першакрыніцы, а не спажываць стэрылізаваную партыйнымі талмачамі кашу, запханую ў ідэалягічныя прэзэрвативы, і натуральна штурхала ў ціхае дысыдэнцтва. Зусім маладым я пачаў разумець, што жывём мы ў двух вымярэньнях — у прыдуманым «імі» і ў рэальным жыцьці. Яны — гэта дзяржава зь ейнымі мардатымі, ружовашчокімі і каструбаватамоўнымі паслугачамі, а мы — гэта такія, як я.

## Самапазнаньне праз чужы досьвед

Праца з грамадзянамі ГДР з гледзішча ідэалёгіі была нескладаная. Будучы дысцыплінаванымі бюргерамі і маючы генэтычна-гістарычную схільнасьць паважаць кожную ўладу, немцы з Усходу рэдка калі прымушалі перакладчыка хваляваца: усё бачанае хвалілі, выконваючы ўстаноўку Сацыялістычнай адзінай партыі Германіі — «Пераймаць досьвед СССР!». Такія расьцяжкі віселі тады ў ГДР паўсюдна. З заходнікамі было значна цяжэй. Памятаю, раньнім летам 1962 году давялося працаваць з групай журналістаў з ФРГ на сэмінары зь вельмі ідэалягічнай назвай «СССР будуе камунізм», які праходзіў у Таварыстве дружбы з замежнымі краінамі, што на вуліцы Захарава ў Менску, побач з ін'язам. У той час КПСС прадэкляравала вуснамі Хрушчова лёзунг: «Цяперашняе пакаленьне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізьме». Акурат плякат з такім тэкстам аздабляў уваход у будынак таварыства.



Канфузы і адкрыцьці пачаліся адразу пасьля ўступнага слова сакратара ЦК камсамолу БССР (канфэрэнцыя была моладзевая). Мой падапечны журналіст — дарэчы, з даволі левымі поглядамі, правых журналістаў не запрашалі — захацеў высьветліць, што значыць выраз «людзі працы». У той час (у Беларусі яшчэ і цяпер) КПСС какетнічала з рабочай клясай, *«людей труда»* супрацьпастаўляючы *«прослойке трудящейся интеллигенции»*. Лёзунг дыктатуры пралетарыяту тады яшчэ ня быў занесены канчаткова ў разрад палітычных рэліктаў. «А што, мая праца ня ёсьць працай? А што, доктар ці цырульнік не працуюць?» — пытаўся журналіст. Потым падчас круглага стала выступаў малады кінарэжысэр зь «Беларусьфільму», які, распавядаючы пра ролю кіно ў фармаваньні камуністычнага сьветапогляду, пэўна, каб прадэманстраваць сваю эрудыцыю, спаслаўся на перапіску Леніна зь нямецкай сацыял-дэмакраткай Клярай Цэткін і працытаваў вядомае ўсім савецкім людзям выказваньне правадыра рэвалюцыі пра тое, што мастацтва належыць народу, і яно павінна быць зразумелае народу, той жа журналіст страшэнна абурыўся і дазволіў сабе пасаж, які ператварыўся ў доўгі выступ. Я тады ўпершыню пачуў (ад замежніка!), што Ленін называў інтэлігенцыю «гаўном», аднак датычна перапіскі Леніна і Цэткін малады журналіст-зануда распавёў нам, анямелым ад сэнсацыі, што гэты крылаты ленінскі выраз пра «зразумелае мастацтва» ёсьць памылковым перакладам ліста Леніна 1922 году, які ён пісаў па-нямецку, і што ў савецкім ідэалягічным лёзунгу няслушна перакладзена пасіўная дзеяслоўная канструкцыя.

У поўным арыгінале было: «Мастацтва належыць народу… Народу трэба сапраўднае мастацтва, а ня «panem et circenses»*… Народ павінен любіць і разумець мастацтва… Яно павінна будзіць у ім мастака і падымаць да высокіх пачуцьцяў…» Пазьней я спраўдзіў цытату. Журналіст казаў чыстую праўду.

## Ленін як громаадвод

Зраблю чарговае адступленьне ад канвы ўспамінаў. Гэты выпадак вельмі глыбока ўзрушыў мяне. Падчас першых гадоў хрушчоўскай адлігі мы ўсе прагнулі «ленінскай праўды». У самвыдаце хадзілі неапублікаваныя ленінскія лісты да Сталіна, якія пазьней зьявіліся ў асобным томе. Нават такія паўдысыдэнты-шасьцідзясятнікі, як Еўтушэнка і Вазьнясенскі, на паэтычных вечарах, што зьбіралі сотні слухачоў, спавядаліся ў любові да Леніна. На паэтычным вечары ў нашай менскай філярмоніі Андрэй Вазьнясенскі з рыфмаваным прыдыханьнем патрабаваў сьвятых адносінаў да Леніна-праведніка: *«Уберите Ленина с денег, так цена его велика!»* Ва ўяўным паэтычным дыялёгу зь Сяргеем Ясеніным у тым жа будынку Яўген Еўтушэнка скрушна заўважаў: *«Что сволочей хватает — не беда. Нет Ленина — вот это очень тяжко…»*

Захапленьне Леніным паступова праходзіла, аднак і гадоў праз дваццаць, напрыканцы васьмідзясятых, каб нешта праблемнае апублікаваць у дзяржаўнай прэсе, даводзілася выкарыстоўваць ленінскія цытаты як громаадвод. Дастаткова згадаць дыскусіі ў «Літаратуры і мастацтве», калі галоўным рэдактарам быў Анатоль Вярцінскі. Публікацыі пра мову, нацыянальную гісторыю, школу нярэдка падмацоўваліся спасылкамі на аўтарытэт правадыра, інакш шмат чаго людзі б не прачыталі і не даведаліся. Гэта было разумна. Каб абараніць дысэртацыю, у сьпісе літаратуры пад першымі нумарамі трэба было абавязкова мець некалькі пазыцый з клясыкаў марксізму-ленінізму, нават калі на іх не рабілася спасылак. Мне цяпер сьмешна чытаць піліпікі нашых маладых патрыётаў-дэмакратаў, якія абураюцца падобным канфармізмам папярэднікаў. Калі б не было разумных кампрамісаў, мы б ня мелі такіх вучоных-дасьледчыкаў, як Грыцкевіч, Конан, Мальдзіс, Біч, Ліс, Рагойша, Сьцяпан Хусейнавіч Александровіч… Ня маючы акадэмічнай ступені, цяжка было надрукавацца, выступіць на тэлебачаньні, атрымаць лекцыйны курс. Цікава, ад каго б тады студэнты пакаленьня Сяргея Дубаўца пачулі б нешта нетрадыцыйнае пра Купалу, калі б, напрыклад, не было Алега Лойкі, які таксама вымушаны быў цытаваць клясыкаў марксізму-ленінізму? Людзі разумна рабілі магчымае ў той сыстэме, і зьмест іхнай творчасьці паступова мяняўся разам з часам. Вельмі савецкая брашура Анатоля Грыцкевіча пра Слуцак, напісаная гадоў трыццаць таму, не зацямняе ягоных выдатных публікацыяў апошніх гадоў пра Слуцкі збройны чын…

* Хлеба і відовішчаў! — патрабавальны крык рымскага плебсу эпохі імпэратарскай улады.

## Тэхніка і палітыка

Праца з замежнымі тэхнічнымі спэцыялістамі спрыяла фармаваньню крытычнага погляду на нашу эканамічную сыстэму. Згадваю адзін надзвычай красамоўны эпізод сваёй перакладчыцкай працы ў рэспубліканскім аб'яднаньні «Аргтэхбуд», якое мела офіс у цэнтры Менску і так званую тэхнічную пляцоўку ў прамысловай зоне Партызанскага раёну сталіцы. Аб'яднаньне купіла ў канцы лета ў ФРГ спэцыяльны кран з помпай для падачы бэтону на вялікую вышыню для будаўнічых работ. Нямецкія спэцыялісты зь фірмы правялі пробнае бэтанаваньне сваім прывезеным бэтонам у прысутнасьці заказчыка і, пакінуўшы ўсе інструкцыі для эксплюатацыі, паехалі дадому. Нашы менскія будаўнікі папрацавалі самі, выкарыстаўшы нізкаякасны бэтон, не прамылі рукавоў, не зьлілі рэшткаў бэтону і вады зь ёмістасьцяў і пакінулі спаруду стаяць усю восень і зіму на дварэ, а вясною накіравалі фірме рэклямацыйную прэтэнзію, што кран не працуе. Праз тыдзень сваім ходам на аўтамабілі «Фольксваген-жук» з інструмэнтам прыехаў тэхнік-рамонтнік, малады чалавек гадоў дваццаці пяці. Да крану яго адразу не дапусьцілі, а на першую «афіцыйную» сустрэчу зь ім прыйшлі начальнік будтрэсту, галоўны інжынэр і яшчэ з паўтузіна спэцыялістаў з тэхнагляду, аддзелу імпарту і збыту і гэтак далей. Нямецкі тэхнік зьдзівіўся вялікай колькасьці прысутных і папрасіў, каб яму хутчэй паказалі дэфэктны кран. Высьветлілася, што акрамя банальнага закупорваньня рукавоў і лопнутага ад марозу сэгмэнту помпы, запоўненай вадою, ёсьць яшчэ адзін вельмі савецкі дэфэкт — у камплекце электракіраваньня нехта скраў дзьве важныя дэталі. Спадзеючыся ўсё ж замацавацца на беларускім рынку, фірма праз два дні (!) прыслала «Люфтганзай» новы сэгмэнт помпы (бясплатна!) і дэталі на замену скрадзеных — за плату, бо сама атрымлівала іх па каапэрацыі з Даніі за немалыя грошы. Потым, пакуль беларускія спэцыялісты адкалупвалі ды вымывалі рэшткі бэтону з рукавоў, немца шчодра паілі гарэлкай. Ён, абрусеўшы за гэтыя дні, нават на тэхпляцоўку прыяжджаў п'яны на сваім «Жуку» і ўсё дзівіўся: «Адзін працуе, а дзесяць глядзяць!»

Дзякуючы перакладам я атрымаў самавукам пэўную політэхнічную адукацыю. Дзе толькі ні прыходзілася працаваць у вольны ад работы час! Калі-небудзь высокае начальства з адпаведных установаў дабівалася майго вызваленьня ад працы. Розныя міністэрствы і ведамствы, мастакі, літаратары, Інстытут цепла- і масаабмену, НДІ расьлінаводзтва, НДІ бульбаводзтва, ЦСУ, аўтазавод, трактарны, Таварыства дружбы, «Беларусьфільм», перадавыя калгасы і саўгасы, Палац спорту, электратэхнічны завод імя Казлова, радыё і тэлебачаньне, Савет эканамічнай узаемадапамогі, Гандлёвая палата, ВНУ і нават ЦК КПБ... Прыходзілася перакладаць пасьлядоўна і сынхронна і рабіць пісьмовыя пераклады.

## КДБ як частка прыроднага асяродку

У чытача можа ўзьнікнуць пытаньне: як гэта чалавек, які меў рэпутацыю ня вельмі ідэалягічна надзейнага, мог так свабодна працаваць у савецкі час з замежнікамі? Нешта тут падазронае... Быў жа тут усюды прысутны КДБ.

Пра КДБ я чуў з маленства: з расповедаў маці

пра «добраахвотную» вярбоўку разам з бацькам да чалдонаў, пра зьніклых бацькавых братоў, з успамінаў цёткі Анэты, як іх везьлі ўсёй сям'ёй эшалёнам амаль месяц з прыпынкамі разам з прыбалтамі з Полацку да станцыі Тэн-Тэк у Талды-Курганскай вобласьці, як перамерла амаль палова «кантынгенту», як іх выкулілі з грузавікоў у Галодным стэпе і загадалі рыць зямлянкі... Потым КДБ быў усё жыцьцё побач са мной, як зьява прыроды, як электрычны ток у правадах. Са ста трох выпускнікоў нашай 3-й роты (выпуск 1959 году) сама меней чалавек дваццаць зьвязалі свой лёс са спэцслужбамі. Адзін даслужыўся да пасады абласнога начальніка тут у Беларусі, ведаю аднаго Героя Савецкага Саюзу, які атабарыўся пасьля пэнсіі ў Маскве. З выпуску 1964 году ін'язу з розных факультэтаў згадваю чалавек дзесяць, якія сталі афіцэрамі і служылі на Кубе, у Анголе, Эгіпце, Нямеччыне. Толькі з маіх ін'язаўскіх студэнтаў дакладна ведаю шасьцярых з гэтай службы, якія ўжо на пэнсіі і пасьпяхова працуюць у службах аховы і бізнэсе. Эпізадычна прыходзіцца сустракацца і са старэйшымі, і з маладзейшымі, гутарыць, калі-небудзь з выпіўкай і даволі доўга. Адзін расказваў, што ў 1978 годзе браў удзел у групе баявой падтрымкі пры штурме палацу аўганскага прэзыдэнта Аміна, мае баявы ордэн. Другі апавядаў, як брыдка бывае часам выконваць неканстытуцыйныя даручэньні, але ж ёсьць сям'я...

У адрозьненьне, напрыклад, ад ФРГ, дзе ў войску і спэцслужбах чалавек можа адмовіцца выконваць загад, калі лічыць яго супрацьзаконным, і абскардзіць яго ў судзе, нашыя людзі ў пагонах такога права ня маюць. Працуючы перакладчыкам, будучы старшынём камісіі замежных справаў у Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня, потым амбасадарам, прыйшлося сустрэцца зь дзясяткамі прадстаўнікоў гэтай службы, а са старшынём КДБ Эдуардам Ширкоўскім даводзілася на працягу двух з паловай гадоў прафэсійна супрацоўнічаць у зьнешнеэканамічнай галіне. Тут, натуральна, ня раз паўставалі пытаньні этычнага кшталту: як не пераступіць мяжу прыстойнасьці, бо спэцыфіка гэтай працы, як і дзейнасьці той жа міліцыі, судоў ці ОБХСС, часта патрабуе пэўнай сакрэтнасьці. А дзе сакрэтнасьць, ды яшчэ цяжка кантраляваная — там і спакуса грэхападзеньня для слабога чалавека: адчуць сябе абраным, асабліва абароненым, адпомсьціць крыўдзіцелю, разбагацець.



## Экзыстэнцыйна гледзячы...

У постсавецкім грамадзтве ў масавай сьвядомасьці даволі аднабокае ўяўленьне пра спэцслужбы: дамінуюць стэрэатыпы пра палітычны вышук і сталінскія рэпрэсіі. Я не хачу гаварыць банальных рэчаў пра гнюснасьць палітычных правакацыяў тады і сёньня ў нашай прэзыдэнцкай рэспубліцы. Яны аднолькавыя пры ўсіх дыктатарскіх рэжымах. Аднак перш чым перайсьці да ўласных уражаньняў, зьвярну ўвагу чытача на адну важную акалічнасьць.

Пачынаючы яшчэ з часу Расейскай імпэрыі і да сёньняшніх дзён, на нашых землях дзяржаўная машына не стварае сьветлым галовам аптымальных умоваў для кар'еры, і ў спэцслужбы, ня лічачы хіба палітычнага вышуку, ішлі і ідуць разумныя, амбітныя асобы. Асабліва гэта тычыцца тых, хто апынуўся ў сыстэ-

ме, маючы іншую базавую адукацыю. Будучы амбасадарам у ФРГ, зь літаратуры і з гутарак з дасьведчанымі людзьмі я фрагмэнтарна пазнаёміўся зь дзейнасьцю структураў, што займаюцца аховай Канстытуцыі і дзяржаўнай бясьпекай. Функцыянальна падабенства вялікае нават з КДБ часу СССР. Толькі з гледзішча мэнтальнасьці супрацоўнікаў і месца саміх службаў у ярархіі нацыянальных каштоўнасьцяў — розьніца вялікая. У Нямеччыне ў супрацоўнікі спэцслужбаў не імкнуцца самыя таленавітыя. Там для разумнага і працавітага чалавека ёсьць магчымасьць добра ўладкавацца ў цывільным жыцьці, напрыклад, празь бізнэс. Маладая нямецкая эліта не глядзіць на фэдэральную і зьнешнюю выведку або на ведамства аховы Канстытуцыі як на Алімп, яна шукае месца ў сыстэме мэнэджарства і высокіх тэхналёгіяў, у тым ліку ў ЗША, без патрыятычных пакутаў. У нас у КДБ — і тады і цяпер — адносны працэнт тых, хто хоча стаць сапраўднай элітай і становіцца ёй, значна вышэйшы, чым на Захадзе. Нашыя ціхія хлопцы ня толькі самі ловяць шанец, але і разьмяркоўваюць шанцы, нават ужо пайшоўшы на пэнсію. У краіне, дзе ўсё функцыянуе ня лепшым чынам, КДБ звычайна працуе лепш, чым уся дзяржаўная сыстэма. Разьмяркоўваючы шанцы, спэцслужба раздае і пэўныя порцыі страху, што для функцыянаваньня аўтарытарнай дзяржавы проста неабходна. Ведаю гэта па тых выпускніках ін’язу, таксама і маіх студэнтах, якія пайшлі ў КДБ і раз-пораз выплываюць на паверхню ў фармаце грамадзкіх кампаніяў, якія кантралюе дзяржава. Ня ведаю, якой якасьці рэкруты працуюць цяпер у гэтай нішы. Мяркуючы па выніках, тут



стала больш прафэсіяналізму і цынізму… Аддзелы спэцслужбаў могуць перакрыжоўвацца і абменьвацца інфармацыяй, аднак шараговыя грамадзяне, якія ўскосна сутыкаюцца паводле характару сваёй працы з супрацоўнікамі гэтага ведамства, кожны раз самі робяць выбар, як паводзіць сябе ў кожным канкрэтным выпадку.

Вось Уладзімер Арлоў мае рэдкую крыштальную рэпутацыю беларускага дысыдэнта і паводле свайго сумленьня дазваляе сабе ў кнізе «Імёны свабоды» называць прозьвішчы тых, хто даносіў; Алесь Емяльянаў (зямля яму пухам!) аднойчы публічна расказаў, што яму спэцслужбы прапаноўвалі супрацоўніцтва; нехта ня проста добраахвотна, але з карысьлівых мэтаў пісаў у «органы» няпраўду пра некага; нехта «мэтазгодна» прамаўчаў або нават «як трэба» прагаласаваў на сходзе, калі ягонага калегу выганялі з працы; нехта пракаўтнуў сваю крыўду і працягваў хадзіць на службу, калі трэба было бегма бегчы або вешацца, каб не запляміцца нават сваёй прысутнасьцю ў пэўным месцы; нехта яшчэ зрабіў нешта; а нехта не зрабіў нечага… Колькі лёсаў, столькі тыпалёгіяў амаральнасьці — большай, меншай. Таталітарная машына прывязала ўсіх да калясьніцы амаральнасьці. Немцы ўсёй нацыяй найніжэй за ўсіх у сьвеце палі маральна і найсыстэмней за ўсіх склясыфікавалі сваю віну з пэўнай ступеняй рэлятывізму, бо прыплюсавалі ў свой актыў уласных ахвяраў сярэдзіны саракавых. Паводле маральнага абсалюту нямецкай клясыфікацыі Васілю Быкаву трэба было адмаўляцца ад годнасьці Героя Сацыялістычнай працы, бо ў імя гэтага самага сацы-

ялізму ягоных жа герояў раскулачвалі і закопвалі ў жоўты пясок за любоў да сваёй зямлі.

Вярнуся да сваёй асобы. Хочацца паглядзець на КДБ як на фэномэн савецкага грамадзтва — экзыстэнцыйна. Раней я дазволіў сабе мэтафару, сказаўшы, што КДБ (так і хочацца гаварыць «было», як пра сутнасна-прыродную зьяву: *гало, разводзьдзе, нашэсьце, дабро, зло, сумненьне )* быў з маімі сучасьнікамі ўсё жыцьцё побач, як электрычны ток у правадах. Электрыкі прывыкаюць да невялікіх напругаў і без дыэлектрычных пальчатак злучаюць голыя кантакты. Уявіце сабе сытуацыю: 1961 год, мы, чалавек пяць, студэнты трэцяга курсу нямецкага факультэту, пасьля заканчэньня так званых «інтурыстаўскіх» курсаў едзем з нашым інструктарам і з групай грамадзян ГДР у аўтобусе па праспэкце Леніна (былы імя Сталіна, потым імя Скарыны, цяпер Незалежнасьці!) і слухаем для практыкі адну з нашых студэнтак, якая дае тлумачэньні як гід-перакладчык. Мы сядзім асобна ад турыстаў на задніх месцах. Ад чыгуначнага вакзалу праяжджаем паўз паштамт, гатэль «Менск». Наперадзе паказваецца імпазантны будынак КДБ. Нечакана мужчынскі голас з асяродку турыстаў пытаецца: «А што гэта за будынак наперадзе зьлева?» Пры гэтым нямецкае слова «будынак» (Gebäude) у артыкуляцыі дапытлівага турыста для фанэтычна спрактыкаванага вуха гучыць зусім не па-нямецку, а хутчэй па-беларуску — «гэбойдэ», зь вельмі звонкімі «б» і «д» і гартанным «г». Па-нямецку павінна было б быць нешта накшталт «кэпойта». Практыкантка зь ляпідарнай гатоўнасьцю, як бы паміж іншым, ветліва адказвае: «Гэта адміністрацыйны будынак» і хуценька зьвяртае ўвагу слухачоў на будынак ГУМу. Па заканчэньні экскурсіі ў офісе «Інтурысту» ў гатэлі «Менск» адбываецца аналіз праведзенай экскурсіі. На нашае зьдзіўленьне, акрамя інструктара ў пакоі сядзіць «немец», які задаваў пытаньне пра будынак КДБ. Ім аказаўся прадстаўнік спэцслужбы з даволі цікавым прозьвішчам Шкіль, таўсматы, як дзежка з зацьвярдзелым цестам, і зь вельмі добрым тварам дзядзька гадоў на сорак пяць. З маім сябрам, які потым, як і я, вазіў турыстычныя групы па Менску, мы так і звалі паміж сабою гэтага дзядзьку, «Гэбойдэ». Зь ім чаргаваўся яшчэ адзін «куратар» — маладзейшы, вышэйшага росту, зусім не кансьпіратыўна апрануты ў адзін і той жа шэры гарнітур на працягу двух гадоў. Ён заўсёды прыходзіў на абед на «Фабрыку-кухню» (пазьней «Папараць-кветка»), дзе еў бясплатныя службовыя абеды разам зь нямецкімі турыстамі. Цяпер я пэрыядычна бачу яго ў супэрмаркеце «Юбілейны». Ён ані не пастарэў і працуе тут, выконваючы, відавочна, нейкія ўжо цывільныя адміністрацыйныя функцыі, бо ходзіць поплеч з дырэктарам і аддае каманды жанчынам у белых халатах.

Прывяду яшчэ адзін прыклад таго, як мы працавалі ў савецкі час і як намі апекаваліся «старэйшыя таварышы». Пры гэтым — я кажу толькі пра сябе — пачуцьцё прыкрасьці, што табе не давяраюць, кампэнсавалася іншым, якое, як гнілаваты чарвяк, упаўзала ў падсьвядомасьць: канечне, я маленькі шрубчык, але я належу да пэўнай карпарацыі абраных, я ўжо як бы аўтаматычна абаронены ад нечаканасьцяў грамадзтва, дзе жыць вельмі складана... А фактура такая: першы раз я еду за мяжу з гру-

пай турыстаў у ГДР на «Балтыйскі тыдзень», на поўнач Нямеччыны ў гарады Росток, Штральзунд, Барт. Інструктаж у будынку ЦК камсамолу. Нейкі дзядзька, не назваўшы сябе, знаёміць нас, двух перакладчыкаў, яшчэ студэнтаў, з кіраўніком групы (загадчык аддзелу гарвыканкаму) і двума таварышамі — назавём іх Іванам Пятровічам і Мікалаем Сяргеевічам, людзьмі з абсалютна незапамінальнымі тварамі і невызначальнага ўзросту (можа, трыццаць? можа, сорак пяць?), апранутымі ў сьціплыя цёмныя гарнітуры. Раіць у складаных выпадках зьвяртацца да іх па дапамогу... Можна было б шмат расказваць, як гэтыя хлопцы на нямецкім балтыйскім узьбярэжжы дружна бегалі раніцой з бунгала на зарадку, а потым у гэтых жа цёмна-сіняга кітайскага колеру тоненькіх, як плеўка, спартыўных касьцюмах зь віслым вузлом мужчынскага начыньня паміж ног, але ўжо з фотаапаратам цераз плячо, прыходзілі ў сталоўку на сьняданак. Кіраўнік групы на зарадку ня бегаў, але ў гарнітуры з гальштукам хадзіў і ў сталоўку, і на пляж. Праўда, аднойчы распрануўся дагала, калі пасьля добрай выпіўкі таемна, разам з Іванам Пятровічам, перабраўся на тэрыторыю FKK, нудысцкага лягеру, каб хоць здалёку зірнуць на амаральных сацыялістычных нудыстаў. Мяне яны ўзялі на ўсякі выпадак, як перакладчыка: мала што?! Прыйшлося таксама татальна распрануцца. Я потым, вярнуўшыся дадому ў Менск, па сакрэце і маляўніча расказваў сябрам убачанае, адчуваючы сябе трошкі абраным і далучаным да заходняга салодкага жыцьця. Адпаведна мая атрактыўнасьць павышалася ў сяброўскім коле ва ўсіх сэнсах з хуткасьцю росту гарбуза.



## Геапалітыка і «шпіёны»

Калі гаварыць больш сур’ёзна і ў «макрафармаце», то трэба прызнаць, што нямецкамоўныя перакладчыкі для нашых спэцслужбаў былі мала цікавыя. Штазі працавала, пэўна, лепш за КДБ, і ненадзейных нават у СССР не выпускала. Валюты ў гэдээраўцаў не было, яны самі нават тое-сёе куплялі ў нас за рублі. Кантакты з Аўстрыяй і Швайцарыяй былі радзейшыя. Дзяржбясьпека працавала больш з ангельскаі францускамоўнымі замежнікамі. Было важна займець агентуру ў новых незалежных краінах Азіі і Афрыкі. Уявіце сабе: у політэхнічным інстытуце ў Менску аказаўся пляменьнік уплывовага правадыра племені зь Нігерыі, які мае шанцы стаць прэм’ер-міністрам пасьля перамогі сацыялістычнай рэвалюцыі. Добра зь ім і гарэлкі папіць, і зь дзеўкай нашай пазнаёміць. А раптам ажэніцца? Будзе тады ў нас свой чалавек недзе ў Афрыцы — можа, ракеты дазволіць паставіць, можа, арганізуе ў суседняй краіне які-небудзь новы фронт нацыянальнага вызваленьня ад каляніяльнага рабства?

За тэхнічнымі спэцыялістамі шырока распаўсюджаных прафэсій сачылі менш, чым за прадстаўнікамі гуманітарных місій. Куратары КДБ былі на канфэрэнцыях з удзелам замежных гасьцей, выставах, турыстычных групах, у інстытутах, дзе працягла працавалі замежныя спэцыялісты. Ва ўстановах, дзе былі так званыя першыя аддзелы і рэжым сакрэтнасьці, перакладчыкаў на пачатку працы інструктавалі, а па яе заканчэньні прасілі запоўніць надрукаваную на ратататары стандартную анкету пра замежніка. Нічога там асабліва цікавага не

было. Хіба што графа пра маёмасны стан замежніка, калі перакладчык выпадкова нешта даведаўся: нерухомасьць, машыны, маёмасьць сямейнікаў. І быў пункт пра палітычную заангажаванасьць: якой партыі сымпатызуе і за каго галасуе? Звычайна перакладчык ня меў часу гутарыць на такія тэмы. У канцы была прыпіска-прапанова дапоўніць анкету, калі перакладчык мае цікавую інфармацыю. Хто хацеў — пісаў, нікога не выпытвалі і не прымушалі «стучаць». Звычайна ўсе ставілі прочырк. За сваю практыку я сутыкнуўся са шпіёнскімі жарсьцямі толькі два разы. Першы раз — на выязной сэсіі СЭУ, якая праводзілася на Менскім заводзе халадзільнікаў. Там узьнік канфлікт пры падпісаньні кансалідаванага кантракту паміж заказчыкам з СССР і падрадчыкам зь Югаславіі, які дзейнічаў у змове з прадстаўніком ФРГ. Я выпадкова, як перакладчык, зразумеў сытуацыю і патлумачыў усё кіраўніку перамоваў з савецка-беларускага боку. Нават памятаю ягонае прозьвішча — Воранаў, густоўна апрануты мужчына са значком дэпутата Вярхоўнага Савету. Пытаньне хутка разрулявалі, замяніўшы югаслаўскага перамоўшчыка. Арганізатары той выязной сэсіі паслалі нават пісьмовую падзяку на адрас маёй альма-матэр і ўганаравалі мяне грашовай прэміяй.

Другі раз сытуацыя была сапраўды падобная да шпіёнскай. Па заяўцы Гандлёвай палаты я працаваў з прадстаўніком амэрыканскай фірмы «Бостыч», грамадзянінам ФРГ, на візытоўцы якога значылася *«Sales' Manager/Socialist Countries»* («Мэнэджар па продажах у сацыялістычных краінах»). Даволі дзіўная візытоўка. Звычайна ў такіх выпадках канкрэтызуюць рэгіён, а не грамадзкі лад. Прыехаў ён на белым магутным «мэрсэдэсе» з прычэпам, поўным усялякага электроннага начыньня для сродкаў сувязі. Гэта была перасоўная выстава. Потым ён меўся ехаць далей у некалькі расейскіх гарадоў. Я сам быў сьведкам, як у яго некалькі разоў глохнуў рухавік у цэнтры Менску. Тады ён выходзіў, адчыняў прычэп, нешта браў, адчыняў капот, капаўся. Як пад'яжджала міліцыя, ён хутка ўсё папраўляў. КДБ за ім сачыў. Са мной пазьней была гутарка. Як я зразумеў, ягоны аўтамабіль «псаваўся» нібыта каля тых месцаў, дзе праходзілі важныя лініі сувязі. У Менску яго ніхто не затрымліваў, яго «павялі» далей у Расею. Гаварылі, што фірма «Бостыч» апекавалася шырокай палітрай тавараў — ад швейных іголак да камплектаваньня крылатых ракетаў. Да сёньня ня ведаю, што тут было на самай справе.

## Новыя твары і знаёмствы

Добрых спэцыялістаў тэхнічнага перакладу ў нас тады было мала, можа, чалавек дзесяць на ўсю Беларусь. Я ня быў лепшым, але, думаю, у першую дзясятку ўваходзіў. Карыфэем у нас быў Аркадзь Майсеевіч Гальдштэйн. Ягоная кватэра на вуліцы Захарава была ператвораная ў тэхнічную нямецкамоўную бібліятэку. Там можна было знайсьці ўсё: ад інструкцыі па эксплюатацыі пілы для расьпілоўкі сьвіных туш да апісаньня геліева-кіслароднай устаноўкі на падводнай лодцы. Як некалі ў ін'язе ў студэнцкія гады, у нас таксама было сваё карпаратыўнае сяброўства і з заказчыкамі, і з рэцэнзэнтамі. Мы кантактавалі ў асноўным праз бюро перакладаў Гандлёвай палаты. Аднак гэта не

ўплывала на якасьць працы. Перакладчык ведаў рэцэнзэнта, а рэцэнзэнт — перакладчыка, і тут ужо была справа гонару зрабіць працу з найменшымі хібамі.

Працуючы перакладчыкам, я меў магчымасьць паназіраць, пазнаёміцца, а калі-небудзь і працягнуць дзелавое знаёмства зь цікавымі людзьмі нашай Беларусі. Вельмі каларытнай фігурай быў, напрыклад, Пётар Іванавіч Альсьмік, Герой Сацыялістычнай працы, ляўрэат Сталінскай прэміі, дырэктар Інстытуту бульбаводзтва, што ў Самахвалавічах. У Самахвалавічах я правёў тыдні два з бульбаводамі ГДР, якія прыяжджалі да нас абменьвацца навуковым досьведам. Яны дзівіліся, якая смачная ў нас бульба. Першае знаёмства з прафэсарам Альсьмікам было незвычайнае: заходзім у лябараторыю гатунковых пробаў, а там на сямі плітах варыцца бульба, а ён, як бусел на балоце, ходзіць зь вялікай драўлянай лыжкай і каштуе па чарзе ўзвар з кожнага сагана. Побач лябарантка запаўняе прабіркі і запісвае ўражаньні дэгустатара. Аказваецца, для кожнага гатунку важна ведаць, якія рэчывы і на якой хвіліне варкі вызваляюцца з бульбяной масы ў працэсе інтэнсіўнага нагрэву, каб потым рабіць навуковыя высновы. Потым давялося пакаштаваць і беларускай бульбяной «альсьмікоўкі».

Аднойчы я працаваў зь вялікім «дэсантам» вельмі немаладых нямецкіх літаратараў, мастакоў і шрыфтавікоў з Усходу і Захаду Нямеччыны, сярод якіх былі і бацькі нямецкага руху дадаістаў, што былі знаёмыя асабіста з Шагалам, Эль Ліціцкім, Малевічам. Былі некалькі сустрэчаў у майстэрнях беларускіх мастакоў. Найбольш цікавыя былі гутаркі з Арленам



Кашкурэвічам і Барысам Заборавым. Першы аказаўся надзвычай дасьведчаным суразмоўцам ня толькі ў сваёй спэцыяльнасьці, але і ў эўрапейскай гісторыі і паэзіі. А Забораў тады пачынаў працаваць над ілюстрацыямі для двухсоттамовага збору «Ўсясьветнай літаратуры». У той час дрэздэнскае выдавецтва выдала калекцыйным тыражом альбом зь ягонымі ілюстрацыямі да «Кроткай» Дастаеўскага з аўтарскімі «дамалёўкамі» да кожнага экзэмпляру. Тады я ўпершыню занырнуў у складанасьці творчых адносінаў у Саюзе мастакоў Беларусі, дзе талент не заўсёды вызначаў творчы лёс мастака.

Непрыемнае ўражаньне пакінулі ў мяне наведваньні з замежнікамі перадавых калгасаў на Меншчыне, Магілёўшчыне і Берасьцейшчыне, дзе старшынямі былі вядомыя кіраўнікі — Бядуля, Калачык, Скакун і Старавойтаў. Першым двум наш вядомы публіцыст Яўген Будзінас (зямля яму пухам!) нават прысьвяціў асобныя кнігі, а Андрэй Вазьнясенскі пасьля гасьцяваньня ў Бядулевым калгасе — не без уплыву Будзінаса — прысьвяціў Бядулю верш, надрукаваны ў маскоўскай «Литературной газете». Вялікі прыхільнік шагалаўскай творчасьці ўвогуле і шагалаўскіх лятучых габрэяў, Вазьнясенскі назваў верш «Мужык у палёце». Для мяне гэта гучала пошла і фальшыва. Бядуля, магчыма, як ніхто іншы сярод зорных кіраўнікоў калгасаў-маякоў быў прыгрэты сыстэмай і цераз галовы і трупы выбіваў для сваёй узорнай гаспадаркі дэфіцытную тэхніку, будматэрыялы, паліва. Шараговыя калгасы і кіраўнікі маглі толькі марыць хаця б пра частку тых дабротаў, якія атрымлівалі «маякі». Усе кіраў-

нікі здаліся мне савецкімі памешчыкамі-самадурамі. Памятаю, і Старавойтаў хваліў замежнікам савецкую аграрную сыстэму, нават горача спрачаўся. Потым, як вядома, жыцьцё ўнесла ў ягоны лёс свае карэктывы. Бядуля і цяпер як «сэнатар» прэзыдэнцкага парлямэнту не стамляецца хваліць калгасы.

## Пётар Машэраў

Давялося мне ў савецкі час пабыць з замежнікамі і ў сьвятая сьвятых Беларусі — ЦК КПБ, які ўзначальваў тады Пётар Машэраў. Ён сам прымаў высокіх гасьцей з ГДР — міністра вышэйшай адукацыі таварыша Зысмана і намесьніка міністра сельскай гаспадаркі, якія прыехалі з нагоды заключэньня дамовы зь Беларусьсю пра студэнцкі абмен і навуковае супрацоўніцтва паміж ВНУ дзьвюх краінаў. Той год асаблівы акцэнт рабіўся на супрацоўніцтва ў сельскагаспадарчай галіне, таму на сустрэчы з нашага боку прысутнічаў загадчык аддзелу ЦК КПБ, доктар навук, прафэсар таварыш Шавялуха. (Пазьней ён, здаецца, ад'ехаў на павышэньне ў Маскву.) На гэтай сустрэчы нічога асаблівага не адбылося, але яна запомнілася карэктнасьцю і падрыхтаванасьцю, хаця закончылася потым даволі працяглым сяброўскім абедам ужо без Машэрава, па-савецку — з ладнай выпіўкай і анэкдотамі. Нямецкі бок выглядаў вельмі імпазантна: у почаце міністра нават быў прадстаўнік кішэннай гэдээраўскай лібэральна-дэмакратычнай партыі, былы лётчыкас, зьбіты пад Тамбовам і перавыхаваны ў «Свабоднай Нямеччыне» Вальтэра Ульбрыхта. Да таго ж ён меў тытул барона і прафэсара юрыспрудэнцыі. Вельмі добрае ўражаньне пакінуў



сам Машэраў. Увогуле я ня быў тады і цяпер ягоным сымпатызантам за ягонае стаўленьне да беларускай спадчыны, але не магу не прызнаць: ніхто з высокіх беларускіх кіраўнікоў, якіх мне давялося назіраць на перамовах і банкетах, ня ўмеў так карэктна і адэкватна паводзіць сябе з кампэтэнтным суразмоўцам. Ён не апускаўся да квазісяброўскага тону, уважліва слухаў і нават арганічна пападаў у танальныя перапады свайго візаві. За сталом гэта было нашмат лепш, чым у публічных выступах, дзе ён мог аднолькава высока гаварыць з труістычнымі інтанацыямі ўзьнёсласьці і пра ўшанаваньне памяці палеглых герояў, і пра вываз угнаеньняў на палі. Машэраў прыемна ўразіў мяне як перакладчыка сваімі адносінамі да мяне як да паўнавартаснай асобы, што прымае ўдзел у працэсе перамоваў. Гаварыў ён лягічна, нетаропка, сачыў за тым, каб усё сказанае было дакладзена да суразмоўцы, не злоўжываў ідэалягічнымі штампамі, называў перакладчыка на «вы» і нават некалькі разоў як бы раіўся, як лепш сфармуляваць тутэйшую рэалію. Я сядзеў побач зь ім, справа. У ягоным блякноце, што ляжаў на стале, я заўважыў напісанае вялікімі літарамі маё імя і па бацьку. Некалькі разоў ён так зьвяртаўся да мяне, як да калегі. (Нашыя міністры, дырэктары і рознае іншае начальства звычайна тыкалі перакладчыкам і ніколі не пыталіся пра імя.) У Машэрава адчувалася пэдагагічная практыка былога дырэктара школы. Пакідаючы гасьцей на пачатку пратакольнага банкету, ён падзякаваў мне як перакладчыку, чаго тады ніхто з начальства звычайна не рабіў, і — што мяне зусім зьдзівіла — перад выхадам з банкетнай залі папрасіў усіх устрымацца на

кароткі час ад прамоваў: «Няхай Пётар Вікенцевіч, наш перакладчык, які так добра нам дапамагаў, падсілкуецца». Пасьля я расказваў сваім знаёмым ін'язаўцам пра гэты прыемны эпізод з маёй практыкі. Усе дзівіліся, а некаторыя нават гаварылі, што я гэта прыдумаў. Ня ведаю, рабіў Машэраў такія інтэлігентныя жэсты арганічна ці зь нейкіх папулісцкіх меркаваньняў, але што было, тое было. Адзін былы міністар, якому даводзілася кантактаваць зь Пятром Міронавічам, расказваў мне адваротнае — пра ягоны снабізм у клясычным ангельскім разуменьні гэтага слова.

## Кубінскія таварышы

Кантакты з замежнікамі дазвалялі калі-небудзь заглянуць у неўласьцівыя для нашай мэнтальнасьці душэўныя спраты і своеасаблівасьці тэмпэрамэнту і эстэтыкі прыгожага. На пачатку шасьцідзясятых гадоў, калі Куба і Фідэль былі вельмі папулярныя, у СССР прыяжджаў прэзыдэнт Кубы Асвальда Дартыкос Тарада, член ЦК кампартыі Кубы, блізкі чалавек самога камандантэ. Чалавек ён быў адукаваны і для тагачаснай кубінскай эліты нават занадта вытанчаны. Сьвіта ягоная была разнамасная. У фармаце візыту дэлегацыя наведала Менск, дзе вучылася шмат кубінскіх студэнтаў. Кубінскі прэзыдэнт застаўся недзе на бяседах з высокім начальствам, а частка дэлегацыі зь міністэрскімі прадстаўнікамі з Масквы і Менску прыехала ў ін'яз на сяброўскую сустрэчу. Перад канцэртам, які ладзіўся сіламі нашых студэнтаў разам з музыкамі і сьпевакамі з кансэрваторыі, адбыўся кароткі мітынг. Разам з тымі, хто ўмеў размаўляць па-гішпанску, я папаў у



шматлюдны імправізаваны прэзыдыюм і сядзеў праз аднаго чалавека да галавы дэлегацыі, які быў ці то віцэ-прэзыдэнт, ці то першы памочнік прэзыдэнта Кубы. Ён быў кандыдат у члены ЦК кубінскай кампартыі. На сцэне стаялі вазоны з кветкамі і распушчальная кава для гасьцей. Кіраўнік дэлегацыі быў апрануты ў палявую форму барбудас, сядзеў з краю стала, ня ў цэнтры, па-амэрыканску паклаўшы правую нагу шчыкалаткай на левае калена, мяшаў каву шарыкавай ручкай і давіў недакуркі сьмярдзючых кубінскіх «Ліхэрас» у вазонах з кветкамі. Каву ён паспытаў і выліў таксама ў вазон, сказаўшы, што гэта *«ўрына дэ ун камэльё энамарадо»* («урына закаханага вярблюда»), і пачаў заляцацца да нашай студэнткі, што сядзела побач зь ім. Яна размаўляла зь ім па-французску, і яны сяк-так разумелі адно аднаго. Я нешта падказваў, што ўмеў. Пасьля мітынгу мы сядзелі побач на канцэрце. Ня памятаю, з чаго тое пачалося, але падчас кубінскага танцу, што дэманстравалі студэнты другога курсу гішпанскага факультэту, кандыдат у члены ЦК, прыглядаючыся да віхлявых клубоў маладых студэнтак, пачаў расказваць, як кубінскія маладыя жанчыны, робячы на фабрыках цыгары, качаюць на сваіх сьцёгнах лісты тытуню, каб яны насыціліся потам і рабілі мужчынаў юрлівымі. Потым перайшоў на асаблівасьці кубінскага каханьня і патлумачыў сваёй суседцы і мне, што значыць «69» (вымавіўшы па-французску *«суасан нёф»*) і *«татаг»* (націск на другім складзе) як прэлюдыя сапраўдных любошчаў. І ўсё гэта імкліва, непасрэдна і радасна, як штурм казармаў Манкада... А ў мяне ў канцы запытаўся, як у дэбіла: «А вы што — так ня

робіце? Во дурныя! Гэта ж так прыемна!» Акурат як у вядомым анэкдоце таварыш Ленін таварышу Дзяржынскаму: «*Настоятельно рекомендую, занимательная штучка!*»

## З Васілём Быкавым у Нямеччыне

Дзякуючы сваёй нямецкай мове я пережыў цікавыя эпізоды, сустрэчы і больш доўгія знаёмствы зь дзеячамі беларускай культуры. Дагэтуль добра помняцца гутаркі і сустрэчы нямецкіх журналістаў і літаратараў з Васілём Быкавым. Асабліва ўрэзаўся ў памяць візыт у Менск нямецкай царкоўна-грамадзянскай ініцыятывы «Рабіць мір бяз зброі», эмблемай якой была гармата з завязанай на вузел руляй. Тады я ўпершыню пазнаёміўся з Крыстафам Гойбнэрам, паэтам і грамадзкім дзеячам з Заходняга Бэрліна, сябрам Васіля Быкава. Здаецца, пра яго вельмі цёпла пісаў Анатоль Кудравец ва ўспамінах пра свайго сябра Васіля. Разам з Крыстафам быў прыехаўшы легендарны біскуп з Заходняга Бэрліна — «тата Шарф», як яго звалі ва ўсёй Нямеччыне. Кожную нядзельную раніцу ён зьвяртаўся да немцаў усёй Нямеччыны і падзеленага Бэрліна са словамі Хрыстовай любові і заклікам да цярпеньня і надзеі, што немцы некалі абавязкова будуць разам. Вельмі прыемнае ўражаньне пакінуў тадышні часовы настаяцель Катэдральнага праваслаўнага збору ў Менску айцец Яўген, які пасьля цяжкай апэрацыі ў Вене, дзе ён служыў праваслаўным біскупам, быў накіраваны ў Менск. Не таму, што ён выдатна гаварыў па-нямецку, а таму што быў перакананы экумэніст і зусім не дагматык. Ад тых сустрэчаў у мяне засталіся цікавыя кніжныя сувэніры ад айца Шарфа («Новая базавая Біблія» і сучаснае выданьне Лютэра) і ад айца Яўгена — новае юбілейнае сынадальнае выданьне Бібліі з картамі і камэнтаром, якія рассылаліся для замежных місіяў.



З Васілём Быкавым даводзілася быць у Нямеччыне двойчы ў якасьці перакладчыка на культурных і літаратурных сустрэчах, дзе падключаліся і нямецкія перакладчыкі з выдавецтваў. Абодва разы гэта адбывалася праз Таварыства дружбы з замежнымі краінамі, якое ўзначальваў тады Арсень Ваніцкі (зямля яму пухам). Першая паездка ў Бэрлін — гэта было летам, здаецца, у 1987 годзе — прайшла лёгка і цікава. Васіль Уладзімеравіч пачуваўся добра фізычна, я загадзя збольшага ведаў плян сустрэчаў і меў магчымасьць паглядзець па дыяганалі фрагмэнты тэкстаў для літаратурных чытаньняў, меў дзьве кніжкі перакладаў на нямецкай мове. Другая паездка была даволі працяглая, больш за тыдзень, на поўнач Нямеччыны, у сталіцу Шлезьвіг-Гольштайну Кіль, дзе рыхтаваліся дні беларускай культуры. Гэта быў 1991 год. Я быў тады ўжо дэпутат Вярхоўнага Савету і член прэзыдыюму. Быкава Ваніцкі ўгаварыў экспромтам, як цяжкую артылерыю, каб, сустрэўшыся ў тамтэйшым міністэрстве культуры, дапамагчы актывістам з Кілю атрымаць фінансаваньне на дні культуры. Акрамя гэтай афіцыйнай сустрэчы плянаваліся дзьве гутаркі ў выдавецтвах і дзьве сустрэчы з чытачамі — у вялікай кнігарні гораду і ў Нямецка-расейскім таварыстве дружбы.

Паездка прыйшлася на канец студзеня — пачатак лютага. На поўначы Нямеччыны на зялёных лугах пасьліся авечкі і падхартаныя

бэконавыя сьвіньні (*freilaufende Schweine*), і безь перапынку, як з густога сіта, сыпаўся зь неба мокры туман, што часам зьмяняўся дробненькім сьнегам. У Васіля Ўладзімеравіча абвастрылася астма, інгалятар ён амаль не выпускаў з рук, ноччу бясконца кашляў (я чуў гэта з суседняга нумару). Сярод гэтай нямецкай слоты запомнілася толькі наша кароткая «мастацкая» гутарка пра няшчасных эўрапейцаў, якія жывуць у прыродным кантынуўме, не заўважаючы зьменаў у порах году, і што ў іх ніколі б не нарадзіўся Багдановіч зь ягонымі амаль «рэзка-кантынэнтальнымі» радкамі: *«Здароў, марозны, звонкі вечар! Здароў, скрыпучы, мяккі сьнег!»*

Ініцыятарам «разумных» гаворак звычайна быў я. Васіль Уладзімеравіч рэагаваў вяла, маю гавэнду не падтрымліваў. Сам рэдка калі кранаў нейкую тэму, не зьвязаную зь бягучым момантам. Я ўсё ж ня быў ягоным сябрам і блізкім чалавекам. Да таго ж, мне здаецца, ён пэрманэнтна трымаў сябе пад кантролем, маючы справу зь людзьмі іншага асяродку, жыцьцёвага досьведу і адукацыі. Я стараўся не закранаць тэмаў, дзе ён, магчыма, быў менш дасьведчаны, чым я. Пад канец паездкі мы былі абодва стомленыя: ён ад хваробы і ня вельмі добра арганізаваных сустрэчаў, а я ад перакладаў. На пачатку нашага «турнэ» Васіль Уладзімеравіч зь нейкіх сваіх меркаваньняў адмовіўся ад паслугаў нямецкіх перакладчыкаў. Магчыма, ён думаў, што так будзе камфортней для мяне. Увогуле ён быў чалавек па-свойму далікатны. Шмат разоў выбачаўся, перш чым папрасіць у нечым «непраграмным» дапамагчы. Так, мы зь ім даволі доўга шукалі патрэбнае яму для



«волгі» супрацьзгоннае прыстасаваньне, якое тады было ў нас дэфіцытам.

Нават здаровым, ён ня быў у публічных выступах пасіянарным аратарам, не імкнуўся, як прапаведнік «жывой царквы», зь першае фразы (Бог тут, сярод нас!) завалодаць аўдыторыяй. Гаварыў нетаропка, ціхім голасам, не заўсёды ўлічваючы склад аўдыторыі. Станавіўся цікавейшым, адказваючы на пытаньні. Я падобраму зьдзіўляўся ягонай эрудыцыі (ён жа нічога спэцыяльна літаратурнага не канчаў!), асабліва калі ён гаварыў пра экзыстэнцыялізм у эўрапейскай літаратуры пра вайну. Гаворачы даволі разумныя рэчы, ён ніколі не імкнуўся быць красамоўным, парадаксальным, не стараўся спадабацца слухачам, нават, здавалася, ён хоча, каб пытаньні хутчэй закончыліся. Колькі яго чуў, ён, здаецца, ніколі ня думаў пра тое, як ён выглядае збоку. Можа, быў занадта сьціплы. Такое ж уражаньне склалася ў мяне ад ягонага выступу ў Фінляндыі ва ўнівэрсытэце ў Тампэрэ ў 2001 годзе, дзе я яго выпадкова сустрэў на канфэрэнцыі, прысьвечанай эўрапейскай інтэграцыі. Ён тады выступаў на пленарным пасяджэньні разам зь Сяргеем Кавалёвым і фінскім прафэсарам. Я сядзеў у залі разам з Уладзімерам Някляевым, які тады таксама жыў у Фінляндыі, і мы, больш пасіянарныя, перажывалі эмацыйна, што Васіль Уладзімеравіч гаварыў вельмі глыбокія рэчы, нашмат цікавейшыя, чым Сяргей Кавалёў і прафэсар, але без энэргічнага пасылу. Апублікаваны тэкст здаваўся больш «пругкім». У Фінляндыі Быкаў выглядаў нязвыкла ў параўнаньні з тым партрэтным вобразам, які ведалі ў Беларусі. Ён зачэсваў валасы назад і нечым станавіўся для

мяне падобным да Салжаніцына, хаця і без барады.

Пасьля паездкі ў Кіль акрамя агульных уражаньняў у мяне застаўся ў памяці адзін рамантычны эпізод і незвычайны сувэнір — «аўтограф» Васіля Ўладзімеравіча. Рамантычны эпізод выглядаў так. У перадапошні дзень, калі на днях культуры ўжо адбыўся заключны беларускі канцэрт, дзе выступаў арганіст Алоўнікаў-малодшы, пад вечар, як кажуць, пагода разгулялася, і нават выглянула сонца. Спаць я лёг, як ні дзіўна, раней, але ў добрым настрої, і прачнуўся рана, нават па сярэднеэўрапейскім часе. Надвор'е зноў было пахмурнае, але без дажджу, толькі з туманам. Была нядзеля. У эўрапейскіх дагледжаных гарадах, нават у вялікіх і незнаёмых, калі яшчэ большасьць людзей сьпіць, для чалавека, які хоць трохі па-мастацку ўспрымае сьвет і не пазбаўлены апошняй макулінкі трансцэндэнтнага, вельмі добра ўстаць рана і ісьці насустрач храмаваму звону, праступаючы па ціхіх вулках. Я ня так шмат вандраваў па сьвеце, але звычку такую маю. Ад свайго гатэлю ў Кілі, назвы якога я ўжо ня памятаю, той раніцай я рушыў таксама на покліч звону. З туману выплывалі і выразьней вымалёўваліся абрысы пачарнелых будынкаў, аб'едзеных морскімі туманамі. Неўзабаве я ўжо быў каля храму, нетыповай для архітэктуры старога паўночнага гораду мадэрновай каталіцкай кірхі. Звон быў на хвіліну заціх, а тады зноў, падобна, паводле закладзенай электроннай праграмы, пачаў нягучна і ненавязьліва, аднекуль здалёку, будзіць сонных месьцічаў на спатканьне з Навышнім. Я абышоў вакол будынку. Усярэдзіне будынку нехта ўжо быў, празь вітраж,



які нечым нагадваў шагалаўскія росьпісы вокнаў вядомага храму ў Майнцы, прабівалася жаўтаватае сьвятло, але ўваход быў яшчэ зачынены. Кіруючыся патрапіць зноў на вуліцу, па якой я выйшаў на гукі звону, каб вярнуцца ў гатэль, я заўважыў праз усё яшчэ даволі шчыльны туман мужчынскі сылюэт, што рухаўся ў кірунку храму. Ну вось ужо і першы вернік, падумаў я. Трэба абавязкова прывітацца, мільганула ў мяне ў галаве... У немцаў на бязьлюднай вуліцы ўранку нават у вялікіх гарадах людзі сталага ўзросту з добрай паважнай усьмешкай вітаюць адзін аднаго. У такіх выпадках у маёй памяці на мікрасэкунды ўсплывае і наш колішні вясковы добры звычай вітаць на дарозе незнаёмага чалавека: «Дзень добры, Дзядзька! Дзень добры, Цётка!» Так і хочацца пісаць зь вялікай літары зваротак... Але мне прыйшлося казаць сылюэту ня «Морген!», а «Дзень добры!», бо гэта быў... Васіль Быкаў. Мая мэнтальнасьць націснула на нейкі тормаз, і ў мяне хапіла розуму, акрамя зьдзіўленага і ніякаватага «Дзень добры!», больш нічога не гаварыць. Я паспрабаваў зрабіць нейкі рух правай рукой, які мог бы азначаць нешта кшталту «Вітаю!», але рука дайшла да вуха і зачапілася за вушны блін, зганяючы адтуль неіснуючую кузюрку. Мне здалося, што Быкаў, як і я, ніна-вата ўсьміхнуўся, і мы пайшлі моўчкі далей кожны ў сваім кірунку. Прайшоўшы крокаў дзесяць, я агледзеўся і заўважыў, што Васіль Уладзімеравіч таксама агледзеўся і выразна падняў адну руку, вітаючы мяне здалёку. Я бадзёра і радасна адказаў. З усёй нашай паездкі гэты эпізод для мяне застаўся нейкім сьветлым імгненьнем... Гэта быў яшчэ для мяне падару-

нак на дзень нараджэньня, бо было гэта 2 лютага, на каталіцкія грамніцы паводле новага стылю. Тут лішнія ўсялякія словы. Ці то той дзень Быкаву было ня так блага, ці сапраўды паміж намі працягнулася нейкая нітачка сяброўства, але ён быў надзвычай кантактны і нават сам распачынаў гаворку па ўсялякіх дробязях. Для мяне гэта было камфортна. Паводле сваёй эмацыйнай канстытуцыі я ніколі не магу быць побач з чалавекам, калі не адчуваю адэкватна акрэсьленага характару ўзаемных адносінаў, — неістотна, станоўчых ці адмоўных. Пры інтэлектуальных стасунках такое проста неабходна.

## Згублены быкаўскі аўтограф

З быкаўскім сувэнірам-«аўтографам» была такая гісторыя. Пасьля згаданага абеду апошнім пунктам праграмы была сустрэча з асьпіранткай-славісткай, якая пісала дыплёмную працу на тэму структурнага аналізу сюжэтаў ваеннай прозы і спэцыяльна прыехала з Гамбургу ў Кіль, каб сустрэцца з Быкавым. Яна прысутнічала і на літаратурнай сустрэчы ў таварыстве «Нямеччына — Расея», але там мы выбіліся з графіка, дый Васіль Уладзімеравіч пачуваўся ў той дзень кепска. Асьпірантка карысталася вядомым амэрыканскім прынцыпам бінарнага аналізу, які па-ангельску называецца *«action/event and psychology»* (учынак/дзея і псыхалёгія), і аналізавала суадносіны «велічы» (фізычнай/дзейнай і духовай) у вайне і мастацкіх творах. Напрыклад: што мацней узьдзейнічае на гледача — вялізная каменная галава абаронцы Берасьцейскай крэпасьці ці маленькая каплічка на вуліцы ў Варшаве зь



сямю сьвечкамі і надпісам «Тут ляжаць сем удзельнікаў Варшаўскага паўстаньня»? Прыклад мой, для лепшага разуменьня.

Асьпірантка даволі занудна фармулявала сваю навуковую задачу і ніяк не магла «зачапіць» Васіля Ўладзімеравіча. Яна бойка называла ягоныя творы і герояў. Было відаць, што сумленна рыхтавалася да сустрэчы, але да «кантрапункту» мы ніяк не маглі дабрацца. Трэба было шукаць нешта ў малых быкаўскіх формах ці ў вельмі канкрэтных «экзыстэнцыйных» фрагмэнтах. Пры такім перакладзе я вымушаны быў станавіцца «суаўтарам» тлумачэньняў і шчасьліва ўзьбіўся на аповесьць «Дажыць да сьвітаньня», што вельмі натуральна, бо, як той казаў, збоку відней. Сам аўтар рухаецца ў мастацкім кокане, а чытач з «эфэктам ачужэньня» бачыць сылюэты падзей. Васіль Уладзімеравіч ажывіўся. Мы пачалі падбірацца да мастацкага ядра і вылушчылі бінарную апазыцыю — вялізны склад зь нямецкай амуніцыяй па дарозе на Маскву, за якім відаць вежы маскоўскага Крамля, і нямецкую фуру з саломай (ці сенам?) зь немцам-вазьніцам. Ведаючы, што Васіль Уладзімеравіч добры рысавальшчык, я падсунуў яму чыстую дэкаратыўную старонку з рэстараннага мэню і прапанаваў намаляваць як бы на вагах два сюжэты «дыптыху» — вялізны збройны склад, некалькі палеглых чырвонаармейцаў з дывэрсійнай групы і маскоўскі Крэмль на адной шалі і таго аднаго ледзь жывога замерзлага салдата, што цэліцца ў фуру зь біцюгамі — на другой. Дзе веліч подзьвігу і духу большая?

Васіль Уладзімеравіч даволі ахвотна накідаў малюнак са сваімі нюансамі, і, што мяне най-

больш уразіла, паміж шалямі, якія ў праекцыі «від сьпераду» выглядалі як проста тлустая рыска, паставіў матэматычны знак роўнасьці, а потым перакрэсьліў яго і пад схематычнай адзінокай фігурай салдата зь вінтоўкай Мосіна (менавіта так ён сказаў) паставіў знак > («больш»). Гэта значыла: фізычная веліч задачы зьменшылася, а экзыстэнцыйна веліч чалавечага духу вырасла. Асьпірантка была ў захапленьні і хацела ўзяць «аўтограф», але я таксама прэтэндаваў на яго. Васіль Уладзімеравіч быў ня так захоплены нашым калектыўным адкрыцьцём і даволі вяла сказаў, што гэта «Пётар быў галоўным правакатарам», а ён сам проста пакарыўся «структуральнаму» гвалту, бо ня лічыць такія фармалізаваныя прыёмы аналізу вельмі прадуктыўнымі. Потым праблема дзяльбы аўтографу зьнялася: для асьпірантکі зрабілі некалькі экзэмпляраў на гасьцінічнай капіявальнай «Мінолце», а арыгінал забраў я. Мне падалося, што ўся гэтая надта вучоная гаворка ня надта спадабалася Быкаву. Як я ўжо казаў, напачатку ён з зацікаўленьнем уключыўся ў працэс, а потым зноў неяк замкнуўся і быў далей ня вельмі гаваркі. Калі асьпірантка пайшла, мы замовілі па порцыі смажаных сьлімакоў з капустай і піва, пасьля чаго настрой зноў выраўняўся.

Я, канечне, магу і памыляцца, але пазьней, чытаючы «Доўгую дарогу дадому», я знайшоў ва ўспамінах Васіля Быкава як бы адгалоскі той размовы зь нямецкай асьпіранткай у разважаньнях пра фармальныя і мадэрнісцкія пошукі ў літаратуры і літаратурнай крытыцы, дзе ён ужывае амаль тыя ж словы, якія гаварыў за сталом у кільскім гатэлі. На жаль, «Доўгай дарогі» я ня маю пад рукой, але, як кажуць, паэзія — гэта тое, што застаецца, калі забываюцца словы. У сваіх мэмуарах Васіль Уладзімеравіч гаворыць дастаткова прыхільна пра нетрадыцыйныя спробы творцаў адлюстраваць сьвет па-мастацку ёмка, коратка і ня толькі чыста вэрбальнымі сродкамі. Тады за сталом ён быў больш крытычна настроены. Такое ў мяне застаецца ўражаньне.



На жаль, той быкаўскі аўтограф прапаў разам са шмат якімі кніжкамі з маёй бібліятэкі. Ад’ехаўшы ў 1992 годзе ў Нямеччыну, частку сваёй бібліятэкі я пакінуў у дачкі, а яны, робячы рамонт, часова вынесьлі шмат кніжак у падвал разам зь іншымі рэчамі. Тыя спраты нехта ўзламаў і шмат што скраў. У тым ліку некаторыя падпісныя выданьні і пераплеценыя выразкі з часопісаў васьмідзясятых гадоў: «Полымя», «Неман», «Новый мир», «Иностранная литература», «Знамя», «Нева», «Москва», «Радуга» і некаторых іншых. Тады мы атрымлівалі дома па падпісцы восем тоўстых часопісаў і трынаццаць газэтаў, у тым ліку нямецкіх, польскіх, прыбалтыйскіх і ўкраінскіх. Была эпоха чаканьня вялікіх зьменаў. Кніжкі чыталі, куплялі, мянялі, кралі... Калі-небудзь кралі кніжкі на макулятуру, за якую можна было прыдбаць кніжны дэфіцыт. З падвалу ў мяне прапалі тады трыццацітамовы Герцэн, поўны Маякоўскі, васьмітамовы Луначарскі, асобныя кнігі Гамсуна, Акутагавы, Гусэрля... Магчыма, іх скраў нейкі алькаголік ды прадаў кніжнаму «жучку», які на макулятуру купіў моднага тады Марыса Друона?

## Пахвальнае слова прафэсіі перакладчыка

Заканчваючы згадкі пра асобныя эпізоды «перакладчыцкіх унівэрсытэтаў», адзначу галоўнае, што фармуе творчую асобу гэтай сапраўды гермэнэўтычнай прафэсіі. Падступаючыся да любой сфэры ведаў іншай цывілізацыі, перакладчык вымушаны станавіцца часткай мэнтальнай сыстэмы гэтай цывілізацыі і будаваць сваю мэнтальнасьць як частку новай сыстэмы. Гэта адбываецца ня толькі пры набліжэньні да незнаёмай гуманітарнай сфэры. Нават калі ён мае справу з такім, здавалася б, ненацыянальным заняткам, як тэхнічны пераклад, перакладчык усё роўна пэрыядычна будзе сутыкацца зь іншымі сыстэмнымі элемэнтамі. Я мэтафізычна ўпэўнены, што немцы зьяўляюцца найлепшымі рамесьнікамі ў Эўропе дзякуючы глыбінным магчымасьцям нямецкага словаўтварэньня. Я маю дома сярод перакладных слоўнікаў чатырохмоўны «Слоўнік рамяства» 1913 году выданьня з малюнкамі прыстасаваньняў і начыньня. Цікава, што ў нямецкай частцы абсалютная большасьць назваў інструмэнтаў мае функцыянальна-канструктыўны характар, якім даволі часта ў расейскай адпавядаюць мэтафарычныя мадэлі. Расейскае *«погрешность измерения»* немец перакладзе суха і функцыянальна: памылка вымярэньня. Так, дарэчы, зробіць і ангелец, і француз, і гішпанец. Немец наўрад ці ацэніць вобразны жаргон расейскага сьлесара, які назаве пэўнае гаечна-балтовае злучэньне *«папа-мама»*, або агранома, які просты паліў вадой назаве *«орошение»*. Цікава, што мала хто з нас здагадваецца, што гэтае расейскае слова ў культурнай агранаміі пераклікаецца з французскім дзеясловам *«arroser»* (ад лацінскага *ros, roris*), якое і значыць «абвадняць». Праўда, французы самі, паводле сьведчаньня іхных псыхалінгвістаў, страцілі асацыятыўныя сувязі з лацінскай «расой», у той час як у мэтафарычнай расейскай мэнтальнасьці такая сувязь «ажыла» нават у простых людзей.



Нам цяжка ўявіць, наколькі эўрапейцы больш сыстэмныя за нас. На працягу апошніх двух гадоў я праглядаю і ўважліва чытаю штотыдзень тры-чатыры нямецкія тоўстыя газэты (некаторыя пад сто старонак), дзе пульсуе эўрапейская думка. Якіх толькі праблемаў не абмяркоўваюць людзі на ўзроўні пабытавай сьвядомасьці! Якая высокая сыстэмнасьць і кваліфікацыя рэдактуры! Нават багатыя расейскія пэрыядычныя выданьні з большым інтэлектуальным рэсурсам, чым нашыя беларускія, схапіўшы павярхоўны эўрапейскі гламур, застаюцца шмат у чым бессыстэмнымі і пошлымі. Дзіўна, па-савецку, прагучала, напрыклад, дыскусія 2007 году і заява расейскіх вучоных, сярод якіх быў і нобэлеўскі ляўрэат Жарэс Алфёраў, дзе яны крытыкавалі актыўнасьць царквы і адмаўлялі тэалёгіі права называцца навукай. У сэкулярызаванай Эўропе кожны гімназіст, атрымліваючы традыцыйна сыстэмную адукацыю, у стане ўсьвядоміць, што сучасная тэалёгія — гэта навука, якая склалася і на грунце старажытнагрэцкай філязофіі, якая, прызнаючы прысутнасьць Творцы, «рацыяналізуе» біблійныя легенды сродкамі філязофскага Лёгасу, імкнучыся наблізіцца да ісьціны Боскага адкрыцьця, што прыходзіць ужо не праз традыцыйную лёгіку, а як вынік добрага чыну.

Калі б я цяпер чытаў першакурсьнікам ін'язу ўступную лекцыю пра лінгвістыку, пераклад і нашую нацыянальную самаідэнтыфікацыю, я б сказаў пахвальнае слова сыстэмнасьці, на якой трымаецца эўрапейская цывілізацыя, — паганства, юдаізм, антычнасьць і хрысьціянства. Разважаючы пра эўрапейскую мэнтальнасьць, якой уласьцівыя сузіральнасьць, скепсіс, самакрытыка, імкненьне да абагульненьняў, Бальзак аднойчы сказаў: *«Il ne suffit pas d'être un homme, il faut être un système»**. Можа, гэта б быў мой першы сказ на той уступнай лекцыі.





Бацька, Садоўскі Вінцэнт Казіміравіч. 1939

Паласкалі з мамай на рацэ бялізну. За намі — калгасны сьвіран, каля якога я малы слухаў ноч. 1961

* Мала быць чалавекам, трэба быць сыстэмай *(фр.)*.



Маці, Фрыдрых Наталя, зь сястрой Анэтай (зьлева), калі тая вярнулася з казахстанскай высылкі. 1961






Першае ўшанаваньне: выдатнік 6-й роты сфатаграфаваны каля разгорнутага сьцягу Менскай сувораўскай вучэльні. 1958

Зборная 3-й роты — пераможца лыжнай эстафэты (апошні справа). 1953





Захоплены Мэльпамэнай: падрэ ў брэхтаўскай п'есе «Стрэльбы сэньёры Карар». 1963

На пікніку з кубінскімі студэнтамі (у барэце ў цэнтры). 1964





У ролі нямецкага афіцэра ў тэлефільме «Трывожнае шчасьце» (у крэсьле). 1968

«На бульбе» ў Лагойскім раёне, другі курс ін'язу (з цыгарэтай). 1960





З жонкай Валянцінай каля гарадзейскіх прысадаў польскага часу. 1964

Юнацкая адзінота: каля гародчыка з бэзам у Буцькаўшчыне. 1962





Мая жонка на ўроку ангельскай мовы ў Касьцюковіцкай школе пад Гомелем. 1965

«Зараз вылеціць птушка!»: спроба сямейнага аўтафотапартрэту. 1968



З камэндантам Брандэнбурскай брамы часу ГДР маёрам Гансам Ганцаўгэ. Бэрлін, 1969





Перакладаю выступ прафэсара Грыгуля (ФРГ) на канфэрэнцыі па цепла- і масаабмене. АН БССР, 1974

На экскурсіі ў Хатыні з дэлегацыяй Гандлёвай палаты ГДР. 1972







З Васілём Быкавым і нямецкімі журналістамі. Менск, 1988

У Менскім Катэдральным саборы з патэрам Шарфам і айцом Яўгенам. 1972

Лекцыя на журфаку БДУ. 1980-я гады: час студэнцтва Ігара Герменчука, Сяргея Дубаўца, Алеся Сушы, Віталя Сямашкі







Віленскія сустрэчы: Лявон Луцкевіч, аўтар, Зоська Верас, Тацяна Сапач, Сяргей Шупа, Мікола Мурашка

У Ракуцёўшчыне на сьвяце паэзіі: Уладзімер Конан, аўтар, дачка Алена зь сяброўкай, Лявон Луцкевіч, Алег Бембель (Зьніч). Канец 1980-х

Зь Сяргеем. Дубаўцом у Заслаўі на сьвяце гуканьня вясны. 1989









Сустрэча з Джорджам Бушам (старэйшым) на 200-годзьдзі «Білю аб правах». Манпэльe, 1991

Мітрапаліт Філарэт — мой сусед у Вярхоўным Савеце. 1995

Каля першага мікрафона дэпутат ВС Пятро Садоўскі, Станіслаў Шушкевіч (яшчэ не старшыня ВС), наперадзе сядзіць Віктар Ганчар

Зь Зянонам Пазьняком на мітынгу ў Купалаўскім сквэры. 1990





На плошчы каля Дому ўраду з прыхільнікамі апазыцыі БНФ. 1991

У Дудутках: Яўген Будзінас (трэці зьлева), Міхаіл Марыніч, аўтар, Даніель Гёдэвэр (другі справа), амбасадар ФРГ у РБ сп. Краўс. 1991





На адкрыцьці амбасады РБ у Боне. Слухаюць беларускі гімн: Гільтруд Шродэр (жонка прэм'ера Ніжняй Саксоніі, будучага канцлера ФРГ), амбасадар РБ з жонкай, міністар Пётар Краўчанка. 1993

Ускладаньне кветак да абэліску на плошчы Перамогі: Вітаўтас Ландсбэргіс (другі зьлева), аўтар, намесьнік міністра замежных справаў Андрэй Саньнікаў. Менск, 1991



З прэзыдэнтам ФРГ Рыхардам фон Вайцзэкерам пасьля перадачы даверчай граматы. Бон, 1992





Пратакольная сустрэча з канцлерам Гэльмутам Колем і міністрам замежных справаў Кляўсам Кінкелелем. Бон, 1993

Прыём з нагоды адкрыцьця амбасады РБ у Боне: Ганс-Дытрых Геншэр («бацька ўсходняй палітыкі» Нямеччыны), першы сакратар амбасады Віктар Чайчыц, амбасадар РБ з жонкай









Выступ перад дабрачынным чарнобыльскім канцэртам Фэдэральнага паліцэйскага аркестру ў Гамбурскім гарадзкім тэатры. 1994

Сустрэча ў банку «Sparkasse Paderborn» са спонсарамі чарнобыльскіх ініцыятываў

Настаўніца і дзеткі зь Веткаўскага раёну на адпачынку ў Бінгэн-ам-Райн. 1994

Чарнобыльская ініцыятыва ў Нінбургу, пабрацiме Віцебску: у першым шэрагу бургамістар гораду, Ірына Грушавая, беларускі амбасадар. 1993





Перадкалядны Франкфурт-на-Майне: Барыс Кіт, аўтар, жонка Валянціна. 1994

Сам-насам з Конрадам Адэнаўэрам у Боне. 1994

# II. Бацькаўшчына

## Сярод хваляў Адраджэньня

*Ад Буцькаўшчыны да Бацькаўшчыны. — Пошукі свайго прарока: ад Майсея да Купалы. — Няўдалыя спробы стаць філёзафам. — Лінгвістычныя радасьці і сацыяльныя трывогі. — Адкрыцьцё Вацлава Ластоўскага. — Жыве Беларусь! — Нараджэньне БНФ.*

### Спасьціжэньне свайго

Ва ўступе я заўважыў, што ўмоўна магу разьдзяліць сваё жыцьцё на дзьве часткі. Першая — біялягічнае і духовае існаваньне ў сацыяльна-прыродным асяродку без выразнага ўсьведамленьня сваёй нацыянальнай ідэнтыфікацыі. Гэтую частку я назваў «Буцькаўшчына» — назва, якая для мяне зьяўляецца сымбалем малой Радзімы. Ва ўлоньні малой Радзімы быў закладзены падмурак асобы. Што да большага, то тут была ў лепшым выпадку проста асабістая годнасьць, але не было пачуцьця больш шырокай салідарнасьці. Словы «сусед», «зямляк» значылі ня больш, чым іранічны выраз «Гаўрыла з Полацку». У гэты час я фармаваўся як самадастатковая псыхалягічная сыстэма, але без унутранай патрэбы яднаньня з сабе падобнымі, і не прыглядаўся да блізкага, не шукаў, як сказана, прарока ў сваёй айчыне. Хаця, канечне, пэўны бытавы патрыятызм быў. Назіраючы прышлых людзей у дзяцінстве (у асноўным гэта былі расейцы), я заўважаў, што ня ўсё тое расейскае, што татальна хвалілася па радыё і ў газэтах, было лепшае, чым наша тутэйшае. Мясцовых людзей з калтуном у валасах я ня бачыў. А вось тое, што прышлы фінагент, які гаварыў *«йішьшё-шьшяс»*, і якога маці частавала схаванай зь зімы паляндвіцаю, каб той не складаў акт і не апісаў авечку, ня ведаў, што гэта такое маці паклала на талерку, — гэта я пасьпеў заўважыць. Ці гэта прыдумка беларускіх нацыяналістаў, ці тое праўда было, але зь нечых успамінаў я чуў нешта падобнае, як прышлыя з Усходу хлопцы ў верасьні 1939 году думалі на беларускае тоўстае сала, што гэта тол або мыла. У нас гэта была вэнджаная паляндвіца, і той фінагент запытаўся, ці не зашкодзіць гэтае «сырое» мяса.

У сярэдзіне васьмідзясятых гадоў, калі я пісаў у акадэмічную Купалаўскую энцыкляпэдыю артыкул «Мова Янкі Купалы», я перагледзеў усяго Купалу — дзе па дыяганалі, а дзе вельмі ўважліва, асабліва ягоныя дарэвалюцыйныя творы. І тут я адкрыў радкі, напісаныя як для мяне:

Не шукай ты шчасьця, долі
На чужым, далёкім полі,
Гэт, за шумным лесам-борам,
За шырокім сінім морам
Не шукай ты шчасьця, долі!

Ты ўсё знойдзеш гэта блізка,
Там, дзе маці над калыскай
Табе песьні напявала,
Як малога калыхала,
Толькі ўмей шукаці блізка!

Амаль у той жа час, рыхтуючыся да чарговай перадачы «Роднае слова» на беларускім тэлебачаньні, дзе шчасьлівы лёс зьвёў мяне з Уладзімерам Содалем, добрым, разумным, архісьціплым беларусам, я натрапіў на вершы

Тараса Шаўчэнкі, які прамаўляў да сваіх землякоў, як і наш Купала:

Нема на світі України,
Немає другого Дніпра,
А ви претеся на чужину
Шукати доброго добра...

Можа, каму-небудзь гэта ўжо здасца рэліктавым замілаваньнем запозьненага нацыяналізму, але мяне гэта глыбока кранала. Я пачаў уважлівей чытаць беларускія тэксты і знаходзіць шмат цікавага ня толькі ў Шляермахера і Майсея, але і ў сваіх тутэйшых. Памятаю, я быў глыбока ўражаны адной страфою ў Купалавай «Песьні званара», дзе аўтар лірычна разважае пра поступ і гвалт:

Эх, бо ведае сьвет,
Што вялікіх дум цьвет
Адно толькі на зломе ўзрастае...

Тэма ня новая. А вось купалаўскае скрушнае (мне ня чуецца арганічна разьняволенае і разбуральна-шырокае) «эх» прыцягнула маю ўвагу. Яно не супадала для мяне па настроі з расейскім *«дело прочно, когда под ним струится кровь»*. Гэтак жа па-новаму я прачытаў Купалаў верш «Сыходзіш, вёска, зь яснай явы», якое паводле школьнай клясыфікацыі належала да цыклю «сацыялістычнага абнаўленьня». Чытаючы незамыленымі вачыма коласаўскага «Сымона-музыку», я адкрыў такія радкі:

Бо і ў той цішы зацятай
Ёсьць і голас і свой твар.
Разнастайны і багаты,
Поўны музыкі і чар.



Калі б гэта быў ня Колас, а Рыльке, тут бы снаблівы крытык так разьвярнуўся і такіх бы глыбінь дапяў, што ўсе містыкі б толькі ахнулі. Мне, магчыма, было лягчэй, нават чым прафэсійным літаратарам, прачытаць у Купалы ці Коласа тое, што яны пісалі на самой справе, а ня тое, што ім у свой час прыпісалі: я ж фактычна ня ведаў традыцыйнай савецкай інтэрпрэтацыі іхных твораў, а мерыў усё як германіст паводле эўрапейскіх мерак.

## Як я ня стаў філёзафам

Тое, што чалавека вядзе лёс да ягонага пакліканьня, я цяпер не сумняваюся. Я ўжо расказваў пра свае прыгоды на шляху да сталай прафэсіі. Мой добры анёл уратаваў мяне і ад пэрспэктывы стаць прафэсійным савецкім філёзафам. А выпадак быў сапраўды на мяжы неверагоднага. Пералом у маім жыцьці насьпяваў на пачатку сямідзясятых гадоў, калі я працаваў ужо інжынэрам-патэнтазнаўцам на Менскім мотавелазаводзе, створаным на базе вывезеных у кошт рэпарацыяў зь Нямеччыны матацыклетнага і веласіпеднага заводаў.

Да нас з Эўропы са спазьненьнем гады на тры дакаціліся хвалі «новай левай». Людзі ўжо чулі імёны: Сартр, Маркузэ, Энцэнсбэргер. На штандарах эўрапейскіх бунтарных студэнтаў разам з імёнамі Чэ Гевары і Маркузэ зазіхацелі па-новаму імёны Маркса і Мао Дзэ-дуна. У нетрах савецкай філязофіі сасьпявала новая «пазытывісцкая» навука — сацыялёгія. Для думных і амбітных выпускнікоў ін’язу адкрывалася дзялка, дзе зь веданьнем замежных моваў можна было зрабіць кар’еру. Узорам быў Іван Антановіч, пазьней сакратар ЦК КПБ і міністар

замежных справаў у прэзыдэнцкай Беларусі. Яшчэ будучы студэнтам нашага ін'язу, ён працаваў лябарантам у Інстытуце філязофіі АН БССР, потым хутка абараніўся, крытыкуючы тэорыю буржуазных каштоўнасьцяў. На гарызонце маячыў і францускамоўны Лявон Яўменаў, выпускнік маскоўскай ВНУ, загадчык аддзелу спэцынфармацыі АН БССР, які ў свой час пасьпяхова паклаў у пракрустаў ложак марксізму хіжага і каведнага Анры Ляфэўра, выкінуўшы на сьметнік тое, што зьвісала долу. Антановіч і Яўменаў, павандраваўшы па «гарадах жоўтага д'ябла», чыталі ў Таварыстве ведаў публічныя лекцыі, як дрэнна жыць у Амэрыцы. Яўменава я ведаў са студэнцкіх гадоў, калі ён вёў у нас у ін'язе сэмінары па гістарычным матэрыялізьме. Філёзафамі з навуковымі ступенямі сталі выпускнікі нямецкага факультэту Іван Пруднік і Саша Крукоўскі. Апошні стаў нават навуковым сакратаром Інстытуту філязофіі і права. А супрацоўнік аддзелу Яўменава Валодзя Штрык, таксама выпускнік ін'язу, ажаніўся з дачкой самога дырэктара Інстытуту філязофіі акадэміка Казіміра Буслава і называў яе пяшчотна «мая Бураціна», бо ў яе, як у бацькі, быў страшэнна доўгі нос.

Памятаю, у той час стала модным запрашаць на прадпрыемствы сацыёлягаў і на ўмовах гаспадарчага разьліку рабіць сацыялягічны маніторынг паводле шырокага спэктру парамэтраў. Прыехалі да нас сацыёлягі і на мотавелазавод. З аддзелу галоўнага канструктара, да якога адносілася і наша патэнтнае бюро, мяне прызначылі адказным мясцовым «апекуном» навукоўцаў. Група працавала паводле мэтодыкі, распрацаванай у БДУ пад кіраўніцтвам прафэсара Давідзюка. Ідэя сама па сабе была цікавая. Калі аб'ектыўна адказаць на ўсе пытаньні анкеты, можна было прыйсьці да высновы, што многае на прадпрыемстве ідзе ненатуральна, алягічна. Гэтая прыкладная сацыялёгія здалася мне сапраўднай панацэяй: ніякіх табе рэвалюцыйных фразаў, называй усё сваім іменем, і сыстэма лясьнецца. Пра гэта шэптам гаварылі і маладзейшыя члены сацыялягічнай групы. Інжынэры і рабочыя на канвэеры гаварылі ўслых пра хібы плянавай эканомікі, дзе так званая сацыялістычная каапэрацыя раз-пораз давала збоі. Інжынэры і рабочыя кантактавалі падчас аварыйных зборак і вялі ідэалягічна шкодныя размовы, калі раптам пасьля затрымкі паставак прыбывалі па каапэрацыі запчасткі, і супрацоўнікі аддзелаў галоўнага канструктара і галоўнага тэхноляга выходзілі на засьнежаны двор са шрубавёртамі і ў рукавіцах (бо прымярзалі да мэталу пальцы) і сяк-так «падвешвалі» карбюратары: «Хер сь нім, патрэбіцель дакруціт!»

Працуючы з сацыялягічнай групай, я адчуваў сябе першапраходцам і амаль што рэвалюцыянэрам. Сацыёлягі працавалі на заводзе месяцы тры. Праўда, калі маніторынг падыходзіў да канца і трэба было рабіць высновы, высьветлілася, што ўвесь рэспубліканскі праект, які ахопліваў шмат прадпрыемстваў, знаходзіцца пад патранатам прамысловага аддзелу і аддзелу навукі ЦК КПБ, дзе лічаць пакуль непажаданымі надта радыкальныя высновы пра сыстэмныя хібы. Пра гэта я пачуў на заключнай нарадзе з удзелам нашага галоўнага інжынэра, намесьніка дырэктара па вытворчасьці і самога прафэсара Давідзюка. Мне таксама далі сло-

ва, і я, як потым гаварылі, даволі разумна і стрымана выказаўся. Пасьля нарады да мяне падышоў прафэсар Давідзюк і прапанаваў пайсьці да яго ў асьпірантуру пры Акадэміі навук. Гаварыў пра цікавыя пэрспэктывы. Я прыняў эўрыстычнае рашэньне і перайшоў свой чарговы Ярдан: пачаў рыхтавацца да экзамэнаў у завочную асьпірантуру па прыкладной сацыялёгіі.

І тут, як таго шматпакутнага Ёва, мой анёл часова пакінуў мяне, каб потым ашчасьлівіць. Мой уступны рэфэрат, дзе я крытычна аналізаваў «Аднамернага чалавека» Гэрбэрта Маркузэ, ацанілі ў Інстытуце філязофіі на «выдатна» (з адзінаццаці рэфэратаў было толькі дзьве пяцёркі), а вось на экзамэне па спэцыяльнасьці выйшла асечка. Зноў адбылася неверагодная гісторыя. У завочную асьпірантуру разам са мною паступаў мой былы вучань, выпускнік ін'язу Ян Цехановіч (пазьней стаў дэпутатам ВС СССР ад Літвы, перамогшы ў сталічнай Нававіленскай акрузе Ландсбэргіса), і напярэдадні экзамэну ягоны знаёмы філёзаф, Лёня Ўвараў (працаваў недзе загадчыкам катэдры), пагадзіўся даць нам кансультацыю па некаторых пытаньнях. Наша імправізаваная кансультацыя, якая адбылася ў інтэрнаце па вуліцы Акадэмічнай, закончылася лёгкім півам (нічым больш!), пасьля чаго мы вырашылі яшчэ зайсьці ў галоўны корпус акадэміі паглядзець дакладна аўдыторыю і час пачатку заўтрашняга экзамэну. Спускаючыся з другога паверху на вуліцу, мы забегліся па дарозе ў туалет на першым паверсе. Дзьверы туалету, як гэта часта было прынята ў савецкі час, зачыняліся шчыльна зь сярэдзіны пры дапамозе вельмі моцнай спружыны, таму, заходзячы і выходзячы, дзьверы трэба было моцна цягнуць на сябе або прытрымліваць. Заходзячы, я тузануў дзьверы, але, не разьлічыўшы сілы, выпусьціў ручку, а ў гэты час у дзьвярным праёме зьявіўся дзядзька і акурат падставіў нос пад востры кант і мэталічную ручку. Ён быў невысокага росту, у сьціплай балёньневай куртцы, у руках зашмальцаваны партфэль, трошкі таўставаты і зь вельмі доўгім носам. Дзядзька ўхапіўся за нос, а я, разумеючы пэўную камічнасьць сытуацыі і ня лічачы сябе вельмі вінаватым, франтаватым тонам сказаў нешта кшталту: «О, пардон, мэсьё!» Нашыя твары былі блізка адзін ад аднаго, і ён, відавочна, пачуў пах піва і сказаў нешта гнеўнае пра алкашоў. Мы разышліся, блізка паглядзеўшы адзін аднаму ў твар. Я тады ўжо насіў бараду, што яшчэ было ня вельмі распаўсюджана, і таму лёгка запамінаўся...



Назаўтра я зайшоў у аўдыторыю, дзе праводзіўся экзамэн, і аслупянеў: за сталом экзамэнатараў сядзеў той самы дзядзька з доўгім носам, а на дзюбцы носу быў ладны чырвонасіняваты пісяг. Чалавек гэты быў дырэктар Інстытуту філязофіі АН БССР акадэмік Казімір Буслаў. У мяне язык прысох да паднябеньня. Спадар Буслаў мяне безумоўна пазнаў, бо непрыемна зьмяніўся ў твары і як бы рэфлекторна дакрануўся правай рукой да носа, але нічога такога не сказаў і, бачачы маю зьбянтэжанасьць, ужо абыякава вымавіў: «Ну што вы сталі? Бярыце білет». Як на нітках, я падышоў да стала, калянымі пальцамі зь цяжкасьцю адшкрэб білет ад стальніцы і, глянуўшы, чуць ня страціў прытомнасьць: там зноў, як і ў ін'язе на дзяржэкзамэне па навуковым камунізьме,

значылася пытаньне: «Ф. Энгельс аб прынцыпах камунізму». Яго мне тады задавалі як дадатковае. Шчыра прызнацца, за тыя гады, што прайшлі з часу дзяржэкзамэну ў ін’язе, я так і не сабраўся прачытаць гэтую «першакрыніцу», дзе, як кажуць, можна налічыць аж дваццаць два прынцыпы камунізму. Пэўна, хімэрычнасьць назвы не схіляла да чытаньня. Па сёньняшні дзень я не прачытаў гэтага твору... Другога пытаньня ўжо ня памятаю. Трэцяе — гутарка па рэфэраце. Я сеў. Нічога ня думалася і не запісвалася. Раз-пораз я кідаў зрок на акадэміка. Калі-небудзь нашыя вочы сустракаліся. Я ўжо ня памятаю, што і як я адказваў. Я быў ня я. Дубовы сухі язык увесь час прыліпаў да паднябеньня, сказы паўзьлі з роту, як п’яныя бясконцыя чарвякі. Па рэфэраце маўклівы экзамэнатар мяне не пытаў, нічога пра ўчорашняе не сказаў, моўчкі паставіў тройку, і я пакінуў аўдыторыю. Мае новыя знаёмцы, што чакалі каля дзьвярэй, былі зьдзіўленыя, бо перад заходам у аўдыторыю ў мяне шмат хто што пытаўся, а я на ўсё ведаў адказы. Да таго ж мая пяцёрка па рэфэраце падымала мой аўтарытэт да нябёсаў. Замежную мову я ўжо здаваць не пайшоў, хаця, канечне, атрымаў бы пяцёрку. Мяне і з тройкай па спэцыяльнасьці ўзялі б у завочную асьпірантуру. Галоўнае было мецьнавуковага кіраўніка. Але мне было сорамна перад прафэсарам Давідзюком, які сам, яшчэ на заводзе, даў згоду быць маім навуковым бацькам. На гэтым мая філязофская кар’ера скончылася.



## Лінгвістыка — навука для сэрца і розуму

Пасьля ганебнага правалу на экзамэне ў Акадэміі я ўжо не хацеў заставацца на заводзе. Маючы месяц адпачынку, які я атрымаў для паступленьня ў асьпірантуру, я вырашыў знайсьці новае месца працы. Праз знаёмага ў Інстытуце кібэрнэтыкі, колішняга асьпіранта ў прафэсара Алега Сяргеевіча Шырокава, я дачуўся пра вакансію ў Інстытуце мовазнаўства АН БССР на часовую працу паводле гаспадарчай дамовы з «паштовай скрынкай» у Ленінградзе. Там на вуліцы Чапаева пад шыльдай Ленінградзкай фабрыкі цацак хаваўся так званы Інстытут далёкай сувязі, які займаўся халера ведае чым, у тым ліку аўтаматычнай ідэнтыфікацыяй гукавых моўных сыгналаў, аналізам і сынтэзам штучнай мовы, блізкароднаснай псыхалінгвістыкай. Нешта страшэнна цікавае, новае і таямнічае. Мая фантазія яшчэ больш распалілася, калі я даведаўся, што інстытут будзе займацца аналізам акустычных асаблівасьцяў так званага геліевага маўленьня — акустычна зьмененай мовы пры знаходжаньні чалавека ў замкнёнай прасторы, дзе ў дыхальнай кіслароднай сумесі будзе прысутнічаць спэцыяльна ўпырснуты гелій, каб пазьбегнуць эфэкту так званай эмбаліі, закупорваньня крывяносных сасудаў ад пападаньня ў кроў кіслароду як іншароднага цела. Тады ва ўсіх на памяці была гібель савецкіх касманаўтаў Волкава і Пацаева, якія, паводле адной з вэрсіяў, памерлі ад эмбаліі пры разгермэтызацыі карабля.

На мой КЗОТаўскі артыкул 47-В у працоўнай кніжцы вучоны сакратар Інстытуту мова-

знаўства Анатоль Сьцяпанавіч Аксамітаў, спэцыяліст па народнай фразэалёгіі і майстар спорту па шахматах, не зьвярнуў ніякай увагі. Так я стаў мовазнаўцам-псыхалінгвістам у лябараторыі экспэрымэнтальнай фанэтыкі Інстытуту мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР. Узначальваў лябараторыю добры чалавек Аляксандар Ёсіфавіч Падлужны, пазьней акадэмік і дырэктар інстытуту. Адзінаццаць гадоў працы ў лябараторыі былі, бадай, самыя шчасьлівыя гады майго жыцьця. Адносна вольны рэжым працы (ня лічачы некалькіх андропаўскіх месяцаў), магчымасьць у рабочы час працаваць у Акадэмічнай бібліятэцы, дзе быў даволі добры фонд сучаснай пэрыёдыкі (старых кніжак было меней, чым у Ленінскай бібліятэцы), а галоўнае — выдатны калектыў, былі тымі складнікамі радаснага існаваньня, якое грунтуецца на свабоднай фантазіі ў межах зададзенай пошукавай сыстэмы. На жаль, амаль усе тыя мае калегі ўжо ў іншым сьвеце. І прафэсар Аляксандар Падлужны, грунтоўны прафэсійны фаноляг савецкай школы, які напісаў у суаўтарстве з Валерам Чэкманам фундамэнтальную працу «Гукі беларускай мовы» з рэнтгенаграмамі, палятаграмамі і губнымі артыкуляцыямі, і сам прафэсар Чэкман, безумоўна, найлепшы балтыст у Беларусі, выдатны знаўца шматлікіх моваў, у тым ліку літоўскай, і доктар Ліля Выгонная — аўтар цікавых прац па тэарэтычнай і прыкладной фаналёгіі, і Эдуард Якушаў — наш інжынэр-акустык, знаўца Бібліі, царкоўнай гісторыі, германафіл, скептык-мэтафізык… Для мяне, усё яшчэ бессыстэмнага аматара, рабочыя дыскусіі з больш дасьведчанымі калегамі, размовы на ранішніх плянэрках і ў абедзенны перапынак з гарбатай былі добрай школай разумовай дысцыпліны. Была яшчэ адна прыемная асаблівасьць: Валер Чэкман быў выпускніком Кіеўскай суворацкай вучэльні, і таксама, як і я, не пазбаўлены духу пэўнага авантурызму. Мне здавалася, што ён нават ажаніўся спэцыяльна зь літоўскай дзяўчынай, каб авалодаць ня проста літоўскай мовай, але і дыялектамі. Пазьней ён стаў прафэсарам, загадчыкам катэдры Віленскага ўнівэрсытэту ўжо незалежнай Літвы. Пра яго можна пісаць цэлую кнігу. Дарэчы, з таго ўзводу Кіеўскай СВВ, дзе ён вучыўся, выйшла шмат вядомых у Савецкім Саюзе людзей — канструктараў, вучоных, артыстаў, у тым ліку і аўтар песьні «А я иду, шагаю по Москве» паэт Генадзь Шпалікаў. Аднойчы ён прыяжджаў да Валера ў Менск са сваімі сябрамі і заходзіў у нашу лябараторыю. Потым да нас прыбіўся яшчэ адзін «кадэт» зь Менскай суворацкай вучэльні — Валодзя Дзяркач, які выпусьціўся гадоў на пяць пазьней за мяне. Выдатны інжынэр, ён сабраў уласнымі рукамі ўнікальны для таго часу прыбор — аналізатар акустычнага спэктру. Недзе па сумяшчальніцтве, ужо ў той час — пачатак сямідзясятых — ён праектаваў устаноўкі для сьвятлавой музыкі і фантанаў, меў дзясяткі аўтарскіх пасьведчаньняў.



## Першы працоўны дзень — хмарны

Мой першы працоўны дзень у Акадэміі пачаўся незвычайна. Гэта была восень 1973 году. У Акадэміі навук, як і па ўсёй Беларусі, тады пачыналі змагацца з новым беларускім нацыяналізмам, які, як лічылі нашыя ідэолягі, натх-

няўся з Украіны, кіраванай Шэлестам. Хаця я быў афармлены на гаспадарча-дагаворную «закрытую» тэму і да навуковых дасьледаваньняў інстытуту ня меў непасрэднага дачыненьня, загадчык лябараторыі Аляксандар Падлужны параіў мне прыйсьці на пашыранае пасяджэньне навуковай рады, якое выпала якраз на мой першы працоўны дзень і было прысьвечана «некаторым актуальным пытаньням беларускага мовазнаўства». Так быў сфармуляваны парадак дня. На пасяджэньні прысутнічаў акадэмік Кандрат Крапіва, які тады займаў ідэалягічную пасаду акадэміка-сакратара аддзяленьня грамадзкіх навук АН БССР. У тыя дні дзяржаўныя гуманітарныя ўстановы, рэдакцыі, выдавецтвы, творчыя саюзы абмяркоўвалі артыкул Кандрата Крапівы «Грамадзкая неабходнасьць і беспадстаўнае наватарства», надрукаваны ў газэце «Звязда». Артыкул быў прысьвечаны ў асноўным праблемам разьвіцьця і ўнармаваньня літаратурнай мовы — стылістыцы, правапісу, дыялектызмам, запазычаньням. Аднак паміж радкоў і даволі празрыстых алюзіяў прачытвалася больш шырокая мэта — спыніць «адштурхоўваньне» ад расейскай мовы і «паўзучы моўны нацыяналізм», які ўжо быў так рашуча асуджаны некалькі дзесяцігодзьдзяў таму. У паветры павеяла трыццатымі гадамі.

Сам Кандрат Крапіва, наколькі мне запомнілася, на пасяджэньні не выступаў, але ягонае фізычнае цела, як пэўны сымбаль дзяржаўнага цэрбэрства, было ахутана воблакам страху, які паступова запоўніў усю залю і пачаў запаўзаць у нутро прысутных. Усе гаварылі шэптам. Некага чакалі, і дырэктар доўга не пачынаў сходу. Я амаль нікога ня ведаў і ня мог меркаваць, як людзі паводзілі сябе звычайна. Але ж атмасфэра нагадвала хаўтуры. Потым зайшлі нейкія трое важных дзядзькоў і невысокі чалавек, ці то хворы, ці то спужаны. Адзін важны дзядзька сеў наперадзе на загадзя падрыхтаванае крэсла, а двое другіх захацелі сядзець ззаду збоку. Спужана-хвораму дырэктар моўчкі паказаў на месца ў другім радзе і загадаў астатнім пацясьніцца. Міхаіл Раманавіч Суднік пачаў сход, стоячы за сталом прэзыдыюму. Побач зь ім сядзелі сакратар партарганізацыі і старшыня прафсаюзнага камітэту. Уступная прамова штосьці мне нагадвала, але нязвыклая тады для мяне публічная беларуская мова прыцямняла асацыяцыі. Прамоўца, хаця і гаварыў даволі бойка, але выглядаў няўпэўнена і як бы вінавата. Ён раз-пораз кідаў зрок то на Крапіву, то на тых двух дзядзькоў, што захацелі сядзець збоку-ззаду. Крапіва сядзеў без акуляраў, нерухома, і бесьперапынна выціраў складзенай у квадрацік насоўкай сьлёзныя залозы ў куточках вачэй. Было незразумела, слухае ён ці не. Двое важных дзядзькоў, здавалася, зусім ня слухалі прамоўцу, адно шапталіся паміж сабою, нават ня вельмі стараліся гаварыць ціха, чым, безумоўна, яшчэ больш дэманстравалі сваю важнасьць. Хаця дырэктар быў член-карэспандэнт АН БССР, але гаварыў ён больш як партыец і грамадзкі дзеяч, націскаючы на посьпехі айчыннага мовазнаўства пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі. Калі пачаў выступаць парторг і самакрытычна гаварыць пра недахопы ды ідэалягічныя хібы ў працы калектыву, а потым і назваў імя аднаго адшчапенца, які зьвязаўся з ідэйна нясьпелымі элемэнтамі ў

Беларусі і нават за ейнымі межамі, мяне працяло як маланкай: вось яно, дэжа вю!

Такі сцэнар я бачыў дзесяць гадоў таму ў актавай залі ў інстытуце замежных моваў. Там адшчапенца, які чытаў Боруха Сьпінозу і хацеў зьліцца з жаданай таемнай партыяй справядлівасьці, звалі Дзьмітры Багушэвіч, а тутэйшага беларускага «нацыяналіста» — Алесь Каўрус. Гэта ён быў спужана-хворы чалавек. Ён паходзіў зь Мядзелу і, паводле сьведчаньня некаторых выступоўцаў, злоўжываў у навуковых працах дыялектызмамі, якія былі падобныя да палянізмаў, і зьвязаўся зь ненадзейнымі элемэнтамі, якія на сваіх таемных *зьбюрках* сьпявалі Багдановічаву «Пагоню», разважалі пра залаты век беларускага сярэднявечча, ВКЛ ды, перапісваючыся са сваімі ўкраінскімі хаўрусьнікамі, марылі пра рэстаўрацыю ўкраінска-беларускага дэмакратычнага княства ад мора да мора. Пра няўдзячнасьць таварыша Каўруса савецкай уладзе і камуністычнай партыі гаварыла з натуральнымі сьлязьмі на вачох старшы навуковы супрацоўнік Інстытуту мовазнаўства Арашонкава Ганна Ўладзімераўна, якая паходзіла з-пад Нясьвіжу і добра памятала, як цяжка жылося за панскай Польшчай да 1939 году. Яна параіла таварышу Каўрусу распытаць мядзелскіх сваякоў пра той час, яны ж таксама былі ў Заходняй Беларусі. Тут я падслухаў, як кабеціна, што сядзела побач, сказала, што Каўрусаву радню пасьля 1939 году рэпрэсавалі...

Далей усё ішло як па нотах. Выступіла яшчэ некалькі абураных. Вінаватага выставілі перад заляй. Ён маўчаў, не агрызаўся — значыць, каяўся. Цікава, што ніхто з прышлых дзядзькоў не выступаў. Яны толькі назіралі. Усю справу інстытуцкія зрабілі сваімі сіламі. Нацыяналіста Каўруса звольнілі з інстытуту. Я быў непрыемна ўражаны тым пасяджэньнем. Імгненна падумалася: куды гэта я зноў папаў? Калі выходзілі з залі, я наблізіўся да Падлужнага, свайго новага начальніка, і запытаўся, якія такія страшныя палянізмы ўжываў Каўрус у сваіх навуковых працах. Аляксандар Ёсіфавіч паглядзеў на мяне як на вар'ята і, прыклаўшы ўказальны палец да вуснаў, ірвануў ад мяне, як ад заразнага. Пазьней, ужо самнасам, параіў мне менш задаваць падобных пытаньняў пры незнаёмых людзях. Для мяне пачалося новае жыцьцё — з новай жыцьцёвай мудрасьцю і захапленьнямі.



Магчыма, у чытача адразу ж узьнікла пытаньне: як гэта аўтар толькі што пісаў, што быў шчасьлівы, працуючы ў Акадэміі навук, а потым пачаў апісваць інквізытарскае самавынішчэньне і страх у храме навукі? Супярэчнасьці тут няма. Першы шок быў добрым уступным акордам. Шчасьце прыйшло з больш шырокага разуменьня штодзённасьці, якое пашырылася да адчуваньня судакранальнасьці да нечага большага, чым уласная асоба, і, безумоўна, з абложнай працы, сустрэчаў, сумоўяў і агульнага чыну на карысьць Беларусі. Можа, гэта гучыць трохі патасна, але гэта праўда. Лепшыя лекі ад страху і пэсымізму — дзейнасьць, а не разумныя аналітычныя разважаньні на элітарных зборках.

Памятаю, пасьля той пашыранай навуковай рады, калі ўсе разышліся, Алесь Каўрус выйшаў апошні з залі. Я стаяў у калідоры, трошкі агаломшаны, асабліва праз рэакцыю спадара

Падлужнага, і мяне цягнула падысьці да Каўруса, але я гэтага не зрабіў: у мяне ўжо трохі запоўз страх, і да таго ж я падсьвядома адчуваў, што ня ведаю, чым магу ўцешыць чалавека. Застаючыся на адлегласьці мо крокаў дваццаці, я чамусьці пасунуўся за згорбленай постацьцю выгнанца, што рухалася па пустым калідоры. На лесьвічным скляпеньні Алесь прыпыніўся і загаварыў са сьціпла апранутымі хлопцамі, што стаялі каля вакна. Іх было, здаецца, трое. Гаварылі шэптам. Яны падазрона глянулі на мяне і засьпяшаліся ўніз. Праз пэўны час з адным зь іх я пазнаёміўся. Гэта быў наш вядомы беларускі археоляг Міхась Чарняўскі, якога таксама выгналі тады з Інстытуту гісторыі. У сувязі з гісторыяй акадэмічных «нацыяналістаў» я ўпершыню пачуў імёны Пазьняка, Тумаса, Куліка, Марачкіна, Прашковіча і некаторых іншых.

## Радасьць працы і сяброўства

Вір працы і новых знаёмстваў запоўніў жыцьцё з раніцы да вечару. Калі цяпер гляджу выпадкова захаваныя нататнікі, публікацыі ці фатаздымкі, адчуваю тую хвалю радасьці, якая несла нас крок за крокам да шчасьлівых дзён. Канфэрэнцыі, удзел у тэлеперадачах, паходы ў Міністэрства адукацыі дзеля адкрыцьця беларускіх клясаў, сустрэчы ў школах і на кватэрах з бацькамі, выступы ў студэнцкіх аўдыторыях, праца над беларускай чытанкай для дзіцячых садкоў, складаньне праграмы моўнага выхаваньня ў садках — вось той няпоўны пералік справаў, якімі прыходзілася займацца.

Значным посьпехам лічу стварэньне першай сучаснай, сапраўды беларускай чытанкі для дзіцячых садкоў, над якой працавалі Вінцук Вячорка і я. Туды акрамя твораў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка ўдалося ўставіць творы Ларысы Геніюш, Сяргея Новіка-Пеюна, Зоські Верас. Зь дзясятак вершаў спэцыяльна для хрэстаматыі напісаў Сяржук Сокалаў-Воюш. Ці ж гэта ня цуд:

Блакіт нябёс, і белы бусел,
І кветкі ў полі, як абрус…
Мой край завецца Беларусьсю,
А сам я — хлопчык-беларус.

Або:

Мы вядзём паіць на рэчку
Кучаравую авечку.
Пі, авечачка, ваду
І вяртайся ў чараду.

Ці вось такое:

У адной руцэ — сьцяжок,
У другой руцэ — ражок.
Ду-ду-ду, ду-ду-ду! —
Гэта я на сьвята йду!

Прыходзілася ісьці на хітрыкі і кампрамісы, безь якіх чытанку не падпісалі б да друку, бо на ёй павіннен быў быць, як тады казалі, «грыф» Міністэрства адукацыі. Так, паводле патрабаваньняў праграмы ў разьдзеле для самай старэйшай групы (пяці- і шасьцігодкі) мусіў быць твор пра Леніна. Мы знайшлі і дыдактычна адаптавалі амаль як эвангельскую прыпавесьць успамін-апавяданьне «Графін», дзе расказвалася, як малы Валодзя разьбіў графін і потым мужна прызнаўся пра шкоду.

Падобная ж гісторыя адбылася зь «Вялікім Кастрычнікам». У зьмесьце павінна было фігураваць гэтае слова — Кастрычнік, зь вялікай літары, як даніна павагі і ўвагі да Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Не хацелася ж даваць беларускім дзецям тупыя рэвалюцыйныя агіткі. Мы ўзялі верш Алега Мінкіна, у якім апявалася позьняя восень: шматколерны лістапад, павуціньне, прыход новай пары году. Верш як верш, ён быў ужо дзесьці апублікаваны. Але меў патрэбную назву — «Кастрычнік». У гэты ж разьдзел зьмясьцілі і верш Сокалава-Воюша пра сьцяжок і сьвята. З такім вершам можна ісьці і на сьвята 25 Сакавіка.

Асаблівасьцю той працы было мірнае, разумнае супрацоўніцтва зь Міністэрствам асьветы, а дакладней — з упраўленьнем дашкольнага выхаваньня, якое ўзначальвала Тамара Карасьцялёва. Міністарка Сухнат, ейны намесьнік Круглей былі вельмі варожа настроеныя да беларусізацыі школаў і дзіцячых садкоў. Кампліментамі, хітрыкамі і, галоўнае, эгіпецкай працай удалося дабіцца дазволу захаваць аўтарскі калектыў, дзе засталіся мы зь Вячоркам і адна даволі індыфэрэнтная дама з упраўленьня дашкольнага выхаваньня. Ейнае прозьвішча Маскаленка было як громаадвод. Яна ня ведала, хто такія Ларыса Геніюш, Зоська Верас, тым больш ня ведала, што Сокалаў-Воюш жывы і сьпявае на плошчах свае «Прыстанкі». Так чытанка прайшла праз цэнзуру і была афіцыйна рэкамэндаваная садкам як хрэстаматыя. Дагэтуль ня ведаю, здагадвалася начальніца Тамара Карасьцялёва пра нашу зь Вячоркам скіфскую хітрасьць ці не. Ва ўсякім разе, яна не перашкаджала. У 2006 годзе мы зь Вячоркам сустрэлі яе выпадкова на нейкай апазыцыйнай імпрэзе, такую ж спакойную і прыгожую, як пятнаццаць гадоў таму. Яна сказала, што пакінула працу ў міністэрстве, бо там цяпер немагчымая атмасфэра, і працуе ў праектах сваёй дачкі, якая жыве ў Англіі і займаецца дыдактыкай фармаваньня дэмакратычнага сьветагляду малодшых школьнікаў.



Зь цеплынёй у сэрцы ўспамінаю іншыя імёны сяброў, аднагодкаў, старэйшых і маладзейшых, што аддавалі сябе ўдзячнай працы будовы беларускага школьніцтва: Ніл Гілевіч, Анатоль Вярцінскі, Галіна Прыма, Уладзімер Содаль, Ларыса Сімаковіч, Алесь Рашчынскі, Ірына Красоўская, Арына Вячорка, ІгарМіклашэвіч, Тацяна Шчасная, Віялета Яфіменка, Сяргей Вітушка, Ірына і Аляксей Марачкіны, Яўген Кулік... Можна пералічваць дзясяткі імёнаў мастакоў і пісьменьнікаў, без удзелу якіх посьпехі таго часу былі б немагчымыя. Адраджэньне і сувэрэнітэт не зваліліся зь неба. Мы яшчэ як сьлед не асэнсавалі таго вялікага ўкладу ў нацыянальны рух, які зрабіў Генадзь Бураўкін на пасадзе старшыні Дзяржтэлерадыё. Яму хапала ведаў і мудрасьці дабівацца максымальна магчымага пры закладцы падмурку нацыянальнага тэлебачаньня ва ўмовах русіфікаванага камуністычнага кіраваньня.

У той час у мяне напісаліся на адным дыханьні мовазнаўчыя эсэ «Гаворыць мая Буцькаўшчына», «Час одуму», «Ад малой Радзімы да вялікай», з паўтузіна кароткіх публікацыяў у часопісе «Беларусь» пра нашыя і чужыя імёны, артыкулы для «Полымя» пра беларускі пераклад і сучаснае школьніцтва. Для жур-

налістаў радыё і тэлебачаньня я чытаў лекцыі па культуры мовы, кансультаваў дыктарскую групу пад кіраўніцтвам Зінаіды Бандарэнкі, вёў перадачу «Роднае слова», на прапанову Зянона Пазьняка ўзначальваў моўную камісію пры Беларускім фондзе культуры, а пазьней увайшоў у рабочую групу для напісаньня «Закону аб мовах у Беларускай ССР», які быў прынята яшчэ пры саветах.

Закон той хоць і быў сатканы з кампрамісаў, аднак даваў добрыя падставы для разгортваньня далейшай працы. Даўся ён ня проста. Старшынявала ў рабочай групе Ніна Мазай, намесьніца старшыні Савету Міністраў, потым — амбасадарка РБ у Францыі. Пасяджэньні вёў звычайна Ніл Гілевіч, разумна і памяркоўна. Актыўны ўдзел у працы бралі Барыс Сачанка, Іван Чыгрынаў, Пётар Краўчанка. Згадваецца адзін амаль мэлядраматычны эпізод перад галасаваньнем. Членам рабочай групы для выпрацоўкі тэксту закону быў і народны артыст БССР Расьціслаў Янкоўскі, які ня надта актыўна працаваў у рабочай групе, але выступіў у спрэчках на пленарным пасяджэньні, калі закон прымаўся. Выступіў ён па-акторску прыгожа, збольшага прыхільна, але калі паслухаў выступы іншых і эмацыйна запаліўся, папрасіў слова яшчэ раз і ўжо ня так стройна, але шчыра выказаўся за неабходнасьць наданьня беларускай мове статусу дзяржаўнай. Дэпутаты падтрымалі закон абсалютнай большасьцю галасоў. Можа, ня ўсе так думалі, як галасавалі, але тады было так прынята: што ўнесена зьверху на абмеркаваньне, за тое трэба прагаласаваць.

З таго шчасьлівага часу, калі я быў захоплены хвалямі і плыньню штодзённага адраджэньня, у мяне захавалася некалькі тоўстых сшыткаў вялізнага фармату, амаль амбарных кніг, дзе я запісваў адкрытыя для сябе падзеі беларускай гісторыі, вытрымкі з дасьледаваньняў пра сталеньне эўрапейскіх нацыяў і нават рэдкія ці проста невядомыя мне беларускія словы і выразы, знойдзеныя ў кнігах па беларускай гісторыі, у эміграцкай публіцыстыцы, у мастацкіх творах. Напрыклад, з кожнай старонкі прозы Максіма Гарэцкага, якога тады можна было пачытаць толькі ў спэцфондзе БАНі (так скарочана называлі бібліятэку Акадэміі навук), я выпісваў цэлыя сказы. Зь «Дзьвюх душ» я зрабіў цэлую картатэку. Мяне ўражвалі ня толькі трапныя словы, якія не фіксаваліся слоўнікамі, але і сынтаксычныя канструкцыі, што маглі б скласьці добрую частку навуковага апісаньня беларускіх словазлучэньняў у падручніках для школаў і ВНУ. Гэта ня зроблена і да сёньня. Дарэчы, я проста не разумею, куды глядзяць нашыя драматургі і рэжысэры, што дагэтуль не даўмеліся даступіцца да Максіма Гарэцкага. Напрыклад, ягоныя «Дзьве душы» — гатовы бліскучы матэрыял для тэатральнай пастаноўкі або мастацкага фільму. Гэта было б мацней паводле індывідуальнага ўзьдзеяньня, чым «Тутэйшыя» Купалы, бо купалаўскі твор — публіцыстыка, а Гарэцкі — глыбокая псыхалёгія. А маленькія апавяданьні, як, напрыклад, «Рускі» ці фрагмэнты з франтавых запісаў «На імпэрыялістычнай вайне» — цудоўны матэрыял для вечару аднаактовых п’есаў.

## Дарагі падарунак Міколы Лобана

Памятаю, чытаючы ўзятую ў некага пад вялікім сакрэтам «Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі» Вацлава Ластоўскага, я начамі канспэктаваў цэлыя разьдзелы. Мне як носьбіту гаворак, ня вельмі аддаленых ад радзімы Ластоўскага, было цікава назіраць, дзе ён у сваім уласным навуковым кайнэ «дакумэнтуе» моўныя зьявы, а дзе дае бег сваёй творчай фантазіі, прадукуючы фантастычныя наватворы. Гэта асабліва выразна заўважаецца ў ягоным «Расейска-крыўскім слоўніку». Калі я прачытаў і амаль заканспэктаваў усю таўшчэзную «Гісторыю», шчасьлівы выпадак дапамог мне займець гэтую кнігу ва ўласнасьць. Добры ўладальнік хадзіў са мной побач. Гэта быў Мікола Лобан, вядомы беларускі празаік, які працаваў у Інстытуце мовазнаўства загадчыкам сэктару лексыкаграфіі. Гэты аддзел акурат заканчваў працу над «Тлумачальным слоўнікам беларускай мовы». Лобан пісаў тады свой «Гарадок Устронь», дзе ў партызанскіх эпізодах паўводзіў шмат фрагмэнтаў зь нямецкай мовай і папрасіў маёй дапамогі як кансультанта. Я надрукаваў яму за паўдня на машынцы, можа, старонкі тры нямецкіх сказаў у абсалютна адэкватнай рэдакцыі, бо раней заўважаў, што нашы савецкія выдавецтвы і сцэнарысты фільмаў пра вайну ўкладаюць у вусны немцаў выключна дурныя выказваньні (толькі пра шнапс ды пра салдацкі сэкс) і, як правіла, з граматычнымі памылкамі. Аўтар быў задаволены: падараваў мне некалькі сваіх кніжак і прапанаваў аж трыццаць рублёў за тыя пяць старонак. На той час гэта былі немалыя грошы — чвэрць месячнай зарплаты малодшага навуковага супрацоўніка.



Калі я катэгарычна адмовіўся браць грошы, Мікалай Паўлавіч запрасіў мяне ў госьці і сказаў, што хоча зрабіць сюрпрыз. Я пагадзіўся.

Жылі Лобаны дзесьці ў раёне Розы Люксэмбург, на ўзгорку ў хрушчоўцы другога пакаленьня. Дома была толькі жонка Броня, якая, паставіўшы сёе-тое на стол, пакінула нас сам-насам. Я распытваў спадара Лобана як лексыкографа і старэйшага па ўзросьце пра Лёсіка, Байкова, Някрашэвіча — ён расказваў, што ведаў. Я, праўда, чакаў больш. Закраналі падзеі вайны ў 1941—1942 гадах і партызанскую тэму. Тут ён быў больш жывы апавядальнік. Да сюрпрызу дайшло ўжо амаль у гадзіну ночы. Мікалай Паўлавіч устаў, зачыніў шчыльна дзьверы ў пакоі, дзе мы сядзелі, паставіў крэсла да кніжнай сэкцыі і папрасіў мяне адчыніць верхнія дзьверцы кніжных антрэсоляў: яму было гэта зрабіць цяжка. Паранены на фронце, ён і па калідоры хадзіў малымі дробненькімі крокамі. Там сярод мастацкіх альбомаў ляжала... «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі» Вацлава Ластоўскага. «Бярыце і валодайце. Вы шчасьлівейшыя за нас, бо вось так, ня ведаючы мяне, вы не баіцеся гаварыць пра Ластоўскага, Някрашэвіча... Мы ў свой час гаварылі на такія тэмы толькі са знаёмымі, і то шэптам. Ведаеце, кніжку я нават не разрэзаў, яна толькі зброшураваная, разрэжаце самі дома», — сказаў Мікалай Паўлавіч, даючы мне ў рукі пакунак, загорнуты ў пажоўклы плякат з рэклямай мастацкага музэю БССР. Для кнігі ён даў мне авоську — сетачку, зь якой тады хадзілі ў магазін па харчы. Ціха, каб не разбудзіць жонку, ён вывеў мяне на вуліцу, паказаўшы, як можна прайсьці да таксі, бо аўтобусы ўжо не хадзілі.

Таксі я не дачакаўся і рушыў пешшу напрасткі праз двары да вуліцы, што вяла да чыгуначнага вакзалу. «Ну вось я і прыняў эстафэту ад ваеннага пакаленьня мовазнаўцаў», — падумаў я, схільны да абагульненьняў і алегорыяў, ідучы праз ноч і размахваючы двухкіляграмовым Ластоўскім у авосьцы як халоднай зброяй. Дома я адразу кінуўся разразаць неразьдзеленыя старонкі спэцыяльным касьцяным ножыкам, які мне некалі падараваў мой настаўнік па гісторыі нямецкай мовы Леў Шымансі. Папера таго ковенскага выданьня 1926 году з друкарні Сакалоўскага і Лана, выдадзенага коштам Беларускага цэнтру ў Літве, была ня вельмі высокай якасьці — жоўтая, тоўстая, але пахла нечым прыемным, падобным да ваніліну. Вокладка ў афармленьні Дабужынскага — мяккая, з стылізаванымі пад старабеларускую мову надпісамі. Потым я чытаў аж да раніцы ўжо майго ўласнага Ластоўскага, не сьпяшаючыся і нічога не запісваючы. Пазьней папрасіў знаёмага пераплесьці фаліянт у каляную вокладку, абрэзаць вельмі шырокія палі і ўмацаваць шытво брашурных аркушаў. Хто цяпер будзе чытаць гэтую кніжку пасьля мяне? Гляджу цяпер на партрэт Ластоўскага і думаю: Божа, як цяжка было паміраць такому чалавеку ўдалечыні ад Радзімы! Некалі маладым я выдумляў зь беларускіх прозьвішчаў алегорыі: *Ластоўскі* — чалавек зь іншай плянэты, чалавек у *ластах*, інтэлігентны і бездапаможны, і яны яго *расплясталі*... У *Караткевіча* — век *кароткі*... Зянон *Пазьняк* не *спазьніўся* нарадзіцца... *Вячорка* сказаў: *яшчэ ня вечар*...



## Усе разам за Беларусь

Шмат хто зь беларускай інтэлігенцыі зьведаў у васьмідзясятыя гады ўціск, непрыемнасьці і звальненьні з працы за ўдзел у руху за падтрымку беларускай мовы. Здаецца, у 1985 годзе ў ЦК КПСС у Маскву быў накіраваны ліст ад беларускай інтэлігенцыі, «Ліст дваццаці пяці», які першым падпісаў Васіль Быкаў. Там гаварылася пра неабходнасьць наданьня беларускай мове статусу дзяржаўнай і адпаведнага пашырэньня яе функцый. У 1986 годзе, калі я ўжо быў дацэнтам пэдынстытуту, да мяне падышоў Мікола Купава і прапанаваў паставіць подпіс пад яшчэ адным лістом у ЦК КПСС, у якім ужо выкладалася цэлая праграма рэфармаваньня моўнай палітыкі ў Беларусі. Ня ведаю, чаму Купава падышоў да мяне першага. У асяродку беларускай інтэлігенцыі было шмат больш аўтарытэтных людзей, чым я. Потым мне нехта сказаў, што так мяне быццам бы правяралі, ці не стукач я. Такая хвароба ў нашых адраджэнцаў была і ёсьць. Хварэў на яе і Зянон Пазьняк, і Васіль Быкаў, і шмат хто яшчэ. Я паставіў свой подпіс пад нумарам адзін. Пасьля мяне яшчэ падпісаліся дзевяноста дзевяць асобаў. Гэта ўжо быў «Ліст ста». Пра «Ліст дваццаці пяці» і «Ліст ста» перадалі замежныя радыёстанцыі, якія пералічвалі прозьвішчы і пасады падпісантаў. Пасьля нас выклікалі групамі па тры-чатыры чалавекі ў ЦК КПБ на сустрэчу з прадстаўнікамі з Масквы, якія прыехалі «разьбірацца» з правінцыйнымі закалотамі, і, натуральна, паведамілі на месцы працы пра той калектыўны ліст. Цяпер падобныя апэляцыі могуць здавацца сьмешнымі. Тады гэта быў учынак. Памятаю, пра гэта ведаў увесь наш пэ-

дынстытут. Але факт галоснасьці, масавасьці і аўтарытэт падпісаных баранілі ад рэпрэсіяў. Рэктар касавурыўся, загадчык катэдры і калегі моўчкі падтрымлівалі. Магчыма, тады партыйнае кіраўніцтва яшчэ не ўспрымала ўсё сур'ёзна.

## У Аргкамітэце БНФ

Пазьней, у 1989 годзе, калі я апынуўся ў складзе Аргкамітэту Беларускага Народнага Фронту і партыйная дыктатура ўжо трашчэла па швах, рэакцыя была зусім іншая: было зроблена ўсё магчымае, каб дыскрэдытаваць актывістаў нацыянальнага руху. На другі ж дзень пасьля ўтварэньня Аргкамітэту Беларускага Народнага Фронту мяне ўжо «чысьцілі» на інстытуцкім сходзе.

На ўстаноўчым сходзе Беларускага гісторыка-асьветнага таварыства памяці ахвяр сталінізму «Мартыралёг Беларусі» ў Чырвоным касьцёле (Сьвятых Сымона й Алены) 19 кастрычніка 1988 году як бы спантанна паўстаў Аргкамітэт БНФ. На самой справе нічога спантаннага не было. Зянон Пазьняк і Васіль Быкаў са сваімі найбольш блізкімі паплечнікамі ўсё плянавалі загадзя. Я не належаў да той групы асабліва набліжаных да Пазьняка і ня ведаў усіх дэталяў сцэнару. Я толькі даў згоду на тое, каб увайсьці ў Аргкамітэт. Партыйнае кіраўніцтва і ўся намэнклятура, відавочна, мела пэўную інфармацыю і адчувала, што рыхтуецца нешта надзвычайнае, таму прыслала на той вечаровы сход некалькі дзясяткаў сваіх «прадстаўнікоў грамадзкасьці», каб перашкодзіць распаўсюду «заразы». Такое тады здаралася часта, калі нефармалы (так у канцы васьмідзясятых называлі актывістаў дэмакратычнага руху) праводзілі свае сходы і нешта арганізоўвалі. Цікава было назіраць за заляй, якая адлюстроўвала падзел грамадзтва. На адным баку сядзелі сарака-пяцідзесяцігадовыя ўкормленыя ружовашчокія дзядзькі ў цёмных гарнітурах, на другім — разнамасная публіка: пасівелыя мужчыны, моладзь, шмат доўгавалосых і ў акулярах, у швэдрах, куртках, з гальштукамі і без... Ажыўленьне ў залі выклікала зьяўленьне ў вайсковай палявой форме двух шарагоўцаў: во ўжо войска да нас далучаецца! Гэта былі Вінцук Вячорка і Алесь Суша, якіх па камандзе зьверху тэрмінова прызвалі на зборы ў войска як актыўных «нацыяналістаў». У той вечар яны зьбеглі ў самаволку.

Падзеі таго дня шмат ужо хто апісваў у сваіх успамінах, таму ня буду спыняцца на дэталях. Вынік вядомы. У той вечар беларускі новы вызвольны рух публічна запачаткаваў сваю дзейнасьць. Падрыхтоўка была праведзеная ўзорна дзякуючы выдатным арганізатарскім якасьцям Зянона Пазьняка і ягоных найбліжэйшых сяброў. Без Васіля Быкава такога б не атрымалася. Ягоны маральны аўтарытэт быў неаспрэчны. Мне больш ніколі не давялося бачыць Васіля Ўладзімеравіча такім рашучым і аптымістычным, як у той вечар. Прадстаўнік ЦК КПБ таварыш Бузук, які тады вёў рэй у залі ад імя адкормленай намэнклятуры, пацярпеў поўную паразу. На другі дзень пра гэта гаварылі па ўсёй Беларусі. Фронт пачаў распаўсюджваць свой неафіцыйны друкаваны орган «Навіны БНФ Адраджэньне», які рэдагаваў Алесь Суша. Бюлетэнь развозіўся кур'ерамі ў найбольш актыўныя пункты краіны.

## Я не адзін: заля са мною

На другі ж дзень у пэдынстытуце, дзе я тады працаваў дацэнтам на дашкольным факультэце, у вялікай лекцыйнай залі адбылося надзвычайнае нечарговае пасяджэньне вучонай рады, куды запрасілі выкладчыкаў і студэнтаў з усіх факультэтаў. Мэтаю сходу было папярэдзіць калектыў аб недапушчэньні ўдзелу ў руху БНФ. Вёў пасяджэньне прарэктар інстытуту па выхаваўчай працы таварыш Атрошчанка (і яму зямля пухам!), былы сакратар гаркаму КП Беларусі. Ва ўступным слове ён абмаляваў небясьпеку, якую нясуць прыбалтыйскія народныя франты адзінству СССР, і спыніўся на задачах калектыву з улікам грамадзка-палітычнага становішча, як тады казалі, «у рэспубліцы». Галоўным ворагам стабільнасьці ў Беларусі быў названы БНФ. Назвалі прозьвішчы выкладчыкаў Вячоркі і Садоўскага, якія зганьбілі гонар інстытуту, стаўшы ў шэрагі кіраўнікоў варожай арганізацыі. Згадалі і імя нашага загадчыка катэдры Яўгена Міхайлавіча Адамовіча, які «занядбаў выхаваўчую працу ў падначаленым калектыве». Вінцук Вячорка быў на вайсковых зборах і на сходзе не прысутнічаў.

На сцэне за катэдрай стаяў прарэктар Атрошчанка, а мяне, як злачынцу і вінаватага, выклікалі на сцэну.

Сцэнар быў для мяне ўжо да болю знаёмы: расправа з Багушэвічам у ін’язе, маё выгнаньне з альма-матэр у 1969 годзе і «воўчы артыкул» у працоўнай кніжцы, суд над Каўрусам у Інстытуце мовазнаўства АН БССР... Утварыўся псыхалягічны трохкутнік: прарэктар, заля і я. Як гэта са мною часта бывае, у хвіліны небясьпекі ці проста стрэсу, калі мне ў галаў лезуць нейкія



мэлёдыі, вершы ці крылатыя выразы, тады на сцэне ў падсьвядомасьці, як згустак маланкі, праблісНуў сынэдрыён, Хрыстос і мэлянхалічныя думкі пастэрнакаўскага лірычнага героя:

> Но продуман распорядок действий,
> И неотвратим конец пути.
> Я один, всё тонет в фарисействе,
> Жизнь прожить — не поле перейти…

Але блюзавы настрой (калі добраму чалавеку дрэнна) неяк сам па сабе перабудаваўся ў пераможны маршавы лад, бо мой зрок, як ужо даволі спрактыкаванага лектара, спыніўся на прыгожым усьмешлівым твары маладой выкладчыцы, якую я неаднойчы бачыў на нефармальных сходках таго часу. Я эмацыйна вярнуўся ў Чырвоны касьцёл, дзе ўчора Васіль Быкаў і Зянон Пазьняк бліскуча перамаглі ў ідэалягічнай дуэлі эмісара ЦК КПБ таварыша Бузука. Адчуваючы ўнутраную няўпэўненасьць таварыша Атрошчанкі, я дазволіў сабе паакторстваваць і папрасіў даць мне месца на трыбуне, а прарэктару прапанаваў заняць месца ў залі. Заля прыхільна загула. Прарэктар мусіў сысьці з трыбуны, але ня сеў у залю, а прыстроіўся побач на адно з крэслаў, што сталі на сцэне ўздоўж сьцяны. Адчуваючы подых дабрыні, якая запаўняла залю і даходзіла да сцэны, я падсьвядома зразумеў, што павінен прадэманстраваць, што я не баюся свайго апанэнта, а хачу зьліцца з прысутнымі, што мы тут — не трохкутнік, а «бінарная апазыцыя»: заля і я супраць камуністычнага сынэдрыёну. Дзіўна, але я абсалютна ня памятаю, што я гаварыў. Усё ішло як на аўтапілёце. Ня памятаю, якім фармальным выракам закончыўся сход.

Памятаю толькі добры гул у залі, аплядысмэнты ў задніх радах, дзе сядзелі студэнты, поціск сяброўскіх рук у калідоры і хмель маральнай перамогі. Празь некалькі дзён мяне «прагналі» праз датэрміновы закрыты конкурс на вучонай радзе інстытуту. Аднак вынік адлюстроўваў настрой вуліцы і аўтарытэт руху БНФ «Адраджэньне»: сорак сем членаў рады прагаласавалі супраць майго выключэньня з выкладчыцкага корпусу, і толькі чатырнаццаць — за. Аргумэнтам на маю карысьць быў і мой высокі рэйтынг як выкладчыка. На нашым дашкольным факультэце паводле апытаньня студэнтаў я дзяліў першае-другое месцы з прафэсарам псыхалёгіі Якавам Каламінскім.

## Намэнклятурныя паклёпы

І па-за межамі тых установаў, дзе працавалі члены Аргкамітэту БНФ «Адраджэньне», была арганізаваная цэнтралізаваная кампанія паклёпу і дыфамацыі. Ва ўсе раённыя цэнтры, установы і прадпрыемствы разаслалі цыркулярныя лісты-арыенціроўкі ЦК КПБ для мясцовых кіраўнікоў з тлумачэньнямі «бягучага моманту». На сходах зачытвалі прозьвішчы адшчапенцаў, якія зьліліся з прыбалтыйскімі фашыстамі і плянуюць усталяваць у Беларусі нацыяналістычны лад і выгнаць усіх расейцаў. Ціснулі на сваякоў, якія жылі нават далёка ад Менску. Майго брата Толіка, зь якім я ў дзяцінстве «мыў Багоў» і бегаў да суседкі Марты «пазычаць малаток», члена КПСС, інжынэра-эканаміста Слуцкага цукровага заводу, выклікалі ў райкам і там параілі па-сваяцку паўздзейнічаць на неразумнага сталічнага брата.



Я даведаўся пра гэта толькі праз год, калі ўжо стаў дэпутатам Вярхоўнага Савету. Тады брат прыслаў мне ліст. Але, наколькі магу меркаваць, гэта быў ня ліст падтрымкі, а хутчэй заклапочанасьці, бо жонка схавала яго ад мяне і спаліла. Можа, гэта было і разумна, бо ў мяне хапала тады непрыемнасьцяў на працы і бяз братавага ліста. З братам пра тое я ніколі гаворкі не пачынаў. Ён сам таксама нічога не ўспамінаў — толькі пасьля таго, магчыма, саромеючыся свайго пасланьня, амаль перастаў прыяжджаць да нас у Менск. Можа, прычынаю стала братава здароўе. Шчыры камуніст і савецкі патрыёт, ён добраахвотнікам паехаў у чарнобыльскую зону, дзе правёў сорак два дні — з 2 траўня да сярэдіны чэрвеня 1986 году, зь іх шэсьць дзён у непасрэднай блізіні ад рэактару. Якраз у 1989 годзе ў яго пачалося татальнае разбурэньне арганізму. Цяпер ён мае дзьве штучныя сківіцы, цукровы дыябэт, штучныя зрэнкі, сапсаваную нэрвовую сыстэму і яшчэ шмат чаго іншага. Разы два на месяц яго б'е трасца — так у нас дома ў Буцькаўшчыне звалі ліхаманку. Акрамя фізычных пакутаў ён мучаецца і маральна: апантаны рыбар і грыбар, са сваімі штучнымі зрэнкамі ён дрэнна бачыць паплавок і грыбы ў восеньскім лесе... Ягоная чарнобыльская пэнсія ў прэзыдэнцкай Беларусі на дзесяць эўра перавышае маю, па ўзросьце, якая раўняецца прыблізна 130 эўра. Улада, падобна, чакае, што ліквідатары хутка перамруць і праблема вырашыцца сама сабою. Я, дарэчы, як колішні амбасадар і член прэзыдыюму Вярхоўнага Савету, што працаваў на сталай аснове, маю права на пэнсію «За асаблівыя заслугі перад Рэспублікай Беларусь», якую цяпер ат-

рымліваюць міністры, дэпутаты, амбасадары ды іншыя «правільныя» дзяржаўныя дзядзькі. Яна перавышае маю разы ў тры-чатыры. Аднак я папаў у сьпіс непажаданых асобаў рэжыму. Гэта пэўная плата за ўдзел у нацыянальным адраджэнскім руху.

Той час вялікіх, хаця пакуль і ня спраўджаных чаканьняў і радаснай апантанай дзейнасьці поплеч зь лепшымі сынамі Беларусі застаецца ў памяці як момант шчасьця, які надаў сэнс усяму майму папярэдняму і пазьнейшаму існаваньню.

# Узбунтаваная Прыбалтыка

*Прыбалтыка — савецкая «Эўропа». — Расколатая Балтыя. — Сьпеўная рэвалюцыя. — Акупантай лаўк! — Міжнародны фальклёрны кангрэс у Рызе. — На першым зьезьдзе «Саюдысу». — Першы зьезд БНФ у Вільні. — Крывавы студзень 1991 году ў Вільні. — Сярод сяброў і ворагаў. — ВКЛ ажывае: я размаўляю па Віленскім ТБ у жывым этэры па-беларуску. — Замерзлы Алітус. — У ноч на Кяна ды Смаргонь.*

## Яшчэ савецкая Прыбалтыка

Старая сярэднявечная гісторыя Беларусі і балтыйскіх краінаў абазвалася ў найноўшай гісторыі моцным рэхам таго этнакультурнага падзелу, які быў накінуты нашаму краю пазьнейшым геапалітычным разьвіцьцём. У клясычны савецкі пэрыяд, яшчэ задоўга да перабудовы, беларуская інтэлігенцыя і шараговыя абывацелі езьдзілі да сваіх паўночна-заходніх суседзяў як у Эўропу. Гэты край, які, нягледзячы на энкавэдэшную праполку і калгасную сыстэму, захаваў гістарычны досьвед уладкаваньня людзкага штодзённага побыту і рамеснай вытворчасьці, прыцягваў і моладзь і старэйшых. Першыя ехалі ў Вільню, Талін ці Рыгу на выходны, каб уцячы ад халодных прадзьмуваных ветрам праспэктаў сацыялістычных гарадоў і згубіцца сярод камяніц і брукаваных вулак, паслухаць арганы ў гатычным храме, пасядзець ва ўтульнай кавярні, зайздросна падслухаць, як блізкія суседзі гавораць на сваёй роднай мове. Людзі сталага веку везьлі ад су-

седзяў з кірмашоў ды крамаў смачны хлеб, сыр, недарагія, але з густам зробленыя тэкстыльныя вырабы, часам свае беларускія, прызначаныя на экспарт. Прыбалтаў саюзны бюджэт значна больш падкормліваў, чым, напрыклад, расейскую ці ўзбэцкую правінцыю. Ціхмянасьць патрабуе і перніка.

Я магу параўноўваць наведваньні Прыбалтыкі ў сямідзясятыя і ў канцы васьмідзясятых гадоў. Да так званай перабудовы ў Рызе, Таліне ці Вільні можна было адчуць стрыманую халоднасьць ці нават варожасьць мясцовых, але да агрэсіі амаль ніколі не даходзіла. Мясцовыя маглі сказаць, што не разумеюць па-расейску, або паслаць прышлага ня ў той бок, куды трэба. З свайго досьведу магу згадаць толькі адзін выпадак у Таліне, які я наведаў з жонкай у канцы сямідзясятых гадоў. Стоячы ў чарзе ў гарадзкой сталоўцы, я зрабіў заўвагу двум п’яным падшыванцам, якія размаўлялі па-эстонску, лаяліся матам па-расейску і лезьлі без чаргі да касы. Мяне абазвалі акупантам, *«куратам»* (злое, бруднае, агіднае стварэньне — чорт) і пабяцалі зарэзаць. Чарга ня вымавіла ні слова, ні па-эстонску, ні па-расейску. Потым да гэтых двух далучыліся яшчэ двое бэйбусаў і «пасьцілі» нас па горадзе да самага дому гаспадароў, дзе мы арандавалі жытло. Жонка перапужалася і хацела зьвярнуцца ў міліцыю. У кватэры я ўзяў, не пытаючыся ў гаспадара, доўгі шрубавёрт (гаспадар быў электрык), зачачыў бакавыя грані напільнікам і зрабіў заточку сантымэтраў на пятнаццаць. Увечары тыя самыя двое сустрэлі мяне каля харчовай крамы і папыталіся, ці ня мог бы я даць ім пяцьдзясят капеек на цыгарэты. Я сказаў, што вось акурат купіў шрубавёрт і аддаў усе грошы, што былі, і паказаў з рукава заточку. Хлопцы адышлі, і потым я бачыў іх толькі здалёку.



Я заўважаў, што шмат хто з інтэлігентных беларусаў, прыяжджаючы, напрыклад, у Вільню, пераходзіў на беларускую мову, каб неяк адмежавацца ад савецка-расейскага кантынгенту. Мне здавалася гэта трошкі наіўным, бо шараговыя віленчукі-літоўцы, большасьць зь якіх былі ў мінулым звычайнымі сялянамі паводле штодзённай сьвядомасьці, ідэнтыфікавалі «гудаў» як тыпова савецкіх, расейскіх.

## Вызвольны сьпеў

У сярэдзіне і канцы васьмідзясятых гадоў расейскамоўнае насельніцтва Прыбалтыкі палярызавалася на інтэрфронтаўцаў (прыхільнікаў захаваньня СССР) і тых, хто актыўна стаў на бок аўтахтонаў-патрыётаў, пачаў вывучаць мясцовую мову і дабівацца грамадзянства. Такое расколатае грамадзтва я меў магчымасьць назіраць у 1988 годзе ў Вільні, Рызе ды іншых месцах, дзе была буйная вытворчасьць зь вялікай колькасьцю расейскамоўнага насельніцтва. Літоўскія пікеты з плякатамі *«Акупантай лаўк!»* («Акупанты, прэч!»), дзе зьбіраліся подпісы за вывад савецкіх войскаў, маглі стаяць побач з расейскамоўнымі інтэрфронтаўцамі, якія прадавалі расейскую і мясцовую прэсу, дзе выкрываліся дзеячы «Саюдысу» як памагатыя фашызму і антысэміты. У латыскіх населеных пунктах — паводле таго, што назіраў я сам, — дыскусіі праходзілі больш тэмпэрамэнтна, і калі-небудзь даходзіла да вельмі эмацыйных разборак, нават умешвалася міліцыя.

Прыбалтыйскія рэвалюцыі былі сьпеўныя і выдатна яднаді народ. Такое я бачыў і ў Эстоніі, і Літве, і Латвіі. Незабыўнае ўражаньне пакінуў міжнародны фальклёрны фэстываль у Рызе летам 1988 году, куды зьехаліся прадстаўнікі фальклёрных калектываў з усяго сьвету, ад Японіі да Грэнляндыі. Гэта было адначасна і сьвята ўсясьветнай салідарнасьці са змагарнай Прыбалтыкай. Латышы ладзілі вольны фэстываль, ужо не савецкі. Найбольшымі дэлегацыямі былі прэзэнтаваныя Літва, Латвія і Эстонія, якія ішлі пад нацыянальнымі сьцягамі, а не пад прыдуманымі савецкімі. Сьвята пачалося шэсьцем ад Палацу спорту да Домскага сабору. Здавалася, увесь сьвет сышоўся на вуліцах латыскай сталіцы. Народныя строі і нацыянальныя сьцягі стваралі ўражаньне старазапаветнага Бабілёну, але ўладкаванага і спакойнага.

Натуральна, што афіцыйнай савецкай Беларусі на гэтай імпрэзе не было. Прыехала некалькі чалавек са сьпеўна-драматычнай «Майстроўні» — з тузін хлопцаў і дзяўчат, нават менш, чым звычайна зьбіралася ў Менску. Я ведаў добра майстроўцаў, бо туды хадзіла мая дачка Алена, калі займалася на філфаку БДУ. Дагэтуль памятаю іхныя галасы і твары. Гэта Вінцук і Арына Вячоркі, Ларыса Сімаковіч (сьпеўная душа), Сяргей Дубавец, Сяржук Сокалаў-Воюш, Віялета Яфіменка, Таня Сапач, Юля Лыскова, Ігар Міклашэвіч, Ігар Германчук, Генадзь Лойка, Мікола Сасноўскі, Вера Лазоўская, Таня і Лада Шчасныя, Зьміцер Саўка, Алесь Суша, Сяргей Вітушка (пазьней лідэр «Талакі») ды іншыя...

Майстроўцы — мо чалавек дзесяць — прыстроіліся ў канцы калёны, не паводле альфабэту. Яны несьлі наш бел-чырвона белы сьцяг — сьціплага памеру і якасьці. Выглядала ўсё гэта вельмі гаротна, але была ў гэтым свая сымболіка і аптымізм: маладыя сталі на эўрапейскі шлях волі. Пасьля шэсьця Юля Лыскова падышла да нас з жонкай і расплакалася. (Мы былі суседзі ў Серабранцы і сябравалі сем'ямі.) Я, як бацька, прытуліў яе да сябе і таксама разроўся шчыра і бессаромна. Такая нейкая салодкая патрыятычная туга-катарсіс: Божа, калі гэта мы будзем, як усе людзі, — у сваёй дзяржаве, са сваёй моваю, са сваім сьцягам? Потым ад Домскага сабору, пасьля магутных харавых сьпеваў удзельнікі рушылі дружнай братэрскай сям'ёю да помніка Свабоды, дзе таксама былі сьпевы і палымяныя прамовы.



Беларуская партыйная намэнклятура нездарма баялася ўплыву прыбалтыйскіх народных франтоў. Гэты ўплыў сапраўды быў. Да вясны 1989 году беларускія творчыя саюзы, ВНУ, акадэмічныя інстытуты, нават некаторыя дзяржаўныя ўстановы тайна і адкрыта чыталі расейскамоўныя прыбалтыйскія выданьні. Газэтныя і часопісныя артыкулы капіяваліся і распаўсюджваліся паміж знаёмымі і калегамі. Да нас у Менск у саюзы пісьменьнікаў, мастакоў, кінэматаграфістаў прыяжджалі госьці з прыбалтыйскіх творчых саюзаў і расказвалі, што ў іх на самай справе адбываецца. Памятаю, у «Навінах БНФ», якія тады рэдагаваў Алесь Суша, быў здымак сустрэчы з адказным сакратаром «Саюдысу» спадаром Чапайцісам у нашым Доме літаратара. У залі побач стаялі летувіскі трыкалёр і наш бел-чырвона-белы сьцяг. У сувязі з гэтым узгадваецца мужнасьць усяго кіраўніцтва Саюзу мастакоў, падтрымка

Саюзу пісьменьнікаў, асабліва Алеся Емяльянава, якіператварыў свой офіс у Доме літаратара ў штаб БНФ. Саюз кінэматаграфістаў, перш за ўсё спадар Нікіфараў як старшыня і Алег Белавусаў, паспрыялі таму, каб беларускі дэмакратычны рух знайшоў прытулак у Доме кіно (Чырвоны касьцёл), у тым ліку і падчас выбарчай кампаніі 1990 году.

## За нашу і літоўскую Свабоду

Пашчасьціла мне быць госьцем і на першым зьезьдзе літоўскага «Саюдысу». Тады я працаваў на музычна-пэдагагічным факультэце пэдынстытуту. Запрашэньне я атрымаў прыватна ад знаёмага літоўца, блізкага да «Саюдысу», якога звалі Ляанас. Ён чамусьці сымпатызаваў беларусам. Па тэлефоне называў сам сябе Лявонам. Ад яго я атрымаў у падарунак (абсалютна бескарысьліва) Новы Запавет па-літоўску, літоўска-расейскі слоўнік Б. Сэрэйскіса (Коўна, 1933), перавыдадзеную гісторыю Літвы 1934 году на літоўскай мове. У час зьезду «Саюдысу» ў прэзыдыюме акрамя лідэраў руху Вітаўтаса Ландсбэргіса, прафэсара кансэрваторыі, Казімеры Прунскене (пазьней першага прэм'ера незалежнай Літвы), вядомых тады актывістаў Озаласа і Чапайціса сядзелі вязьні сталінскіх лягераў ды «лясныя браты» — удзельнікі руху супраціву савецкай акупацыі. Прысутнасьць апошніх была нечым незвычайным. Гэта ж былі адкрытыя ворагі савецкай улады. Заля вітала кожнага выступоўца бурнымі воплескамі ды ўставаньнем. Успрымалася ўсё гэта як у казцы. Вакол была фармальна яшчэ савецкая ўлада.

Потым у чэрвені 1989 году быў Першы зьезд Беларускага Народнага Фронту ў Вільні, дзе нас ужо адрозьнівалі ад расейцаў. Зьезд адбываўся ў Палацы прафсаюзаў, нам далі вялікую залю месцаў на чатырыста. Жылі мы ў літоўскіх сем'ях. Камуністычныя ўлады Менску забаранілі праводзіць зьезд на тэрыторыі Беларусі.

Найбольш памятнымі засталіся літоўскія сустрэчы 1991 году, калі я ўжо быў дэпутатам Вярхоўнага Савету, падчас і пасьля крывавых падзеяў у Вільні 11—13 студзеня. Пра тыя дні ў мяне захаваўся дакумэнтальны фільм, зроблены нарвэскім тэлебачаньнем. Літва вырывалася з савецкіх абдымкаў. Некалькі групаў дэпутатаў Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня (у тым ліку і я) у студзені наведалі Вільню. Акрамя дэпутатаў ад БНФ езьдзілі і вэтэраны-камуністы на чале зь Дземянцеем, старшынём ВС. Назіралі і рабілі высновы. Нават самыя заімшэлыя камуністы мусілі прызнаць, што ўзьняўся ўвесь народ, а ня кучка нацыяналістаў-русафобаў, як сьцьвярджалі лідэр літоўскіх камуністаў Ермалавічус, міністар абароны Язаў з Гарбачовым ды піцерскі спрытнюга Няўзораў, што зрабіў расейскі шавіністычны фільм «Нашы».

Пры штурме тэлецэнтру, дому друку, сутычках на дарогах з 11 па 30 студзеня загінула чатырнаццаць і было паранена 580 грамадзян Літвы. Эўропа ня бачыла такіх дакумэнтальных кадраў з часу ўварваньня савецкіх войскаў у Прагу ў 1968 годзе: жаўнеры на брані, пагрозьліва круцяцца танкавыя вежы з даўжэзнымі рулямі гарматаў, маладыя акрываўленыя твары, мёртвыя на ношах у моргах, яшчэ жывыя ў рэанімацыі, жаўнеры ў касках ламаюць дзьверы тэлецэнтру, лупяць прыкладамі натоўп... Жанчына сталага веку крычыць танкістам: «Што ж вы робіце? Я ж вашым бацькам

у сорак першым годзе вёдрамі малако насіла, як яны ад немцаў уцякалі!» Уся Вільня на вуліцах. Скандуюць: «Летува!» Уся Вільня на вуліцах: хаваюць палеглых. Жалобная музыка. Мора сьцягоў. Паперадзе працэсіі — некалькі дзясяткаў сьвятароў у белым. Першая труна — маладой дзяўчыны. На партрэце — прыгажуня з усьмешкай. Мёртвая вітае вольную Радзіму.

Потым давялося пабываць у Вільні і правінцыі ў час плебісцыту 9 лютага 1991 году. У гэты дзень пры таемным галасаваньні больш як тры чвэрці электарату сказала «так» літоўскай дэмакратычнай дзяржаўнасьці. А праз два дні, 11 лютага, Вярхоўны Савет Літоўскай Рэспублікі (ён тады яшчэ называўся на савецкі лад) прыняў «Канстытуцыйны закон аб Літоўскай дзяржаве».

Я быў афіцыйным назіральнікам ад Вярхоўнага Савету Беларусі ў раёне Алітус, кілямэтраў за сто на паўднёвы захад ад Вільні. Спачатку ў Вільні нас запрасілі на нараду, дзе прысутнічалі зь вядомых мне тады лідэраў Ландсбэргіс, Озалас, Сангайла і Чапайціс. Кожнаму далі папку з паперамі і касэту зь відэафільмам нарвэскіх журналістаў пра студзеньскія падзеі. Паінфармавалі пра складанасьці, што могуць узьнікнуць, асабліва ў правінцыі. Да ад'езду на месца назіраньня мне прапанавалі выступіць па Віленскім тэлебачаньні са зваротам да беларусаў, на што я ахвотна пагадзіўся. Тады на ўсю тэрыторыю Літвы яшчэ вяло перадачы маскоўскае тэлебачаньне, а незалежнае літоўскае пакрывала Вільню і поўдзень краіны. У Алітусе Вільню прымалі толькі са спэцыяльнымі антэнамі.



Тэлестудыя ў Вільні, дзе я выступаў, месьцілася ў невялікім пакоі ў будынку Вярхоўнага Савету, які ўсё яшчэ заставаўся агароджаны моцнымі бэтоннымі блёкамі. Вокны ў калідорах і большых памяшканьнях былі абкладзеныя мяшкамі зь пяском. Ахова з добраахвотнікаў мела паляўнічыя стрэльбы, чалавекі тры мелі аўтаматы. Былі нават хлопцы з малакалібэрнымі вінтоўкамі. Усё гэта выглядала трохі тэатральна і фантасмагарычна, бо ня так далёка ад будынку Вярхоўнага Савету на тэлевежы веяў чырвоны сьцяг, а за драцяной агароджай стаялі савецкія танкі. Але было відаць, што маскоўская ўлада паралізаваная і войска дзейнічае вяла і нерашуча. Гэта надавала імпэту прыхільнікам незалежнасьці.

Для выступу мне далі пятнаццаць хвілін жывога этэру. Я спрабаваў папярэдне нешта напісаць, але нічога не пісалася. У галаў лезьлі спрэс гістарычныя паралелі і алегорыі: некалі мы былі разам у ВКЛ, час зноў нітуе нашыя лёсы. Гаварыў экспромтам. Канечне ж, згадаў пра ВКЛ, назваў колькі гістарычных постацяў, што яднаюць нас. Расказаў пра Беларусь, бяз патасу патлумачыў, што робіцца ў нас, падзяліўся ўражаньнямі пра Вільню, няскораны парлямэнт, пра тое, адкуль я зьвяртаюся да сваіх землякоў. Згадаў пра Беларускі Народны Фронт, пра салідарнасьць, пра тое, што можна жыць і без Масквы ў галаве, што мы самі ня зломкі. Магчыма, мой выступ і дадаў літоўскай незалежнасьці колькі галасоў ад беларусаў. На жаль, шмат хто з нашых землякоў тады хіліўся да шавіністычнага «Інтэрфронту».

Ноч у Вільні мы правялі з кіроўцам нашай «волгі» ў неацепленым гатэлі, які раней нале-

жаў Саюзу пісьменьнікаў, а цяпер быў прыватызаваны. Расея тады праводзіла палітыку энэргетычнага эмбарга ў адносінах да Літвы, і ў Вільні ацяпляліся толькі самыя важныя аб'екты: лякарні, дзіцячыя садкі, школы, некаторыя вытворчыя арганізацыі. За незалежнасьць прыходзілася плаціць. Ад лютаўскага марозу ў ледзяным гатэлі прыйшлося выпіць адзіную пляшку сувэнірнай «Белавескай», якую мы на ўсякі выпадак мелі з сабою. Цікава, што па волі выпадку нас пасялілі ў той самы двухпакаёвы нумар, дзе я два гады таму жыў разам з Анатолем Вярцінскім, калі мы былі гасьцямі Саюзу пісьменьнікаў яшчэ ціхай савецкай Літвы.

Плебісцыт прайшоў мірна. Людзі ішлі на галасаваньне, як на сьвята. Недалёка ад Алітусу была вёска, населеная расейскімі стараверамі. На маё зьдзіўленьне, яны вельмі актыўна падтрымалі плебісцыт і нават арганізавалі маленьне каля выбарчага ўчастку. У Алітусе і навакольлі было ціха. Першую ноч з 8-га на 9-га я правёў у доме старшыні раённай адміністрацыі, бо і тут ніводзін гатэль у навакольлі не ацяпляўся. Паводзіў гаспадар сябе асьцярожна, чымсьці нагадваў памяркоўнага беларуса, хаця меў вельмі літоўскае прозьвішча Марчулёніс. Усё казаў: «Паглядзім, як яно будзе». Нават на мае дэмакратычныя пасажы ніяк не рэагаваў. Нас прасілі 10 лютага раніцай быць у Вільні, каб выступіць перад журналістамі і атрымаць памятныя пасьведчаньні і мэдальёны ад літоўскага кіраўніцтва. Аднак адзін інцыдэнт перашкодзіў: ноччу з 9 на 10 лютага нашай «волзе», што стаяла каля гатэлю, пракалолі дзьве шыны. Нам ужо было ўсё роўна, хто гэта



зрабіў — літоўскія патрыёты, што ўбачылі савецкія нумары, ці інтэрфронтаўцы, якія «зафіксавалі» нас як прыхільнікаў літоўскай незалежнасьці на выбарчым участку. Хутчэй за ўсё, апошнія, бо ўвечары адзін зь іх вязаўся да нас у кавярні, дзе мы вячэралі. У нас было толькі адно запасное кола, таму вадзіцелю прыйшлося ехаць на машыне выбаркаму ў Алітус, каб купіць другое. Затрымаліся, што называецца, да шэрай гадзіны. Патэлефанаваўшы ў Вільню, павыбачаліся ды паехалі проста, як той багушэвічаўскі герой, у кірунку Кяна ды Смаргоні. Так я і застаўся бяз памятных кляйнодаў прыхільніка літоўскай незалежнасьці. Прыблізна праз год у час афіцыйнага візыту дэлегацыі Вярхоўнага Савету ў Літву, калі Ландсбэргіс ужо быў прэзыдэнтам, я расказаў яму тую гісторыю як кур'ёз.

# І мы будуем новую Радзіму

*Які час на дварэ — такая і Беларусь. — Зянон Пазьняк. — Выбары ў Вярхоўны Савет: тактыка і стратэгія перамогі. — Алег Шагулін, Барыс Стук, Уладзімер Цытрон, Юры Авяр'янаў — героі 1990 году і суаўтары перамогі. — Дэмакраты супраць мітрапаліта Філарэта.*

## Амбівалентнасьці гісторыі

Выбары ў Вярхоўны Савет 12-га скліканьня адбыліся ў канцы 1990 году, калі яшчэ існаваў артыкул 5 Канстытуцыі СССР, які замацоўваў кіроўную ролю КПСС. Агульны грамадзкі ўздым увасабляўся ў Беларусі ў такіх постацях, як Васіль Быкаў, Алесь Адамовіч, Зянон Пазьняк, Яўген Кулік, Анатоль Вярцінскі са сваім «ЛіМам», Міхаіл Дубянецкі, а таксама шматлікія маладыя актывісты інтэлектуальных «паддашкаў», аўдыторыяў і нават афіцыйных сумоўяў. Сапраўднай аздобай і маладой крывёю таго ўздыму былі нефармальныя моладзевыя суполкі, зьвязаныя з нацыянальна-дэмакратычным вызвольным рухам, такія, як «Майстроўня», «Талака», «Тутэйшыя». У той час я працаваў дацэнтам катэдры беларусістыкі пэдынстытуту, але шмат сутыкаўся са студэнцкай моладзьдзю іншых ВНУ, што далучылася да нацыянальнага руху. Шчыра прызнаюся, што на маю нацыянальную сьвядомасьць, ужо тады сямейніка і выхавацеля моладзі, велізарны ўплыў зрабілі такія таленавітыя і шчырыя маладыя людзі, як Сяргей Сокалаў (тады яшчэ ня Воюш), Вінцук Вячорка, Ларыса Сімаковіч, Анатоль Сыс, якога ўжо няма сярод нас. Тут я называю імёны тых, каго мне было лягчэй успрымаць псыхалягічна і ў кім я адчуваў зразумелую мне глыбіню. Анатоль Сыс ашаломіў мяне сваімі прарочымі вершамі на вечарыне ў актавай залі тэхналягічнага інстытуту.

Калі цяпер спрачаюцца, звалілася нам, беларусам, незалежнасьць сама зь неба, цягнулі мы яе адтуль якімі крукамі ці выпесьцілі самі ў сябе дома, то спрэчка тая здаецца мне трошкі амбівалентнай. Я маю тут на ўвазе, напрыклад, лягічны закід Сяргея Навумчыка ў бок трохі постмадэрнісцкіх развагаў Валянціна Акудовіча пра нікчэмнасьць палітыкаў і абсалютнасьць гістарычнага моманту. Гэта добра помніць той, хто ўважліва чытаў першыя разьдзелы кніжкі Сяргея Навумчыка «Сем гадоў Адраджэньня».

Новыя людзі ў Прыбалтыцы, Расеі, Украіне і Беларусі зрабілі тады тое, што маглі і павінны былі зрабіць. У той час Захад меў выбудаваны над сабой крыштальны палац дабрабыту (вобраз, запачаткаваны яшчэ Дастаеўскім), а СССР меў над сабою каўпак-дах велізарнай таталітарнай спаруды з дабрабытам Верхняй Вольты, абстаўленай па пэрымэтры ракетамі, — вобраз з публіцыстыкі Алеся Адамовіча. Беларусы, як і суседзі, бачылі свой кавалак неба і спарахнелага даху, які валіўся ім на галовы, як і суседзям, і дзейнічалі са здаровай рэакцыяй арганізму, які змагаецца за фізычнае выратаваньне. Да ідэі самаідэнтыфікацыі народ як супольнасьць прыходзіць у гістарычны момант небясьпекі, якая пагражае ягонаму існаваньню ці дабрабыту.

Сёньня, на пачатку XXI стагодзьдзя, Эўро-

па, якая хоча праз супэрэтнас абараніць свой дабрабыт, геапалітычную ўстойлівасьць і хаця б віртуальна захаваць рэліктавыя прыметы клясычных нацыяў, разьдзіраецца ў спрэчках пра ідэнтычнасьць. У развагах Акудовіча імплікуецца папрок Пазьняку як палітыку, які паразытаваў на вызвольных ідэях Прыбалтыкі. Праўда, далей Акудовіч як бы паўіранічна карыстаецца эпітэтам «геніяльны» ў адносінах да пазьнякоўскіх дзеяньняў. Нашым гісторыкам, публіцыстам і тым, хто прэтэндуе як бы пафілязофску асэнсаваць пэрыяд вызвольнага руху канца васьмідзясятых і пачатку дзевяностых гадоў, добра было б паставіць сябе на месца Пазьняка і ягоных паплечнікаў, напрыклад, у дні жнівеньскага путчу 1991 году і праверыць свой грамадзянскі кураж. Перапрашаю за высокі штыль, але 19 жніўня апазыцыя БНФ у парлямэнце *рабіла гісторыю.* Яна прыбегла ў Вярхоўны Савет бараніць дэмакратыю. Пакуль інтэлігентныя месьцічы дыскутавалі на кухнях і рабочых месцах, тры дзясяткі грамадзян-дэпутатаў не бяз рызыкі для ўласных дабротаў і свабоды 19 жніўня а першай дня адкрыта зьвярнуліся да народу з заклікам да супраціву.

Калі ж гаварыць больш агульна пра пачатак супраціўнага антыкамуністычнага руху ў Беларусі, Расеі ды Ўкраіне і ўплыў Прыбалтыкі, то тут псыхалягічная і гістарычная праўда ў тым, што інакш дзейнічаць было немагчыма. Гістарычны момант выключаў бязьдзеяньне і арыентацыю на Ўсход. Не маглі мы чакаць саюзьнікаў з Усходу, дзе змагаліся толькі за правы асобы, а не за правы меншых народаў на фізычнае існаваньне. Хто ўважліва сачыў за тагачасным друкам, памятае шматлікія пазьнейшыя інтэрвію (асабліва за межамі СНД) расейскіх рэфарматараў-дэмакратаў Гайдара, Лукіна, Нямцова дый Ельцына пра беларускую тэрыторыю як зону геапалітычных інтарэсаў Расеі. Так што наш выбар прыбалтаў і ўкраінцаў як стратэгічных саюзьнікаў (прыгадайце падхопленую БНФ яшчэ з часу братоў Луцкевічаў ідэю балтыйска-чарнаморскай супольнасьці) быў абсалютна натуральны і непазьбежны.



## Зянон Пазьняк

Чалавекам, які найбольш абудзіў маю сьвядомасьць як грамадзяніна і паўплываў на мой лёс, быў безумоўна, Зянон. Я ўбачыў у ім тое, чаго мне неставала, — абдуманую рашучасьць і самаахвярнасьць. Той Пазьняк, якога я памятаю з канца васьмідзясятых — пачатку дзевяностых гадоў, паўплываў шмат на каго і многіх падсадзіў на першыя прыступкі публічнага жыцьця. Я асабіста ня стаў бы дэпутатам Вярхоўнага Савету, калі б не Зянон Пазьняк. Думаю, што са мною пагодзіцца шмат хто з нашых дэпутатаў ВС 12-га склікаНьня. Мне здаецца, што Пазьняк зрабіў пэўны станоўчы ўплыў і на лёс Станіслава Шушкевіча. Не хачу патанаць у дэталях.

Адрозна ад іншых адраджэнцаў Зянон меў жывую духовую сувязь з вызвольным беларускім хрысьціянска-дэмакратычным рухам праз свайго дзеда, Янку Пазьняка. Зянон працягваў справу бацькавага бацькі, прыгожага духам і постацьцю чалавека, які ў росквіце гадоў бясьсьледна зьнік у засьценках НКВД. Калі я гляджу на юнацкія партрэты Максіма Багдановіча, я заўсёды згадваю віленскі здымак 1915

году Янкі Пазьняка. Зьніклы, белы страцім-лебедзь...

Журналісты часам малююць Зянона аднаколерным, зацятым пратапопам Авакумам. Магчыма, нехта бачыў толькі такое. Такога Зянона я таксама памятаю — на парлямэнцкай трыбуне, на плошчы. Я бачыў яго рознага: іранічнага, лірычнага, сэнтымэнтальнага. Аднойчы — было гэта халаднаватай парою — пасьля нейкага мітынгу ў Фрунзэнскім раёне, зайшлі мы немалым кагалам пагрэцца ў кватэру да Сяргея Антончыка. Падчас імправізаванай сьціплай вячэры, дзе за сталом таўкліся шчасьлівыя (бо бацькі дазволілі далучыцца да гасьцей-сяброў) Сяргеевы дзеткі, я ўпершыню ўбачыў «хатняга» Зянона і ягоныя глыбокія і па-бацькоўску цёплыя вочы. Даводзілася бачыць Зянона і адзінокім, калі яго не разумелі. Ён тады нагадваў непачутага самотніка ў пустыні ці тужлівага арфіста зь «Вільгельма Майстэра». Гэта лёс любога сапраўднага лідэра.

Кажуць: ён ірваўся да ўлады. Так. Ён прагнуў улады, але не для сябе — каб потым тварыць і аддаваць. Ён як бы шукаў нейкую вялікую тайну, каб скарыстаць яе для вялікага агульнага дабра. Цікавы штрых зь біяграфіі: ужо ў эміграцыі Зянон выдаў сваім коштам і адрэдагаваў беларускі пераклад легенды пра Парцыфаля. Для Зянона чароўны кубак Грааль — ня мэта рыцарскай авантуры, не магічны крышталь, а эўхарыстычная чаша, у якую Ёсіф сабраў кроў укрыжаванага Хрыста. Мне здаецца, я разумею, чаму Зянон зьвярнуўся да «Парцыфаля». Гэта рыцарскія пошукі таямніцы свабоды і найвышэйшай мудрасьці для агульнай карысьці. Раб рэагуе толькі на імгненнае жыцьцё тут і цяпер. Зянон — рыцар духоўнай рэфлексіі і свабоды. Зянона часам папракаюць за «правадырызм». Але мне здаецца, што ён, як ніхто болей, разумеў, — як у старажытнагрэцкай трагедыі, — што сапраўдная трагедыя ня ў гібелі галоўнага героя, а ў гібелі хору. Можа, як сапраўдны лідэр ён таму звышпатрабавальна ставіўся да «харыстаў» і часта пачуваў сябе адзінокім. Ягонае адкрыцьцё Курапатаў было рашучым крокам у вялікую лёсаносную палітыку.



Кажуць, што Зянон апошнім часам ужо ня той, стаў менш рашучы, заседзеўся ў эміграцыі. Думаю, ягоныя апасеньні за сваё жыцьцё ў лукашэнкаўскай Беларусі небеспадстаўныя. У сваіх прагнозах Зянон рэдка калі памыляўся. Як бы там ні было, але Зянонава меркаваньне, што традыцыйнымі парлямэнцкімі мэтадамі беларускі рэжым не памяняць, ужо агучваецца сёньня і ягонымі крытыкамі з шэрагаў апазыцыі. Я ня ведаю дэталяў, як адбыўся раскол БНФ пасьля 1992 году. Да пачатку 1995 году я быў у Нямеччыне, прыяжджаючы толькі на пасяджэньні Вярхоўнага Савету ды летам на адпачынак. Нават паслухаўшы такога аб'ектыўнага чалавека, як Юры Хадыка, я ня змог скласьці для сябе поўнай карціны падзей таго часу і ўзаемаадносінаў лідэраў руху адносна характару практычнай дзейнасьці.

Слухаючы восеньню 2007 году ў жывой трансьляцыі адказы Юрася Беленькага, выканаўчага старшыні Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ, на пытаньні слухачоў Радыё Свабода, я зразумеў, што чальцы партыі Пазьняка абсалютна не прымаюць «прагматычнага» курсу цяперашняй дэмакратычнай апазыцыі,

а трымаюцца прынцыпаў «маральнай» палітычнай дзейнасьці ў беларускім вызвольным руху, не прызнаючы ніякіх кампрамісаў і хаўрусаў. З чыста маральна-этычных меркаваньняў — пазыцыя, безумоўна, ідэальная, амаль першахрысьціянская. Аднак, наколькі мне дазваляе меркаваць мой кніжны досьвед, такая максыма вызвольнага руху справядлівая толькі ў гістарычныя пераломныя моманты грамадзкага ўздыму, якімі былі тыя ж васьмідзясятыя і пачатак дзевяностых гадоў на савецкай і постсавецкай тэрыторыі. Зь сярэдзіны дзевяностых гадоў і да сёньня беларускі грамадзкі дэмакратычны рух пад уплывам вонкавага і ўнутранага сацыяльна-грамадзкага разьвіцьця знаходзіцца ў стадыі «маральнага ідыятызму» (Марксаў выраз), таму трэба амаль фаталістычна, як зьмену пораў году, прымаць лятэнтны пастулят Томаса Гобса пра несумяшчальнасьць маралі і палітыкі і без трагізму рабіць максымальна магчымае праз кампрамісы і прагматычныя тактычныя хаўрусы. Той жа «Малады фронт», які так шкадуе Юрась Беленькі, — ад каго б ён пераняў беларускія ідэі і дзе б ён зьбіраўся, каб не было «нячыстага» БНФ Вінцука Вячоркі? На Варвашэні, 8 (цяпер гэта праспэкт Машэрава) у сядзібе «здраднага» БНФ адбываецца шмат чаго, што прыцягвае і ўцягвае сотні новых людзей — перш за ўсё моладзь — у практычную дзейнасьць на карысьць беларускай ідэі: канфэрэнцыі, канцэрты, выставы, прэзэнтацыі, лекцыі. Да звышзакансьпіраванай і па-першахрысьціянску чыстай КХП БНФ (ад чаго яна моцна траціць у сваім інтэлектуальным рэсурсе) цяжка дастукацца новаму чалавеку.



Такія людзі, як Зянон Пазьняк, Яўген Кулік, Міхась Чарняўскі і маладыя майстроўцы, эмацыйна адкрылі мне сэнс нацыянальнай сымболікі для вызвольнага руху. Пражыўшы амаль палову жыцьця, я лічыў гэта неістотным, хаця факты гістарычнага існаваньня «Пагоні» і бел-чырвона-белага сьцягу мне былі вядомыя. Я быў нават схільны падзяляць меркаваньне народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча, які ў 1989 годзе далучыў свой голас да тых, хто лічыў «Пагоню» і бел-чырвона-белы сьцяг у фармаце гарбачоўскай перабудовы тактычна, дзеля адзінства нацыі, нясвоечасовымі і нават шкоднымі. Гэта было падчас дзяржаўнай антынацыянальнай мэдыйнай кампаніі «Пена на хвалях перабудовы». Лунаньне на ветры і сонцы сотняў нашых сьцягоў на праспэкце Скарыны/Незалежнасьці ў Менску і сёньня для мяне — відовішча найвялікшай радасьці і шчасьця.

Калі пасьля першага гвалтоўнага рэфэрэндуму ціцянкоўская ап'янелая гайня рвала на даху наш сьцяг, балела душа. *«Хай пачуюць, як сэрца начамі аб радзімай старонцы баліць»*. Гэта і пра нас, сучасьнікаў Зянона Пазьняка...

## Выбары 1990 году

Сёньня часам гавораць, што выбары 1990 году былі дэмакратычныя. Гэта не зусім так. Уявіце сабе, што, вылучыўшыся першы раз па месцы жыхарства і перамогшы сем супернікаў у Серабранцы, я ня змог своечасова здаць пратакол выбарчага сходу, бо на загад райвыканкаму ў дзень сходу і на заўтра выбарчы ўчастак зачынілі, і некуды ўцякла старшыня выбарчай камісіі. Вось такая была свабода. Пазьней на маім ужо «праараным» агітатарамі БНФ уча-

стку ўдалося зарэгістраваць Анатоля Вярцінскага, дзе ён быў абраны ўжо ў першым туры.

Паколькі я быў членам праўленьня Таварыства беларускай мовы, якое было рэспубліканскай арганізацыяй, то паводле тагачаснага закону аб выбарах я мог паўторна вылучацца ад гэтага таварыства ў Вярхоўны Савет па любой акрузе. Тут дарэчы сказаць дзякуй Нілу Сымонавічу Гілевічу, тагачаснаму старшыню таварыства, які прыклаў шмат намаганьняў для рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты ад Таварыства беларускай мовы. Што б там хто ні гаварыў, на той час памяркоўнасьць Ніла Сымонавіча і ягонае ўменьне размаўляць з намэнклятурай адыгралі ў выбарчай кампаніі вельмі станоўчую ролю. Канечне, тады камуністычнае кіраўніцтва ішло на саступкі, бо баялася: быў час агульнага ўздыму і нянавісьці да адкормленых камуністычных начальнікаў.

Мяне вылучылі паўторна на прадпрыемстве «Гранат» у Фрунзэнскім раёне Менску (было такое закрытае прадпрыемства, так званая «паштовая скрынка», што выраблялa робаты ды іншае складанае электроннае начыньне). У канцы васьмідзясятых гадоў аўтарытэт прафсаюзаў на буйных прадпрыемствах быў даволі высокі. Уявіце сабе: прафсаюз «Гранату», сярод якога было нямала членаў БНФ (найперш я б назваў Алега Шагуліна, Барыса Стука і Аляксандра Царыкава), і яшчэ да майго паўторнага вылучэньня я прачытаў на прадпрыемстве цыкль лекцый па культуры і гісторыі Беларусі для інжынэраў цэху робатаў. Кіраўніцтва заводу выдатна ведала, пра што мы гаворым на сустрэчах, бо на гутаркі прыходзілі ўсе, хто хацеў. Аднак забараніць сустрэчы камуністычны райкам пабаяўся.



Побач з «Гранатам» знаходзілася велізарнае прадпрыемства — Менскі завод вылічальнай тэхнікі (вядомы ў горадзе пад абрэвіятурай МЗВТ). Гэта быў мой другі выбарчы «плацдарм». Тут ад партыйнай намэнклятуры ў маю акругу быў вылучаны парторг прадпрыемства таварыш Канойка, сам па сабе чалавек прыстойны, не агрэсіўны. Цікава, што ў ягонай камандзе паводле, так бы мовіць, адміністрацыйна-вытворчага прынцыпу быў Уладзімер Цытрон, выдатны фрэзэроўшчык-віртуоз і добра абазнаны ў беларускай гісторыі і культуры чалавек. Зь ім я пазнаёміўся яшчэ ў канцы васьмідзясятых гадоў, калі пачынаўся дэмакратычна-вызвольны рух. Ён быў членам гарадзкога страйкаму і ўзначальваў камітэт на сваім МЗВТ і «Гранаце». Такія людзі, як Уладзімер Цытрон, — рэдкія. Прыродны талент, высокая маральнасьць і аўтарытэт высакакляснага спэцыяліста дапамагалі яму ўзьняць увесь калектыў супраць сыстэмы тагачасных працоўных узаемаадносінаў, але ён ніколі не дапускаў агульных рэвалюцыйных абразаў на адрас кіраўніцтва заводу. Памятаю арганізаваную сустрэчу на МЗВТ, калі я ўжо быў кандыдатам у дэпутаты, супернікам парторга заводу па выбарчай акрузе. За сталом прэзыдыюму — парторг Канойка, мой супернік па акрузе, Валодзя Цытрон і я. Сустрэчу вёў Валодзя як прадстаўнік працоўнага калектыву. Больш разумнай дыскусіі я не магу прыгадаць за ўсё сваё жыцьцё. Дагэтуль памятаю, як Валодзя прыпыняў люмпэнскія абразьлівыя заўвагі на адрас парторга Канойкі, майго суперніка, колііш-

няга шараговага інжынэра гэтага ж заводу. Маючы больш як дваццацігадовы досьвед працы на дзяржаўных прадпрыемствах і належачы паводле заробкаў да «сацыялістычнай рабочай арыстакратыі», Валодзя скіроўваў спрэчнікаў на тое, каб абмяркоўваць праграмы кандыдатаў па сутнасьці. Такі падыход дазваляў сапраўды наблізіцца да болевых пунктаў вытворчага працэсу і аб'ектыўна спрыяў перамозе рэфарматарскіх канцэпцыяў, якія ўвасабляў Народны Фронт. Гэта былі сапраўдныя дыскусіі, а не агучваньне супернікамі ўзаемнага палітычнага кампрамату. Паказальна, што і Цытрон і Канойка пасьля тых дыскусіяў не засталіся ворагамі. Цяпер Канойка ўзначальвае вытворчае прадпрыемства Таварыства сьляпых у Фрунзэнскім раёне Менску, куды запрасіў на працу і свайго былога ідэалягічнага апанэнта Цытрона, які ўваходзіў фармальна ў ягоную выбарчую каманду. Валодзя там — зноў заўважная постаць. Ён прыносіць у цэх «Народную волю», інфармуе хлопцаў пра дэмакратычныя акцыі апазыцыі. Дырэктар Канойка паважае спадара Цытрона як унікальнага спэцыяліста і нават ня мае нічога супраць, каб той працаваў на сваім пэрсанальным станку бязь зьменнага фрэзэроўшчыка. Гэты станок ня новы, нямецкі, яму ўжо гадоў трыццаць. Але Валодзя робіць на ім некаторыя рэчы, якія не пад сілу станкам зь лічбавым кіраваньнем, што стаяць побач. Мне прыемна пісаць пра гэта, бо гэты станок для Валодзі прывезьлі мае нямецкія сябры, зь якімі я пазнаёміўся падчас амбасадарства. Для Ўладзімера Цытрона індывідуальны станок — як для скрыпача наладжаная пад сябе скрыпка.



Гэтую гісторыю пра Валодзю Цытрона я згадваю, калі думаю пра сёньняшні апазыцыйны рух: як мы працавалі тады і як працуюць маладзейшыя цяпер? Камуністычны рэжым пры саветах быў, праўда, не такі цынічны і нахабны, як сёньняшні прэзыдэнцкі, тады яшчэ не было кантрактнай сыстэмы, на прахадных не дзяжурылі амапаўцы. Але і цяпер можна знаходзіць шляхі працаваць зь людзьмі, робячы акцэнт на стваральных праектах, набліжаючыся да працоўных калектываў. І неабавязкова на працы, а па месцы жыхарства, на каапэратыўных лецішчах, на культурна-масавых мерапрыемствах. Ладзячы «эўрапейскія» ды «сацыяльныя» маршы, нельга забывацца даваць слова актывістам з рабочых калектываў і новым шараговым удзельнікам акцыяў. Палітычныя вулічныя акцыі не выключаюць і падрыхтаваных «экспромтаў». Памятаю, як той жа Валодзя Цытрон у першы дзень путчу прывёў у цэнтар Менску калёну рабочых з МЗВТ і «Гранату».

## Супернікі і памочнікі

Усе мае супернікі ў выбарчай акрузе былі даволі моцныя: Аляксандар Мядзьведзь — алімпійскі чэмпіён, шматразовы чэмпіён Эўропы; вядомы русафіл і беларусафоб, загадчык аддзелу ЦК КПБ пісьменьнік Эдуард Скобелеў; маёр міліцыі, аўганец, кавалер ордэну Чырвонай Зоркі (прозьвішча, на жаль, ня памятаю); высокі прафсаюзны намэнклятуршчык — старшыня Менскага абкаму прафсаюзаў таварыш Новікаў ды ўжо згадваны парторг «Гранату» таварыш Канойка. Усяго шэсьць чалавек на месца. Усе каманды супернікаў, акрамя скобе-

леўцаў, паводзілі сябе прыстойна. Скобелеўцы малявалі на маіх плякатах зорку Давыда і пісалі па дыяганалі — «Сіяніст», згадвалі прозьвішча маёй маці — Фрыдрых, распаўсюджвалі маё фота разам зь Лявонам Луцкевічам, Уладзімерам Конанам ды Алегам Бембелем на багдановічаўскім сьвяце паэзіі ў Ракуцёўшчыне з подпісам «Нацыяналістычная беларуска-сіяніцкая хеўра». Пасьля паразы ў першым туры ўсе мае супернікі ў пісьмовых зваротах да выбаршчыкаў заклікалі аддаць галасы за Аляксандра Мядзьведзя. Вельмі добрае ўражаньне засталося ад майго галоўнага суперніка. На сустрэчы Мядзьведзь прыходзіў рэдка, ніколі не сказаў дрэннага слова пра мяне і нават пасьля маёй перамогі ў другім туры, дзе ён з усіх застаўся маім адзіным канкурэнтам, у інтэрвію беларускім газэтам знайшоў прыстойныя словы на мой адрас. Такім чынам, у Вярхоўным Савеце я апынуўся ў складзе апазыцыі БНФ зусім натуральна.

Не магу не згадаць добрым словам яшчэ аднаго чалавека, які бескарысьліва, па-сяброўску дапамагаў мне пасьпяхова правесьці выбарчую кампанію. Гэта артыст Беларускага драматычнага тэатру імя Янкі Купалы Юры Авяр'янаў. Блізка я пазнаёміўся зь ім на тэлебачаньні (калі там старшыняваў Генадзь Бураўкін) у адной зь першых перадачаў «Роднага слова», а потым ужо ў самім тэатры, дзе я як прадстаўнік Інстытуту мовазнаўства АН БССР праводзіў кансультацыі па культуры мовы для артыстаў трупы. Юры меў незвычайны талент перайманьня і абсалютны фанэматычны слых. Ён мог з дакладнасьцю высакаякаснага магнітафона ўзнавіць дастаткова доўгую сынтагму на зусім незнаёмай мове — грузінскай, віетнамскай, не гаворачы ўжо пра распаўсюджаныя эўрапейскія. Галасы ён падрабляў адмыслова.



Гэты свой талент Юры выкарыстоўваў на сустрэчах з выбарцамі, якія арганізоўвала мая група падтрымкі. Ён даў тры «канцэрты» каля ўнівэрсаму «Заходні», дзе мы звычайна зьбіраліся на імправізаваныя пікеты. Тады на гэта дазволу ня трэба было мець. Тэлебачаньне трансьлявала шмат выступаў публічных палітыкаў, як дзяржаўных, так і «нефармальных», і людзі ведалі галасы і манеру гаварыць шмат каго з ураду і камуністычнай намэнклятуры. Асабліва трапна Юры імітаваў аратарскія «пэрліны» першых асобаў намэнклятуры — Мікалая Дземянцея, Анатоля Малафеева і Яфрэма Сакалова, якія публічна гаварылі завіла, расплывіста і ні пра што. Пра такіх у народзе кажуць: гаворыць, як сьпіць — як у сьне. Слухаючы гумарэскі Авяр'янава, мінакі і наведнікі ўнівэрсаму рагаталі, пазнаючы глыбакадумную партыйную лухту і разумеючы, якія «разумнікі» імі кіруюць. Разам з наведнікамі ўнівэрсаму рагаталі і міліцыянты, якія прысутнічалі тут паводле сваіх службовых абавязкаў. Пры гэтым артыст Авяр'янаў рабіў гэта ў жанры добрай іранічнай камэдыі, бяз злосьці і непрыстойнага гумару, што падсьвядома імпанавала слухачам. Аднойчы ён інсцэнізаваў пачатак працоўнага дня беларускага рабочага пад гукарад Беларускага радыё з 6.30 да 7.30, выконваючы адначасова ролю дыктара радыё, рабочага і ягонай жонкі: пра што гаворыць радыё і пра што муж і жонка на кухні, калі слухаюць урадавы «чырвоны гучнамовец». Электарат пачы-

наў задумвацца над абсурднасьцю свайго існаваньня ў камуністычным штодні.

Тыя авяр'янаўскія выступы каля ўнівэрсаму «Заходні» можна сьмела параўноўваць зь лепшымі ўзорамі беларускіх народных інтэрмэдыяў, што знайшлі сваё адлюстраваньне ў п'есах Галубка і Аляхновіча. На жаль, жыцьцё Юры абарвалася пры загадкавых абставінах. Пра яго рэдка ўспамінаюць, выдатныя радыйныя запісы прозы, беларускіх казак, фрагмэнтаў беларускай драмы некуды зьніклі. На мой погляд, як чытальніку артысту Авяр'янаву сярод ягоных сучасьнікаў не было роўных. Нават у такіх нашых прызнаных аўтарытэтаў мастацкага слова, як Ільля Курган ці Валеры Анісенка, якія маюць ад прыроды прыгожыя галасы і шырокі дыяпазон інтанацыяў, спрактыкаваны слухач можа заўважыць пэўныя штампы, паўторы і штучныя ўпрыгожваньні, калі здаецца, што актор любуецца сваім радасным валоданьнем голасам. У Юр'я Авяр'янава гэтага не было. Ён увесь раствараўся ў голасе і вобразе. Ён ня слухаў сябе, ён зьнікаў. Я ведаю людзей, якія хадзілі ў Купалаўскі тэатар некалькі разоў на «Тэўе-малочніка» і «Тутэйшых» яшчэ і таму, што там іграў Авяр'янаў. Карыстаючыся тэатральным штампам, яны хадзілі і «на Авяр'янава».

Калі б тады не было бескарысьлівай дапамогі добрых людзей — суседзяў, сяброў, знаёмых, не было б той нашай перамогі на першых даволі дэмакратычных выбарах у парлямэнт. Дапамога была розная: разносіць улёткі, запрашаць людзей на сустрэчы, зьбіраць аналітычную інфармацыю ці нават фізычна ахоўваць кандыдата ў дэпутаты, каб не дапусьціць сутычак пры



магчымых правакацыях на сустрэчах. Памятаю, як Сяргей Ананові́ч, муж непаўторнай Таццяны Шчаснай, юрыст паважанай фірмы, разумны, сымпатычны і дужы беларус зь фігурай грэцкага дыскабола, прыяжджаў аж зь Серабранкі ў нашу акругу ў Кунцаўшчыну (гэта, мусіць, кілямэтраў сорак) і сваёй прысутнасьцю ствараў настрой спакою і абароненасьці. «Во якія ў БНФ хлопцы!» — з захапленьнем камэнтавалі прысутныя жанчыны...

## Дэмакраты супраць мітрапаліта

Тая выбарчая кампанія запомнілася яшчэ інтрыгай вакол фігуры мітрапаліта Філарэта, які быў зарэгістраваны кандыдатам у дэпутаты ў адной акрузе зь Яўгенам Будзінасам, якога падтрымліваў БНФ. Цяпер, калі я пішу гэтыя радкі, Яўгена ўжо няма сярод нас. Чалавек ён быў складаны, з супярэчлівым стаўленьнем да беларускага нацыянальнага руху, што вынікала і зь ягонай недастатковай інфармаванасьці ў беларускай гістарычна-культурнай тэматыцы, але на ўсіх зыгзагах дэмакратычнага адраджэньня ён заўсёды быў на баку прыхільнікаў эўрапейскага выбару. Як уласны карэспандэнт аўтарытэтнага часопісу «Дружба народов», які прыхільна ставіўся да беларускага адраджэнскага руху на чале з Васілём Быкавым, Алесем Адамовічам і Зянонам Пазьняком, ён быў добрым прыкладам для часткі інтэлектуалаў «постнацыянальнай» арыентацыі. Адносіны камуністычных уладаў да суперніцтва мітрапаліта і дэмакратычнага журналіста вельмі паказальныя. Напужаная хваляй дэмакратыі намэнклятура ў супрацьстаяньні Філарэт — Будзінас безумоўна ўзяла бок царквы,

хаця Будзінас як журналіст паводле сваіх публіцыстычных сымпатыяў памяркоўна імкнуўся знайсьці разумны пачатак у недрах савецкай рэчаіснасьці, аналізуючы дзейнасьць найбольш пасьпяховых фігур тагачаснай сыстэмы. Ён шукаў рацыянальнае зерне ў гаспадарках калгасных старшыняў Бядулі і Калачыка, спрабаваў выйсьці на пэрспэктыўнае сыстэмнае абагульненьне ў публіцыстычным творы «Прамежкавы чалавек». У пазьнейшых аўтабіяграфічных «Дураках» Яўген стаў ужо адкрытым праціўнікам сыстэмы, па-постмадэрнісцку бязьлітасным і і нават цынічным. Пішу гэта з поўнай адказнасьцю, бо ведаў я Яўгена Будзінаса на працягу больш як трыццаці гадоў, пазнаёміўшыся зь ім на студэнцкім «агеньчыку» (зь лёгкай рукі Цэнтральнага тэлебачаньня СССР так называлі публічныя вечарыны з элемэнтамі камэрнасьці) у інстытуце замежных моваў, дзе вучылася Яўгенава першая жонка Натальля...

Каб падтрымаць па-рэфарматарску настроенага журналіста, да беларускай грамадзкасьці і выбарцаў Старавіленскай акругі Менску, дзе балятаваліся мітрапаліт Філарэт і Яўген Будзінас, група інтэлігенцыі зьвярнулася з адкрытым лістом. Яны выкладалі сваё бачаньне ролі царквы — як цэзарапапісцкага інстытуту партыйнай дыктатуры пры савецкай уладзе — і выказвалі сумнеў адносна магчымых рэфарматарскіх памкненьняў уладыкі Філарэта, калі яго абяруць у парлямэнт. Як станоўчую альтэрнатыву царкоўнаму ярарху падпісанты ўхвалялі кандыдатуру вядомага журналіста, які засьведчыў прыхільнасьць ідэям перабудовы грамадзтва і дастаткова кампэтэнтны для дэпутацкага статусу. Той ліст падпісалі сярод іншых



Глеб Якунін, маскоўскі сьвятар (пазьней адлучаны ад царквы і пазбаўлены сьвятарскага сану), Юры Хашчавацкі, вядомы рэжысэр-дакумэнталіст (пазьней аўтар фільмаў «Звычайны прэзыдэнт», «Плошча» ды іншых), пісьменьнік Канстанцін Тарасаў (аўтар шматлікіх гістарычных аповесьцяў і бліскучага эсэ «Памяць пра легенды»), здаецца, таксама Ўладзімер Арлоў, Валянцін Тарас і яшчэ хтосьці. Баюся памыліцца. Падпісаў той ліст і я, як чалавек, які доўгі час ведаў Яўгена Будзінаса. Ліст шырока абмяркоўваўся ў інтэлігенцкіх і царкоўных колах, бо Глеб Якунін пасьля яшчэ даў інтэрвію папулярным саюзным выданьням, дзе вінаваціў уладыку Філарэта ў супрацоўніцтве з КДБ. Тут, аднак, на мой погляд, ніякай сэнсацыі не было, бо ўсе зьнешнія стасункі ўстаноў і арганізацыяў у тыя гады кантралявалі спэцслужбы. Праваслаўная царква, якая заўжды дэманстравала ляяльнасьць уладам, не была выключэньнем. Пэўныя стасункі з КДБ павінен быў мець і мітрапаліт Філарэт, які ўваходзіў у лік першых асобаў Патрыярхату і адказваў за міжнародныя сувязі Расейскай праваслаўнай царквы. Іншая рэч, як ён скарыстоўваў свае асабістыя магчымасьці ў адносінах да сваіх царкоўных субратоў і паствы.

Дзякуючы выкарыстаньню адміністрацыйнага рэсурсу партыйнай намэнклятуры пераможцам у Старавіленскай акрузе на тых выбарах выйшаў мітрапаліт Філарэт. Сталася так, што ў залі пленарных пасяджэньняў Вярхоўнага Савету месцы дэпутата Вахрамеева (сьвецкае прозьвішча мітрапаліта) і маё аказаліся побач. Пры першай жа сустрэчы на пленарным пасяджэньні мы абмяняліся нейкімі завілымі пры-

вітаньнямі з элемэнтамі царкоўнаславянскай рыторыкі з іранічным падтэкстам, што сьведчыла пра намер абодвух бакоў не заглыбляцца ў ідэалягічныя спрэчкі, а прытрымліваацца прыязнага нэўтралітэту. Вось так і праседзеў я амаль тры гады побач з уладыкам. Пры блізкім знаёмстве мітрапаліт Філарэт выявіўся як глыбокі іранічны суразмоўца з выдатным пачуцьцём гумару. Як чалавек неўцаркоўлены і зь лютэранскімі схільнасьцямі, я пачаў адрозьніваць мітрапаліта Філарэта ад спадара Вахрамеева, адчуваючы да апошняга пэўнае пачуцьцё спагады, калі той пры публічным душпастырскім сане траціў сваё сьвецкае «я» і пераўтвараўся ў зашнураваны духоўны сымбаль праваслаўнай этыкі. Відавочна, уладыка ня меў патрэбы ў маёй спагадзе, бо сапраўдныя вернікі (я не магу дапусьціць думкі пра няшчырасьць чалавека, які адмовіўся ад сямейнага жыцьця дзеля службы Богу і цалкам прысьвяціў сябе Царкве) душэўна шчасьлівейшыя за тых, хто не пераможыў сваёй тэафаніі і пакутуе ў пошуках ісьціны.

# Уладныя лябірынты

*Мае суб’ектыўныя ўражаньні. — Я станаўлюся эканамістам. — Урокі Джузэпэ Курцы. — Як можна зарабіць грошы: бартэр, маржа, крэдыты, мытня. — Ніякіх фэтышаў. — Пікі змаганьня. — «А ці не паехаць вам амбасадарам у Нямеччыну?» — Галадоўка. — Канец беларускага парлямэнтарызму.*

## На подступах да парлямэнтарызму

Гэты разьдзел можна было б назваць «У калідорах улады», і гэта не было б журналісцкім штампам. Вярхоўны Савет БССР 12-га скліканьня, які быў абраны празь першую кампанію новага часу з элемэнтамі электаральнай дэмакратыі і закончыў сваё існаваньне толькі праз шэсьць (!) гадоў ужо як Вярхоўны Савет незалежнай Рэспублікі Беларусь і без канстытуцыйнага артыкулу пра кіроўную ролю КПСС, ня быў яшчэ ў поўным сэнсе органам улады. Парлямэнтары толькі ўвайшлі ва ўладныя калідоры. І пасьля развалу СССР, калі ўтварылася Рэспубліка Беларусь, краінай усё яшчэ кіраваў намэнклятурны Савет Міністраў, які меў у складзе дэпутацкага корпусу сваіх высокіх чыноўнікаў, праштурхоўваў свае праекты законаў, штампаваў пастановы, кіраваў рэсурсамі, кантраляваў бюджэт. Дэмакратычна абраныя дэпутаты толькі праз год-два пачалі арыентавацца ў хітрасьцях узаемаадносінаў выканаўчай і заканадаўчай улады.

Напачатку ў новага заканадаўчага органу не было рэглямэнту, дзе б прадугледжваўся пара-

дак існаваньня фракцыяў. Зь першых дзён дэпутаты, абраныя пры падтрымцы БНФ, утварылі групу канструктыўнай апазыцыі, якая ня мела афіцыйнага статусу, але адразу актыўна ўключылася ў працу. Сяброў у фракцыі БНФ набіралася каля трыццаці чалавек. Мы месьціліся ў Доме ўраду ў пакоі 363 на трэцім паверсе. Пры адкрытым абмеркаваньні законаў або пэўных ініцыятываў да нас прыходзілі часта ня толькі чальцы фракцыі БНФ. Былі ў нас і закрытыя абмеркаваньні. Звычайна для кожнага законапраекту, прапанаванага Саветам Міністраў, дэпутаты ад БНФ давалі альтэрнатыўны варыянт. Кіраваў фракцыяй БНФ Зянон Пазьняк.

Зянон быў аналітычны, да ўпартасьці пасьлядоўны. Як мне тады здавалася, празь Зянонаву цьвёрдакаменнасьць мы часам прайгравалі тактычна: пры галасаваньні на пленарных пасяджэньнях ён імкнуўся вельмі часта сам выказаць пункт погляду БНФ. Камуністычная большасьць проста ня слухала ягоных аргумэнтаў і галасавала заўсёды супраць. Калі ж з такой самай прапановай выходзіў, напрыклад, дырэктар Полацкага заводу будаўнічых матэрыялаў Уладзімер Цялежнікаў, які часта заходзіў да нас у апазыцыю, то на тую ж прапанову рэакцыя залі была іншая, і галасаваньне ўдавалася. Калі здаралася прадэманстраваць важнасьць пэўнай канцэпцыі, то Пазьняк лічыў вартым і палітычна вельмі важным, каб гэта прагучала менавіта ад фракцыі БНФ. Тут у яго быў свой стратэгічны прагматызм, які пазьней прыносіў свае палітычныя дывідэнды, нават калі часова мы цярпелі паразу. Я схільны прызнаць мэтазгоднасьць пазьнякоўскіх па-



водзінаў з гледзішча тактыкі і стратэгіі. Без адзінай волі мы б не зрабілі таго, што нам удалося пры адносна невялікай колькасьці прыхільнікаў. Фракцыя БНФ мела ў Вярхоўным Савеце менш як адну дзясятую частку месцаў. Моц фракцыі трымалася найперш на адчуваньні сваёй праўды і падтрымцы людзей. Сіла фракцыі была таксама ў яе інтэлекце, бо сярод нас было ці не зь дзясятак кандыдатаў навук, людзей, якія маглі лягічна фармуляваць думкі і пісаць законы.

## Парлямэнцкія кантакты і сутыкненьні

Члены фракцыі БНФ падтрымлівалі кантакты з парлямэнтамі постсавецкіх рэспублік у фармаце афіцыйнага супрацоўніцтва і з дэмакратычнымі групамі дэпутатаў паводле ўласных плянаў. Часьцей наладжваліся кантакты з дэпутатамі Балтыі і Ўкраіны. Найбольш важнымі сустрэчамі былі, канечне, сумесныя абмеркаваньні канцэпцыі Балтыйска-Чарнаморскага энэргетычнага калектару, дзе галоўным экспэртам ад БНФ быў Станіслаў Гусак. Ініцыятарам сустрэчаў быў Зянон Пазьняк. Цяпер слухаю выступы прэзыдэнта Беларусі і міністра замежных справаў Мартынава, і мне здаецца, што чую Зянона Пазьняка. Яны амаль слова ў слова паўтараюць пазьнякоўскія аргумэнты на карысьць палітыкі дывэрсыфікацыі крыніцаў атрыманьня энэрганосьбітаў. Тады цяперашні прэзыдэнт з інтанацыяй усёведа зьдзекліва камэнтаваў з трыбуны ініцыятыву БНФ пра стварэньне Балтыйска-Чарнаморскага энэргетычнага зьвязу краінаў і абсалютызаваў выгады энэргетычнага супрацоўніцтва з Расеяй. З маскоўскімі парлямэнтарамі БНФ кантактаваў

мала. Мне, напрыклад, давялося сустракацца з маскоўцамі толькі двойчы: падчас перамоваў у фармаце гарбачоўскага працэсу па «новым саюзным дагаворы» ў Марозаўцы пад Масквой (ад апазыцыі мы былі ўдвух з Уладзімерам Заблоцкім) і пасьля паразы жнівеньскага путчу 1991 году ў Дзярждуме з дэпутатамі дэмакратычнай апазыцыі. Быў у мяне яшчэ адзін амаль ананімна-сяброўскі кантакт з Уладзімерам Лукіным (цяпер расейскі омбудсман пры прэзыдэнту), які падчас путчу фактычна стаў узначальваць камісію замежных справаў пасьля камуніста Дзасохава і з 19 па 21 жніўня прыслаў нам у камісію чатыры інфармацыйныя паведамленьні пра падзеі ў Маскве, што разгортваліся пасьля ўтварэньня ГКЧП. Потым я пазнаёміўся зь ім жыўцом у час паездкі ў Маскву пасьля путчу, калі на пашыраным пасяджэньні расейскага парлямэнту пераможны Ельцын публічна прымаў уладу ад пераможанага і прыніжанага Гарбачова. Тады Лукін распытваў у мяне пра падзеі ў Менску падчас путчу і паводзіны нашага начальства.

Як у члена прэзыдыюму Вярхоўнага Савету быў у мяне ўжо ў Менску адзін «фізычны кантакт» зь лідэрам Лібэральна-дэмакратычнай партыі Расеі Жырыноўскім. У час паездкі ў Маскву на нечарговае пасяджэньне расейскай Думы пасьля паразы путчу і трыюмфу Ельцына нашыя дэпутаты пазнаёміліся з гэтай скандальнай крэатурай расейскага парлямэнтарызму. Невядома зь якой нагоды ён раптам зьявіўся ў нас у Менску ў рэдакцыях некаторых газэтаў, а потым у Вярхоўным Савеце і пачаў спатрабаваць сустрэчы з кіраўніцтвам прэзыдыюму. Выйшла так, што на момант ягонага



зьяўленьня ў Доме ўраду ў нашым правым крыле нікога з чальцоў прэзыдыюму, акрамя мяне, не было, і дзяжурны міліцыянэр, датэлефанаваўшыся, папрасіў маёй афіцыйнай дапамогі, каб утаймаваць напорыстага госьця. Спусьціўшыся ўніз да паставога і разабраўшыся, што гэта за візытэр, я распарадзіўся як старшыня камісіі, што займаецца замежнымі стасункамі, выдаліць нязванага госьця з будынку. Тут якраз на дапамогу падасьпеў Сяргей Навумчык, і лідэр ЛДПР мусіў рэтыравацца пад пагрозай затрыманьня за хуліганства. Пачуўшы нашыя прозьвішчы — Навумчык і Садоўскі, Уладзімер Вольфавіч паабяцаў праз пэўны час вярнуцца сюды ўжо «на белым кані і перавешаць усіх жыдоў і палякаў, што развальваюць вялікую краіну».

## У крэсьле амбасадара і дэпутата

Больш за два гады я быў старшынём камісіі замежных справаў і зьнешнеэканамічных сувязяў і адпаведна, як старшыня камісіі, членам прэзыдыюму Вярхоўнага Савету. Але з 1992 году я быў адначасова і амбасадарам у Нямеччыне. Такое сумяшчэньне было пэўным непаразуменьнем пераходнага пэрыяду, бо паводле лёгікі і эўрапейскай практыкі я мусіў скласьці дэпутацкія паўнамоцтвы і пайсьці працаваць выключна ў Міністэрства замежных справаў на дзяржаўную службу. У ведамстве фэдэральнага канцлера, у Міністэрстве замежных справаў Нямеччыны, у сакратарыяце міністра і ў «Рэфэраце 203», які адказваў за тэхнічны бок стасункаў з Рэспублікай Беларусь, доўгі час не маглі прывыкнуць, калі амбасадар Беларусі,

закончыўшы выклад афіцыйнага пункту погляду Савету Міністраў, казаў: «А зараз я хацеў бы выказаць меркаваньне апазыцыі ў Вярхоўным Савеце...» Слухалі, дарэчы, гэтыя заўвагі часам з большай увагай, чым афіцыйны пункт погляду, бо на пачатку дзевяностых гадоў Нямеччына толькі прыглядалася да Беларусі, намацвала падыходы да адносінаў з новай сувэрэннай краінай у цэнтры Эўропы.

Амбасадарам я стаў дзякуючы дэпутацтву. З дэпутатаў ад БНФ у склад старшыняў камісій і, адпаведна, у склад прэзыдыюму прайшоў я адзін. Праз пэўныя кампрамісы я быў абраны старшынём камісіі па замежных справах і зьнешнеэканамічных сувязях. Кампраміс заключаўся ў тым, што ў мяне аказалася аж два намесьнікі зь ліку сярэдняй намэнклятуры. Пэўна, такім чынам плянавалася пры неабходнасьці мая нэўтралізацыя. Аднак, стаўшы аўтаматычна членам прэзыдыюму, я пастараўся напачатку прафэсійна і па-людзку знайсьці кантакт са спэцыялістамі Савету Міністраў і разабрацца перш за ўсё са зьнешнеэканамічнымі пытаньнямі. Спачатку на мяне глядзелі як на дэмакрата-парвэню, але вельмі хутка адчулі, што ў ягняці пачынаюць праразацца зубы.

Праўдзівую інфармацыю пра зьнешні гандаль у 1991 годзе было цяжка атрымаць: фактычна адсутнічала дзяржаўная мяжа і не было нарматыўных актаў. Усё цякло паводле часовых пастановаў Савету Міністраў. Інфармацыю я здабываў неафіцыйна праз мытню, дзе працаваў мой колішні студэнт-завочнік з інстытуту замежных моваў, які меў доступ да камputарных дадзеных, і праз старшыню КДБ Эдуарда Шыркоўскага. Ён паводзіў сябе надзвычай лояльна, я б сказаў нават — больш чым прыхільна да маіх спробаў дакапацца да першакрыніцаў.



Псыхалягічна кантактаваць з Шыркоўскім было няцяжка. Я разумеў, што чалавек ён абсалютна закрыты, няшчыры, і таму я не абцяжараваў сябе спробамі зблізіцца ці разбудаваць сяброўскія адносіны. Для мяне было галоўнае — атрымаць неабходную інфармацыю. Шляхам пэўных лягічных апэрацыяў я зразумеў, што ў гутарках з Шыркоўскім Станіслаў Шушкевіч як кіраўнік прэзыдыюму зь нейкіх сваіх меркаваньняў парушае фармальна карпаратыўную этыку, і шэфу КДБ становіцца вядома тое, чаго ён не павінен быў бы ведаць. Адпаведна з гэтым я пачаў рабіць папраўкі ў сваіх учынках і выказваньнях. Фармальна нашыя адносіны былі выдатныя. Памятаю, на Дзень незалежнасьці Ўкраіны, што адзначаўся ў Таварыстве дружбы, якім кіраваў тады Арсень Ваніцкі, пасьля афіцыйнай часткі на сяброўскай вячэры Ўладзімер Ягораў (міністар унутраных справаў), Шыркоўскі і я сьпявалі трыё беларускія народныя песьні. Міністар Ягораў пры гэтым як баяніст забясьпечваў музычны акампанэмэнт. У свой час ён закончыў музычна-асьветную вучэльню. У Шыркоўскага быў добры нізкі голас. У мяне нават была фатаграфія таго музычнага экспромту і мастацкага яднаньня парлямэнтара зь міністрамі. (На жаль, яна згубілася разам з фатаздымкам, дзе каля помніка Купалу Вінцук і я сьпяваем «Куру-шчабятуру», а Сяргей Шупа грае на дудцы.) У сваіх успамінах «Беларусь на распутье» Пётар Краўчанка піша, што Шыркоўскі вельмі не хацеў, каб я паехаў амбасадарам у Нямеччыну. Ня ведаю, было гэта прадыктавана ягоным адмоўным стаўленьнем

да маёй асобы ці нечым іншым. Спадзяюся, што калі-небудзь Пётар Кузьміч раскажа мне падрабязнасьці.

## Капітал з мутнай вады «перабудовы»

У той час ад Камітэту дзяржаўнай бясьпекі я імкнуўся атрымаць перш за ўсё інфармацыю пра так званыя канцэрны ды іншыя аб'яднаньні, створаныя на базе міністэрстваў, якія ведалі рэсурсамі. Ад Савету Міністраў такую інфармацыю атрымаць было немагчыма. У тыповае прамыслова-вытворчае аб'яднаньне, створанае, напрыклад, у абласным цэнтры, маглі ўваходзіць першы намесьнік старшыні Савету Міністраў, сакратар абкаму партыі, загадчык валютнага аддзелу Савету Міністраў, дырэктар буйнога банку і некалькі маленькіх мясцовых дзялкоў. Так акумуляваўся першы дзяржаўна-прыватны капітал. У адпаведнай пастанове Саўміну дакладна вызначалася, якія памяшканьні, аўтамабілі, узнагароджаньні (у валюце!) з рэспубліканскага бюджэту могуць выдзяляцца такому аб'яднаньню. Кантролю не было ніякага — ні маскоўскага, ні мясцовага партыйнага. Памятаю, тады пры дапамозе Ширкоўскага мне давялося разьбірацца з аб'яднаньнем «Усход», зарэгістраваным ці то ў самім Магілёве, ці то недзе ў вобласьці. Сярод фундатараў фігуравалі імёны прэм'ера Кебіча, Косьцікава (ягонага намесьніка), Лявонава (старшыні абкаму) ды іншых менш і больш вядомых асобаў. Запомнілася, што Савет Міністраў дазволіў кіраўніцтву аб'яднаньня «Ўсход» у дадатак да афіцыйнага заробку выплачваць сярод іншых ільготаў штомесячныя заахвочваньні да 250 даляраў. Фактычна самі сабе і дазвалялі.



Пазьней пачалі зьяўляцца сумесныя прадпрыемствы з удзелам так званых замежных інвэстараў. Гэта былі звычайна дробныя замежныя бізнэсмэны, ня вельмі пасьпяховыя ў сябе на радзіме, што спрабавалі шукаць прыбытак у мутнай вадзе постсавецкіх дзяржаваў. З нашага боку зноў жа выступалі дзеячы з Саўміну і міністэрстваў. Асабліва буялі зьдзелкі з бартэрам. Яшчэ паводле савецкіх нормаў у бартэрнай дакумэнтацыі неабходна было дакладна адлюстроўваць тэрміны (звычайна 45 дзён), краіну, дакладныя зьвесткі пра абодва бакі, сустрэчны тавар, банкаўскія рэквізыты і гарантыі. З нашага боку дазвол на бартэрную апэрацыю маглі даваць каля дзясятка асобаў: прэм'ер, яго намесьнікі, міністар зьнешнеэканамічных сувязяў і некаторыя начальнікі саўмінаўскіх упраўленьняў. Бартэрным экспартным таварам з нашага боку звычайна былі: калійныя ўгнаеньні, авіяцыйная газа, нафта, бэнзін, лес, азотныя ўгнаеньні, карбамід (мачавіна) — тавары, на якія цэны былі збольшага вядомыя паводле зьвестак з эўрапейскіх біржаў. Гэта тавары для так званых ф'ючарзных зьдзелак. Кожныя тры дні зьвесткі пра сярэднегуртовыя цэны я атрымліваў прыватна ад аднаго знаёмага немца праз факс: што дзеецца ў Амстэрдаме, Лёндане, Франкфурце, Ратэрдаме, Гамбургу. Тады ў нас не было апэратыўных кампутарных праграмаў з такой інфармацыяй. У Вярхоўным Савеце быў толькі адзін факсавы апарат, які нашай камісіі прэзэнтаваў Сяргей Касьцючэнка, дырэктар «Прыёрбанку». Пра электронную пошту яшчэ ня марылі, яна зьявілася пазьней.

Нават з такім мінімумам інфармацыі ўдава-

лася сёе-тое зразумець. Ня так гэта і цяжка. Уявіце сабе: глядзіш на форму № 24 (разовая ліцэнзія на бартэрную апэрацыю), падпісаную намесьнікам прэм’ера, а там — толькі назва нашай юрыдычнай асобы, краіны прызначэньня і колькасьць тавару. Няма ні назвы партнэрскай фірмы, ні сустрэчнага тавару, ні тэрмінаў, ні спосабаў пастаўкі, ні цаны за адзінку ўліку тавару, ні пункту паступленьня сустрэчнага тавару. Як той казаў — круці што хочаш. Была яшчэ адна хітрасьць: рэзкая зьмена курсу рубля на працягу тэрміну, неабходнага для ацэнкі экспартнага ці імпартнага тавару ў цьвёрдай валюце і ў рублях. Тут Цэнтральны банк хутка знаходзіў паразуменьне зь дзялкамі, блізкімі да Савету Міністраў. Можна нават было складаць апэўныя графікі залежнасьці курсу рубля і даляра ад характару значных па аб’ёме экспартна-імпартных апэрацый, у якіх фігуравалі знаёмыя пэрсаналіі. Калі набіралася значная група тавараў для экспарту, дзе экспартэрамі былі блізкія да Саўміну асобы ці «вытворча-экспартныя аб’яднаньні», якіх тады напладзілася безьліч, на кароткі тэрмін усталёўваўся нізкі курс рубля, каб забясьпечыць большы чысты прыбытак коштам большай масы скупленых беларускіх рублёў на атрыманыя даляры ці закупкі адпаведнага тавару на беларускім рынку. Пры імпартных апэрацыях, дзе фігуравалі «важныя» імпартэры, курс рубля адпаведна мог пры неабходнасьці ўзрастаць.



## «Калійныя» ды іншыя гісторыі

Не было ніякай каардынацыі экспарту. Шмат хто помніць, як у Індыі сутыкнуліся на адным калійным тэндэры дзьве нашы дзяржаўныя экспартныя структуры — зь Міністэрства сельскай гаспадаркі (дзяржаўную зьнешнегандлёвую фірму ўзначальваў таварыш Дзядук) і Саўміну (начальнік таварыш Андрушын). У выніку дзяржава страціла на кожнай тоне каля 10 даляраў. Цэны на калій, як і на нафту, тады былі сьмехатворна нізкія ў параўнаньні з коштамі красавіка 2008 году, што сягаюць да 700 даляраў за тону. У ангельскамоўным часопісе «Potash» на пачатку дзевяностых гадоў зьявіўся матэрыял пра парушэньне антыкартэльнага заканадаўства ў галіне экспарту калійных угнаеньняў, зь якога, паміж іншым, вынікала, што хтосьці зь беларускага боку падрабязна інфармуе канкурэнтаў пра стан вытворчасьці і пляны «Беларуськалію». У часопісе былі нават графікі магчымага закрыцьця адпаведных салігорскіх руднікоў. Ясна, што рабілася гэта не задарма. Меркавалі нават, што страйкі салігорскіх шахтараў пад выглядам міжнароднай прафсаюзнай салідарнасьці праваюць прафсаюзы нашых замежных канкурэнтаў.

Як вядома, калійныя ўгнаеньні купляюць краіны, дзе шмат супясчанай, суглiністай ды падзолістай глебы. Але на пачатку дзевяностых беларускія ўгнаеньні па дэмпінгавых коштах не купляў толькі лянівы. Рээкспарт буяў. Ужо будучы амбасадарам у Нямеччыне, я прачытаў у эканамічным дадатку да «Frankfurter Allgemeine Zeitung», што за 1991 год Беларусь экспартавала ў Польшчу ў трыста разоў больш

калійных угнаеньняў, чым той патрабавалася з улікам структуры глебы, на якой вырошчваліся каліялюбныя культуры. Зразумела, што потым польскі рээкспарт, ужо па вышэйшай цане, канкураваў зь беларускім экспартам на беларускіх традыцыйных рынках. Добра памятаю прозьвішча такога дзялка, як спадар Лучанскі, які атрымаў эксклюзіўнае права экспарту беларускіх калійных угнаеньняў у Індыю ды Кітай. «Комсомольская правда» тады пісала, што свае першыя ня вельмі чыстыя мільёны ён зарабіў у Малдове і Літве. Прыстаўшы да беларускага берагу, ён ужо быў убурэлы і важны. Аднойчы я выпадкова бачыў, як яго ў аэрапорце на «чайцы» сустракаў сам Мясьніковіч, намесьнік старшыні Савету Міністраў. Пры калійным бізнэсе быў на даволі доўгі час прыстроіўся і намесьнік міністра абароны БССР генэрал-маёр Тушынскі, які таксама меў пэўныя эксклюзіўныя правы. На заробленыя грошы нібыта куплялася новая тэхніка для войска. Ніхто тады нічога не кантраляваў. Памятаю, як я выпадкова стаў сьведкам чыстага бессаромнага махлярства з боку Міністэрства зьнешнеэканамічных сувязяў, калі начальнік упраўленьня для экспарту тавараў «двайнога прызначэньня» таварыш П. проста «блытаў» у графе «цана за адзінку экспарту» лічбы, перастаўляючы коску на адзін прабел улева, зьніжаючы памер выручанай сумы на матэматычны «парадак» — у дзесяць разоў. Гэтае ўпраўленьне фактычна займалася распродажам велізарных рэштак савецкага ўзбраеньня і часам атрымлівала дазвол «экспартнуць» трошкі і цывільных тавараў — як шырспажыву для «апэратыўных выдаткаў». Так побач зь верталётам мог аказацца і карбамід. Вось у графе шырспажыву можна было пераблытаць коскі. Копіі накладных на тую зьдзелку я атрымаў канфідэнцыйна зь Берасьцейскай мытні і папрасіў Саўмін даць пісьмовае тлумачэньне, прывёўшы зьвесткі пра цану карбаміду на эўрапейскіх біржах. Праз гадзіну мне пазваніў міністар Радкевіч і сказаў, што таварыш П. будзе пакараны за «неахайнасьць» пры афармленьні дакумэнтацыі, і прасіў не раздуваць скандалу. Потым да мяне ў кабінэт прыбег і таварыш П., расхваляваны да пачарненьня. Прыблізна праз тыдзень патэлефанаваў Кебіч і прапанаваў пасаду Генэральнага сакратара СНД. Я адмовіўся. Гэтую пасаду потым на прапанову Шушкевіча заняў Каратчэня. Пазьней вельмі высокія асобы запрасілі мяне ў добрую лазьню і першы раз прапанавалі паехаць амбасадарам у Нямеччыну або пайсьці на пасаду прарэктара інстытуту замежных моваў, каб праз паўгоду заняць рэктарскую пасаду. Усё рабілася вельмі далікатна. Ніхто не пагражаў, нічым не папракаў. Я пачаў задумвацца пра свой далейшы лёс.



## Як я боўся з Саўмінам

Усё паскорыў адзін кур'ёзны выпадак, калі я пачаў разблытваць справу з саўмінаўскай афэрай «Джузэпэ Курцы — ганаровы амбасадар ва ўсе краіны сьвету». Гэта была самая дзіўная гісторыя з усіх саўмінаўскіх «апэрацый» з замежнымі інвэстарамі. Факт прызначэньня кіраўніка маленькай пасярэдніцкай італьянскай фірмы грамадзяніна Італіі Курцы ні больш ні менш як «прэзыдэнтам Італа-беларускай гандлёвай палаты і Ганаровым паслом ва ўсе

краіны сьвету» ня мог нават прысьніцца чалавеку са здаровым розумам. А такая пастанова нарадзілася за подпісам прэм'ер-міністра Кебіча. У тадышняй парлямэнцкай Беларусі амбасадараў прапаноўваў прэзыдыюм Вярхоўнага Савету, а зацьвярджаліся кандыдатуры на пленарных пасяджэньнях. Пра ганаровых амбасадараў ці консулаў нават не было адпаведнага палажэньня. І вось на табе — адразу «пасол ва ўсе краіны сьвету»! Мне так і ўяўлялася, як дзе-небудзь у цёплай кампаніі наш прэм'ер, наслухаўшыся італьянскага Хлестакова і, раздабрэўшы, з шырокай душой аб'явіў: «А зраблю я цябе, Джузэпэ, паслом ва ўсе краіны сьвету, ганаровым!» Як старшыня камісіі замежных справаў я зьвярнуўся да Кебіча зь пісьмовым запытам. Потым пытаньне разглядалася на прэзыдыюме Вярхоўнага Савету. Высьветлілася, што гэты Курцы — звычайны афэрыст, які здолеў пераканаць спадара Кебіча, што ён — асоба з блізкага атачэньня італьянскага прэм'ера Андрэоцьці і эмісар Ватыкану, што яму належыць буйны банк і што ён можа ад імя групы эўрапейскіх банкаў забясьпечыць Беларусі крэдыт да 3 мільярдаў даляраў на пятнаццаць-дваццаць гадоў пад 3,9 працэнта. Фантастычна! Але пра гэта на поўным сур'ёзе пісала ўрадавая прэса. Курцы атабарыўся ў Менску, атрымаў з фондаў Саўміну катэдж на Бранявым завулку, два аўтамабілі, адпаведную «ксіву» з урадавай пячаткай і пачаў наносіць візыты. Наведаў і нашу камісію ў Вярхоўным Савеце. Пасьля гутаркі ў Саўміне прыйшоў да нас не зусім цьвярозы, зь перакладчыцай сумнеўнай зьнешнасьці, запрашаў да сябе ў офіс, абяцаў «турбулентную» гасьцявую праграму. Прыйшлося зь ім ветліва расстацца, спаслаўшыся на абставіны.



Цяпер БНФ некаторыя папракаюць: вось вы былі на пачатку дзевяностых пры ўладзе і нічога не зрабілі. На жаль, як я ўжо гаварыў, пры ўладзе мы не былі, а толькі падступаліся да яе. Праілюструю гэта на прыкладзе з гэтым італьянскім афэрыстам Курцы і дзейнасьцю Саўміну пад кіраўніцтвам таварыша Кебіча і каманды. Пастановай Савету Міністраў «Аб асацыяцыі Італа-беларуская гандлёвая палата» ад 28 студзеня 1991 г. № 30 і пастановай ад 8 ліпеня 1991 г. № 265 «Пытаньні асацыяцыі Італа-беларуская гандлёвая палата» было вырашана «прызнаць і ўхваліць кандыдатуру спадара Джузэпэ Курцы як адзінага старшыню сумеснай асацыяцыі «Італа-беларуская гандлёвая палата», а «спадару Джузэпэ Курцы прысвоіць званьне Ганаровага пасла Беларускай ССР ва ўсе краіны сьвету».



Савет Міністра...
т.Кебіч...

21.03.91.

Пасля таго, як у "Народнай Газеце" быў змешчаны артыкул "Мацнеюць сувязі... Пастаянную камісію Вярхоўнага Савета Б... міжнародных справах і знешнеэканам... паступаюць пытанні ад шматлікіх выбарш... растлумачыць закранутыя пытанні.

На вялікі жаль, зрабіць гэта мы не маем магчымасці. Пры больш дэталёвым знаёмстве з Пастановай Савета Міністраў Беларускай ССР ад 1 студзеня 1991 года № 30 аб асацыяцыі "Італа-беларуская гандлёвая палата" не толькі не з'явіліся адказы, але ўзніклі і новыя пытанні.

1. Чаму асацыяцыя "Італа-беларуская гандлёвая палата" зацверджана з боку Італьянскай Рэспублікі "господином Стефано Саббатини", а з нашага толькі прызнана?

Хто такі гэты пан, ад чыйго імя ён падпісваў "перечень № 12244, дело № 2543" і што гэта за дакументы?

21 сакавіка 1991 г. як старшыня камісіі па замежных справах і зьнешнеэканамічных сувязях я зрабіў запыт у Саўмін на імя прэм’ера Кебіча і накіраваў афіцыйны ліст старшыні прэзыдыюму Дземянцею пра дзейнасьць «палаты».

На прэзыдыюм Вярхоўнага Савету выклікалі старшыню Дзяржаўнага камітэту БССР па зьнешнеэканамічнай дзейнасьці Радкевіча, і пад ціскам нашай камісіі прэзыдыюм падрыхтаваў пастанову «Аб агульных падыходах Ураду Рэспублікі да пытаньняў зьнешнеэканамічнай дзейнасьці», дзе ў выпадку з «Італа-беларускай гандлёвай палатай» падкрэсьліваўся факт парушэньня шэрагу законаў БССР з боку Саўміну.

Таварыш Дземянцей не захацеў псаваць адносінаў з Саветам Міністраў і адмовіўся ставіць праект на галасаваньне, а перадаў яго таварышу Кебічу як памятку безь юрыдычных абавязацельстваў. Адпаведна Савет Міністраў амаль чатыры месяцы не даваў нам ніякага адказу. І толькі на адным з чарговых пасяджэньняў прэзыдыюму прэм’ер Кебіч перадаў мне, як някемнаму хлопчыку, «адказ» на мае пяць пісьмовых пунктаў на аркушыку з прэм’ерскага блякноту: «*Уважаемый Петр Викентьевич! Вы обратились ко мне с вопросом об экономических отношениях с коммерч. фирмами Италии. Это же коммерческая тайна. Г-ну Курци дано удостов.* <u>*почетного*</u> *консула и только. Прошу доверять своему Правительству. Кебич*». Бачыце: урад займаецца камэрцыйнымі фірмамі, мае камэрцыйныя сакрэты і лічыць, што парлямэнту да гэтага няма справы. Заклікае толькі даваць — і ніякага кантролю. Прэм’ер неда-




Минск

Уважаемый Петр Викентьевич! Вы обратились ко мне с вопросом об экономических отношениях с коммерч. фирмами Италии. Это же коммерческая тайна. Г-ну Курци дано удостов. почетного консула и только. Прошу доверять своему Правительству. Кебич

...взаимовы-
...ей между
...инистров
Белорусской ССР постановляет:

1. Признать ассоциацию «Итало-белорусская торговая палата», учрежденную 10 ноября 1990 г. нотариальным актом, подписанным со стороны Итальянской Республики господином Стефано Саббатини (перечень № 12244, дело № 2543) и зарегистрированным в г. Анкона 16 ноября 1990 г. за номером 5592.

2. Признать и одобрить кандидатуру господина Джузеппе Курци как единственного председателя совместной ассоциации «Итало-белорусская торговая палата».

3. Для более успешной реализации программы сотрудничества между Белорусской ССР и Итальянской Республикой председателю совместной ассоциации «Итало-белорусская торговая палата» господину <u>Джузеппе Курци присвоить звание Почетного посла Белорусской ССР во все страны мира.</u>

1

кладны ў сваёй запісцы: паводле пастановы Саўміну спадар Курцы — «ганаровы пасол ва ўсе краіны сьвету». Праўду сказаць, хутка праблема з «амбасадарам» вырашылася сама сабою: вялікі камбінатар Курцы зьнік, наеўшы і напіўшы за кошт Саўміну (значыць, на грошы падаткаплатнікаў) на ладную суму. Як высьветлілася пазьней, вакол хімэрычнай «Гандлё-

вай палаты» шмат хто ў Беларусі добра пагрэўся. Тую легендарную пастанову Савету Міністраў разам з аўтографам Кебіча, адрасаваным мне асабіста, я захоўваю як каштоўную кур'ёзную рэліквію.

Можна было б расказаць безьліч падобных неверагодных гісторый, што трапілі ў поле ўвагі камісіі, якую я ўзначальваў. Дагэтуль зьдзіўляюся, чаму члены нашай камісіі, куды ўваходзілі два старшыні аблвыканкамаў (аднаго зь іх, Арцыменю, яшчэ пры мне застрэлілі), чатыры старшыні райвыканкамаў і два дырэктары буйных прадпрыемстваў, не перашкаджалі мне займацца амаль дэтэктыўнымі дасьледаваньнямі.

Мая назойлівасьць, праўда, мала каму падабалася. Калі міністар замежных справаў Пётар Краўчанка прапанаваў мне афіцыйна стаць першым амбасадарам Беларусі ў Нямеччыне, я пагадзіўся. Я ўжо трохі быў стаміўся ад змаганьняў з урадавымі чыноўнікамі. У маіх разборках з Саўмінам я адчуваў мала падтрымкі з боку прэзыдыюму Вярхоўнага Савету пры старшынёўстве Мікалая Дземянцея і нават пры Станіславу Шушкевічу. З прафэсарскім снабізмам фізыка-ядзершчыка ён даваў мне ня раз зразумець, што я зашмат на сябе бяру, будучы самаўпэўненым дылетантам, разважаючы, напрыклад, пра біржавыя тэндэры і курсы валютаў: «Адкуль вы гэта ведаеце?» Розум, лёгіка, нацыянальная заангажаванасьць, праграмны дэмакратызм нашага старшыні мне вельмі імпанавалі, але мяне заўсёды трошкі бянтэжыла, што ён, шукаючы «згоду» з намэнклятурнымі чальцамі прэзыдыюму, мог нават пры журналістах экспромтам падчас пасяджэньня парушыць папярэднюю дамову зь яго «дэмакратычнай» часткай (Сасноў, Карпенка, Сьлямнёў...). Так была, напрыклад, пахаваная наша задума скінуць з пасады старшыню Віцебскага аблвыканкаму спадара Кулакова, які быў і дэпутатам ВС, за разбазарваньне жыльлёвай квоты для перасяленцаў з чарнобыльскай зоны. Гэтага чакалі ўжо і журналісты, аднак усё ляснулася.



Некаторыя разумныя галовы раілі мне асьцерагчыся і больш абачліва гаварыць публічна. Я ж лічыў галоснасьць вялікай зброяй, якая мне, безумоўна, дапамагала дасягаць пэўных мэтаў. Як дыплямаванаму германісту і чалавеку, які ўжо адчуў смак у зьнешнепалітычнай і зьнешнеэканамічнай дзейнасьці, мне было надзвычай цікава заглыбіцца ў сапраўдную практыку. Тады яшчэ былі спадзяваньні, што мы вось-вось уліемся ў сям'ю эўрапейскіх народаў.

## У мэандрах эўрасупрацоўніцтва

Можна было б таксама расказаць шмат цікавых гісторый пра нашыя першыя дачыненьні з Брусэлем — напрыклад, пра супрацоўніцтва паводле праграмы Эўразьвязу TACIS (Тэхнічная дапамога Судружнасьці Незалежных Дзяржаваў). Большасьць праектаў выглядала так: паездка групы начальства зь Беларусі «на рынкавыя курсы» на Захад — лекцыі, банкеты, экскурсіі, выданьне выніковых брашураў, плянаваньне працягу вучобы. Працягу звычайна не было, бо канчаліся грошы менавіта на гэты праект. Ад такой працы нагульвалі тлушч асобныя чыноўнікі з Брусэлю, бо атрымлівалі «адкат» ад непасрэдных эўрапейскіх фірмаў, што арганізоўвалі курсы, ды мелі свой кайф беларускія калясаўмінаўскія чыноўнікі, якія

пападалі ў сьпіс курсантаў і вярталіся з-за мяжы з падарункамі для жонак і начальства, купленымі за сутачныя ад Саўміну і ад фірмы-арганізатара.

Практыкавалася яшчэ запрашэньне фірмамі на прадстаўнічыя грошы з пэўнага праекту TACIS беларускіх урадоўцаў у госьці (пэўна, каб далі для Брусэлю хвалебную атэстацыю фірме-арганізатару!). Мне давялося ўбачыць у офісе аднаго нямецкага фірмача-арганізатара здымкі беларускага прэм'ера з жонкаю, зробленыя ў Нямеччыне і ў Беларусі — у вельмі цёплай кампаніі з сваякамі шэфа фірмы.

Ужо будучы амбасадарам, дзякуючы сяброўскай дапамозе Магдалены Гоф, кіраўніка сталай дэлегацыі Эўрапарлямэнту па сувязях зь Беларусьсю, Малдовай і Ўкраінай, я змог зазірнуць у фінансавае чэрава Брусэлю, калі неаднаразова прысутнічаў там на пасяджэньні фінансавай камісіі, што разьмяркоўвала сродкі з праграмаў TACIS па краінах і прызначала кіраўнікоў праектаў. Закулісная схема выглядала так: камісія знаходзіла лабіяваную якім-небудзь брусэльскім чыноўнікам кандыдатуру (ці юрыдычную асобу) з краінаў Эўразьвязу, якая мусіла весьці праект гэтак, каб большая частка сродкаў пераразьмеркавалася па эўразьвязаўскіх адрасах. Перавагу аддавалі навучальным праектам: мы павінны навучыць лавіць рыбу, а не даваць вуду! Аднак вельмі часта здаралася, што той прызначаны настаўнік лоўлі рыбы сам ніколі ў жыцьці ня бачыў вады. Так, да нас у Беларусь накіравалі паводле рэкамэндацыі прадстаўніка Нямеччыны і са згоды Саўміну Беларусі беспрацоўных эканамістаў ГДР чытаць лекцыі чыноўнікам Савету Міністраў і Вярхоўнага Савету па заходніх канспэктах, напісаных у Кільскім навукова-дасьледчым інстытуце прыватызацыі. Не адна тысяча марак была патрачаная на ганарары лектарам, прывезеную зь Нямеччыны паперу, кампутарную машыністку, ужо ня новыя сыстэмныя блёкі і маніторы, закупленыя на складах ГДР, ды іншае. З боку беларускага ўраду гэтым праектам апекаваўся Міхаіл Дзямчук, намесьнік прэм'ера. Не хачу сказаць пра яго нічога дрэннага. Канечне, як кажуць, дармавую датку ня мацай, а бяры. Але ж можна было б і пасупрацiўляцца, і патаргавацца, як гэта, напрыклад, рабіў спадар Сілаеў, прадстаўнік ельцынскага ўраду ў Брусэлі. Я быў аднойчы сьведкам, як ён, прэзэнтуючы на просьбу ўраду Ўзбэкістану інтарэсы гэтай краіны ў Брусэлі, дабіўся, каб перагледзелі рашэньне кадрава-фінансавай групы аб дэлегаваньні ва Ўзбэкістан экспэртам у вырошчваньні бавоўны выпускніка Сарбонскага ўнівэрсытэту — блізкага сваяка французскага чыноўніка ў апараце эўракамісара.



### Што не прачытваецца ў стэнаграмах

Пра дзейнасьць апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня ўжо шмат хто пісаў. Па-мойму, найбольш падрабязна гэта зрабіў Сяргей Навумчык у кнізе «Сем гадоў Адраджэньня», са зьместам якой я пазнаёміўся спачатку з публікацыі ў «ARCHE», а потым прачытаў і ўсю кніжку, якую атрымаў ад аўтара ў падарунак. Збольшага я згодны з усім, пра што піша Сяргей, абапіраючыся на неабвержныя факты, зафіксаваныя ў стэнаграмах пасяджэньняў.

Некаторае ўнутранае пярэчаньне выклікае рэліктавы моладзева-журналісцкі *«штурм-унд-дранг»* пры апісаньні асобных постацяў. Парушаецца імпліцытна пэўным чынам і псыхалёгія гістарычнай праўды: тыя ж немаладыя намэнклятуршчыкі-дэпутаты былі дзецьмі свайго часу, і мерыць іх трэба меркай таго часу. Бязьлітаснасьць праўды пратакольнага журналісцкага факту можаператварыцца часам у псыхалягічную няпраўду. У гэтым сэнсе можна было б спрачацца пра некаторыя нюансы падачы постацяў Станіслава Шушкевіча і Ніла Гілевіча. Папракаючы і крытыкуючы Шушкевіча і Гілевіча, ня трэба забывацца — як бы парадаксальна гэта ні здавалася сёньня! — што менавіта такая іхная непасьлядоўнасьць або нерашучасьць ці рэвэрансы ў бок намэнклятуры забясьпечылі апазыцыі посьпех падчас прыняцьця пэўных законаў і пастановаў. Калі, напрыклад, Гілевіч, прэзэнтуючы для галасаваньня ўвесь пакет законаў па адукацыі і культуры, напісаны практычна апазыцыяй, успрымаўся камуністычнай большасьцю як напалову свой, «аб'ектыўны» таварыш, шанцы прыняцьця гэтых законаў безумоўна ўзрасталі. З пазыцыяў сёньняшняга дня шмат што глядзіцца ня так, як гэта было відаць, напрыклад, мне знутры як члену прэзыдыюму Вярхоўнага Савету.

Застылыя тэксты стэнаграмаў не перадаюць атмасфэры рэзанансу, які выклікала тое ці іншае выступленьне. Найбольш каштоўныя былі тыя выступы дэпутатаў ад апазыцыі, якія прыводзілі да прыняцьця неабходных рашэньняў, а ня тыя, дзе проста агучваліся «слушныя» дэмакратычныя максымы. Добрым прыкладам для гэтай маёй заўвагі можа служыць публіцыстычна бліскучы, але тактычна няўдалы «сольны» (выраз Навумчыка) даклад Гілевіча па нацыянальнай сымболіцы. Канечне, апазыцыі БНФ трэба было быць настойлівай і несэнтымэнтальнай, але трэба таксама прызнацца, што пачуцьця меры і кваліфікацыі некаторым з нас не хапала. Часта выступы некаторых нашых дэмакратычных прадстаўнікоў не спрыялі прыняцьцю адпаведнага рашэньня.



На мой погляд, хоць па пратаколах цяпер гэта выглядае прыгожа, некаторыя з гэтых прамоваў нават былі шкодныя. Звычайна пасьля бездакорнага ідэалягічнага выступу Зянона Пазьняка па пэўным пытаньні ўжо нечага было рабіць на трыбуне з проста дэмакратычнай прамовай. Добра слухаліся канкрэтныя прафэсійныя прапановы і заўвагі Ўладзімера Заблоцкага, Уладзімера Новіка, Юрася Беленькага, Лявонція Зданевіча, а вось, напрыклад, выступы Яўгена Новікава, які асабліва любіў гаварыць прыгожа і, не раўнуючы дэпутат Лукашэнка, быў гатовы выказвацца па кожным пытаньні, раздражнялі нават нашых прыхільных сяброў з дэмакратычнага клюбу.

## Амбівалентнасьць намэнклятуры

Без таго ж Гілевіча, як «калянамэнклятурнага» старшыні ТБМ, шмат хто з апазыцыі ня стаў бы дэпутатам, а без «памяркоўнага» Шушкевіча шмат чаго не было б прынята на пленарных пасяджэньнях, у тым ліку і нацыянальная сымболіка. За тое гістарычнае рашэньне трэба дзякаваць і Платонаву, і Таразевічу, але таксама і Шушкевічу, і нябожчыку Булахаву. Яны віртуозна вялі галасаваньне.

Ня ўсё было такое чорна-белае. Я б мог прывесьці шмат прыкладаў нетыповых станоўчых учынкаў намэнклятурных дэпутатаў. Так, Таразевіч выратаваў галасаваньне па нацыянальнай сымболіцы. Так, на мой погляд, 22 жніўня 1991 году пасьля паразы путчу ў Маскве дэпутат Міхаіл Мачуленка, другі сакратар Гомельскага абкаму, які выступаў пасьля Зянона Пазьняка, псыхалягічна выратаваў галасаваньне па наданьні Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце статусу канстытуцыйнага закону. Пэўна ж, ягоная пазыцыя, як і іншых прадстаўнікоў намэнклятуры, тлумачылася прыкладам парлямэнту Ўкраіны, страхам перад Расеяй, дзе забаранілі КПСС, і Ельцыным, аднак зноў жа — ня трэба забывацца на псыхалёгію: выступ «свайго» для большасьці быў вырашальны. Антырасейскі патас у выступе Пазьняка, па сутнасьці слушны, перад галасаваньнем быў у той момант небясьпечны: дэпутаты, як і ўсё грамадзтва, не былі падрыхтаваныя інфармацыйна і псыхалягічна да такіх публічных абагульненьняў. Праўда, незвычайным у тым выступе Зянона быў ягоны тон (у пратаколе гэта ніяк не адлюстравалася). Ня ўпэўнены, ці памятае Зянон Станіслававіч сваю стылістыку. Ён зьвяртаўся да дэпутатаў не як абвінаваўца і ідэалягічны апанэнт, а як мудры, заклапочаны лёсам Радзімы грамадзянін, які чакае падтрымкі і разуменьня. Канстытуцыйная большасьць магла б не набрацца, тым больш, што Шушкевіч паводзіў сябе нерашуча. Калі Мачуленка зь месца, не выходзячы на трыбуну, заявіў, што *«стопроцентно поддерживает народного депутата Позняка»*, за ім з рэплікамі падтрымкі выступілі старшыня Віцебскага аблвыканкаму Кулакоў і прэм’ер Кебіч, потым яшчэ нехта з раённых партыйных сакратароў. У выніку галасаваньня за канстытуцыйны статус Дэклярацыі прагаласавалі 253 дэпутаты з 265 прысутных. Тое пасяджэньне стаіць у мяне перад вачыма, як бы гэта ўчора было. Дарэчы сказаць, перад галасаваньнем дэпутат Лукашэнка, цяперашні прэзыдэнт, выступаў супраць гэтага рашэньня.



Прывяду яшчэ адзін прыклад канструктыўных — з гледзішча дэмакратычнага падыходу — паводзінаў прадстаўнікоў намэнклятуры. Так, дзякуючы намесьніку старшыні Вярхоўнага Савету Васілю Шаладонаву (зямля яму пухам!), які ўспрымаўся апазыцыяй як намэнклятурная крэатура, мне ўдалося правесьці на пленарным пасяджэньні пункт аб продажы зямельных дзялак пад забудову для вытворчых аб’ектаў замежным інвэстарам. Гэта прынцыповы пункт для паляпшэньня «рамачных умоваў» у інвэстыцыйным заканадаўстве. Шаладонаў старшыняваў у залі, калі я прадстаўляў на пленарным пасяджэньні праект «Закону аб замежных інвэстыцыях» на стадыі паартыкульнага галасаваньня. Група дэпутатаў вакол старшыні аграрнай камісіі Гаркуна была па-бальшавіцку катэгарычна супраць гэтай пазыцыі. Пагаварыўшы папярэдне на прафэсійным узроўні са спадаром Шаладонавым, я папрасіў яго ставіць на галасаваньне «для эканоміі часу» артыкулы не паводле парадкавых нумароў, а паводле ступені гатоўнасьці тэксту. Як толькі Гаркун па нейкай патрэбе пакінуў залю, я пазмоўніцку са старшынём пасяджэньня адразу ж прапанаваў для галасаваньня гэты сакрамэнтальны пункт. Усё прайшло хутка і без прабле-

маў. Таварыш Гаркун пасьля лямантаваў, але цягнік ужо быў пайшоў. На жаль, Савет міністраў зацягнуў распрацоўку мэханізму практычнай рэалізацыі закону, а потым праз тры гады гэты пункт быў увогуле ануляваны ўказам кіраўніка дзяржавы як «небясьпечны для сувэрэнітэту краіны».

## Трошкі пра Віскулі і жнівеньскі путч

Дэпутаты Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня былі сьведкамі і ў пэўнай меры ўдзельнікамі яшчэ дзьвюх падзей, якія ўвайшлі ў новую гісторыю Беларусі, — жнівеньскага путчу 1991 году ў Маскве і Віскулёўскіх пагадненьняў, што былі падпісаныя ў Белавескай пушчы. Пра гэта ўжо шмат хто пісаў: Краўчанка, Шушкевіч, Дземянцей, Грыб, Навумчык ды іншыя. Кожны бачыць тыя падзеі па-свойму. Я хаця і належаў да кіраўніцтва Вярхоўнага Савету, але ў гэтых падзеях мая роля была невялікая: я быў больш назіральнікам ды сьціплым чальцом апазыцыі БНФ.

Апошнім часам шмат хто з былых кіраўнікоў БССР, дзяржаўных і партыйных, якія шкадуюць былы СССР, згадваючы падзеі жніўня 1991 году, сьцьвярджаюць, што наша кіраўніцтва путч не падтрымала. Гэта ня так. Яно падтрымала яго — сваім маўчаньнем і чаканьнем. Некаторыя таварышы, як, напрыклад, адзін з галоўных лідэраў беларускіх камуністаў Малафееў, падтрымалі путч у публічнай заяве. Пра паводзіны Мікалая Дземянцея як кіраўніка Вярхоўнага Савету падрабязна напісаў Навумчык. Я б хацеў на прыкладзе міністра замежных справаў Пятра Краўчанкі, чалавека, якога я ўвогуле шмат за што паважаю, праілюстраваць, як выглядаў той у лепшым выпадку нэўтралітэт людзей, блізкіх да ўлады. Пётар Кузьміч, член ураду, які ўзначальваў адно з галоўных ведамстваў, палічыў за лепшае ў той крытычны час «легчы на дно». Як старшыня камісіі замежных справаў я чатыры дні ня мог яго знайсьці ні ў міністэрстве, ні дома, ні на лецішчы. У сваіх успамінах Пётар Кузьміч піша, што путч увогуле ня быў для яго нечаканасьцю, і тлумачыць сваю адсутнасьць у кнізе ўспамінаў «Беларусь на распутье» так:

«Утром 19 августа, выслушав «заявление советского руководства» о создании ГКЧП, я сразу связался с Кебичем, благо, умерший накануне телефон снова исправно работал. Кебич также был в отпуске, и я позвонил ему домой.

— Вячеслав Францевич, как быть? Что делать?

— Пётр Кузьмич! Ты в отпуске?

— Да.

— Вот и оставайся в отпуске!

— Понял, Вячеслав Францевич, — и я положил трубку.

Через час я вызвал машину и отправился в «Сосны», где пробыл еще неделю».

Ён піша пра тое, што яму неафіцыйна паведамілі пра «чорныя сьпісы» для арыштаў, якія рыхтаваліся ў Менску, дзе было і ягонае прозьвішча як занадта актыўнага змагара за сувэрэнітэт і дэмакратыю.

Канечне, такі «сабатаж» лепш, чым пазыцыя Малафеева ці Дземянцея, але ж гэта ня што іншае, як схаваць галаву ў нарачанскі пясок. Амаль усе дэпутаты — у тым ліку і ад апазыцыі — былі таксама ў адпачынку, але ж прыбеглі ў будынак Дому ўраду, як па трывозе, каб

дзейнічаць і — выбачайце за высокі тон — бараніць дэмакратыю. Мы разумелі, што нам могуць і кайданкі надзець. Памятаю, раніцай таго дня жонка знайшла мяне ў хвалях Чыжоўскага вадасховішча і зь берагу крыкнула: «Бяжы хутчэй у Вярхоўны Савет, у Маскве — дзяржаўны пераварот!» Не было ніякага сумневу, што трэба бегчы да сваіх і быць разам. Як цяпер памятаю зларадныя позіркі дэпутатаў-камуністаў і вэтэранаў, што стаялі купкамі на калідоры і выглядалі зь незачыненых дзьвярэй, калі я праходзіў праз чацьвёрты паверх да свайго кабінэту: «Ну што, галубок, нагуляўся ў дэмакратыю?» Праз гадзіну пад кіраўніцтвам Пазьняка апазыцыя БНФ падрыхтавала праект заявы для сродкаў масавай інфармацыі, дзе асудзіла дзеяньні ГКЧП, заклікала грамадзянаў да салідарных дзеяньняў і запатрабавала неадкладнага скліканьня надзвычайнай сэсіі ВС.

Наш старшыня прэзыдыюму Дзямянцей таемна ад членаў прэзыдыюму шматкроць кансультаваўся па тэлефоне з сваім маскоўскім калегам Лук'янавым, які горача падтрымаў путчыстаў. У першы дзень маскоўскіх закалотаў, 19 жніўня, ніхто з афіцыйных асобаў Беларусі, акрамя дэпутатаў ад БНФ у Вярхоўным Савеце, не падаў голасу супраць дзяржаўнага перавароту ў Маскве. Камісія замежных справаў, якую я тады ўзначальваў, атрымала на наш запыт з Масквы 19-га і 20-га чатыры факсы ад нашага калегі Ўладзімера Лукіна, які не прыняў перавароту, з інфармацыяй пра падзеі. Калі я рабіў копіі факсаў і разносіў іх па камісіях, некаторыя старшыні камісіяў і дэпутаты, нават тыя, што пазьней сталі лібэраламі і апазыцыянэрамі, дэманстратыўна не хацелі браць у рукі гэтых папераў. Праз два дні, калі ў Маскве ўсё было фактычна закончана, колькасьць нашых дэпутатаў, што асудзілі путч, вырасла да шасьцізесяці зь лішнім чалавек. Тады зьявілася адпаведная заява. Потым пад ціскам апазыцыі БНФ, якую падтрымала вялікая група дэмакратычных дэпутатаў, Мікалай Дзямянцей быў зьняты з пасады старшыні прэзыдыюму Вярхоўнага Савету, і новым старшынём стаў ягоны першы намесьнік Станіслаў Шушкевіч.

Пазьней, калі апазыцыя БНФ ініцыявала слуханьні аб ацэнцы дзеяньняў кіраўніцтва рэспублікі ў час путчу, галоўным дакладнікам па справе на пашыраным пасяджэньні прэзыдыюму быў генэральны пракурор Тарнаўскі, член ЦК КПБ, які, зразумела, не знайшоў ніякага злачынства ў дзеяньнях беларускіх кіраўнікоў.

Два словы пра Віскулі. Ніхто зь Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня, у тым ліку і камісія замежных справаў, ня ведаў нічога пра тое, што плянуецца на сустрэчы ў Віскулях. З пазьнейшых публікацыяў я даведаўся, што нібыта папярэдне тры будучыя падпісанты з прэм'ерамі раіліся пра плянаваную важную нараду і мелі запрашэньне ад беларускіх кіраўнікоў правесьці гэтую сустрэчу тут у нас. Розныя аўтары інтэрпрэтуюць гэта па-свойму. Не хачу разьбірацца ў дэталях. Зразумела адно: нічога добрага ў такой манеры працы няма. Парлямэнт нічога ня ведае, што будзе рабіць кіраўнік парлямэнцкай рэспублікі разам з прэм'ер-міністрам. Можна ж было падпісаць і нешта горшае для Беларусі, чым тое пагадненьне.

## Ельцын у Менску перад Віскулямі

Па дарозе ў Белавескую пушчу Ельцын, Бурбуліс, Козыраў і яшчэ некалькі асобаў наведалі пленарнае пасяджэньне Вярхоўнага Савету. Ельцын выступіў зь ня вельмі зьмястоўнай прамовай, дзе вітаў перамогу дэмакратыі, і перадаў Станіславу Шушкевічу афіцыйны дарунак, гістарычны дакумэнт — «Ахоўную грамату Воршы 1664 году», ахарактарызаваўшы яе як сымбаль вызваленьня, якое «расейскія войскі прынесьлі беларускаму народу». Шушкевіч ветліва прыняў падарунак (адразу зарыентавацца было цяжка, ня ведаю, як бы я сам зрэагаваў на такі жэст высокага госьця), але некаторыя дэпутаты, сярод якіх быў і наш выдатны гісторык Алег Трусаў, на знак абурэньня пачалі пакідаць залю. Рэч у тым, што супраць маскоўцаў пад Воршай, Смаленскам і Полацкам у XVII стагодзьдзі за сваю этнічную і дзяржаўную тэрыторыю змагаліся нашы продкі, беларусы, якія страцілі ў той вайне амаль палову насельніцтва. На той час шмат хто з прысутных у залі ўжо прачытаў навуковыя і мастацкія творы пра тую «невядомую вайну». Я падышоў да міністра Козырава, які стаяў у праходзе каля вакна разам з нашым міністрам Краўчанкам, і паспрабаваў высьветліць, што гэтая алегорыя значыць. Козыраў ня мог толкам нічога патлумачыць, толькі пацiснуў плячыма і з расейскай непасрэднасьцю адказаў: *«Хер их знает, может, там Бурбулис со своими ребятами чтонибудь и напутал? Но мы ведь вас не раз от литовцев и поляков освобождали!..»* Вось такая гісторыя з геаграфіяй. Пра гэты інцыдэнт піша і Краўчанка ў сваіх успамінах, толькі пра рэакцыю Козырава забыўся згадаць.



Варта сказаць два словы пра ратыфікацыю Віскулёўскага пагадненьня. Калі ўсё адбылося, я, як беларус, ня мог не вітаць гэтага. Аднак як старшыня камісіі замежных справаў нацыянальнага парлямэнту я ня мог не разумець, што працэдура прыняцьця такога рашэньня ня лезе ні ў якія вароты. Я ня думаю, што Гарбачоў пачаў бы высаджваць у пушчы дэсант, калі б Ельцын і ягоныя калегі хаця б дзеля палітэсу апэратыўна запрасілі ў Віскулі прадстаўнікоў парлямэнтаў. Гэта не была пакрыўджаная амбіцыя старшыні камісіі замежных справаў. Я разумеў, што магло здарыцца і нешта горшае, пад чым, напрыклад, Кебіч, які разам з Шушкевічам быў там, мог бы паставіць подпіс.

Як ішло галасаваньне па ратыфікацыі, ужо гаварылася шмат. Яшчэ раз нагадаю, што падчас закрытага галасаваньня супраць пагадненьня галасаваў адзін дэпутат. Гэта быў сакратар ЦК КПБ Валеры Ціхіня, былы міністар юстыцыі, а пазьней — старшыня Канстытуцыйнага суду. Пра гэта ён сказаў публічна. Пішу гэта таму, што наш прэзыдэнт Лукашэнка ўжо некалькі гадоў настойліва стварае міт, што гэтым адзіным быў ён. Гэтая нахабная мана паўтаралася нават у шматсэрыйным прапагандысцкім фільме Беларускага тэлебачаньня «Найноўшая гісторыя». Дэпутат Лукашэнка, старшыня калгасу «Гарадзец», быў сярод дваццаці шасьці абранцаў народу, якія на ўсякі выпадак перастрахаваліся і не прынялі ўдзелу ў галасаванні. Кожны з дэпутатаў атрымаў адпаведную раздрукоўку з сакратарыяту. Тая раздрукоўка публікавалася ў герменчукоўскай «Свабодзе».

## Галадоўка дэпутатаў БНФ

Я хацеў бы вярнуцца да яшчэ адной важнай падзеі — галадоўкі-пратэсту фракцыі дэпутатаў БНФ, распачатай 11 красавіка 1995 году. Гэтая падзея, дакладней, ейны фінал, запачаткавала эпоху зьнішчэньня кароткай гісторыі беларускага парлямэнтарызму пачатку і сярэдзіны дзевяностых гадоў. Як германіст я знаходжу абсалютную сэнсавую і візуальную паралель гвалтоўнай расправы з дэпутатамі ў Менску ў 1995 годзе з падзеямі 1933 году ў Браўншвайгу ў Нямеччыне. Там у гістарычным музэі гораду захоўваецца здымак, дзе нацысцкія штурмавікі выводзяць пад рукі з будынку ратушы арыштаваных дэпутатаў, абраных месьцічамі яшчэ паводле сярэднявечнага магдэбурскага права. Гэта першы выпадак адкрытай расправы ў Нямеччыне з народнымі абраньнікамі, абвінавачанымі ў працягу традыцый «франкфурцкай гаварыльні, што развальвае адзінства нацыі». З такімі абвінавачаньнямі на адрас апазыцыі БНФ выступаў і наш першы прэзыдэнт.

На жаль, я ня маю рэгулярнай звычкі весьці дзёньнік і зьбіраць архіў, таму, пішучы гады тры таму пра тую галадоўку на замову акадэмічнага гісторыка Яўгена Анішчанкі для часопісу «ARCHE», я заўважыў, што многае я запомніў ня так, як іншыя, іншага зусім ня памятаю. Таму прывяду толькі некалькі асабістых уражаньняў. Да часу, калі адбылася галадоўка, я ўжо быў вярнуўся зь Нямеччыны і, здаўшы свае амбасадарскія паўнамоцтвы, яшчэ больш за год працаваў шараговым дэпутатам у камісіі замежных справаў. Старшынём камісіі і членам прэзыдыюму тады ўжо быў мой колішні намесьнік Іван Цярэшка (зямля яму пухам!). Наш



дэпутацкі тэрмін цягнуўся ня пяць, а шэсьць гадоў, таму што прэзыдэнт, жадаючы дыскрэдытаваць ідэю парлямэнтарызму, зацягваў правядзеньне новых выбараў. Усе грамадзяне Беларусі памятаюць, як кіраўнік дзяржавы заклікаў не хадзіць да урнаў, казаў, што ён сам ня пойдзе галасаваць, бо гэта ўсё падман на карысьць дэмагогаў, так званых дэмакратаў. Дэмакратычная супольнасьць Вярхоўнага Савету кіравалася азначэньнем Канстытуцыі, што «Вярхоўны Савет зьяўляецца *пастаянна дзейным* найвышэйшым заканадаўчым органам дзяржавы» і таму павінен існаваць да абраньня новага складу дэпутацкага корпусу.

Ідэя галадоўкі была для мяне нечаканай навіной. Алег Трусаў сьцьвярджае, што гэта ён як каардынатар апазыцыі агітаваў мяне на галадоўку і што я адразу даў на гэта згоду, нічога не пытаючыся. Мне гэта чамусьці не запомнілася. Думаю, Алег нешта блытае, бо мне помніцца лёгкае пачуцьцё крыўды: вось, думаю, дамовіліся, а мне нічога не сказалі. У той дзень, 11 красавіка 1995 году, я трошкі спазьніўся на пасяджэньне. Пра само рашэньне фракцыі БНФ аб'явіць галадоўку я пачуў ужо седзячы ў залі Вярхоўнага Савету. Як ужо казаў, было трохі непрыемна, што мяне выкарыстоўваюць, як авечку. Але, думаю, магчыма, мяне шукалі ды не знайшлі. Усё роўна, нават калі нехта мне не давяраў, сумненьняў у мяне не было ніякіх: трэба быць разам! Тады не было думак, як гэта адаб'ецца на працаўладкаваньні ці нечым такога кшталту... Пачуўшы заклік Пазьняка, я пайшоў і сеў сярод галадоўнікаў на падлогу каля трыбуны. Мяне вёў голас сумленьня, а ня нейкая там партыйная дысцыпліна, бо я дазваляў

сабе калі-небудзь не пагаджацца зь меркаваньнем Пазьняка і не належаў да вузкага кола ягоных давераных асобаў. Заклік да галадоўкі быў момантам ісьціны. Трэба было не дапусьціць рэфэрэндуму, які скасоўваў фактычна ўсё, за што мы змагаліся апошнія гады — і нацыянальную мову, і сувэрэнітэт, і падзел уладаў, і дэмакратыю.

Як толькі мы селі, галасаваньне ў Вярхоўным Савеце не прайшло, бо паслухмяная намэнклятурная большасьць была шакаваная, і наша галадоўка дала першы плён. Ні тады, ні цяпер я ня помню, каб нехта раіў рабіць нешта больш эфэктыўнае ці нешта іншае тады, калі пачаў чыніцца гвалт над парлямэнтарызмам і маладой дэмакратыяй. Калі мы засталіся ў залі, да нас прыйшоў доктар з амбуляторыі Вярхоўнага Савету. Нам прынесьлі мінэральную ваду, пра што распарадзіўся Мечыслаў Грыб, які быў тады старшынём Вярхоўнага Савету. З дому некаторым з нас прынесьлі цёплыя рэчы. Да мяне прыбегла жонка, і мы пагаварылі зь ёю праз шкло ўваходных дзьвярэй. Здаецца, яе прывяла туды Галя Сямдзянава. Уладкаваліся на ноч у крэслах. Некаторыя спрабавалі месьціцца на падлозе, падсьцілаючы курткі ці паліто. Прыходзілі міліцыянты з аховы разам з нашым дэпутатам Цесаўцом, падпалкоўнікам міліцыі, калі нібыта быў званок, што заля замінаваная. Нас папярэджвалі, што выведуць сілай, калі мы не падпарадкуемся і не пакінем залі. Але мы адказалі, што мы дэпутаты, недатыкальныя асобы, — няхай вядуць сапэраў, каб праверылі ўсё. Сапэры хутка прыйшлі і ў нашай прысутнасьці, з сабакамі, праверылі залю і нічога не знайшлі. Запомнілася, што вельмі актыўны



быў Алег Трусаў, даваў талковыя парады. Напрыклад, каб сапэры далі пісьмовую даведку, што ў залі выбуховых рэчываў ня знойдзена.

Уначы пачаўся штурм, калі мы ўжо палеглі спаць. Раптам запалілася сьвятло ў залі, адчыніліся дзьверы, адтуль пасыпаліся людзі ў нейкай дзіўнай вопратцы. Заклацалі затворы, пачуліся гукі, што нагадвалі *«досылание патрона в патронник»*, або калі прымыкаюць штыхі. Людзі ў масках былі падобныя да вадалазаў у цемнаватых трыко. Яны ўбеглі адначасова з трох дзьвярэй, уляцелі з крыкам, рабілі сальта ў паветры. З гіканьнем і піруэтамі яны рассыпаліся перад трыбунай. Было ўражаньне нейкай фантасмагорыі, нерэальнасьці. Але не было маральна страшна, бо мы былі разам. Толькі як пры звычайнай небясьпецы і магчымай бойцы я падумаў пра свае акуляры і некалі зламаную ў маладосьці ключыцу...

Мы пасьпелі сесьці разам і ўчапіцца за рукі. З аднаго боку ад мяне быў Лявон Баршчэўскі, а з другога — Уладзімер Заблоцкі. Нас пачалі разрываць, выцягваць па адным. Многія заявілі голасна, што парушаецца Канстытуцыя, законы. Я гаварыў гэтым маскаваным людзям, што я — надзвычайны і паўнамоцны пасол, што мы — дэпутаты, маем статус недатыкальнасьці. Я зьняў акуляры, бо баяўся за вочы. Але нас адрывалі і разрывалі, або цягнулі волакам, або вялі тварам уніз, прыгнуўшы галаву долу, як Пазьняка, якога вялі перада мною. Пакуль яго сагнулі, адзін з нападнікаў пачаў ціснуць яму пальцамі на вачніцы. Мяне ня білі, проста вельмі балюча падкруцілі рукі, што я аж узьняўся ў паветра. Памятаю, Заблоцкаму вырвалі кавалак скуры з курткі — так моцна цягнулі. Вялі

проста праз правыя дзьверы каля трыбуны ў двор, застаўлены варанкамі. Па баках стаялі міліцыянэры з адкрытымі тварамі, бяз масак, але з аўтаматамі. У іх былі зусім нармальныя твары, у некаторых — спачувальна-зьдзіўленыя. У двары нас запіхвалі ў міліцэйскія варанкі з кратамі. Я аказаўся ў адной кампаніі з Трусавым, Баршчэўскім і Герменчуком. Мы ляжалі адзін на адным. Варанок быў цесны і брудны. Пасярод было вялікае бруднае кола. З двух бакоў — маленькія лавачкі. На нас з Трусавым зьверху кінулі Баршчэўскага і Герменчука. «Ну, Вінцэнтавіч, мы з вамі і сустракаемся, як у хапун, — пажартаваў Гермянчук, — то на Салаўках, то ў міліцэйскім варанку».

Зь Ігарам Герменчуком у нас быў адзін агульны ўспамін яшчэ з далёкага савецкага часу, калі я з жонкай у складзе турыстычнай групы быў на Салавецкіх астравах ды так званай расейскай Поўначы — Архангельск, Кіжы, Каргапаль, Ашавенск, Холмагары (радзіма Ламаносава). Той год у Расеі было голадна, і нас недакармлівалі, таму прыходзілася сталавацца і на свае грошы. Аднойчы заходзім гуртам у архангелагародзкую пракіслую сталоўку з паэтычнай назвай «Лебёдушка», даволі гучна размаўляем на гастранамічныя тэмы, смакуем кіславатае «Жыгулёўскае», згадваем сваё смачнае «Лідзкае». Размаўляем па-беларуску. І тут да нашага стала падыходзіць салдацік — худзенькі-худзенькі, шыйка, як у жураўля, што выглядае, як кветка з гарлачыка, аздобленага зьверху вайсковым «падваратнічком». Ды гаворыць неяк так з фасонам, не раўнуючы Лёсік ці Станкевіч: «Смачна есьці ды быць дабру, як вам расейскія прысмакі?» Называе сябе: «Ігар Гермянчук, студэнт журфаку БДУ, шараговец тэрміновай службы». Так і сказаў — *шараговец*. Я тады гэтага слова не ўжываў. Вось, думаю, як трапна лягло. І тут адбываецца маленькае дзіва — усе, хто сядзеў за сталом, нават расейскамоўныя, спрабуюць гаварыць па-беларуску. Нарадзілася нейкая пяціхвілінная архангелагародзкая беларуская дыяспара...

Варанок некуды рушыў. Па дарозе мы запатрабавалі, каб нас адвезьлі ў пракуратуру. Здаецца, гэтая ідэя прыйшла першая Трусаву. Варанок прывёз нас у гарадзкую пракуратуру, што каля кінатэатру «Перамога» на вуліцы Інтэрнацыянальнай. Там мы выказалі афіцыйнае патрабаваньне зрабіць мэдэкспэртызу, каб засьведчыць зьбіцьцё. Зьявіўся заспаны дзяжурны пракурор, выклікалі мэдыкаў. Засьведчылі цялесныя пашкоджаньні. Найбольш пацярпелі Гермянчук і Баршчэўскі. Лявон меў акрываўлены твар. З пракуратуры мы пайшлі ў гатэль «Кастрычніцкі», дзе жылі некаторыя нашы дэпутаты. Туды прыйшлі карэспандэнты з Польскага радыё, са «Свабоды», зь якімі мы правялі першую прэс-канфэрэнцыю і далі інтэрвію. Ужо пачыналася раніца, хадзілі тралейбусы. Я прыехаў дадому. Было не да сну. Толькі цяпер прыйшло разуменьне, што адбылося нешта страшэннае. Але ўсё яшчэ ня верылася, што гэта — сур'ёзна і надоўга.

На другі дзень, 12 красавіка, гадзін у дзесяць мы рабілі прэс-канфэрэнцыю ў будынку на вуліцы Карла Маркса, 38, дзе цяпер знаходзіцца адміністрацыя прэзыдэнта, на першым паверсе ў вялікай актавай залі. Мы сядзелі на сцэне, а журналісты ў залі. Журналістаў было чалавек пяць. Памятаю, была нейкая рыжая

дзяўчына з «Ройтэрз», са «Свабоды» быў, здаецца, Карманаў, ад расейскай прэсы — манумэнтальная Пола. Зноў быў польскі журналіст. Добра гаварыў па-беларуску.

Пасьля гэтага мы пайшлі ў Дом ураду. Звычайны ўваход у правае крыло быў зачынены. Пайшлі праз Саўмін. Там ужо стаяла «антытэрарыстычная» рамка. Моцны кардон спэцназу не даваў нам зайсьці. Памятаю, затрымалі нават паслухмянага Шаладонава, намесьніка сьпікера. Мы ўсё ж туды прарваліся. Ня памятаю падрабязнасьцяў, як гэта было. Была цісканіна, валтузьня. Вярхоўны Савет ужо праводзіў пасяджэньне бяз нас. Калі мы прыйшлі, зрабіўся перапынак. Мы паставілі пытаньне пра ўключэньне ў парадак дня гэтага начнога інцыдэнту. Аляксандар Шут прама ў залі задраў кашулю і паказаў сіняватыя пісягі ад пабояў. Пасьля гэты здымак быў апублікаваны ў газэце «Свабода». Рэакцыя залі была зубаскальская: маўляў, так вам і трэба, «мала вам увалілі». Мне здаецца, што і намэнклятура таксама не ўяўляла, што ў Беларусі пачалася новая эра — эра дыктатуры. Потым прэзыдэнт выступаў па тэлебачаньні, ілгаў, казаў, што ніхто дэпутатаў ня біў, што мы пагражалі ўсё заліць крывёй, паўскрываць сабе вены, што нам падагналі мяккія аўтобусы, акуратна вывелі і зусім ня кідалі ў брудныя варанкі, маўляў, усё гэта прапаганда для прэсы. Ён гаварыў і тое, што гэтыя дэпутаты прывялі дзевак начаваць з сабой і выпівалі зь імі. З намі ноччу ў будынку Вярхоўнага Савету была толькі карэспандэнтка Радыё Свабода Алена Радкевіч, якую міліцыянты вывелі яшчэ да штурму.

На другі ці трэці дзень пасьля нашага зьбіцьця Лукашэнка сабраў дэпутатаў для падвядзеньня вынікаў працы, для разьвітаньня. Тады ягоным «заўхозам» быў Ціцянкоў. Ён частаваў нашых калегаў дармавой гарэлкай з закускай. З апазыцыі там нікога не было. Мечыслаў Грыб, сьпікер, быў сярод паслухмянай большасьці. У газэтах надрукавалі здымак гэтай вясёлай кампаніі. Выглядала, як у зладзейскай шайцы: усе прычыніліся да злачынства, выпіўшы чарку. Усе павязаныя. Агідна было глядзець на гэтых людзей. Некаторыя зь іх цяпер у апазыцыі Лукашэнку. Але гэта не забываецца.



Добрыя ўспаміны засталіся ад сьледчага з балцкім прозьвішчам Бролішс, які вёў тую крымінальную справу і, падобна, стараўся даznацца праўды, што гэта за падразьдзяленьне біла дэпутатаў і на чый загад. На жаль, усё засталося нявысьветленым, як і з пазьней зьніклымі Захаранкам, Ганчаром, Красоўскім ды Завадзкім. Спадзяюся, даведаемся мы некалі і пра гэта.

Успамінаю гэта ўсё, і душу ахоплівае настальгія па часе, калі мы яшчэ былі маладыя, калі ўсё было павернута ў будучыню, калі былі падставы сказаць: «Усё яшчэ будзе!»

# На радзіме бацькі амэрыканскай Канстытуцыі

*ЗША прыглядаюцца да Беларусі. — Першыя кантакты. — Запрашэньне Дзярждэпартамэнту. — Пытаньні і адказы. — Сустрэча з Бушам у Манпэльe. — Добрая зайздрасьць: як амэрыканцы сьпяваюць свой гімн.*

## ЗША — Беларусь: чаканьне новай тыпалёгіі

Праз тыдзень пасьля падпісаньня Віскулёўскага пагадненьня я атрымаў запрашэньне зь Дзярждэпартамэнту наведаць ЗША з нагоды 200-годзьдзя «Білю аб правах», што быў прыняты ў 1791 годзе. Запрашэньне арганізаваў старшыня Саюзу амэрыканскіх падаткаплатнікаў, зь якім я пазнаёміўся раней у Менску. Тады ў ЗША ўсур'ёз разглядаўся варыянт выдзяленьня Беларусі шматмільярднага крэдыту на структурныя рэформы ў эканоміцы і сельскай гаспадарцы. Быў спадзеў, што Беларусь стане на шлях лібэральных рэформаў і адносіны змогуць разьвівацца так, як, напрыклад, яны складаюцца сёньня паміж Амэрыкай і Польшчай. Пры гэтым актыўную ролю плянавалася адвесьці фэдэральным агенцтвам, што займаліся падаткамі і страхаваньнем. Ня ведаю дакладна, што б з гэтага атрымалася і як усё плянавалася з амэрыканскага боку. Прага інфармацыі пра СНД была тады велізарная. Тады амэрыканскі госьць адчуў, што кіраўніцтва Беларусі схіляецца да цеснага саюзу з Расеяй. Амэрыканскія газэты шмат пісалі ў той час пра азнаямляльныя дэсанты сваіх пасланцоў у новыя незалежныя дзяржавы. На працягу тыдня пасьля Віскулёў нашу камісію наведаў амэрыканскі вайсковы аташэ з Масквы, прадстаўнік Фонду Сораса і двое прадстаўнікоў «Валянтэрскай ініцыятывы для распаўсюду дэмакратыі».

За першыя два дні знаходжаньня ў Нью-Ёрку і Вашынгтоне я меў каля дзясятку афіцыйных сустрэчаў, у тым ліку і ў Дзярждэпартамэнце. У газэтнай скрынцы каля свайго гатэльнага нумару ў першы дзень знаходжаньня ў Вашынгтоне я знайшоў ва ўсіх без выключэньня газэтах матэрыялы пра СНД, Віскулі, Беларусь і Ельцына. Асабліва шмат дыскутавалася пытаньне пра тое, хто будзе прадстаўляць цяпер СССР у Радзе Бясьпекі, як будзе выглядаць вайсковая дактрына СНД і хто будзе плаціць савецкія даўгі Захаду. На гэты конт у мяне былі афіцыйныя дакумэнты Віскулёўскіх пагадненьняў, адпаведныя напрацоўкі прэзыдыюму Вярхоўнага Савету і прапановы апазыцыі БНФ, што сьведчыла яшчэ пра адкрытасьць пэрспэктываў разьвіцьця Беларусі. Гэта надавала пэўную інтрыгу сустрэчам і выклікала цікавасьць суразмоўнікаў і прэсы.

На трэці дзень я прысутнічаў як ганаровы госьць у Манпэльe ў Доме-музэі колішняга амэрыканскага прэзыдэнта Джэймза Мэдысана, бацькі амэрыканскай Канстытуцыі. Манпэльe знаходзіцца міляў за семдзесят на поўдзень ад Вашынгтону. Для мяне склалі асабістую праграму з пунктам «Сустрэча з Прэзыдэнтам Бушам да пачатку афіцыйных урачыстасьцяў». Працягласьць — да дзесяці хвілінаў.

Ганаровых гасьцей, зь якімі мяне прывезьлі ў стылізаваным пад XVIII стагодзьдзе аўтобусе-дыліжансе з Вашынгтону (гэта былі ўсноўным амэрыканцы), рассартавалі на дзьве групы. Я аказаўся ў кампаніі ўсяго з двума мужчынамі сярэдніх гадоў, адзін зь якіх добра гаварыў па-расейску. Падобна, што гэта былі людзі са спэцслужбы. Пасьля дзьвюх праверак мне прымацавалі на пінжак жоўты ліпкі кружочак каля ідэнтыфікацыйнага лэйбла і запусьцілі ў маленькі пакой-прыёмную. Гэта ўсё адбывалася ў фамільным доме Мэдысанаў. Кожнаму прынесьлі чэры ў якасьці апэрытыву. Не пасьпелі мы заглынуць той чэры, як у пакой уваліўся марскі пехацінец, заклаў два пальцы ў рот і сьвіснуў, як салавей-разбойнік. Я быў шакаваны. Мае спадарожнікі патлумачылі, што гэта з рытуалу выключнага сяброўства і ёсьць традыцыяй тут з даўняга часу. Так ён запрасіў на аўдыенцыю да прэзыдэнта.

Адзін з маіх спадарожнікаў павёў мяне вузкім калідорам да Буша. Тады яшчэ не гаварылі «Буша-старэйшага», бо малодшага Буша мы яшчэ ня ведалі. За адным з чарговых паваротаў калідору мяне здымалі на кінакамэру. Ці то для чарговага кантролю, ці то для гісторыі? На дзьвярах, куды мы зайшлі, была шыльда «Прыёмная для ганаровых гасьцей». Пакой быў невялікі і вельмі сьціпла абстаўлены. Прэзыдэнт зрабіў некалькі крокаў нам насустрач, павітаўся. Каля яго стаяў яшчэ нейкі дзядзька, зь якім мяне пазнаёмілі. Ягоную пасаду ды імя я ўжо ня памятаю.

Пасьля дзяжурнага пытаньня, як мне падабаецца ў Манпэльле, Буш запытаўся пра сталіцу Беларусі і ці далёка яна ад Масквы. Ён думаў, што сталіца Беларусі — Берасьце. Потым пацікавіўся, чым мы адрозьніваемся ад расейцаў. Па дарозе я ўжо думаў над гэтым пытаньнем і, шчыра кажучы, быў прыемна ўражаны, што Буш ведае, што Беларусь ляжыць паміж Польшчай і Расеяй, бо чуў раней шмат анэкдотаў пра геаграфічную недасьведчанасьць амэрыканскага прэзыдэнта ў адносінах да малых дзяржаваў. Я ў некага, ці ня ў П'ера Даніноса, чытаў пра параўнальныя стэрэатыпы ангельцаў і амэрыканцаў, і адказаў трохі задзірыста-патрыятычна, што беларусы для расейцаў гістарычна ўяўляюць нешта такое, чым ангельцы ёсьць для амэрыканцаў. Толькі мы зьведалі расейскую рэканкісту, а амэрыканцы ангельцаў не ваявалі. Мы — аўтахтоны, кансэрватары, для нас аселасьць — гэта маральнасьць, а расейцы — гэта палітонім ды рэлігійная пазнака. Яны — гістарычныя імпэрыялісты, у нэўтральным геапалітычным сэнсе, кангламэрат народаў.

Ці то зь ветлівасьці, ці то сапраўды шчыра Буш вельмі жыва і, як мне падалося, станоўча зрэагаваў на маё трохі нахабнае для амэрыканскага вуха публіцыстычнае абагульненьне. З палітычнага толькі пацікавіўся, хто ж цяпер зойме месца СССР у Радзе бясьпекі ААН і як мне бачыцца далейшае разьвіцьцё маёй радзімы — у саюзе з Расеяй ці з арыентацыяй на Захад. На гэтыя пытаньні я ўжо загадзя падрыхтаваў адказы-развагі, бо іх было лягічна чакаць. Сустрэча цягнулася сапраўды хвілін дзесяць.

## Сьвята ў Манпэльe

Сьвята выглядала вельмі дэмакратычна. Надвор'е выдалася як на дзіва. З раніцы было халаднавата, а потым засьвяціла сонца. Шмат хто з гасьцей меў з сабою цёплыя пледы, якія потым проста паскідалі на траву. Уся вялікая адкрытая тэрыторыя ў Манпэлье вакол маёнтку Мэдысанаў нагадвала чымсьці наша колішняе сьвята паэзіі ў Вязынцы. Шмат разнамаснага народу, сьцягоў, музыкі і... сабак. Падобна, што гэта былі не службовыя сабакі, бо зь імі побач былі і дзеці. Шмат хто, калі так можна сказаць, пікнікаваў на траве, хаця ўжо быў сэзон паміж восеньню і зімою. Каля шматлікіх навесаў і ветравых агароджаў, як на кірмашы, частаваліся і весяліліся людзі.

Побач з домам Мэдысанаў — велізарная белая палатка, мэтраў на сто даўжыні, ля ўваходу стаяць два высачэнныя чарнаскурыя марскія пехацінцы. У палатцы — прэзыдэнцкі штандар, вайсковы аркестар, каля аркестру столікі для ганаровых гасьцей на дзьве асобы. Далей — яшчэ некалькі дзясяткаў вялікіх сталоў, потым — фуршэтная зона. Там нешта смажыцца, скварчыць. Мяне пасадзілі за два сталы ад аркестру. Праз тры сталы зьлева — штандар і месца прэзыдэнта. Каля штандару — зноў два здаравенныя нэгры.

Мая суседка за сталом — дама гадоў за восемдзесят. Яна мае белыя пальчаткі да локцяў, даволі адкрытыя грудзі і штучныя беласьнежныя зубы. Я амаль нічога не разумею, што яна гаворыць. Прычыны тут розныя: мая недасканалая ангельская мова, штучныя сківіцы суседкі, булькаценьне амэрыканскага «р» ды даволі гучны аркестар. Я зразумеў, што ейныя продкі былі сваякамі Долі Мэдысан, жонкі бацькі амэрыканскай Канстытуцыі. Пра Долі я прачытаў у гасьцявых праспэктах, таму і зразумеў. Гаварыць з суседкай мне амаль не давялося. Пра Беларусь і СНД я яшчэ дома падрыхтаваў шпаргалку на ангельскай мове і мог даволі добра разважаць на гэтую тэму, нават з натуральнымі паўзамі «гезытацыі». Аднак тое, што я спрабаваў гаварыць Бушу пры сустрэчы, тут не спатрэбілася. Дама нічога ня чула, дый ня слухала. Яна ўсё нешта гаварыла, я толькі ківаў галавою. На пачастунак падалі старое, па амэрыканскіх мерках, белае віно і філе кастрыраванага пеўня («*castrated cock*»). Віно нагадвала шампанскае-брут, ад чаго ў мяне адразу пачалася лёгкая пякотка, а ляжка кастрыраванага пеўня бяз костачкі на смак успрымалася як мяккі грыб-пухавік і пахла як бы крэалінам. Зь дзяцінства ўсе непрыемныя пахі нагадваюць мне крэалін, бо ад яго аднойчы ледзь не памёр. Гэтыя пакуты цягнуліся хвілін дваццаць, пакуль усе чакалі зьяўленьня прэзыдэнта.



## Сузіраньне чужога шчасьця

Нарэшце аркестар узбурыўся бравурнымі акордамі, і стройны джэнтэльмэн, ці то шэф пратаколу, ці то гаспадар палаткі, вельмі прыгожым густым басам абвясьціў: «Лэдзі і джэнтэльмэны! Прэзыдэнт Злучаных Штатаў!» На зьмену маім недарэчным пакутам прыйшло сапраўднае захапленьне ад велічы ўбачанага. З часу сувораўскай вучэльні я вельмі люблю маршы, гімны, царкоўныя харалы, хаця заўсёды баюся растварыцца ў іх і страціць сваю індывідуальнасьць. Я глядзеў на твары амэрыканцаў, што паклалі руку на сэрца і засьпявалі.

Яны ня проста шавялілі вуснамі. *Усе ведалі словы.* Прэзыдэнт сьпяваў з усімі разам. Усе твары сталі прыгожыя. Мая суседка аж памаладзела. Я ледзь стрымліваў сьлёзы ад сузіраньня чужога шчасьця. Нейкае падобнае пачуцьцё я зьведаў у Рызе ў 1988 годзе падчас міжнароднага фальклёрнага фэстывалю, калі працэсія ўдзельнікаў у нацыянальных строях рухалася ад палацу спорту да Домскага сабору, а наша «Майстроўня» ў канцы калёны, як сіротка, замыкала той эўрапейскі марш.

Пасьля сьпеваў прэзыдэнт сказаў кароткую прамову і прапанаваў тост за заснавальнікаў амэрыканскай дэмакратыі. Пасьля абышоў з кілішкам пярэднія сталы, гаворачы словы прыязнасьці. Запыніўшыся каля нашага стала, ён пазнаў мяне, пэўна, па барадзе, бо я там быў адзін такі, і пажадаў «посьпехаў дэмакратыі *ў Расеі*», што мяне трошкі засмуціла. Пасьля гэтай кароткай урачыстасьці прэзыдэнт пайшоў да народу. Можна было заставацца ў палатцы, але я пайшоў паглядзець, як ён будзе размаўляць зь пікнікоўцамі. Я магу паклясьціся, што тое, што я ўбачыў, не было рэжысурай. Людзі стаялі купкамі, і кожная запрашала Буша да сябе. Запрашалі годна, з усьмешкамі, некаторыя падыходзілі бліжэй, ніхто нікога не адцясьняў. Былі людзі каўбойскага выгляду. Нарэшце адна дзяўчынка гадоў дзесяці ўхапіла прэзыдэнта за рукаў і пацягнула да свайго «бунгала». Прычым там, як я пасьпеў заўважыць, быў адзін даволі п'янаваты дзядзька. На яго засыкалі, але ён усё прамаўляў: «Я вітаю майго прэзыдэнта!» Буш падышоў да паходнай стойкі, і яму налілі таго, што пілі ўсе. Падобна, гэта быў глінтвайн. Ня ведаю, ці правяраў хто-небудзь гэты напой, ці гэта былі нейкія правераныя людзі, але ўсё выглядала вельмі штодзённа. Больш за ўсё мяне ўразілі людзі. Не было ніводнага зьбянтэжанага ці лісьлівага твару. На прэзыдэнта не глядзелі, як на сонца, як гэта, напрыклад, рэжысуюць расейскія тэлеслужбы на прамых этэрах з Пуціным. Спакой, годнасьць, сьвяточная бясьпечнасьць. Гэта былі свабодныя, упэўненыя ў сабе людзі. Калі меркаваць па тварах і манерах, сярод іх былі і зусім простыя. Гэта быў народ, грамадзянская супольнасьць. З пачуцьцём добрай зайздрасьці і павагі да гэтых людзей пакідаў я радзіму бацькі амэрыканскай Канстытуцыі.



Калі я пішу гэтыя радкі, у сьвеце буяе тэрарызм, ідзе вайна ў Іраку, прэзыдэнтам у Амэрыцы ўжо Буш-малодшы, які робіць і гаворыць шмат такога, што мне не заўсёды даспадобы, аднак гэта ніяк не сьцірае ў памяці добрых уражаньняў, што засталіся ад той паездкі. На памяць пра тую сустрэчу з амэрыканскім прэзыдэнтам у мяне ёсьць вельмі жывы здымак. Я там сам сабе падабаюся, бо маю годны выгляд, бязь ценю лісьлівасьці. Фатаграфія вісіць у мяне дома ў невялічкім амбітным «іканастасе», дзе мая сьціплая асоба засьвяцілася сярод міністраў, канцлераў ды генэралаў.

## Амбасадарства: няходжаным шляхам

*Краўчанка — першы кіраўнік МЗС. — Амбасада з чатырох чалавек. — Бухгальтэрыя ў цэляфанавай торбе. — Стратэгія і штодзень. — Прыгоды з айчынным чынавенствам. — Дыпляматычныя пернасьці: генэрал Гіц і генэрал Бачароў. — Лабізм і «новы карпаратызм». — Эўропа — наша каханьне здалёку.*

### Захад верыць у расейскую дэмакратыю

Гісторыя так захацела, што я ўвогуле быў першы афіцыйны амбасадар незалежнай Беларусі за мяжой, другім быў Уладзімер Сянько ў Францыі. Усё рабілася ўпершыню. Пра гэта можна пісаць асобную кнігу. Бачанае сьвежым вокам — самае каштоўнае.

Перш некалькі словаў пра агульную сытуацыю вакол прызнаньня Захадам сувэрэннасьці былых савецкіх рэспублік, у тым ліку і Беларусі. З таго, што мне давялося чытаць на гэтую тэму ў беларускай публіцыстыцы, найбольш адэкватнымі мне ўяўляюцца нататкі тагачаснага міністра замежных справаў Пятра Краўчанкі з ужо згадванай кнігі «Беларусь на распутье». Тады Захад вельмі асьцярожна і нават скептычна, калі не сказаць адмоўна, ставіўся да сувэрэнізацыі новых краінаў на Ўсходзе, пакладаючыся на геапалітычную стабільнасьць і разьвіцьцё дэмакратыі з апорай на ельцынскую Расею. Адпаведныя былі і настроі да ўсталяваньня дыпляматычных адносінаў. Да таго ж і наш бок, асабліва большасьць кансэрватыўных намэнклятурных чыноўнікаў з ураду і ЦК КПБ, баючыся адарвацца ад Масквы, нават не спрабавалі рэальна падлічыць выгады сувэрэнітэту, а толькі пужалі сваіх апанэнтаў выдаткамі на мяжу, мытні і дыпляматычныя прадстаўніцтвы. Дарэчы сказаць, і сёньняшні наш прэзыдэнт засьведчыў сябе як апалягет тых недавяркаў, калі быў яшчэ ў статусе шараговага дэпутата Вярхоўнага Савету. Калі я прыехаў праз паўтара году працы амбасады ў Боне на чарговую сэсію ў Менск і сказаў прэзыдэнту, што ягоныя ранейшыя страхі не пацьвердзіліся, амбасада зарабляе на консульскіх апэрацыях больш як мільён марак за год, а на сябе траціць менш за палову заробленага, ня лічачы «дывідэндаў» ад прамых кантактаў зь нямецкім бокам, кіраўнік дзяржавы фізіянамічна зрэагаваў адэкватна свайму характару, не жадаючы прызнаваць памылкі.

Гэты эпізод маёй першай сустрэчы з прэзыдэнтам, калі я ўжо быў амбасадарам, запомніўся яшчэ і таму, што тады ў фае будынку Дому ўраду, дзе месьціўся Вярхоўны Савет, мая зрокавая памяць сфатаграфавала непаўторны групавы партрэт новай эліты: каля ўваходу ў залю пленарных пасяджэньняў манумэнтальная пара — Фядута і Даўгалёў, а пасярод фае — ладнай паставы прэзыдэнт у атачэньні дробненькіх, тады яшчэ падхартаных, маладых «ваўчанят» — Кучынскі, Марыскін, Булахаў, Лябедзька… Забава для вока.

## Наш першы міністар замежных справаў

Трэба аддаць належнае Пятру Краўчанку: як першы міністар замежных справаў незалежнай Беларусі ён зрабіў шмат для закладкі падмурку нашых зьнешніх стасункаў. Пішу так не таму, што ў сваіх нататках пра першыя крокі беларускай дыпляматыі ва ўжо згаданай кніжцы Пётар Кузьміч не паскупіўся на станоўчыя эпітэты на мой адрас як першага амбасадара ў Нямеччыне. Паводле характару я — ня лідэр, але добра разумею, колькі часу патрабуе падобная арганізацыйная праца, якую ўзваліў на сябе Краўчанка на пачатку дзевяностых гадоў. Тыя, што папракаюць міністра Краўчанку ў асабістых амбіцыях, ня хочуць заўважаць, што амбіцыі, калі яны і былі, служылі аб'ектыўна на карысьць справе. Ён — *enfant terrible* свайго часу, толькі не прастадушны і ня вельмі адкрыты. Пазбаўлены ўсялякай мэтафізыкі, дынамічны, з добрымі дасьледніцкімі якасьцямі і выдатнай памяцьцю, ён быў, безумоўна, адной з самых яркіх асобаў кебічаўскага ўраду.

Я быў сьведкам, як ён рыхтаваўся да кожнай сустрэчы са знакавымі фігурамі замежжа, вывучаючы нюансы іхнага жыцьця, захапленьні, і ніколі не выпадаў з пратаколу. Мне запомніліся бліскуча праведзеныя сустрэчы ва ўрадавай рэзыдэнцыі ў Заслаўі з бацькам новай усходняй палітыкі Нямеччыны Гансам-Дытрыхам Геншэрам ды ізраільскім лідэрам нацыі, нашым земляком з Валожыншчыны, Шымонам Пэрэсам. Памятаю бліскучую лекцыю Пятра Кузьміча пра Беларусь у Таварыстве аматараў зьнешняй палітыкі Нямеччыны ў 1993 годзе, калі ён прыяжджаў на адкрыцьцё нашай амбасады ў Бон. Як натура па-свойму артыстычная, Пётар Кузьміч, як мне здавалася, па-свойму пакутаваў, калі абставіны цясьнілі яго ў цень грамадзкага жыцьця, але творчыя захапленьні і выключная працаздольнасьць рабілі яго на пэўны час самадастатковым. Сваю квазібязьдзейнасьць ён кампэнсаваў творчым удзелам у грамадзкіх акцыях: канфэрэнцыях, нацыянальных імпрэзах, публіцыстычных выступах, часта ахвяруючы пры гэтым без асаблівай рэклямы ўласныя сродкі. Некаторыя ўчынкі Краўчанкі ацэньваліся часткай грамадзкасьці крытычна, напрыклад, ягоны выхад з апазыцыі Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня і прыняцьце з рук прэзыдэнта пасады амбасадара ў Японіі. Гаварылі рознае. Аднак, на маё разуменьне, зла Краўчанка тады нікому не ўчыніў, хіба дадаў яшчэ адзін штрых у сваю біяграфію як амбівалентны прагматык, але для Беларусі быў на новай пасадзе далёка ня горшай кандыдатурай. Сакрамэнтальна новых ініцыятываў у прэзыдэнцкай Беларусі не пачынаў ніводзін амбасадар.

Пры афіцыйным усталяваньні дыпляматычных адносінаў Беларусі з ФРГ міністар Краўчанка засьведчыў сваю прафэсійную кампэтэнтнасьць тым, што прымусіў службу пратаколу МЗС Нямеччыны, якая мае ў сьвеце рэпутацыю адной з самых дасканалых, унесьці карэктывы ў тэкст афіцыйнага пагадненьня і паправіць выраз «усталяваць дыпляматычныя адносіны» на «аднавіць». Рэч у тым, што, працуючы над сваёй кандыдацкай дысэртацыяй па гісторыі дзяржаўных дачыненьняў БССР, асьпірант Краўчанка знайшоў у першакрыніцах зьвесткі пра тое, што яшчэ 9 красавіка 1923 году паўнамоцны прадстаўнік Савецкай

Расеі ў Бэрліне М. Красьцінскі на просьбу і ад імя ўраду Беларусі ўручыў даверчую грамату прэзыдэнту Германскай Рэспублікі Фрыдрыху Эбэрту. Перад гэтым, у 1922 годзе, Беларусь ратыфікавала Рапальскую дамову як сувэрэнная дзяржава. Пра гэта Краўчанка паведаміў у лістападзе 1990 году ашаломленаму кіраўніку дэлегацыі МЗС ФРГ Эбэргарту Гайкену, які прыехаў у Менск зь місіяй адкрыцьця германскага консуляту ў Беларусі. Пасьля кансультацый са сваім міністэрствам немцы мусілі пагадзіцца з настойлівым беларускім міністрам і ўжылі ў арыгінальным нямецкім варыянце дзеяслоў *wiederherstellen* (узнавіць) замест раней напісанага ў праекце *herstellen* (усталяваць). Пазьней мне немцы расказвалі, што гэтая гісторыя выклікала сапраўдны скандал у рэфэраце МЗС, які рыхтаваў праект пагадненьня пра ўсталяваньне дыпляматычных адносінаў ФРГ і Беларусі. Праўда, у 2002 годзе ў брашуры, прысьвечанай 10-годзьдзю міждзяржаўных адносінаў Беларусі і Нямеччыны, якая ўрачыста прэзэнтавалася ў Менскім беларуска-нямецкім адукацыйным цэнтры імя Яганэса Раў, ці то памылкова, ці то наўмысна немцы вярнуліся да сваёй фармулёўкі пра «ўсталяваньне» дыпляматычных адносінаў.

## Наша першая амбасада ў Нямеччыне

Краўчанка як міністар паставіўся вельмі разумна да фармаваньня складу супрацоўнікаў амбасады. Цяжка паверыць, што кандыдатуру на пасаду гандлёвага аташэ я падбіраў сам, адпрэчыўшы папярэдне дзьве прапановы Савету Міністраў як блатныя і некампэтэнтныя. Пасады консула і першага сакратара паводле рэкамэндацыі Краўчанкі занялі Васіль Марковіч і Віктар Чайчыц, праца якіх заслугоўвае самай высокай ацэнкі, — высокамаральныя людзі і прафэсіяналы. На пасаду гандлёвага аташэ я знайшоў маладога адукаванага спэцыяліста — Паўла Г., хлопца з украінскімі каранямі і мовай. Маючы дыплём акадэміі зьнешняга гандлю, добра ведаючы зьнешнеэканамічную спэцыфіку, ангельскую ды гішпанскую мовы, ён хутка авалодаў нямецкай і беларускай і адразу пачаў выдатна спраўляцца з апэратыўнымі задачамі. Тут лёс, падобна, пасьмяяўся з маёй прынцыповасьці, даверлівасьці і дабрыні. Хлопец аказаўся «маладым ваўком», які прыблізна праз год пачаў працаваць «пад сябе» і ў абыход карпаратыўнай і ўсялякай людзкай маралі дамаўляцца пра паслугі для менскіх высокіх чыноўнікаў, а потым — ужо ў прэзыдэнцкай Беларусі — насуперак усякім інструкцыям і палажэньням праз хаўрусаваньне з намесьнікам міністра Валер'ем Цапкалам выцыганіў сабе пасаду першага сакратара і пачаў дасылаць у Менск неафіцыйную інфармацыю аб працы амбасады, — тое, што ў савецкай практыцы называюць «стучать». Тое прызначэньне я ануляваў сваім загадам па пасольстве як незаконнае. Пачалася канфліктная перапіска зь міністэрствам. Уладзімер Сянько як міністар аказаўся мяккацелы, як авечка, і, падобна, ужо баяўся прэзыдэнцкага фаварыта Цапкалы, які перабег з каманды Шушкевіча да ягоных апанэнтаў і пачаў інтрыгаваць у апараце МЗС. Цяпер ён, дарэчы, завіхаецца мэнэджарам у беларускай «сылліконавай даліне». Потым Сянько ад'ехаў амбасадарам у Францыю. Цікава, што пазьней Павал Г., вярнуўшыся зь Нямеччыны

ў Менск, заслужыў давер быць кансультантам па курсавой працы старэйшага прэзыдэнтавага сына.

Але ўсе гэтыя непрыемнасьці прыйшлі потым. Напачатку наша, як бы сказалі немцы, «чатырохгаловае пасольства» самаадданa і дружна кінулася на асваеньне германскіх тэрэнаў. Ня маючы ні офісу, ні транспарту, ні бухгальтэрыі, а толькі невялічкі першасны запас фінансаў, наш дэсант высадзіўся ў Бон, як Рабінзон Круза на сваю выспу. На першы час (з пачуцьцём куртатай сувэрэннасьці і ўсьведамленьнем, што расейцы аднаасобна завалодалі савецкай нерухомасьцю за мяжой) мы знайшлі прытулак як падсуседзі ў іхнай амбасадзе (былой савецкай), атрымаўшы за памяркоўную плату маленькі пакойчык і за трыста марак на месяц арэнды старэнькі «Опэль-кадэт». Асноўнай крыніцай існаваньня для нас павінны былі стаць консульскія зборы. Мы штампавалі візы на шырокім падваконьні расейскага консульства. Памятаю, візу № 1 РБ у ФРГ я паставіў сам дэпутату Бундэстагу генэралу Вольфу менавіта там, па-заліхвацку пахукаўшы на пячатку. Потым расейцы дазволілі нам паставіць у фае свайго консульскага аддзелу маленькі столік з таблічкай «Візы ў Беларусь», за якім сядзеў наш консул Васіль Марковіч. Тут адразу ва ўлоньні афіцыйнага сяброўства з расейцамі ўзьнікла элемэнтарная канкурэнцыя за «пагалоўе»: да нашага прыезду расейцы выдавалі візы і для Беларусі, у тым ліку і транзытныя. А цяпер штодня мы адбіралі ў іх значныя сумы. Бывалі дні, калі консульскія зборы перавышалі дзьве тысячы марак. Псыхалягічна было вельмі цяжка працаваць. Мы калі-нікалі



былі згодныя ісьці насустрач немцам і працаваць пазьней або ў выходныя дні, асабліва калі былі вялікія групы з чарнобыльскіх ініцыятываў ці прывязаныя да заплянаваных у Беларусі падзеяў. Расейскі бок, аднак, на суботу і нядзелю закрываў тэрыторыю амбасады. Трэба было тэрмінова шукаць памяшканьне хаця б пад консульскія справы. Пра тое, як мы здабылі будынак для амбасады, я ўжо расказваў, калі згадваў пра свае песенныя захапленьні.

Усё прыходзілася рабіць, што называецца, «на маршы»: імправізаваную бухгальтэрыю ў выглядзе амбарнай кнігі для запісаў і двух цэляфанавых пакетаў, дзе зьмяшчаліся копіі візавых чэкаў і чэкаў выдаткаў на бягучыя патрэбы, а таксама тэрміновую дакумэнтацыю для зносінаў зь мясцовай гарадзкой адміністрацыяй, асабліва калі мы пачалі паступова абрастаць уласнай маёмасьцю, набытай за консульскія зборы. Як амбасадар я ўзяў курс на беларускае справаводзтва, для чаго прывёз зь Менску ўласную мэханічную друкавальную машынку зь беларускім шрыфтам: праз канфідэнцыйнасьць ня ўсе паперы можна было друкаваць на кампутары. Пабагацеўшы, мы набылі і электрычную друкарку. Сакрэтнай карэспандэнцыі ў нас амаль не было, хаця я сам ва ўсіх, як тады толькі пачыналі гаварыць, *public relations* імкнуўся ствараць Беларусі імідж самастойнай дзяржавы. Зь Менску ж трансьляваліся імпульсы, што схілялі да цеснай прывязкі да Расеі. Дастаткова сказаць, што, ня маючы адпаведнага памяшканьня для прыёму канфідэнцыйнай інфармацыі, амбасада мусіла на загад МЗС карыстацца паслугамі расейскага боку. Напрыклад, некаторыя дакумэнты, што прыходзілі

закрытай кур'ерскай поштай, я прачытваў і пакідаў на захаваньне ў спэцыяльным «экранавана абароненым» пакоі расейскай амбасады, дзе ў нас быў асобны сэйф. Я не сумняваўся, што дублікат гэтага ключа быў і ў расейскага боку. Праўда, супрацоўнікаў расейскіх спэцслужбаў у нас у штаце ўжо не было, што я, напрыклад, бачыў у нашай місіі пры ААН у ЗША, калі там працаваў Генадзь Бураўкін. У мяне захавалася фатаграфія з другім сакратаром нашай аанаўскай місіі ў залі пленарных пасяджэньняў ААН каля таблічкі «Беларусь». Праз тры гады я ўбачыў на экране тэлевізара таго былога другога сакратара, таварыша Кацёлкіна, але ўжо ў расейскай генэральскай форме. Ён займаў тады вялікую пасаду ў «Росвооружении». Вось такія мэтамарфозы.

## Макразадачы і штодзень

Праца амбасады на першым часе значна спрасьцілася дзякуючы маім ранейшым знаёмствам зь нямецкім бокам, калі я быў старшынём камісіі замежных справаў у Вярхоўным Савеце. Прыехаўшы ў тагачасную сталіцу Бон, дзе разьмяшчаўся і Бундэстаг, і ўрад, і ведамства канцлера, я меў, як кажуць немцы, у кожным будынку знаёмых людзей і шматлікія адрасы і візытоўкі прадстаўнікоў нямецкага бізнэсу. Выгадна здабытая рэзыдэнцыя пад пасольства і купленыя «па сяброўскай цане» (афіцыйная бізнэсовая фармулёўка) два аўтамабілі сярэдняй і адзін вышэйшай клясы гавораць самі за сябе. Праўда, усё гэта я зрабіў без кансультацыяў з МЗС, за што атрымаў афіцыйны прачуханец, хаця і зэканоміў роднай дзяржаве каля 100 тысяч марак з улікам таго, што



тры першыя месяцы езьдзіў бясплатна на шыкоўнай экспэрымэнтальнай «аўдзі», якая была клясай ня горшая, чым «мэрсэдэс» расейскага амбасадара. Такую сяброўскую, часткова і рэклямную, паслугу амбасадзе зрабіла фірма «Фольксваген/Аўдзі» пры падтрымцы шэфа праектаў пэрспэктыўных мадэляў спадара Гёдэвэра, які на пачатку дзевяностых двойчы наведваў Беларусь. Пазнаёміў мяне зь ім Яўген Будзінас, які выношваў ідэю мабілізаваць урад і арганізаваць у Беларусі зборку танных «фольксвагенаў». Спадар Гёдэвэр ужо на пэнсіі, цяпер ён фінансавы дырэктар фонду Міхаіла Гарбачова «Зялёны крыж».

У сувязі з тым люксавым аўтамабілем згадваецца адна цікавая, амаль дэтэктыўная гісторыя. Ня маючы пакуль свайго гаража, мы ставілі гэтую бліскучую ляльку за пэўную плату ў расейскі аўтамабільны ангар, але паводле правілаў бясьпекі кожны новы аўтамабіль мусілі даглядаць супрацоўнікі спэцслужбы амбасады: ці няма там якой электроннай апаратуры для збору інфармацыі? І вось у прызначаны час іду я разам з нашым вадзіцелем на сустрэчу з афіцэрам бясьпекі расейскай амбасады. Па тэлефоне сакратарка не назвала мне прозьвішча афіцэра, а толькі месца на тэрыторыі амбасады (каля службовага ўваходу ў гараж), дзе ён мяне будзе чакаць. Набліжаюся да прызначанага месца і вачам сваім ня веру: стаіць каля ўваходу... Фёдар Клімчук, навуковы супрацоўнік сэктару дыялекталёгіі Інстытуту мовазнаўства АН БССР! Праўда, як бы ніжэйшы ростам і — што зразумела для замежнага прыкіду — вельмі ахайна апрануты. Набліжаюся і заўважаю, што гэта — як бы і ня Фёдар, бо мае менш сівізны ў

валасах, але ўжо не магу выйсьці з «акропнага» стану і неяк ненатуральна тэатральна вітаюся: «Дзень добры, таварыш Клімчук!» Мой візаві таксама ніякавее і пытаецца, адкуль я яго ведаю. Я зноў пачынаю думаць, што гэта Фёдар, бо зь ягоных вуснаў ліюцца палеска-драгічынскія фанэмы (у фанэмах я спрактыкаваны ня горш за прафэсара Хігінза), хаця гаворыць ён па-расейску. Нарэшце высьвятляецца, што перада мной — родны брат Фёдара Клімчука, зь якім я працаваў разам у Інстытуце мовазнаўства, толькі маладзейшы за брата на паўтара году. Партрэтнае падабенства — ашаламляльнае. Такі цесны сьвет, і так часта беларусы становяцца захавальнікамі расейскай дзяржаўнасьці! Аднак гэты факт, што запаў у маю падсьвядомасьць з пэўнымі гістарычнымі рэмінісцэнцыямі, не перашкодзіў у нашых далейшых прыязных адносінах з шэфам бясьпекі расейскай амбасады ў Боне, народжаным у Драгічынскім раёне Беларусі. Калі мы ўжо мелі амбасаду і нават лазьню, я запрашаў яго некалькі разоў на зямляцкія пасядзёнкі. На жаль, гэты сьціплы беларус, які служыў расейскай дзяржаве, празь некалькі гадоў памёр ад раку страўніка.

Праца амбасады і амбасадара складалася напачатку з вырашэньня бягучых праблемаў, што паціху перарасталі ў «тактыку і стратэгію». Нямеччына мае шаснаццаць фэдэральных земляў. Паводле пратаколу амбасадар, акрамя візытаў да кіраўніцтва краіны, павінен наведаць усе фэдэральныя землі. Гэта называецца па-нямецку *Antrittsbesuche* — візыты пры ўступленьні на пасаду. Цягнуцца яны практычна ўвесь тэрмін знаходжаньня і запаўняюцца зьместам, які дыктуецца агульнай зьнешняй палітыкай абодвух бакоў. Гэта — не парадныя абеды, гэта чорная праца, да якой трэба рыхтавацца. Падрыхтоўка перш за ўсё інфармацыйная.

Маім вялікім клопатам і адначасна дапамогай былі чарнобыльскія ініцыятывы, што цэлай сеткай пакрывалі фэдэральныя землі. За ўвесь тэрмін я зрабіў, калі меркаваць па дзёньнікавых запісах, пяцьдзясят тры «чарнобыльскія» паездкі. Калі-небудзь праяжджалі за дзень 700—800 кілямэтраў. Пад’ём у пяць раніцы, вяртаньне — гадзіны ў дзьве ночы. Прыходзілася наведваць шпіталі, выступаць у царкоўных абшчынах, муніцыпалітэтах, стаяць у так званых «апэльсінавых ланцугах», калі зьбіралі харчаваньне для дзяцей, што прыяжджалі на адпачынак, нават выступаць чортам на Рэйнскім маскарадным балі падчас карнавалу ў гарадку Бінген.

Да мяне ў Нямеччыне ўжо былі пасланцы Беларусі — чарнобыльскія дзеці. Ішло ўзаемнае пазнаваньне. Дэпутатка Бундэстагу Эрыка Шухарт нават напісала пра Беларусь кнігу «Ціхая рэвалюцыя чарнобыльскіх дзяцей», якую мне прыйшлося грунтоўна рэдагаваць. У кніжцы былі выдатныя эпізоды. Вяртаецца зь Нямеччыны дзіця пасьля адпачынку дадому. Бацькі — баптысты. Дзіця пытаецца ў бацькоў: «Вось вы працуеце ад цёмнага да цёмнага, ня курыце цыгарэтаў, не п’яце гарэлкі. Чаму мы ў Беларусі жывем дрэнна, а немцы жывуць добра?» Прачытаўшы такое, лёгка разумееш, чаму наша нэакамуністычнае кіраўніцтва не вітае выезду чарнобыльскіх дзяцей за мяжу і змагаецца супраць няўрадавых арганізацыяў,

што навязваюць непасрэдныя кантакты з чарнобыльскімі ініцыятывамі за мяжой.

Да маладой незалежнай Беларусі ў Нямеччыне ставіліся выдатна. Праўда, сьпярша немцы ўсё спадзяваліся, што лякаматывам дэмакратыі для нас стане Расея, і ўсё раілі нам трымацца сваёй суседкі. Мая папярэдняя парлямэнцкая дзейнасьць у якасьці старшыні камісіі замежных справаў і зьнешнеэканамічнай дзейнасьці шмат дапамагала. Тут, у Менску, я ўжо пазнаёміўся з Гансам-Дытрыхам Геншэрам, якога звалі архітэктарам нямецкай усходняй палітыкі, з прафэсарам Горнгусам, старшынём камісіі Бундэстагу па замежных справах, з прадстаўнікамі апазыцыі ў Бундэстагу. Добрыя нефармальныя дачыненьні склаліся з прэзыдэнтам ФРГ Рыхардам фон Вайцзэкерам адразу пасьля ўручэньня даверчай граматы. Фон Вайцзэкер — надзвычай цікавы чалавек. Выдатны знаўца эўрапейскай і амэрыканскай культуры, музыкі, адмысловы танцор, плывец, гулец у тэніс і гольф. Ягоны бацька ў свой час быў статс-сакратаром замежных справаў пры Гітлеру, а потым амбасадарам Нямеччыны ў Ватыкане да канца вайны. Аднак у ФРГ дзеці сапраўды не адказвалі за бацькоў. У час адной неафіцыйнай вячэры прэзыдэнт Вайцзэкер пазнаёміў мяне са сваім братам. Брат прэзыдэнта ФРГ Карл фон Вайцзэкер — выдатны вучоны: фізык, філёзаф і тэоляг у адной асобе. У 2007 годзе ён памёр ва ўзросьце 92 гадоў. У наш час ён працягваў традыцыі навуковых дасьледаваньняў, закладзеныя яшчэ ў сярэднявеччы Сьпінозам і скіраваныя на «інтэграванае разуменьне Сусьвету з улікам наяўнасьці Ўнівэрсальнага творцы, які стварыў Прыроду паводле гарманічных фізычна-матэматычных законаў». Потым я яшчэ раз слухаў яго ў навуковым таварыстве імя Ляйбніца. Ён рабіў уражаньне незямнога чалавека, спакойнага і бяздоннага. Яму, дарэчы, раней, чым брату Рыхарду, рабілі прапанову стаць прэзыдэнтам ФРГ, але ён адмовіўся.



## Грошы для сувэрэннай Беларусі

Дачынілася наша амбасада і да транспартаваньня нацыянальнай валюты зь Нямеччыны ў Менск. Мала хто памятае, як на пачатку дзевяностых гадоў вырашалася гэтая праблема. Камуністычная большасьць Вярхоўнага Савету, у тым ліку і цяперашні прэзыдэнт, катэгарычна не прымала ідэі стварэньня ўласнай фінансава-банкаўскай і грашовай сыстэмаў. Выступы Зянона Пазьняка, Уладзімера Заблоцкага, Юрася Беленькага, якія ня раз узьнімалі гэтае пытаньне на пленарных пасяджэньнях, выклікалі зьдзекліва-рабскі сьмех апалягетаў адзінай расейска-беларускай дзяржавы: як гэта мы адны безь вялікага рускага брата будзем існаваць? Пытаньне ўвядзеньня адзінай валюты мусолілася гэтак жа бясконца, як дагэтуль пераждоўваецца стратэгія адзінай «саюзнай дзяржавы».

Спачатку ўвялі паралельна з савецкімі рублямі беларускія купоны з выявай зьвяркоў, як у Літве, потым переназвалі іх на разьліковыя білеты. Яны мелі абмежаваную функцыю: на іх спачатку можна было толькі купіць галоўныя харчы — малако, хлеб, кілбасу. Разьліковыя білеты, як сапраўдныя купюры, мелі восем элемэнтаў абароненасьці. Яны атрымалі назву «зайцы» і ў штодзённай сьвядомасьці засталіся

як сымбаль слабасьці беларускай грашовай сыстэмы і нашага сувэрэнітэту, што давала нагоду журналістам-«шасьцёркам» з комплексам уласнай непаўнавартаснасьці замаўляць мастакам карыкатуры на беларускі рубель побач са сваімі глыбакадумнымі артыкуламі. Калі не было яшчэ выразных памежных службаў Беларусі і фактычна адсутнічала савецкая мяжа, праз прыбалтыйскую «дзірку» ўвішныя хлопцы, блізкія да ўраду Кебіча, рабілі шалёныя грошы, мяняючы зайцы на расейска-савецкія купюры.

Сам старшыня Саўміну Кебіч займаў у гэтым пытаньні ня вельмі выразную пазыцыю і вёў своеасаблівую гульню. Маючы разьліковыя білеты нашага Нацыянальнага банку, ён вёў вязкія перамовы з Расеяй пра пераход Беларусі на расейскую валюту, але адначасова стварыў наш уласны «Дзяржзнак» і пачаў рыхтаваць выпуск беларускай валюты. Ад апазыцыі БНФ да гэтай справы дачыніўся дэпутат Слабчанка, які разам зь людзьмі з Савету Міністраў спрабаваў навязаць кантакты з заходнімі фірмамі, што спэцыялізаваліся на выпуску каштоўных папераў і грашовых знакаў. Справа разгорталася з дэтэктыўнымі і цёмнымі авантурамі. Без публічнай агалоскі ў 1993 годзе ўрад выдзеліў 20 мільёнаў даляраў на друкаваньне ў Нямеччыне беларускіх нацыянальных рублёў. Яшчэ будучы ў Менску дэпутатам, я бачыў эскізы новых беларускіх грошай, што рабіліся беларускімі мастакамі. Там ужо былі не зьвяры, а вядомыя беларусы. Памятаю, апазыцыя БНФ была за тое, каб нашыя грошы называліся талерамі, але камуністычная большасьць вырашыла застацца пры рублях — так спакайней.



Ужо амбасадарам у Нямеччыне я выпадкова пазнаёміўся з адным беларускім прадпрымальнікам у малінавым пінжаку, які быў у Нямеччыне на даручэньне кебічаўскага віцэ-прэм’ера Косьцікава. Ён паказаў мне дакладныя копіі новых беларускіх рублёў і пад сакрэтам паведаміў, што яны якраз друкуюцца тут у Нямеччыне. Грошы былі вельмі прыгожыя, нагадвалі агульнай фактурай нямецкія маркі і мелі выявы Скарыны, Багдановіча, Купалы, Коласа і нават... Паўлінкі, беларускай прыгажуні. З будынкаў запомніліся Акадэмія навук, Нацыянальны банк. На ўсіх была «Пагоня» і аўтограф Багданкевіча — камісарска-закручасты. Было радасна бачыць гэтыя грошы. Найбольшая купюра была сторублёўка. Той бізнэсовец сказаў, што рэформа пройдзе, калі назапасяць валюты, каб прыраўняць рубель да даляра. Гэта трохі засмучала, бо было зразумела, што да гэтага вельмі далёка. Жыўцом такіх рублёў мне не давялося ўбачыць. Праўда, наша амбасада дачынілася да адгрузкі спэцыяльных паддонаў з надрукаванымі грашыма з Франкфурцкага аэрапорту ў Менск. У гэтым працэсе быў задзейнічаны наш консул. Дзе цяпер тыя грошы — невядома. Чуў, што яны ляжаць у нейкім сховішчы, быццам бы ў Магілёве. Невясёлая алегорыя — грошы з «Пагоняй» у бэтонным сутарэньні, схаваныя ад народу.

Наша амбасада мела дачыненьне і да друкаваньня беларускіх пашпартоў з «Пагоняй», мы сачылі за выкананьнем кантракту на пастаўку друкавальнай машыны зь Нямеччыны. Мне давялося везьці з Кёльну цягніком у дыпляматычным багажы ўсё гэтае начыньне да Менску. Для гэтага спатрэбілася асобнае купэ. Было ра-

дасна ўсьведамляць: хутка мы будзем мець свае пашпарты! Памежнікі і мытнікі — і нямецкія, і польскія — шчыра віншавалі беларускага амбасадара з добрым пачынам. Нашы ў Берасьці чамусьці ня радаваліся. Можа, гэта былі па духу ня нашыя, а расейскія, ці гэта былі нашыя, па-беларуску абыякавыя? На нашай мяжы настрой сапсаваўся.

## Ельцын у Бэрліне

З германскіх сустрэчаў у мяне засталіся некаторыя асабістыя ўражаньні ад Ельцына падчас ягонага бэрлінскага візыту ў траўні 1994 году, калі я там быў некалькі дзён у пачаце высокіх гасьцей як амбасадар Беларусі на цырымоніі выводу савецкіх войскаў зь Нямеччыны. Дам толькі некалькі штрыхоў.

Супрацьстаяньне Ельцына і былой савецкай намэнклятуры зь ліку высокіх вайсковых чыноў я адчуў эмацыйна ў Бэрліне і Патсдаме 5—9 траўня ў час цырыманіяльных мерапрыемстваў. Чаканы прыезд Ельцына, пра які шмат гаварылася ў нямецкіх мэдыях, адклаўся на два дні. Замест яго прыехаў «прадстаўнік прэзыдэнта РФ» — высокі хударлявы чалавек някідкай зьнешнасьці гадоў сарака пяці, з гладка зачасанымі назад валасамі, ня вельмі ўсьмешлівы, ня вельмі маўклівы. Ніякі. Такія бываюць звычайна супрацоўнікі КДБ. Прозьвішча ягонае назвалі напачатку разы два, а потым зьвярталіся «Таварыш прадстаўнік прэзыдэнта Расейскай Фэдэрацыі». Ён усюды фігураваў як першая асоба. Ніхто з маіх знаёмых ягонага прозьвішча таксама не запомніў. Генэральская сьвіта крывілася ад ягонай прысутнасьці і паміж сабою дазваляла колкія заўвагі



на адрас Ельцына — разбуральніка Саюзу. Дэманстрацыяй незадаволенасьці стаў пачатак урачыстага вечару ў Патсдаме, былым адміністрацыйным цэнтры зямлі Брандэнбург у ГДР, дзе была разьмешчаная большасьць савецкіх войскаў. У прэзыдыюме сядзелі «прадстаўнік Ельцына», начальнік Заходняй групы войскаў генэрал Бурлакоў, амбасадары трох славянскіх рэспублік былога СССР (Церахаў, Піскавы і Садоўскі) і адзінаццаць маршалаў Савецкага Саюзу, колішніх генэралаў-вайскаводаў Заходняй групы войскаў. Маршалы — усе сівыя, увешаныя баявымі ўзнагародамі. Прагучалі першыя акорды новага расейскага гімну — «Патрыятычнай песьні» Глінкі. Большасьць прысутных ня ведала мэлёдыі. Калі ж заля ўстала і маршалы зразумелі, што гэта гімн, двое пакінулі прэзыдыюм. Адзін зь іх стаў збоку ад заслоны (бакавым зрокам я бачыў гэта зь месца ў прэзыдыюме) і заплакаў. Божа літасьцівы, падумалася мне, што гэта будзе з Расеяй, калі ўсё так рушыцца. Гэтыя прыгожыя сівыя маршалы і гэты безаблічны прадстаўнік прэзыдэнта... Я сам быў у нейкай эмацыйнай прастрацыі.

Непачціва паводзілі сябе высокія вайсковыя чыны і падчас бліскучага выступу Ельцына ў Тэатры на Жандармэнпляц у Бэрліне раніцой 8 траўня, які адбыўся пасьля музычнай урачыстай увэртуры прэзыдэнцкага аркестру і ашаламляльна прыгожага сьпеву Алены Абразцовай. Я сядзеў сярод амбасадараў у трэцім радзе паводле лацінскага альфабэту (Беларусь) і бачыў зьдзіўленьне ангельскага прэм'ера Джона Мэйджэра, ужо тады вельмі хворага францускага прэзыдэнта Франсуа Мітэрана, канцлера Гэльмута Коля ды іншых эксцэленцыяў, калі

пахмеленыя пасьля ўчорашняга прыёму ў пасольстве, ужо «разжалаваныя» Ельцыным тлустыя генэралы з ЗГВ дэманстратыўна гучна размаўлялі ў прыцішанай пачцівай залі.

У час бэрлінскіх урачыстасьцяў праявіліся надзвычай яскрава тыя рысы характару Ельцына, якія далікатна называюць экстравагантнымі. Баюся здацца занадта арыгінальным, але скажу: у Бэрліне ня ўсё было так страшна, як расьпісалі расейскія журналісты. Так, Ельцын быў неадэкватна вясёлы і адкрыты для дзеяча такога рангу, але для звычайнага расейца — зусім нармальны. Дырыгаваў паліцэйскім аркестрам і спатыкнуўся. Усяго толькі. Нямецкія журналісты гэтага не заўважылі. Паказалі адзін раз у жывым этэры і здымкаў у газэты не давалі. Толькі напісалі: Ельцын быў вясёлы, нават спрабаваў дырыгаваць паліцэйскім аркестрам. Ельцын быў сапраўды раскаваны і неардынарны, як народны самадзержац, што прыехаў даць Эўропе свабоду. На прыёме ў расейскай амбасадзе ён раз-пораз гаварыў маршалам: *«Ну что, дадим немцу свободу?»* Пасьля ранішняй урачыстасьці ў Тэатры на Жандармэнпляц Ельцын выйшаў на плошчу прымаць рапарт генэрала Бурлакова пра вывад войскаў, які цягнуўся хвіліны паўтары. Генэрал на памяць пералічваў назвы вайсковых аддзелаў і віды ўзбраеньняў (нават назваў колькасьць гаўбічных гарматаў). Ельцын, як кажуць, напалову вуха слухаў рапарт і ўладным позіркам абводзіў пачціва выстраенае карэ высокіх гасьцей па пэрымэтры плошчы. Прымаючы «дэфіле» нямецкага кіраўніцтва і робячы ўрачысты абход гасьцей, ён «забыўся» на германскіх урадоўцаў, парушыў пратакол і хвілін на пяць затрымаўся каля Зыкінай, Кабзона і Нямцова... Адны казалі — хамства, другія — вальяжнасьць пераможцы.



Я сам ня быў прэзыдэнтам, але грэшны: пасьля прыняцьця Дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце БССР, выпіўшы ў кабінэце прэм’ера Кебіча сымбалічны кілішак разам з дэпутатамі апазыцыі, выйшаў на плошчу, залез на трансьляцыйны аўтобус Беларускага тэлебачаньня і засьпяваў разам з плошчай купалаўскую «А ў бары-бары тры дарожанькі». Гадоў трыццаць таму, будучы ў Ленінградзе з аўстрыйскай турысцкай групай, я бачыў прэм’ер-міністра Канады П’ера Эліёта Трудо, лысаватага сьпераду, але з доўгімі ззаду, як у тынэйджэра, валасамі, які пасьля прыёму ў Ленсавеце на добрым падпітку ў парушэньне пратаколу сеў на матацыкл міліцэйскага суправаджэньня і праехаў некалькі кругоў вакол Александрыйскай калёны, трошкі зачапіўшы яе, потым выйшаў да натоўпу і пачаў хваліць «савецкі Гарлей». Пра гэта гаварыў увесь Ленінград, але бяз злога сарказму. Ці згадайце Фідэля Кастра, які ў добрым настроі бягом бег уніз па адхонах Кургану славы, чым шакаваў савецкіх кадэбістаў. Я думаю, што яшчэ зьявіцца добразычлівае дасьледаваньне пра хваравітую і ўяўную залежнасьць Ельцына ад эмацыйнага допінгу. Тут ня ўсё так банальна проста. Удаваная прастата Ельцына, на мой погляд, часта дапамагала яму ў няпростых сытуацыях.

Барыс Ельцын, як і ягоная жонка, быў чалавек шчыры і добрай душы. Цяжка сабе ўявіць, каб Ельцын, як Пуцін, мог сказаць пра застрэленую апазыцыйную журналістку Палітkоўскую: «Яе сьмерць нарабіла Расеі большую

шкоду, чым ейныя артыкулы». Калі забілі Ўладзіслава Лісьцева, які ня раз крытыкаваў і прэзыдэнта, Ельцын прыйшоў у Астанкіна на грамадзянскую паніхіду, знайшоў словы суцехі для блізкіх і мужнасьць прызнаць, што ўлада нясе адказнасьць за крымінагенную сытуацыю. Я цяжка сабе ўяўляю, каб Ельцын, менш публічна набожны, чым Пуцін, мог на дзяржаўным канале тэлебачаньня радавацца нованароджаным шчанятам лябрадорскай сучкі ў той дзень, калі ў Есентуках яшчэ адкопвалі ахвяраў тэрарыстычнага акту. Гэта было 9 сьнежня 2003 году. Напярэдадні стала вядома пра тэракт, які забраў больш за сорак жыцьцяў. Я не магу на гэта забыцца. Усё пазнаецца ў параўнаньні.

Што значыць фігура Ельцына для Беларусі? Наша незалежнасьць не звалілася зь неба, як лічаць некаторыя. Аднак роля Ельцына тут немалая. Для беларусаў ня так важныя тагачасныя эмацыйныя імпульсы расейскага прэзыдэнта ў час прыняцьця рашэньня ў Віскулях. Былі ўласныя амбіцыі супраць Гарбачова ці не — неістотна. Гістарычны выбар быў слушны і нам на карысьць. Нішто не магло зьляпіць трэснутай імпэрыі. Праект «саюзнай дзяржавы», ініцыяваны беларускім бокам і падтрыманы Ельцыным, які працягваецца вось ужо больш за дзесяць гадоў, яшчэ не атрымаў канчатковай гістарычнай ацэнкі для лёсу беларускай незалежнай дзяржаўнасьці. Помнім мы і ельцынскія геапалітычныя праекты для Расеі, што пачала шукаць сваю новую ідэнтычнасьць пасьля страты імпэрскай велічы, дзе незалежнай Беларусі было мала месца. Але пакінем расейцам права свайго разуменьня ўласнай ролі ў сёньняшнім сьвеце.



Барыс Ельцын, як Барыс Гадуноў, «цараваў» у час гістарычных зыгзагаў і закалотаў. Шукаў, рабіў памылкі, каяўся. Нацыянальныя прарокі былі з абодвух бакоў, гаварылі голасам дзяржаўных мужоў і блазнаў, народ то маўчаў, то пагражаў бунтам. Праведнікі абодвух бакоў ішлі пад кулі і падымаліся на танкавыя вежы. Маэстра Растраповіч памяняў віялянчэль на аўтамат Калашнікава і стаў побач зь Ельцыным. Гэта не была апэрэта. Гэта была жывая Расея ва ўсім ейным неўладкаваным трыюмфе і трагедыі. Сэрца Ельцына перастала біцца ўсяго на некалькі дзён раней, чым замоўкла віялянчэль Растраповіча. Кажуць, што Ельцын вельмі перажываў брутальны разгон «Маршу нязгодных» на вуліцах Масквы і нібыта сказаў: «Мы так не рабілі». Можа, гэта народная легенда. Барыс Ельцын мучыўся, як Расея. Ён быў сам яе супярэчлівым увасабленьнем...

## Пустыя клопаты і пратакольныя хітрасьці

Я не прыхільнік аўтарытарных мэтадаў кіраваньня, якімі карыстаецца наш першы прэзыдэнт, але, згадваючы свае прыгоды зь беларускім чынавенствам у Нямеччыне на пачатку дзевяностых гадоў, я часам схільны падзяляць ягоную брутальнасьць у адносінах да сваіх клеўрэтаў. Не магу сабе ўявіць, каб такое было магчыма сёньня, як тое было пры Кебічу ў той «пераходны пэрыяд».

Што б ні казалі грамадзяне старой даты, канец СССР і дзяржаўны сувэрэнітэт былых рэспублік вольным хмелем напоўніў сэрцы грамадзянаў. Здарылася невераемнае: стала магчы-

ма адносна лёгка выехаць за мяжу, убачыць сьвет, нешта купіць, завязаць карысныя знаёмствы. Постсавецкія чыноўнікі, маючы ўжо сваю ня вельмі мазольную капейчыну і доступ да сьціплай валютнай казны, як кузуркі, са службовымі і нават дыпляматычнымі пашпартамі абляпілі замежжа. У пасольстве рэдка быў які тыдзень, каб ад высокіх начальнікаў зь Менску ці вобласьці не было званкоў ці факсаў з просьбай, рэкамэндацыяй ці нават патрабаваньнем паспрыяць, даць машыну, сустрэць, забясьпечыць перакладчыкам. Каштавала вялікіх нэрваў і нават хітрасьці прывучыць усіх начальнікаў зьвяртацца ў Міністэрства замежных справаў і ўсё рабіць праз іх. Начальнікі ўпраўленьняў Савету Міністраў, не гаворачы ўжо пра міністраў і намесьнікаў, ніяк не хацелі зьвяртацца ў МЗС. А ў амбасадзе было ўсяго чатыры дыпляматы і тры машыны. Амбасаду ліхарадзіла. Прыходзілася даводзіць, адбівацца, лаяцца, а калі-небудзь размаўляць па-мацернаму. Гэта гучыць дзіка, але як былы член прэзыдыюму Вярхоўнага Савету і дзейны дэпутат я часам карыстаўся ў тэлефонных канфліктных размовах гэтай «трэцяй» мовай, прынятай у калідорах улады, і гэта дапамагала. Для мяне гэта не было надзвычайным здарэньнем, бо падобнай музыкі я ўжо наслухаўся ва ўладных кабінэтах.

Выпадкі былі самыя неверагодныя. Уявіце сабе сытуацыю. TACIS фінансуе навучаньне тэхнічных спэцыялістаў тэлекамунікацыяў у Бэрліне. Зь Менску прыяжджае не інжынэр, а новапрызначаны старшыня Беларускага тэлебачаньня таварыш Кісель, фактычна міністар, ніякай мовай не валодае. Прыяжджае на два дні



раней, бо так лётае самалёт. Гатэлю няма, сваіх грошай траціць ня хоча ці ня мае. Сядзіць галодны ў вэстыбюлі ў Бэрліне. Прымаю гістэрычны званок зь Менску зь Дзяржтэлерадыё: вырашыце пытаньне! Як?! МЗС таксама: «Падумайце і дапамажыце!» Званю ў Бэрлін Васілю Лявонаву. Ён лічыцца ў сьпісах пасольства, хаця фактычна — прадстаўнік Кебіча ў Нямеччыне. Працуе паводле свайго пляну, ня ведаю, чым займаецца. (Мае дакладныя запіскі ў Саўмін пра статус Лявонава закончыліся нічым.) Лявонаў едзе ў гатэль, забірае Кісяля дадому, корміць-поіць, кладзе спаць. Дарэчы сказаць, у Васіля Лявонава — залатая жонка, настаўніца паводле адукацыі.

Або яшчэ весялейшая гісторыя. У канцы 1994 году з высакакляснага бэрлінскага гатэлю «Maritim» прыходзіць да нас у амбасаду ў Бон факс, мэтры тры даўжыні: пяць грамадзянаў Беларусі, сярод іх адзін член ураду і два высокапастаўленыя чыноўнікі, за тры дні спустошылі чатыры міні-бары, не разьлічыліся за тэлефонныя размовы і зьніклі. У нямецкіх гатэлях рэгістрацыя пастаяльцаў не такая строгая, як у нас. Пры выпісцы звычайна правяраюць так званыя *extras* (тэлефон, саўна, заказы ў нумар), а інфармацыя пра міні-бар прымаецца, як правіла, напавер. Калі знаходжаньне гасьцей аплачвае нямецкі бок, кантроль можа ўвогуле адсутнічаць. Як гэта атрымалася з высокімі беларускімі гасьцямі, — цяжка сказаць. Дырэкцыя прасіла дапамагчы знайсьці пастаяльцаў ці коштам амбасады пакрыць выдаткі на суму каля васьмісот марак, інакш гатэль зьвернецца ў Інтэрпол (1 даляр раўняўся тады 1,49 маркі). У факсе поўная раздрукоўка асар-

тымэнту міні-бараў. Аднаго піва — трыццаць дзьве пляшкі. Шлю тэрмінова прабачэньні ад імя пасольства на адрас гатэлю, спрабую кваліфікаваць усё як непаразуменьне. Па прозьвішчах знаходжу тэлефоны найбольш важных асобаў у тэлефонным даведніку Саўміну. Адзін зь іх віцэ-прэм’ер. Тэлефаную. Кажа, даў грошы аднаму члену дэлегацыі (былы старшыня аблвыканкаму) для разьліку, а той, пэўна, забыўся, бо быў не зусім цьвярозы. Ня ведаю, як яно там было на самой справе. Паведамляю віцэ-прэм’еру нумар банкаўскага рахунку гатэлю, раю зрабіць тэрміновы перавод грошай і паведаміць у амбасаду, інакш вымушаны буду паведаміць пра здарэньне ў адміністрацыю прэзыдэнта. Усё закончылася мірам. Да Інтэрполу не дайшло.

Гэта былі проста кур’ёзныя выпадкі. Складана выглядала сытуацыя з праектамі TACIS, дзе ў якасьці пасярэднікаў паміж Брусэлем і Беларусьсю выступалі нямецкія юрыдычныя ці фізычныя асобы. Тут нашы чыноўнікі разам з Брусэлем і пасярэднікамі спаборнічалі, як, дзе і каму больш адшчыпнуць. Пра гэта я пісаў больш падрабязна ў частцы пра каламутны бізнэс на пачатку перабудовы. Для амбасады гэта значыла наступнае: нейкая асоба ці арганізацыя-пасярэднік зь Нямеччыны раптам выходзіць на амбасаду і патрабуе, як прадстаўнік ураду Беларусі і Брусэлю, зрабіць тое й тое. Пры гэтым ня мае ніякай «ксівы», а толькі паведамляе, што, напрыклад, пасьлязаўтра ў Бон прыяжджае такі й такі міністар зь Беларусі. А мы нічога ня ведаем. Прыходзілася шукаць па тэлефоне таго міністра зь Менску, высьвятляць, што там і як... Уявіце сабе, каб, напрыклад, амбасада Нямеччыны ў Менску ня ведала, што сюды прыяжджае фэдэральны міністар! Думаю, што цяпер нашым дыпляматам у гэтым сэнсе працаваць лягчэй.



## Гэтыя небясьпечныя журналісты...

Была яшчэ адна цяжкасьць: нашы чыноўнікі за мяжой спрабавалі зь першага дня знаёмства праз гарэлку, сувэніры, а часам і празь перадачу пэўнай інфармацыі заводзіць занадта сяброўскія адносіны са сваімі нямецкімі калегамі. Ня ўсе немцы ўспрымалі гэта прыхільна, некаторыя карысталіся. Рэч у тым, што нашы так званыя рамачныя ўмовы для замежнага бізнэсу (рэгістрацыя, ліцэнзія, падаткі, офіс) былі (дый дагэтуль застаюцца) ня вельмі празрыстымі і адназначнымі — вельмі залежнымі ад волі чыноўніка. Да прыезду ў Нямеччыну я ведаў слова «лабізм», але ў такім клясычным ангельска-амэрыканскім варыянце, які з пачатку пяцідзясятых гадоў пачаў культывавацца афіцыйна і ў ФРГ у межах так званага нэакарпаратызму, калі буйныя фірмы займелі сваіх афіцыйных прадстаўнікоў у якасьці дарадцаў у парлямэнцкіх камісіях з афіцыйнымі пропускамі ў будынак Бундэстагу. У Боне мне, як амбасадару, прыходзілася займацца так званымі грамадзкімі сувязямі: сустракацца з журналістамі, выступаць зь лекцыямі ва ўнівэрсытэтах, на бізнэсовых канфэрэнцыях, у царкоўных абшчынах.

Запомнілася сустрэча з адной прафэсійнай лабісткай, мякка кажучы, вельмі прагматычнага мікрафармату. Адгукнуўся я на афіцыйную прапанову сустрэцца з прэс-сакратаркай

Бонскай гандлёвай палаты (так было ў запрашэньні) у памяшканьні Дому прэсы побач з Бундэстагам. Там высьвятляецца, што названая асоба захварэла. А замест яе прыйшла, як бы сказалі журналісты, простая стрынгерка, якая піша на даручэньне палаты кароткія інфармацыі пра ўсходнія рынкі ў бізнэс-мэдыі. У адным з кабінэтаў Дому прэсы сэрвіраваны стол на дзьве асобы, як на добры абед па савецкіх мерках: з гарэлкай, півам, закускамі. Нават побач на століку з драўлянай скрыначкай дацкіх «сыгарыльлёс» нейкі запакаваны сувэнір ляжыць. Пасьля кароткага палітэснага ўступу з камплімэнтамі маёй добрай нямецкай мове журналістка дае сваю візытоўку, расчыняе ноўтбук, выводзіць на манітор нейкую схему-дрэва з прастакутнічкамі і просіць даць зьвесткі пра гомельскую фірму «Ратон», зь якой маюць намер — ці, можа, ужо супрацоўнічаюць, ня памятаю, — нямецкія фірмы. Хто курыруе падобныя пытаньні з Саўміну, якія законы рыхтуюцца ў беларускім парлямэнце пра сумесныя прадпрыемствы, якія пэрспэктывы атрымаць падатковыя льготы для гэтай фірмы. Тады, паводле журналісткі, яе ўзначальваў наш цяперашні прэм'ер Сідорскі. З вуснаў гэтай дамы я ўпершыню пачуў ягонае імя. Яе цікавіла, ці ведаю я асабіста Сідорскага, якія ў яго хобі, што я ведаю пра ягоную жонку. Закончыўшы сваё доўгае пытаньне-пажаданьне, журналістка намалявала яшчэ адзін квадрацік на сваім дрэве і пытальна паглядзела на мяне, прапанаваўшы выпіць... гарэлкі. Гэта быў час да абеду. Далікатна адмовіўшыся ад выпіўкі, я пацікавіўся, што за дрэва яна малюе на сваім экране. «О, гэта мы называем арганіграма! Тут у мяне інфармацыйныя дадаткі да структуры некаторых аддзелаў вашага Саўміну і камітэту зьнешнеэканамічных сувязяў! На жаль, вашыя афіцыйныя даведнікі недасканалыя». Пры гэтым яна дастала з сумачкі поўны тэлефонны даведнік нашага Саўміну... для службовага карыстаньня! Такі мы атрымалі перад ад'ездам для амбасады пад расьпіску ў Міністэрстве замежных справаў. Гутарка станавілася цікавай. «Вашы калегі зь міністэрстваў вельмі прыветлівыя людзі, — працягвала дама. — Яны падаравалі мне гэты даведнік. Я нават ужо ведаю, дзе хто сядзіць, чым цікавіцца. Вось начальнік упраўленьня *(называе)* любіць паляваньне, а ягоная сакратарка вырошчвае хрызантэмы. А якое ў вас хобі?..» У кампутары стрынгеркі было сапраўды цэлае дасье. Яна без макулінкі няёмкасьці працягвала: «Гэта мая праца. Я так зарабляю. Мяне часта запрашаюць у дарадцы тыя, хто едзе да вас, бо ў вас пакуль цяжка разабрацца бяз сувязяў... Можа б, ваша амбасада пагадзілася адказаць пісьмова на некаторыя пытаньні гэтай анкеты?» Працягвае тры друкаваныя аркушы. Каштавала пэўных намаганьняў і далікатнасьці, каб закончыць гэтую даволі непрыемную сустрэчу і адбіцца ад сувэніраў. Журналістаў нельга раздражняць і крыўдзіць. Параіў гэтай актыўнай даме, калі яна мае паўнамоцтвы, прысласць на блянку Гандлёвай палаты афіцыйны пісьмовы зварот у амбасаду разам з анкетай. На другі дзень па тэлефоне мы даведаліся, што гэтая журналістка ня мела ніякага даручэньня ад Бонскай гандлёвай палаты распаўсюджваць згаданую анкету, і гэта, пэўна, ейная ўласная ініцыятыва.

Журналісты ў Нямеччыне (і ня толькі ў ёй), асабліва пачаткоўцы, часам пераступаюць этычныя межы дзеля кідкага матэрыялу, каб быць апублікаваным, каб зачапіцца ў газэце. Пры той гутарцы ў Доме прэсы я быў пратакольна карэктны, бо ўжо меў адмоўны досьвед з маладым нямецкім журналістам. Было гэта так. Яшчэ ня меўшы так званага агрэману, як прызначаны амбасадар *(designierter Botschafter)* і старшыня камісіі замежных справаў Вярхоўнага Савету РБ быў я разам са Станіславам Шушкевічам у Дусэльдорфе. Выйшла так, што ў канцы адной прэсавай канфэрэнцыі мне задавалі шмат пытаньняў пра наш беларускі «Закон аб замежных інвэстыцыях». Я адказваў па-нямецку і, як мне здаецца, даволі талкова, бо я сам прэзэнтаваў гэты закон для зацьвярджэньня ў Вярхоўным Савеце. Пратакол падганяў, і я ўжо на хаду нешта адказваў журналістам, даганяючы нашага старшыню Вярхоўнага Савету, тады першую асобу дзяржавы. Мы езьдзілі зь ім у адной машыне ў суправаджэньні яшчэ дзьвюх зь немцамі. У мітусьні атрымалася так, што Шушкевіч ад'ехаў безь мяне: ці не заўважыў маёй адсутнасьці, ці, можа, раздражнёна зрабіў гэта наўмысна — я гэта не высьвятляў і дагэтуль ня ведаю, але да наступнага пункту пратаколу мне прыйшлося дабірацца на мэтро... за кошт нямецкага журналіста з «Frankfurter Allgemeine Zeitung». Рэч у тым, што ў аўтамабілі засталася мая куртка, дзе ў кішэні быў партманэт з грашыма і крэдытнай карткай. Пры сабе я меў толькі дыпляматычны пашпарт як дэпутат парлямэнту Беларусі. Я расказаў журналісту проста, як усё было. На наступную сустрэчу я спазьніўся хвілін на дзесяць і прыйшоў туды разам з журналістам. Пасьля ён адмовіўся ўзяць грошы за мэтро, і мы па-сяброўску з усьмешкамі і спадзевам на будучыя сустрэчы разьвіталіся і абмяняліся візытоўкамі. Назаўтра я са зьдзіўленьнем знайшоў у «Frankfurter Allgemeine Zeitung» кароткую, стылёва даволі несяброўскую заметку пра ўчорашнюю прэсавую канфэрэнцыю, дзе ў падзагаловак быў вынесены сказ: «Прызначаны амбасадар Беларусі мэнтарскім тонам разважае пра геапалітыку і даганяе свайго патрона на мэтро». Шушкевічу таго матэрыялу я не паказваў. Ня ведаю, можа, немцы яму што й гаварылі. Было прыкра. Праўда, пазьней той журналіст сказаў мне: «Ну што вы! Я вам зрабіў такі піяр. Гэта ж «Frankfurter Allgemeine Zeitung» — самая ўплывовая кансэрватыўная газэта! Падзагаловак дала рэдакцыя».



## Адзін трагічны і сьветлы ўспамін

На заканчэньне займальны і адначасна трагічны ўспамін. У працы амбасадара часам здараюцца сытуацыі, пра якія ні ў якім падручніку ня знойдзеш адказу — рабіць так ці гэтак. Канечне ж, агульная праца амбасады вызначаецца зьнешняй палітыкай абодвух бакоў. А вось посьпех пры асабовых кантактах — рэч тонкая. Тут няма дробязяў. Прыпамінаю візыт у Бон нашага генэрала Яўгена Бачарова, начальніка ўпраўленьня памежных войскаў, з двума экспэртамі, адным зь якіх быў палкоўнік Нявыглас — цяпер генэрал, нядаўні начальнік адміністрацыі прэзыдэнта. Было гэта ў красавіку 1994 году. Мы тады мелі шанец першыя ў СНД выйсьці на высокі ўзровень супрацоўніцтва з памежнай службай ФРГ. Было ўжо тады ясна,

што Польшча хутка ўліецца ў Эўропу і прыйдзецца будаваць межы інакш.

Сядзім з памочнікам генэрала Гіца, шэфа памежнай службы ФРГ, абмяркоўваем дэталі прыезду нашай дэлегацыі. Ехаць беларусам у форме ці ў цывільным? У немцаў пратакол дазваляе і тое й тое. Нашы ня хочуць ехаць у форме. Зразумець можна, у форме не расслабісься, тры дні хадзі, як кол праглынуўшы. Немцы чамусьці — наадварот. Нарэшце, праз далікатныя тлумачэньні нямецкага боку да мяне даходзіць: рэч не ў прусацкай любові да ўніформы. Нямецкі генэрал — худзенькі і маленькі. Форма робіць яго больш прадстаўнічым, а ў праграме шмат пратакольных момантаў з карэспандэнтамі і фатасэсіямі. Раз такая далікатнасьць, тады ўжо цікаўлюся, што любіць генэрал выпіць ды закусіць, бо буду рабіць прыём у амбасадзе. Атрымліваю адказ. Мэню пажадана спартанскае. На моцнае — «Гэнэсі» або «Бэлантайн», піва — «Шпатэн», сасіскі — «Бэрлінэр боквурст». Званю ў Менск, ілгу, што нямецкі пратакол не дазваляе ехаць у цывільным. Прыяжджайце абавязкова ў форме і вязіце па пляшцы «Белавескай».

Візыт быў вельмі пасьпяховы. І не ў апошнюю чаргу дзякуючы дробязям. Вазілі нас на тым жа верталёце, што і ангельскую каралеву. Ужо быў падрыхтаваны праект пагадненьня пра шырокае супрацоўніцтва, немцы атрымалі візы і чакалі апошняга сыгналу зь Менску, каб прыехаць і падпісаць пагадненьне пра «шырокае супрацоўніцтва». Закончылася ўся гісторыя сумна. У Менску перадумалі: ці то Бачароў быў дрэнны, ці то пляны будаўніцтва так званай саюзнай дзяржавы з Масквой перашкодзілі. Мае працяглыя размовы з Шэйманам (тады сакратар Савету бясьпекі) па тэлефоне з Бону наконт візыту высокай дэлегацыі памежнай службы ФРГ сышлі ў пустату.



Хутка пасьля таго генэрал Бачароў, выдатны прафэсіянал, дэсантнік, герой Аўганістану, вельмі прыстойны чалавек, быў адпраўлены ў адстаўку і заўчасна памёр. Нямецкі генэрал Фрэдзі Гіц, шэф памежнай службы ФРГ, разьбіўся на верталёце цягам баявых вучэньняў. Як успамін пра той час застаўся ў мяне толькі шыкоўны каляровы фотаальбом, падараваны памежнай службай ФРГ, дзе адлюстраваліся падзеі таго візыту.

Пасьля таго як мы сталі прэзыдэнцкай рэспублікай і пачалі будаваць так званую саюзную дзяржаву, я быў адкліканы з Бону, дзе знаходзілася наша місія. Мне дагэтуль вельмі дзіўна, што ніхто з прадстаўнікоў новай прэзыдэнцкай улады не палічыў карысным сустрэцца са мною ці папрасіць напісаць пісьмовую справаздачу, як гэта мы рабілі на працягу ўсяго часу. Я, праўда, па прыродзе сваёй і па лёгіцы ня меў на ўладу ніякай крыўды: новы ўрадавы кабінэт, новыя людзі. Я рыхтаваўся да адстаўкі, думаў, што буду рабіць дома. У мяне было ў Нямеччыне шмат цікавых кантактаў, адрасоў, запачаткаваных ініцыятываў ва ўнівэрсытэтах, міністэрствах, бібліятэках, грамадзкіх арганізацыях, дасьледчых інстытутах, фірмах. Гэта ж можна было выкарыстаць і разьвіваць далей. Гэта характарызуе пэўным чынам нашую ўладу: хто ня з намі, той супраць нас. Я не прэтэндаваў ні на якія пасады, меў прыстойны занятак і пасьля дэпутацтва. Але ж дзяржава амаль тры гады гадавала мяне як ам-

басадара, я мог шмат карыснага перадаць некаму. Гэта ж усё для Беларусі. Ці ж можна так раскідацца рэсурсамі? Я працягваў яшчэ год дэпутацкую дзейнасьць. Пазьней працаваў зь нямецкімі фондамі, часопісамі, няўрадавымі арганізацыямі. Такія-сякія кантакты перадаў добрым людзям, некаторыя падтрымліваю дагэтуль сам.

## Нямеччына: неперапынены час

*Альбэртус-Магнус-штрасэ. — Тут час не спыняўся. — Мой дом — мая крэпасьць. — Дарога ў Розэнгайм. — Патрыятызм нацыянальны ці канстытуцыйны? — Вядучая культура ці мультыкультуралізм? — Паралельныя грамадзтвы — ці бясьпечна гэта? — Ці магчыма гістарызаваць галакост? — Што будзе з нацыяй?*

### Празь ціхія вулкі да Рэйну

Калі б запыталі, што мне найбольш запомнілася і ўразіла ў Нямеччыне і на Захадзе ўвогуле, я б найперш згадаў ня чыста палітычныя і ня чыста побытавыя рэчы. Дакладней, калі і побытавыя, то тыя, што выходзяць на сацыяльна-псыхалягічны ўзровень.

Хаця Нямеччына перажыла нацыянал-сацыялізм, ён не пакінуў у нямецкім *modus vivendi* такіх значных сыстэмных пэртурбацый, як, напрыклад, падзеі 1917 году ў Расеі. Сёньняшняя Нямеччына забылася на зыбкасьць ваймарскага часу і дванаццаць гадоў дыктатуры. Нават самыя неўладкаваныя немцы, што клянуць традыцыйна то сацыял-дэмакратаў, то хрысьціянскіх дэмакратаў, ня будуць аспрэчваць, што іхная экзыстэнцыя не такая хісткая, як, напрыклад, расейская ці наша, нават у час адноснай стабілізацыі.

Для немца існуе больш глыбіннае, чым у нас, адчуваньне неперапыннасьці часу, нязьменны рытм жыцьця, спакой, што ўлада цябе не падмане, не абразіць, што з табой нічога ня здарыцца такога, што зваліць цябе ў яму. Што ёсьць

пэўная сацыяльная сіла, якая абароніць цябе на законных падставах. І гэта пры ўсёй дынаміцы падзей і сацыяльных праблемаў.

Дык вось пра адчуваньне неперапыннасьці часу. Іду я па вузкіх вулках Бад-Годэзбэргу, маляўнічага прадмесьця Бону, у кірунку Рэйну. Прыватная вуліца, *прыватштрасэ*, дзе мы жывем з жонкай, называецца Альбэртус-Магнус-штрасэ. Першы раз прыватную вуліцу мне давялося бачыць у Нью-Ёрку. Гэта быў ладны кавалак Ракфэлер-стрыт. Перад Калядамі там залілі каток, і каталіся дамы ў дарагіх манто. Але нью-ёрская прыватная вуліца не была такая ўтульная і свойская, як нямецкая. Наша прыватштрасэ маленькая, можа мэтраў дзьвесьце, уся зарослая акуратна пастрыжанымі дрэўцамі, дрэвамі і кустамі. Назвы большасьці зь іх я ня ведаю. Хто такі Альбэртус Магнус — ведаю. Альбэртус Магнус — адзін з самых вядомых філёзафаў-схалястаў (памёр у 1280 годзе), пасьлядоўнік Арыстотэля, настаўнік Томаса Аквінскага (у нас часьцей кажуць Фама Аквінскі).

Па дарозе да Рэйну — каплічка і могілкі. Па могілках можна вывучаць гісторыю ад раньняга сярэднявечча і да нашых дзён. Тут спачывае кантар касьцёлу, што побач. Памёр паўтара стагодзьдзя таму. Касьцёл перарабляюць пад мадэрн — мусіць, каб прывабіць моладзь. Тут супакоіліся душою ў 1945 годзе два амэрыканскія салдаты, пэўна ж тады ворагі нямецкага народу. На падыходзе да Рэйну — руіны рымскіх лазьняў-тэрмаў і адпаведная таблічка. На вялікіх дрэвах — таблічкі з назвамі на лацінскай і нямецкай мовах і ўзрост дрэваў. Рука не падымаецца пакрыўдзіць такое дрэва.



Канечне, наша вуліца і прылеглая тэрыторыя — не прамысловы раён, тут жыве сярэдняя кляса. Пры Рэйне сустракаюцца і «сацыяльныя» дамы, дзе шмат жыве эмігрантаў. Але вось ідзеш на ранішні шпацыр, калі вуліцы яшчэ пустыя, сустракаеш прычасаную дагледжаную фраў ці немаладога, але жвавага бюргера з сабачкам, абавязкова цябе прывітаюць, зь ветлівай усьмешкай, калі ты нават сам не зьбіраесься гэтага рабіць. І ты сам усьміхаесься, і на душы робіцца так добра. Абсалютна як некалі ў нас у вёсцы віталіся зь незнаёмым чалавекам: «Дзень добры, дзядзька!» І маладыя немцы вітаюцца на раньніх пуставатых вуліцах. Імігранты — рэдка. Гэта ўжо тое *Unterwanderung* — разбурэньне традыцый. За гэта імігрантаў ня любяць.

## Асабістая прастора свабоды і дом-крэпасьць

Немец, тутэйшы, не імігрант, ня будзе дыхаць табе ў патыліцу і прыціскацца пузам, нават на шматлюдных кірмашах. Некалькі разоў лавіў сябе на тым, што, задумаўшыся, штурхаю некага. Але ніхто ня лаецца, толькі аглянецца ды калі-небудзь пахітае галавой. Аднойчы — не магу на гэта ніяк забыцца — наступіў на нагу маладому хлопцу на бонскім калядным кірмашы. Замест таго каб сказаць па-нашаму нешта тыпу: «Што ты, стары казёл, асьлеп?!», ён усьміхнуўся і сказаў: *«Ах, энтшульдыгэн зі, іхь вар плюмп!»* («Прабачце, я такі няўклюда!»). Прычым сказаў ён гэта бязь зьдзеку, сур’ёзна. Здаецца, пасьля гэтага я ўжо ніколі нікому на ногі не наступаю, нават у Чыжоўцы ў Менску. Гэта — ня чыста побытавыя зьявы, гэта — філя-

зофія жыцьця, дзе ў тваю асабістую прастору свабоды не ўваходзяць.

Для немца, як і для ангельца, ягоны дом — ягоная крэпасьць. Гэта ўжо банальнасьць. Праілюструю адным уласным прыкладам, як я, ведаючы гэта, усё ж паспрабаваў парушыць гэтае эўрапейскае правіла і трапіў у канфуз. Неўзабаве пасьля заканчэньня амбасадарскага тэрміну (1996 год) прыйшлося мне ехаць па тэрміновых справах у Бон і заставацца там на тры дні. У самым сярэднім гатэлі правесьці два дні і дзьве ночы каштавала тады ў Боне каля 200 марак. Для нас грошы немалыя. Вырашыў я пасьлавянску зэканоміць і патэлефанаваў былым суседзям па Альбэртус-Магнус-штрасэ, сямейству Зыманаў — ён былы амбасадар ФРГ у Фінляндыі, яна — жонка амбасадара. Фраў Зыман сябравала з маёй жонкай, хадзіла да нас з мужам у госьці і хваліла нашыя баршчы і дранікі. Гэр Зыман быў тры гады ў савецкім палоне і нават не зусім забыўся расейскую мову. На разьвітаньне яны сэнтымэнтальна перадалі нам фота з групавым партрэтам разам з унукамі і нявесткай. Мелі яны даволі імпазантны двухпавярховы дамок з чатырма спальнямі, мансардай, гасьцявымі пакоямі, залямі, туалетамі, два «мэрсэдэсы», рэгулярна мянялі мэблю, выстаўляючы на вуліцу як «буйнагабарытнае сьмецьце» (Sperrmüll*)* паводле нашых мерак вельмі прыстойныя «ўжо ўжываныя» канапы і крэслы. Іх тут жа забіралі жыхары «сацыяльных» вуліц. Дык вось тэлефаную я Зыманам пра сваю трохдзённую паездку ў Бон і далікатна пытаюся пра кошты бонскіх гатэляў, прававуючы іх на думкі пра нашы ранейшыя прыязныя сустрэчы ды імпульс гасьціннасьці. Да тэлефона падышла фраў Зыман. Як толькі закончыліся фантаны радасьці чуць голас «нашага любімага беларускага суседа» і стала зразумелая мая схільнасьць ня толькі забегчы на каву, але і пераспаць дзьве ночы ў любімых суседзяў, галасы радасьці на тым канцы дроту зьмяніліся заклапочанасьцю: трэба глянуць у каляндар сустрэчаў, ці не накладзецца там што-небудзь на што-небудзь? Канечне, наклалася: «Мы ўжо даўно абяцалі кузыне Гэртрудзе, што жыве ў Бэрне, наведаць яе якраз у гэты ўік-энд! Мы вельмі шкадуем, Эксцэленцыя!» Цяжка сабе ўявіць, каб такая рэакцыя была ў нас у падобным выпадку. У тое знаходжаньне ў Боне я заходзіў па справах да нашага часовага паверанага ў ФРГ, што працягваў арандаваць наш дом на Альбэртус-Магнус-штрасэ па суседзтве з Зыманамі. Ён сказаў мне, што ні ў якую Швайцарыю ў той уік-энд яны не ад'яжджалі. Шукаць прыстанішча на начлег у нашага амбасадарскага супрацоўніка я не хацеў: ён мог бы потым мець непрыемнасьці, што прыгрэў бэнээфаўца Садоўскага. Прыйшлося жыць у гатэлі.



## Цягнік на Розэнгайм

Набліжэньне да чалавека і стварэньне настрою камфорту і задаволенасьці дасягаецца ў немцаў праз разумную, я б сказаў, *людзкую* арганізацыю. Вось едзем мы з жонкай сустрэць Новы год у Розэнгайме, сямейным маёнтку жонкі нямецкага амбасадара ў Беларусі, спадара Альбрэхта. Яна — швагерка Франца Ёзэфа Штраўса, баварскага прэм'ера, ужо нябожчыка. Едзем цягніком, бо ў канцы тыдня ехаць аўтамабілем рызыкоўна, можна засесьці надоўга ў «стаўку». Аўтамабільны затор па-ня-

мецку называецца *«штаў»* — ставок, тое, што стаіць, не цячэ. Едзем камфортна ў першай клясе цягнікам Бон — Мюнхэн, але цягнік спазьняецца хвілін на трыццаць. А мы яшчэ павінны перасесьці на іншы: Мюнхэн — Розэнгайм. Там нас чакаюць, каб адвезьці ў Рот-ам-Ін, дзе і знаходзіцца маёнтак. Гэта ўжо каля Альпаў. Настрой трывожны: як дабірацца далей ад Розэнгайму? Перапынак паміж цягнікамі ўсяго дзесяць хвілін, а мы спазьняемся ўжо на цэлых трыццаць. А я на няшчасьце забыў хатні тэлефон спадара амбасадара Альбрэхта. І тут адбываецца цуд. Чуем аб'яву: «Увазе пасажыраў цягніка Бон — Мюнхэн, якія робяць перасядку на Розэнгайм! Просім вас не хвалявацца. Для вас арганізаваны дадатковы рэгіянальны цягнік. Каля выхаду з вагона вас будуць чакаць нашы праваднікі з таблічкамі «Суправаджэньне на дадатковы розэнгаймскі цягнік». Ну як тут не адчуваць сябе камфортна і не любіць уладу, якая табе сапраўды служыць. Як не галасаваць за баварскіх хрысьціянска-сацыяльных юніяністаў!

І тут жа яшчэ адзін арганізацыйны цуд: пасьля дзевятнаццатай гадзіны білет на цягнік каштуе разы ў два таньней. Цягнік так і называецца: *Гутэн-Абэнд-Цуг* — цягнік «Добры вечар». Чаму таньней? У «госьця чыгункі» (у немцаў пасажыр называецца *«фаргаст»*) увечары зьяўляюцца побытавыя складанасьці: цёмны час, пратэрмінаваны сон, турботы блізкіх і гэтак далей. Адносіны «чыгунка — пасажыр» як бы пэрсаніфікаваныя. На кожным сядзеньні цягніка — і ня толькі ў першай клясе — ляжыць расклад руху па ўсіх транзытных пунктах, дзе даецца таксама схема перасядкі на іншыя накірункі нават з указаньнем плятформы твайго наступнага цягніка. На кожным прыпынку чуеш добразычлівы голас праваднiка з адпаведнай інфармацыяй. Ён тут. Ён — не кантралёр, а твой анёл-ахоўнік.



Аднак перавагі сыстэмы нельга пераносіць на асобы. Як у нас, так і на Захадзе можна сустрэць авантурыстаў і жулікаў. Пратэстанцкая працоўная аскеза ва ўмовах канкурэнцыі, картэзіянскі розум ды ўтульны заходні геданізм могуць нарадзіць такую пачвару, якая нам і ня сьнілася. Сустракаліся мне такія сярод журналістаў, бізнэсоўцаў, дэпутатаў, чыноўнікаў у фінансавай камісіі TACIS у Брусэлі і нават сярод актывістаў чарнобыльскіх ініцыятываў. Пра дрэннае пісаць ня хочацца.

## Паліткарэктнасьць бязь межаў: як Нямеччына зьядае сама сябе

Як беларус, прадстаўнік краіны, якая з гістарычных прычынаў не сфармавалася своечасова як нацыя, і як прафэсійны германіст я з трывогай назіраю за працэсамі, якія адбываюцца ў сучаснай Нямеччыне ў галіне гістарычнай навукі, нацыянальнай самаідэнтыфікацыі і палітычнай культуры. Пасьля нацыянальнай катастрофы 1945 году, дэнацыфікацыі і дэмакратызацыі краіны пад амэрыканскай эгідай, рэалізацыі амэрыканскага пляну Маршала і крытычнага асэнсаваньня на дзяржаўным узроўні злачынстваў нацыянал-сацыялізму Нямеччына стала рухавіком эўрапейскай інтэграцыі.

Утварэньне Эўразьвязу як гістарычнага праекту францускія палітыкі ў свой час назвалі *projet allemand* (нямецкі праект). Немцы, як бы прызнаючы сваю гістарычную віну, і не без уп-

лыву ЗША, пачалі будаваць эўраатлянтычную Эўропу бяз нацыяў, паступова выцясьняючы з грамадзянскай сьвядомасьці паняткі нацыянальнага патрыятызму, падмяняючы іх эўрасалідарнасьцю ці ў горшым выпадку нацыянальным інтарэсам і рэальнай палітыкай. Калі дэ Голь як прэзыдэнт Францыі гаварыў усьлед за Напалеонам пра будучы Эўразьвяз як пра «Эўропу Айчынаў», першыя нямецкія канцлеры стараліся паліткарэктна гаварыць толькі пра «канстытуцыйны патрыятызм», адмаўляць неабходнасьць «вядучай культуры», прапагандаваць так званы мультыкультуралізм, разглядаць супрацьпастаўленьне этнічнай большасьці прышлым меншасьцям як палітычна некарэктнае і састарэлае. Той, хто не пагаджаўся з такой трактоўкай, меў шанец у публічных дыскусіях набыць імідж правага радыкала. Грамадзкія жарсьці разгарэліся ў сярэдзіне васьмідзясятых гадоў, калі адзначалася 40-годзьдзе заканчэньня Другой усясьветнай вайны і прэзыдэнт Рыхард фон Вайцзэкер назваў дзень 8 траўня Днём вызваленьня. Тады ж «стартавала» (і працягваецца па сёньня) так званая спрэчка гісторыкаў, якая ў цэнтар увагі паставіла пытаньне «гістарызацыі галакосту»: зьяўляецца вынішчэньне габрэяў рэжымам нацыянал-сацыялізму нечым выключным, з увагі на спэцыфіку гітлераўскага антысэмітызму ды «індустрыялізацыю» мэтадаў забойства, або яго можна разглядаць як пэўную тыпалягічную зьяву ў адным шэрагу зь іншымі нацыянальнымі ды клясавымі генацыдамі? Ці ня ёсьць галакост нейкай паталёгіяй гістарычнага разьвіцьця? Нацыя і гісторыкі разьдзяліліся на два лягеры. Прыхільнікі «гістарызацыі» згадвалі



генацыд армянаў туркамі (1,5 мільёна), крывавую клясавую чыстку, якую ўчынілі «чырвоныя кхмэры» ў Камбоджы (3 мільёны), сталінскі клясавы ГУЛАГ (мільёны), зьнішчэньне Гітлерам славянаў (мільёны), альжырцаў французамі (1,5 мільёна), украінскі галадамор і гэтак далей. Афіцыйная дзяржаўная пазыцыя ФРГ на баку тых, хто прызнае галакост выключнай гістарычнай зьявай і ўскладае «вечную гістарычную віну» за гэта на ўсю нацыю. Аднак паводле апытаньняў 2006 году 68 працэнтаў немцаў — асабліва маладыя — ня хочуць нічога чуць пра галакост і «вечную віну».

Дыскусія абвастралася пад уплывам ісламізацыі Эўропы, калі ў Нямеччыне не без уплыву ісламскіх фундамэнталістаў пачалі ўтварацца так званыя паралельныя грамадзтвы і ў пэўных месцах мусульмане сталі выцясьняць карэннае насельніцтва. Уся Нямеччына ведае трывожныя факты: у вялікіх гарадах больш за пяцьдзясят працэнтаў жыхароў, якім сорак і менш гадоў, маюць «міграцкую анкету»; у прадмесьцях Бэрліна чатыры школы, дзе няма ніводнага нямецкага вучня; паводле дэмаграфічных прагнозаў, у 2050 годзе ў малых гарадах Нямеччыны імігранты будуць складаць абсалютную большасьць насельніцтва... Так званы эўраіслам (моўная інтэграцыя, павага да хрысьціянскіх традыцыяў, казані ў мячэтах па-нямецку), да якога заклікае нямецкая грамадзкасьць, пакуль не знаходзіць разуменьня ў мусульманскіх іміграцкіх лідэраў. Напрыклад, мусульманскія суполкі, запрошаныя Ангелай Мэркель на восеньскую нараду 2007 году для абмеркаваньня новага, больш строгага закону аб іміграцыі, на сустрэчу дэманстратыўна не зьявіліся.

Інтэлектуалы Нямеччыны вядуць заклапочаныя дыскусіі пра будучыню нацыі. Дзяржаўны мультыкультуралізм нарадзіў цэлую кагорту «правільных» і паліткарэктных літаратурных, музычных ды іншых крытыкаў, якія без эўфэмізмаў могуць указаць пастаноўшчыку опэры, дырыгенту аркестру або аўтару гістарычнага літаратурнага твору на ягонае сасьлізгваньне ў небясьпечную «народнасьць і нацыянальны патрыятызм», а ягоных прыхільнікаў (гледачоў, слухачоў) назваць «кліентурай» такога й такога. Дзьве кароткія цытаты. З рэцэнзіі на новую пастаноўку опэры «Нямеччына», прысьвечанай вызвольнай барацьбе немцаў супраць Напалеона: «У гэтай опэры сьмерць за нямецкую Айчыну бязьмежна гераізуецца... Герой дзеяньня, студэнт з гарачай крывёю, як з трубы тэнаруе сваю любоў да Нямеччыны... У апошняй частцы ён спусьціць дух у бітве пад Ляйпцыгам... Каралева Люіза мірыць тэнары і барытоны для выпукленьня патрыятызму і ўласнай пэрсонай скіроўвае ўсіх на шлях любові да Айчыны...» («Süddeutsche Zeitung», 17 кастрычніка 2006). Або вось вытрымка з журналісцкіх заўвагаў у інтэрвію з дырыгентам сымфанічнага аркестру Бэрліна пра інтэрпрэтацыю выкананьня твораў Вагнэра і Ліста (культавыя кампазытары пры Гітлеру): «З вашым аўтарскім фартысыма ў партытуры ў гэтым месцы вы ладна ўткалі нацыянал-сацыялістычнага настрою і патрыятызму... Столькі грому, літаўраў, уступае ўвесь аркестар! І гэтыя бясконцыя до-мажор!..» Вось, думаю сабе, — акурат як у нас зь бел-чырвона-белым сьцягам: яго выкарыстоўвалі калябаранты!



Унук Томаса Мана, Фрыдалін, герой раману «Доктар Фаўстус», у інтэрвію «Welt am Sonntag» у 2007-м сказаў: «Пасьля краху 1945 году на месцы Нямеччыны ўзьнікла нешта новае. Нямеччына страціла сваю нацыянальную ідэнтычнасьць. Сярод усіх эўрапейскіх нацыяў яна мае найменшую нацыянальную сьвядомасьць. Звычайна гавораць, што яна пазбаўляецца ад сваёй мінуўшчыны. Адбываецца супрацьлеглае: крытычна аналізуючы мінулае, яна даходзіць да самазьнішчэньня».

Пэтэр Слотэрдайк, найбольш папулярны сёньня нямецкі філёзаф, рэктар Унівэрсытэту дызайну ў Карлсруэ і прафэсар Венскага ўнівэрсытэту, у эсэ «Развагі пра сваю краіну» (1990) напісаў: «Нацыі — гэта фэномэны, што нясуць на сабе адбітак гістарычнага паходжаньня. У зьменлівым сьвеце, аднак, усё гістарычна сваё адыходзіць на другі плян, каб аддаць першы шэраг узаемаабмену з сучасным і чужым. Такая пячатка кону будзе пастаўленая на лёс нацыяў у трэцім тысячагодзьдзі. Прадстаўнікі нацыяў павінны будуць прыжыцца ў такім сьвеце, дзе чужыя жывыя будуць важнейшыя, чым уласныя мёртвыя». Аўтар канстатуе свой тэзіс адчужана-нэўтральна, не ўжываючы стылістычна афарбаванага «чужынцы».

З адчуваньнем магчымага гістарычнага зьбядненьня мастацтва пры нівэляваньні нацыянальнага, трагізму творцы, зьвязанага з нацыянальнай глебай, выдатны нямецкі літаратар, філёзаф, тэарэтык кіно Аляксандар Клюгэ ляпідарна фармулюе сваё крэда: *«Cogito quia natus sum»* («Я думаю так і не інакш, таму што я нарадзіўся ў пэўным месцы»). Нямеччына спрачаецца і зьядае патрохі сваю нацыянальную адметнасьць.

# Пра кур'ёзнае і містычнае

*Немцы ў нашай хаце ў Буцькаўшчыне. — «Фітфебель» Керба і унтэр-афіцэр Гюнтэр. — Грамафонны канцэрт. — «Прэлюды» на БТ і ў Гамбургу. — Канфэрэнцыя ў Штутгарце. — Неверагодная сустрэча ў казіно. — Зноў «Прэлюды». — Сьмерць «парфумэра». — Калярадзкія жукі — гэта прыгожа! — Хандра ў выпускной роце. — Наш добры афіцэр-выхавальнік. — Лекаваньне малой Радзімай. — Позьні яблык, матыль і вецер дзяцінства. — Усё цяперашняе ўжо некалі было...*

## Сустрэча ў Бадэн-Бадэне

Гэтая гісторыя чымсьці нагадвае мне дзіцячыя ўспаміны зь фільму Андрэя Таркоўскага «Люстэрка», які я глядзеў ці ня дзесяць разоў. Пачатак гісторыі сягае ў 1944 год, калі мы знаходзіліся пад нямецкай акупацыяй. У нашай хаце, што стаяла на ўзгорку на краю вёскі, атабарыліся немцы. Як я магу зразумець цяпер, гэта было нешта накшталт пункту сувязі. На вуліцы стаяла высокая жэрдка, ад яе ішлі нейкія дротавыя адгалінаваньні з вусікамі, раскіданыя па слупах і яблынях, што расьлі бліжэй да хаты. Усё гэта было абнесена ў адзін рад калючым дротам. За першым дротам каля хаты немцы збудавалі вялікую бляшаную ёўню з халодным лёхам, якую мы называлі вараўня. Там захоўваліся гародніна, бітоны з малаком, нейкія мяхі і скрынкі. Тут жа на вуліцы была паходная кухня, у якой палілі дрывамі або нейкай сьмярдзючай мазутай. Была яшчэ драўляная пунька-склад, дзе ляжалі дровы. Побач стаяла велічэзная фура з дышлам, у якую запрагаліся два магутныя кані. Усё гэта было абнесена яшчэ раз калючым дротам. Ні такіх коней, ні такой фуры дагэтуль у вёсцы ніхто ня бачыў. Камандаваў гэтай павозкай злы, ужо немалады фэльдфэбэль Кербэ. Мы казалі «фітфебель Керба». Яго ўсе баяліся. Наколькі злы быў гэты «фітфебель», настолькі добрыя былі перакладчык Пут, пра якога я ўжо пісаў, і малады унтэр-афіцэр, які, падобна, быў тут за старэйшага.

Нас выселілі ў лазьню, што знаходзілася каля канавы, зьвязанай з рэчкай, мэтраў за сто ад хаты. Нам даволі часта дазвалялі заходзіць за першы звонку дрот: маці з суседкай хадзілі да немцаў чысьціць бульбу, мыць посуд, а мы малыя бегалі на паходную кухню з салдацкімі кацялкамі па суп, калі не было злога Кербы. Нямецкі повар-жаўнер калі-небудзь сам падыходзіў да дроту і гукаў нам: «Кіндэр, зупэ!» Адзін раз Керба застаў мяне каля кухні ўжо з поўным кацялком і кавалкам салдацкага хлеба і даў добрага высьпятка ботам пад задніцу.

Мы, малыя, увогуле любілі назіраць, што робіцца за дротам. Асабліва калі там быў Гюнтэр. Так звалі унтэр-афіцэра. Ён ад'яжджаў некуды раніцай на матацыкле і вяртаўся пад вечар. Тады пачыналася самае цікавае. Мы прыліпалі насамі да агароджы і назіралі. Ён распранаўся незвычайна. Салдат ставіў перад ім крэсла і нейкі станочак, у які ён усоўваў бот, каб сьцягнуць. Фрэнч вешаў на стойку з плечыкамі. Спачатку ён мыўся пад дожджыкам, што салдаты зрабілі за хатай. Мыўся голы, не хаваючыся. Усе немцы, дарэчы, мыліся голыя.

Прыбіральня была ў іх, як мы казалі, таксама «бясстыжая», яна была неагароджаная. Нас, пэўна, не прымалі пад увагу як людзей. Усё было відаць. На краю вялікай ямы было зроблена з жэрдак нешта накшталт доўгага крэсла са сьпінкай, павернутай да ямы. На канцах жэрдак, на якія абапіралася сьпіна, былі набітыя цьвікі. На цьвіках віселі ілюстраваныя часопісы з голымі жанчынамі. Часопісы зваліся *магацыны*, і нам, малым, салдаты іх калі-небудзь давалі і гагаталі, як коні. Дарослыя ў нас іх адбіралі і распальвалі імі печ...

Аднак вярнуся да унтэр-афіцэра. Пасьля таго як ён, памыўшыся, апранаўся ў нешта доўгае, як малахай, салдат выносіў на вуліцу з хаты патэфон, ставіў на зэдлік, накручваў ручку, ставіў пласьцінку зь нейкай дзіўнай музыкай. Гюнтэр ішоў у сад, дзе паміж дзьвюма яблынямі быў нацягнуты брызэнт. Клаўся. Повар прыносіў нешта ў пляшцы і ежу. Мы ня бачылі, каб ён еў. Звычайна толькі піў і слухаў пласьцінку. Калі-небудзь ён плакаў. Мы гэта добра чулі, бо яблыні былі ад нас даволі блізка. Я нават запомніў музыку, пад якую ён плакаў. Гэта немагчыма апісаць словамі. Калі гучалі апошнія акорды, мне здавалася, што я ўзьлятаю некуды ў неба, і мне таксама хацелася плакаць ад дзіўнага пачуцьця. Мне было так, як калі старэйшы брат Зьмітрок падкідаў мяне ўгору і лавіў.

Калі-небудзь унтэр-афіцэр пасьля ляжаньня на брызэнце клікаў нас, калі мы стаялі за дротам, і кідаў праз дрот цукеркі ці жуйкі. Мы яго любілі і чамусьці шкадавалі. Потым ён адступіў разам з астатнімі. Больш мы яго ня бачылі.

Прайшлі гады. Усё як бы сплыло ў забыцьцё. Я ўжо быў на чацьвёртым курсе ін’язу, жыў у інтэрнаце на Омскім завулку, калі тая дзіўная музыка нагадала пра сябе. Яна потым прыходзіла яшчэ і яшчэ. Але пра ўсё па парадку.



Быў у мяне знаёмы яшчэ з часу суvoраўскай вучэльні — Саша Чуланаў, зямля яму пухам. Загінуў некалькі гадоў таму ў сябе дома пры загадкавых абставінах. Быў ён студэнтам журфаку БДУ, а я ў выпускной роце, у адзінаццатай клясе. У нас зь ім была агульная пасія. Яе звалі Лена. Яна мела тоўстую залацістую касу. Ён стаў журналістам на тэлебачаньні, вёў праграму «Вецер вандраваньняў». Сустрэліся мы зь ім выпадкова на тэлестудыі, дзе я зарабляў тры рублі за зьмену, калі здымаўся ў ролі нямецкага палкоўніка ў масоўках фільму «Трывожнае шчасьце», які здымаў рэжысэр Гуткові. Там ігралі Гарбук, Масюліс, Раман Філіпаў, Саранцаў. Саша прывёў на студыю свайго знаёмага немца, студэнта з ГДР, які быў стажорам у БДУ і таксама зарабляў нешта на карціне як кансультант. За сталом, дзе быў складзены арыгінальны рэквізыт са спэцхрану — салдацкія кніжкі-аўсвайсы, пісталеты, пагоны, кінжалы, — ляжалі і нямецкія пласьцінкі з «Хорст Вэсэль», «Лілі Марлен», «Салдаты маршыруюць» ды іншымі шлягерамі. Ахоўвала ўсё гэта дама са спэцхрану. Як цяпер памятаю ейнае імя — Паліна Абрамаўна Чарнухіна. Чуланаў усё хацеў паставіць якую-небудзь «фашысцкую» пласьцінку, але спадарыня Чарнухіна, як цэрбэр, не дазваляла. «Добра, — кажа, — паслухайце лепш сапраўдную музыку». Выцягнула са стосу цёмную зашмальцаваную пласьцінку і паклала на дыск грамафона. Я як не аслупянеў. Гэта была тая музыка, якую

я чуў шмат гадоў таму, пад якую плакаў наш добры немец Гюнтэр, калі вісеў у брызэнтавым гамаку. Яна называлася «Прэлюды». «Прэлюды» Ліста. Фінальная частка «Прэлюдаў», як я даведаўся пазьней, суправаджала ўсе пераможныя зводкі вэрмахту з Усходняга фронту. У мяне, аматара, гэтая музыка стала любімай. Яна зьвязвала дзяцінства і маё дарослае захапленьне Нямеччынай.

Потым аднойчы я нечакана пачуў яе ў гарадзкім драмтэатры ў Гамбургу ў п’есе Рольфа Гохгута «Намесьнік» і потым яшчэ адзін раз пры незвычайных абставінах у Бадэн-Бадэне.

Было гэта на пачатку 1991 году, калі, ужо будучы старшынём камісіі замежных справаў у Вярхоўным Савеце, я быў зь неафіцыйным візытам разам з галоўным канструктарам БелАЗу акадэмікам Высоцкім на эўрапейскай выставе аўтамабільнай тэхнікі бліз Штутгарту. Ён прывёз на выставу фотакасэту з новай канструктарскай распрацоўкай аўтазаводу, якая называлася папулярным тады на Захадзе словам *«Перестройка»*. Гэта быў звычайны аўтапоезд са здымным грузавым модулем. Сэнсацыі там ён, на жаль, не зрабіў. Час дазваляў, і на ўікэнд гаспадары павезьлі нас на экскурсію ў Бадэн-Бадэн. Савецкія людзі звычайна ведаюць Бадэн-Бадэн з расейскай клясычнай літаратуры, дзе клясыкі бавілі час у казіно. Нам сказалі, што ў казіно ёсьць акцыянэр, які турыстам з Расеі робіць вялікія зьніжкі і сам часта любіць сустракаць гасьцей. Куратар нашай групы, з паходжаньня паляк, рашуча скіраваў нас у гэтае гасьціннае казіно.

У казіно ўсё зіхацела. Нас запусьцілі і далі кожнаму восем бясплатных жэтонаў. Наведалі



мы толькі чырвоную залю. Аднак я хачу згадаць падрабязна толькі тое, што было напачатку. Мяне найбольш уразілі туалеты, дзе ў мужчынскім пакоі палова сьценкі была занятая рознымі гатункамі парфумы, а пры кожнай былі дадзеныя адпаведнікі пэйзажу, паэтычнай імпрэсіі і музычнага аналягу. Напрыклад, парфума «Поўная кішэня» мела паэтычным адпаведнікам вершы ў стылі пастараль, пэйзаж зь дзеткамі на лужку і моцартаўскую мэлёдыю «Маленькая начная музыка». Па-нямецку было тут жа напісана, што ўсе гатункі парфумы маюць вельмі тонкі пах і ў пакоі выключна моцная вэнтыляцыя, таму ня трэба баяцца паказацца непрыстойна моцна напарфумленым. Акрамя таго, карыстальнік атрымае ў якасьці сувэніру фляканчык любімай парфумы.

Гатункаў было некалькі. Зь левага краю была ўжо згаданая мною парфума з моцартаўскай мэлёдыяй. Сярэднія мяне менш заінтрыгавалі, бо тут я проста не знайшоў нічога знаёмага. Крайні правы флякон меў назву «Прэлюды», суправаджаўся вершамі з шылераўскага «Кубка» і пэйзажам з горнай цясьнінай. Я націснуў адпаведную пімпачку і падставіў твар пад лёгкае воблачка парфумы. Словамі паху не апішаш. Я тады яшчэ не чытаў «Парфуму» Патрыка Зюскінда, але адчуў сапраўды нешта фантастычна лёгкакрылае. Яно трымала мяне адно імгненьне і потым зьнікла. Нешта як бы засталося толькі на вусах. Я, па праўдзе, чакаў, што пры націсканьні пімпачкі аўтамат разам з воблачкам парфумы выкіне абяцаны сувэнірны фляканчык, што я ўжо раней назіраў у падобных аўтаматах. Аднак гэтага не адбылося. Эт, думаю, спадманулі.

У рэцэпцыі, дзе правяралі нашыя пашпарты, было трое: мужчына ў форме паліцэйскага, малады хлопец-службовец ды імпазантны дагледжаны джэнтэльмэн гадоў сямідзесяці пяці. Калі да мяне дайшла чарга, элегантны джэнтэльмэн неяк паглядзеў на мяне незвычайна ды перадаў мне ў рукі прыгожую каробачку з парфумай, на якой была выява кубка і стылізаваны пад шкляныя разводы надпіс «Прэлюды». Пры гэтым ён сказаў: «Я ведаю, што вы пакарысталіся гэтым гатункам. Вы — мой ганаровы госьць. Гэта таксама мая любімая парфума. Я вас запрашаю ў музычны салён, дзе вы пачуеце яшчэ раз «Прэлюды» Ліста». Я слухаў са зьдзіўленьнем: адкуль ён ведае, што я рабіў у мужчынскім пакоі? Няўжо там стаіць нейкая камэра назіраньня? Ён працягваў: «Не зьдзіўляйцеся, я парфумэр. Я чую самыя слабыя пахі». Паляк, які нас суправаджаў, перакладаў маім спадарожнікам, пра што мы гаворым панямецку. Яны дзівіліся і ўслых шкадавалі, што не пакарысталіся парфумай, бо таксама хацелі атрымаць сувэнір. Каб нешта выйграць, маім спадарожнікам параілі ставіць на чырвонае і чорнае, а я пайшоў з парфумэрам у музычны салён.

Спачатку мы паслухалі скарочаны варыянт «Прэлюдаў» з поўным фіналам, потым афіцыянт прынёс каньяк, і мы пачалі размову. Джэнтэльмэн распавёў, што ён да вайны пачаў вучобу ў кансэрваторыі як скрыпач, потым быў прызваны на фронт. На вайне яго раніла ў смычковую руку, і ён ня мог іграць на скрыпцы. Таму вывучыўся на парфумэра-дызайнэра. Ідэя з атракцыёнам у туалеце належыць яму. Ён ня бедны. Валодае часткай акцыяў у трох казіно,



два зь іх у Францыі. Зіму праводзіць звычайна ў Нямеччыне. Ён запытаўся, што мы за група, адкуль прыехалі. Калі я сказаў, што я зь Беларусі, ён надзвычай ажывіўся і сказаў, што ў час вайны быў там салдатам. (У немцаў салдатам можна назваць і генэрала.) Я, натуральна, прыгадаў гісторыю зь немцам, які слухаў «Прэлюды» ў гамаку. Ён неяк зьмяніўся ў твары і перапытаў, як завецца мая вёска. Я назваў. Ён ускочыў. Папрасіў паказаць мой пашпарт. Потым, трохі фальшывячы, вымавіў назвы некалькіх знаёмых мне зь дзяцінства вёсак: *Бабінішы* (Бабынічы), *Буткошына* (Буцькаўшчына!)... І дадаў: *«Зольдат ін дэр хэнгэматтэ — дас вар іхь...»* («Салдат у гамаку — гэта быў я».) Гэты джэнтэльмэн быў Гюнтэр Штэфан, наш добры унтэр-афіцэр з таго далёкага 1944 году! Тады яму было дваццаць сем. У Бадэн-Бадэне на пачатку 1991-га — семдзесят чатыры гады.

На разьвітаньне ён падарыў мне картку ганаровага госьця казіно на 1991 год з касэтай жэтонаў. На падараваныя восем я выйграў ці то трыццаць, ці то сорак марак, тут жа ў музычным салёне за маленькім гульнёвым сталом, ставячы на чырвонае і чорнае. Справы не дазволілі мне яшчэ раз наведаць гэтае казіно. Разы два я віншаваў спадара Штэфана з Калядамі. Ён таксама. Пасьля прыйшоў адказ, што на семдзесят сёмым годзе жыцьця ён пакінуў гэты сьвет. Пра гэтую гісторыю я коратка расказваў на старонках спэцыяльнага беларускага выпуску нямецкага часопісу «Wostok» у 1995 годзе. Нарыс называўся «Сёньня 50 гадоў таму» і быў прысьвечаны 50-годзьдзю заканчэньня Другой усясьветнай вайны. Дзьве паш-

тоўкі ад Штэфана, візытоўка, сувэнірная картка для разавага наведаньня казіно некуды прапалі ў цеснай менскай кватэры. Магчыма, я іх выкінуў пры чарговай мэлянхалічнай рэвізіі папяровай гаспадаркі.

Засталася адна нітачка: візытоўка з адрасам сымпатычнай немкі з Бадэн-Бадэну, таксама з прозьвішчам Штэфан, зь якой я ехаў праз гэты гарадок у маршрутным таксі вясною 1996 году з Франкфурту-на-Майне ў Страсбург. У таксі нас было толькі двух. Пабачыўшы на візытоўцы прозьвішча Штэфан, ды яшчэ з Бадэн-Бадэну, я пацікавіўся, ці не сваячка яна Гюнтэра Штэфана, суўладальніка казіно. І расказаў дзіўную гісторыю. Аказалася, што не. Яна ні разу ў жыцьці не была ў казіно і нічога такога пра спадара Штэфана і ягоныя парфумы ня ведае. Тым ня менш яна паабяцала што-небудзь высьветліць.

На маё каляднае віншаваньне яна адказала цёплым лістом, дзе пісала, што пакуль нічога цікавага ня мае мне паведаміць. Болей мы зь ёй не ліставаліся. Ліст я ейны захоўваю яшчэ таму, што там яна згадвае пра нашу дарожную размову. Яе вельмі замілаваў той факт, што ў нас *бульбяныя жукі* — па нямецку *картофэлькэфэр* — называюцца *калярадзкія*. Яна піша, што расказвае пра гэта ўсім саім сяброўкам. Гэта так прыгожа — *Колёрадокэфэр!* Пра жукоў мы загаварылі з нагоды летніх адпачынкаў, хто як іх будзе праводзіць. Яна сказала, што паедзе ў Гішпанію да сяброўкі, а я — што буду змагацца з калярадзкімі жукамі на сваім ранча ў Крыжоўцы, што за дзевятнаццаць кілямэтраў ад майго фамільнага дому ў Менску.



## Містычны покліч продкаў

У сувораўскай вучэльні перад выпускным годам я захандрыў. Пасьля таго як мы занялі першае месца сярод сувораўскіх вучэльняў Савецкага Саюзу па ўсіх паказчыках, да нас прыяжджалі з урачыстым візытам Хрушчоў — генэральны сакратар ЦК КПСС, маршал Грэчка — начальнік-вайскавод краінаў-членаў Варшаўскага дагавору і маршал Цімашэнка — начальнік Беларускай вайсковай акругі. Пасьля гэтага візыту нам яшчэ павялічылі колькасьць заняткаў па замежнай мове, увялі ўрокі аўтамабільнай і пераплётнай справы і дадалі яшчэ год дадатковых заняткаў — зрабілі адзінаццацігодку, чаго яшчэ беларуская школа ня ведала. А мы ж ужо ў вучэльні — амаль шэсьць гадоў. Наступіла дэпрэсія, некаторыя напісалі рапарты аб адлічэньні. Я таксама. Да таго ж у мяне былі асабістыя матывы. Пра сваё няўдалае першае каханьне я ўжо пісаў раней. Нас не хацелі адпускаць. У мяне хандра зацягнулася.

Наш афіцэр-выхавальнік, сібірак, маёр Лалецін Андрэй Афанасевіч быў разумны і добры чалавек. Ён быў нам як бацька. Мне асабліва запомнілася, як ён штодня чытаў нам услых у апошнія паўгадзіны самападрыхтоўкі мастацкія творы. Мы стараліся як мага хутчэй зрабіць заданьні на заўтра і прасілі пачынаць чытаньне. Чыталі ўслых і некаторыя з нас, у каго была добрая дыкцыя. За тры гады, пакуль ён быў нашым афіцэрам-выхавальнікам, мы прачыталі шмат чаго з Горкага, Гаршына, Ганчарова, Ляскова, Чэхава, Караленкі... Больш за ўсё нам падабалася слухаць «Пэдагагічную паэму» Макаранкі. Жыцьцё каляністаў нагадвала наша сувораўскае. Андрэй Афанасевіч цу-

доўна іграў на балалайцы і шмат расказваў нам пра Васіля Андрэева, легендарнага пецярбурскага балалаечніка-віртуоза. Ад нашага маёра Лалеціна я ўпершыню пачуў у майстэрскім выкананьні пад балалайку чароўную сібірскую песьню часу калектывізацыі «Пакатай нас, Пятруша, на трактары!».

Прачытаўшы мой рапарт з просьбай адлічыць з вучэльні, выклікае мяне маёр да сябе ды кажа: «Пётар, як цябе маці называла, калі была вельмі ласкавая?» «Пётра», — кажу. Тады Андрэй Афанасевіч і будзе гаварыць: «Пётра, родненькі! Ты ж праз год загрыміш у армію, дый без атэстату. Не раўняйся ты на гэтых дзетак багацеяў, што рапарты напісалі. Шкада мне цябе. Паедзь ты на тыдзень у сваю вёску, ператрыся, паглядзі, супакойся. Я начальніку вучэльні скажу, што ў цябе маці цяжка захварэла. Ты вернесься. Я ўпэўнены. Потым дагоніш праграму».

Я так і зрабіў. Атрымаў адпачынак на тыдзень па сямейных абставінах. Прыехаў у сваю Буцькаўшчыну. Было гэта ў канцы верасьня. А хата наша пустая. Сярэдні брат Толік закончыў наргас (так называлі тады Інстытут народнай гаспадаркі імя Куйбышава), забраў сястру да сябе ў Гарадзею на цукровы завод. Самы старэйшы брат Зьмітрок ажаніўся ды пераехаў з жонкай у суседнюю вёску Замошша, дзе лепшая зямля, і забраў з сабой маці. Пабыў я ў Замошшы адзін дзень, а яно мне чужое. І лесу там блізка няма, як у нас у Буцькаўшчыне, і саду, і рэчкі з возерам, нават чарназём гэты на гародзе нейкі непрыветны, халодны. І вада ў калодзежы прэсная і вельмі халодная. У Буцькаўшчыне мы бралі ваду з рэчкі. Яшчэ маркотней зрабілася.



І вось здарыўся сонечны ціхі цёплы дзень. Прайшоўся я пешшу ў сваю Буцькаўшчыну, паўз Гімрава, куды хадзіў у чацьвёртую і пятую клясы, праз парадзелую баравіну і нашу зьмялелую безыменную рэчку. І вось я зноў каля сваёй хаты. Яна як бы ўехала ў зямлю… Далёка каля лесу па зжатым полі цягнецца маленькі статак кароў, як жукі. На бураватай лістоце нашага саду — залатое павуціньне. Я іду ў сад. Брат прыяжджаў сюды са свайго Замошша на кані і збольшага ўжо абкалаціў усе яблыкі. Але пах антонавак застаўся. Яго ні з чым ня зблытаеш. Два дрэвы каля дарогі — зламаныя. Сядаю бліжэй да хаты пад разлапістую антонаўку, за якую некалі немцы прывязвалі біцюгоў з фурай. Ні з чым не параўнаны спакой. Вакол ні душы. Раптам налятае цёплы вецер, гальлё шапоча, зь яблыні падае чырвоная пахучая антонаўка і коціцца да маіх ног. Я зачараваны. Баюся пашавяліцца. І сонца ўжо коціцца на захад. Кладуся шчакой на сухаваты ўтравелы пагорачак пад яблыняй, спрабую глядзець празь яблык на сонца. Але яблык не празрысты, семак не відаць. Гэтая антонаўка позьняя. Чырвона-жоўтая, але да воску не дасьпявае. Асьцярожна кладу яблык у рэдкую пажоўклую траву. Да яблыка падлятае матылёк і пачынае гушкацца над ім. Потым падлятае да мяне, садзіцца на нагу, потым зноў на яблык. І адлятае ў бок хаты. Я не чапаю яблык. Іду за матылём, ён сядзіць на яшчэ зялёным бэзавым лісьце. Заходжу ў пустую хату, адчыняю вакно ў гародчык. Галінкі бэзу, што так разросься безь мяне, аж кладуцца на падваконьне. Зноў аднекуль падкрадаецца цёплая хваля ветру, галінкі бэзу зь белымі нітачкамі павуціньня

лёгка стукаюць па ваканіцах. *Мне становіцца лёгка-лёгка на душы…* Назаўтра я вярнуўся ў Менск у сувораўскую вучэльню.

Прайшло гадоў дваццаць. Я ўжо працаваў выкладчыкам у інстытуце замежных моваў. Зноў восень. Зноў *«у маім сэрцы журба, як над горадам дождж»*. Невядома чаго ногі самі нясуць мяне ў кнігарню «Дружба» на праспэкце Леніна (цяпер Незалежнасьці). Заходжу. Чамусьці не іду ў нямецкі аддзел, дзе звычайна купляю кніжкі, а кірую да вітрыны, дзе выстаўленыя польскія выданьні. Бяру ў рукі незвычайную кніжку — густоўна пераплеценую падшыўку «Нямецкай мазаікі», выдаванай у тыя гады ў Варшаве тоненькімі сшытачкамі. Разгортваю кнігу, на левай старонцы — верш «Восень», аўтар — Агнэс Мігель, містычная паэтка, якая мяне зачароўвае. У вершы — *пра восень, што стаіць, прыбраная ў чырвоны вянок з шыпшыны на краі зжатага поля, пра пакінуты сад, пра залаціста-белыя ніці павуціньня ў крышталёва-ціхім паветры, пра чырвоны позьні яблык, што падае з дрэва каля ног адзінокага стомленага вандроўніка, пра матылька, што гушкаецца над яблыкам**, *пра белыя ніці восені на галінках дзікага вінаграду, які стукаецца ў вакно, прыносячы шум хваляў Балтыкі, пра супакоенае сэрца, пра адлязелую журбу гэтага году…* Ці ж гэта ня цуд?

* Пра матылька і журбу па-нямецку:
Ein später roter Apfel fällt zur Erde,
Ein später Falter sich darüber wiegt.
Ich höre, wie ich still und ruhig werde,
Und dieses Jahres Gram verfliegt…



У той далёкай яве, як у сьне, зьявіўся мне позьні матылёк каля пакінутай хаты, што здаўна, асабліва на Дзяды, было ў нас добрай і ціхай прыметай таго, што ў дом завіталі продкі. На Дзяды, калі елі куцьцю, перад вячэрай спэцыяльна надоўга адчынялі дзьверы і глядзелі, ці прыйдзе што жывое, — вельмі добра, калі позьні матыль — разам з халаднаватай парай цераз парог у хату… Калі што жывое заходзіла, залятала ці запаўзала, тады на бэльцы рабілі засечку. Вось так і застаўся ў маёй памяці той дзіўны дзень: позьні яблык, добры матыль — дух продкаў і пошум ветру дзяцінства…

# Паказьнік асобаў

**Л**







**М**

**Н**







**О**



**П**

## Summary

*My Shibboleth* is the somewhat ironic title of a series of autobiographical essays by independent Belarus' first ambassador to Germany.

Though the book's author, a former parliamentary deputy, does express his views on many of the socio-political developments taking place in his country today, this is not just a political memoir.

The tone of these "autobiographical arabesques" is set in the book's epigraph, the Book of Judges parable about the great battle between two Semitic tribes, the Ephraimites and the Gileadites. The Gileadites set up a blockage across the Jordan to catch the fleeing Ephraimites, identifying them by how they pronounced the word "shibboleth" — a word today defined as a kind of linguistic password.

The emotional and semantic expanse of these memoirs is saturated with a longing for an irretrievable past, for what once was and is no longer — the river that once bustled and is now nearly dry, the hill once so steep and now barely even there, the disappeared family cottages and local dialects, the abandoned sacred values. All this is described in the very specific language of the author's native Połacak. Lively word play permeates episodes from his childhood (cavorting with fellow 5-year-olds around a field kitchen left behind by Germans) and scenes from his ambassadorial career (competing with Bundestag deputies over who has the better knowledge of German folk songs).

Recalling his days at university, his teachers, colleagues, friends and opponents during various stages of life, the author focuses his attention on the search for human goodness and the righteous people who crossed his path — an officer who tutored him at the cadet academy, a minister in the Belarusian government, a librarian from the Russian city of Yaroslavl, his beloved wife, professors from his alma mater…

Often ironic even in regard to his own person, the author endeavors to rid himself of the inherent resentment he feels as the representative of a nation with a postponed national identity. He reaches for a better understanding of his country's own national shibboleth — and does so without the pathos or tragedy that so imbues this memoir's biblical namesake.

Liberty Library is a repository of selected programs produced by Radio Liberty/Radio Free Europe's Belarus Service.

## Zusammenfassung

»Mein Schibboleth«, so, mit einem Beiklang von Ironie, hat der erste Botschafter des unabhängigen Weißrussland in Deutschland eine Reihe von seinen autobiografischen Essays betitelt.

Obwohl der Autor als ehemaliger Parlamentarier und Diplomat seine Sicht auf die aktuelle sozial-politische Entwicklung in seinem Lande in Ereignissen und Einschätzungen oft unzweideutig zum Ausdruck bringt, sind die vorliegenden Aufzeichnungen doch keine politischen Memoiren.

Der Ton in diesen »autobiografischen Arabesken«, so definiert der Autor den Duktus seiner Notizen, ist im Einleitungsmotto vorgegeben: in prophetischen Versen des Buches der Richter wird parabolisch geschildert, wie die Männer Gileads die ephraimschen Flüchtlinge an den Furten des Jordans identifizieren und töten, indem sie verdächtige Fremdlinge das Wort »Shibboleth« mit dem für Ephraimiten nichtaussprechbaren Anlautskonsonanten aussprechen lassen.

Der emotionelle und semantische Raum des Erzählens ist erfüllt mit heller Wehmut über unwiederbringliche Verluste des Zeitlaufs: den seichten Fluss, früher wasserreich und voll Fische; den leicht abfallenden Berg, dessen Abhänge einst so steil waren; abgetragene Dorfhäuser und dahingeschiedene volkstümliche Wörter... All das wird liebevoll geschildert, nicht selten mit lexikalischen Einschüben, die dem Polazker Heimatgebiet des Autors eigen sind. Der Erzähler führt sein verbales »Glasperlenspiel« freudig, ungezwungen, ja beinahe schelmisch, — sei es die Beschreibung eines Tummelreigens 5jähriger Dorfknirpse um die hinterlassene Feldküche der Wehrmacht oder einer improvisierten Wette des Autors mit Bundestagsabgeordneten um die beste Kenntnis deutscher Volkslieder.

Indem sich der Verfasser der Notizen an seine Studentenjahre, Lehrer, Kollegen, Freunde und Opponenten erinnert, kommt es ihm immer darauf an, seinen Blick zu richten nicht auf das Böse, sondern auf rechtschaffene Leute, die ihm begegnet sind: den Lehrgruppenoffizier in der Kadettenschule, einen Minister der belarussischen Regierung, eine Bibliothekarin aus der russischen Stadt Jaroslawl, seine Frau, Professoren aus der alma mater...

In seinen Schilderungen zeigt sich der Autor sehr oft selbstironisch, besonders dann, wenn er versucht, seine Ressentiments als Vertreter des Volkes mit einer »verspäteten« nationalen Identität für sich selbst zu offenbaren und diese dadurch loszuwerden. Die Selbstironie des Erzählers sollte es ermöglichen, durch Aufhebung der Molltöne und des tragischen Pathos, wie etwa im vorgegebenen Auszug aus dem AT, das nationale »Schibboleth« seines eigenen Volkes mit optimistischer Hoffnung besser zu verstehen.

# Пра аўтара

**Пётра Садоўскі** вынырнуў з свайго першага жыцьцёвага Ярдану датэрмінова, сямімесячны, у сенцах вясковай хаты на каталіцкія грамніцы 2 лютага 1939 году, калі маці, у дзявоцтве Фрыдрых, звалілася зь лесьвіцы, лезучы на гарышча па мерзлыя дулі. Дынамічнае нараджэньне абумовіла шэльмаўскія станцыі жыцьця будучага германіста і першага амбасадара незалежнай Беларусі ў Нямеччыне. Ужо трохгадовы ён хадзіў на палявую кухню вэрмахту па гарохавы суп і вугорскі гуляш, што, відочна, як і нямецкападобнае прозьвішча маці, заклала падваліны прыязнасьці да германскага як да звышняй наканаванасьці.

Калі ў канцы чэрвеня 1944 году палявая кухня адступіла разам зь немцамі, будучы суворавец і беларускі патрыёт-адраджэнец штотыдзень разам з большымі братамі насіў у савецкі вайсковы гарадок пад Ветрынам прадаваць афіцэрскім жонкам грыбы, ягады, шчаўе, птушыныя яйкі і нямецкія салдацкія ілюстраваныя журналы з прыгожымі кавалерамі-арыйцамі.

Раньні досьвед вайсковых кантактаў прывёў дзіця вольнай прыроды на сем гадоў у сьцены Менскай су636раўскай вучэльні, дзе сфармаваліся ўсе вартасьці й комплексы інтэлектуала і рамантыка. Няўдалыя спробы стаць вайсковым мэдыкам, фінансістам, філёзафам прывялі да посьпехаў у германістыцы і славянскай філялёгіі. Менскі лінгвістычны ўнівэрсытэт (тагачасны «ін’яз») стаў стартавай пляцоўкай пошукаў прафэсійнага і мужчынскага шчасьця: выкладчык ВНУ, перакладчык, дыплямаваны патэнтазнаўца, навуковы супрацоўнік Акадэміі навук, суаўтар і аўтар навуковых манаграфіяў і артыкулаў, кандыдат навук, дэпутат нацыянальнага парлямэнту і член прэзыдыюму, першы амбасадар Рэспублікі Беларусь у ФРГ, ганаровы грамадзянін г. Ляймэн, дарадца камэрцыйнай фірмы, супрацоўнік банку, вольны журналіст, член Беларускага ПЭН-Цэнтру, аўтар дзясяткаў эсэ па лінгвістыцы, літаратуры, нацыянальнай праблематыцы і міжнародных зносінах, невылечны індывідуаліст, што спрабуе не заўсёды сур’ёзна гаварыць пра вечныя ісьціны.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе» —**
кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода.
Чытайце ў інтэрнэце: www.svaboda.org




**Верш на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода,
2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода,
2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.**
*Пераклады Веры Рыч.*
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода,
2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода,
2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры
ў этэры Радыё Свабода.
Аўдыёдыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода,
2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода,
2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода,
2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода,
2005. — 520 с.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
2-е выд., папраўленае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода,
2005. — 500 с.: іл.



*Вячаслаў Ракіцкі*.
**Беларуская Атлянтыда**.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода,
2006. — 504 с.: іл.



**Плошча, 19.03–25.03.2006.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода,
2006. — 400 с.: іл.



*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны**.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода,
2007. — 232 с.: іл.



**Начная чытанка.**
**50 аўтараў з этэру Радыё Свабода**.
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода,
2007.



*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода,
2007. — 576 с.: іл.



*Івонка Сурвіла.*
**Дарога. Стоўпцы — Капэнгаген — Парыж — Мадрыд — Атава — Менск.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода,
2008. — 144 с.: іл.